## У НУМАРЫ:

**Р. БАРАВІКОВА.** Год спадзяванняў на крыле любові . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
**Святлана БАНДАРЭНКА.** Галубоў пакарміць з рукі. Вершы . . . . . . . . . 4
**Наталля НАВІЦКАЯ.** Апавяданні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 6
**Мікола МЯТЛІЦКІ.** Апалены золак. Паэма . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 11
**Ягор КОНЕЎ.** Новыя палескія рабінзоны. Аповесць . . . . . . . . . . . . . . 16
**Міхась ПАЗНЯКОЎ.** І заварожвае сусвет… Вершы . . . . . . . . . . . . . . . 76
**Янка СІПАКОЎ.** Мая бібліятэка. Эсэ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 79
**Ян РАДВАН.** Радзівіліяда...
Пераклад з лацінскай мовы Жанны Некрашэвіч-Кароткай . . . . . . . . . 93
**Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ, Яўгенія ПАСТАРНАК.** Гімназія № 13. Раман-казка . . . . . 100
**Вікторыя ГАРБАЧОВА.** Смерць за шахматнай дошкай.
Гісторыя аднаго сюжэта . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 110
**ШАМЯКІНЫ.** Радкі ўспамінаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 115
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**. Празвалі яго набожным. Старонкі гісторыі . . . . . 120
**Ірына КЛІМКОВІЧ.** Торт святочны рыхтаваць і радзіму шанаваць . . . . 131
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.** Літаратурныя Хазяянкі і ваколіцы . . . . . . . . . . . 138
**Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС.**
Краязнаўчы даведнік. Літаратурныя мясціны Беларусі. Працяг . . . . . . 143

***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «МАЛАДОСЦІ»!***
***Пачалася падпіска на І паўгоддзе 2011 года.***

***Таксама індывідуальная льготная — для настаўнікаў.***
***Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6100 руб.***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 11 500 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 8600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 14 500 руб.***

Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Ірына КАЧУРКА*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
При передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.01.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,09. Тыраж 2580 экз. Заказ 76.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# ГОД СПАДЗЯВАННЯЎ НА КРЫЛЕ ЛЮБОВІ

***Н**у вось і распачаўся ён — новы 2011 год... Прызнацца, даўно ўжо не планую наперад чагосьці пэўнага, але спадзяюся на многае. Уласная творчасць — справа асабістая, а вось часопіс... — гэта ўжо ўся наша літаратура. Не баюся казаць: уся! Таму што, калі «Маладосць» і аддае перавагу творчай моладзі, дык яна вельмі хутка вырастае ў сталых майстроў... Ва ўсялякім выпадку гэтак заўжды было. Рэдакцыя нашага часопіса вельмі ганарыцца тым, што ў шасцідзясятыя —сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя ды і на пачатку васьмідзясятых класікі нашай літаратуры Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч друкаваліся пераважна ў «Маладосці» і гэтыя нумары літаральна перадаваліся з рук у рукі, разляталіся імгненна.*

*Так, цяпер гэтыя імёны — наша класіка, але, калі азірнуцца назад, у тыя далёкія гады і Васілю Быкаву, і Уладзіміру Караткевічу было па 35—40 гадоў. І якая была шырокая вядомасць! З гэтага выцякае мая першая надзея: надрукаваць на старонках «Маладосці» такі твор даволі яшчэ маладога пісьменніка, пра які б загаварылі, каб часопіс вырывалі з рук, а імя адразу стала б вядомым і ў Варшаве, і ў Маскве, і ў Парыжы...*

*Адчуваю, што на гэты мой спадзеў многія пасміхнуцца і палічаць мяне фантазёркай. Тады трэба паразважаць, чаму гэтае маё спадзяванне можа ўспрымацца толькі як фантазія! У нас што няма таленавітых маладых ці даволі ўжо сталых пісьменнікаў? Зразумела, ёсць! Тады ў чым справа?*

*І вось тут могуць пачацца разважанні даволі сумныя. Напрыканцы мінулага года падчас сустрэчы з вучнямі дзявятых і сёмых класаў адной з мінскіх школ, я запыталася: «Скажыце, а вы адчуваеце сябе беларусамі?» Дзевяцікласнікі разгубіліся ад такога нечаканага пытання і паціснулі плячамі. Сямікласніца, якая сядзела бліжэй да мяне, збянтэжылася і сказала: «Відаць, не адчуваем, таму што не размаўляем па-беларуску». А хлопчык, які сядзеў за ёю, упэўнена выгукнуў: «Я адчуваю сябе беларусам!» — «І ў чым тваё адчуванне праяўляецца?» — звярнулася да яго я, і ён адказаў: «Мы — вельмі працавіты народ... Гэтак пра нас усе гавораць. Я жыву ў прыватным сектары, які недалёка ад школы, і летам мне падабаецца працаваць на зямлі каля хаты разам з бацькамі...»*

*Мы сапраўды вельмі працавіты народ і вельмі таленавіты! І літаратура наша бярэ пачатак з глыбокай гісторыі. З гэтага нумара мы пачынаем друкаваць «Радзівіліяду» Яна Радвана, якая была напісана па-лацінску (тады проста не было дзяржаўнай беларускай мовы), але з тых далёкіх часоў бярэ выток нашае прыгожае пісьменства і ў нас ёсць свая родная беларуская мова, якую стагоддзямі захоўвалі і данеслі да нас нашы дзяды-прадзеды. І наша мова, як мова беларусаў, прызнаецца ва ўсім свеце!*

*Дык чаму не можа стаць шырокавядомай і наша літаратура? Вось і другое маё спадзяванне: вельмі хочацца, каб наш часопіс не проста выходзіў, а і чытаўся: старшакласнікамі, студэнтамі і ўсімі тымі людзьмі, хто неабыякавы да літаратуры. Каб чытач знаходзіў свайго пісьменніка і захапляўся ім, а літаратурай нашаю ганарыўся. І галоўнае, любіў яе, як літаратуру свайго народа. Тады яна будзе мець працяг — і ў нашым беларускім слове, і ў шырокай вядомасці.*

*З найлепшымі пажаданнямі —* 



*Святлана Бандарэнка нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Вучылася ў лінгвістычным каледжы № 24, цяпер — студэнтка Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта (факультэт выдавецкай справы і паліграфіі). У «Маладосці» — упершыню.*

Святлана БАНДАРЭНКА

# ГАЛУБОЎ ПАКАРМІЦЬ З РУКІ

## ПЕРАЎТВАРЭННЕ

Я ёсць дрэва,
Якое ўрастае ў зямлю
З кожным годам усё мацней і мацней.
Мяне ўжо нельга «вырваць з коранем».

А шапкай галін я падпіраю неба,
Дзе жывуць багі, якія не любяць нас.
Мы даём ім прыгожыя імёны,
Кожнага разу іншыя,
І прыносім ахвяры, часам нават сябе.
А яны насылаюць на нас
Дождж, снег і астатнія з’явы прыроды,
Вымушаючы сысці адсюль назаўсёды —
ці зламацца.

Ды я трываю з апошніх сіл
І шапчу: «Нічога не выйдзе,
Бо я ўрасла ў СВАЮ зямлю,
І мае карані ўжо глыбока».
...Мая зямля малочна-белая,
А па ёй цякуць
Бяздонныя рэкі чалавечай крыві.

## РАССТАННЕ

Усміхнуся. Не буду біць цябе па шчацэ.
Толькі ціха пагладжу скронь.
Мая бязвольная расціснутая далонь
Жорсткая, як рыпучы ранішні снег.
Позна.
Час спяваць калыханкі.
Каханне,
Што ў пастку сарвалася спевам.
Я не буду цябе біць па правай,
Бо ведаю —
Ты падставіш левую.

* * *

Сонца. Ні кроплі. Вар’яцею.
Горш за спякоту твая прысутнасць.
Бурштын у сэрцы — лепш, чым каменне,
Хаця б каштоўнасць. Смала. І людзі.

Яна. Яны. Заўсёды. Разам.
Зверху данізу. Калені голыя.
Калі тралейбусы зменяць напрамак...
То бок — ніколі.

**З МІНЕЗІНГУ,**
**АЛЬБО СТАНСЫ НААДВАРОТ**

Хвала Трохадзінаму зрушыла зводы...
Каменне сабранае — вынік адзін:
Я графава жонка — высокага роду, —
А ты — паладзін.
Паладзін.
Паладзін,
Хаця і вышэй выкшталцоных мілордаў...
Астатні твой шанц — крыжовы паход,
Як выцягнеш —
сама нязмушана цвёрда! —
Свой меч... і пакінеш усё, як было,

І марна звяртацца да Маці Гасподняй,
Дарма з тваім гербам камячыць хусцінку,
Але — я графіня высокага роду,
А ты — мой каханы... і мой паладзін.

* * *

Я кідала сябе на вецер.
Вецер рваў мяне на шматкі.
Як магла, закрывала сэрца:
Галубоў пакарміць з рукі.

Хлеб счарсцвеў, непатрэбны.
На золку
Моўчкі рукі ў бакі развяду:
Можа, цень адаб’ецца анёлкам,
Як зраблю першы крок у ваду.

**ДАЗВОЛЬ**

Дазволь мне крануцца тваіх валасоў
Што заблыталіся ў свавольных нітках блакітнай травы

Дазволь злавіць паветраны шарык твайго мінулага
Зірнуць на неба і сонца тваімі вачыма

Дазволь убачыць як растае празрысты лёд
І павольна сцякае па мармуры шчок на мае далоні

Дазволь мне збегчы ў райскі сад а потым злаві
Скруціўшы цела сецівам з вербалозу

Дазволь узяць у рукі гнуткую сталь
І пакажы як трэба каб пальцы не апячы

І тады
Калі ў лютым надыдзе вясна
Ужо будзе прынамсі ўсё роўна
І першая кветка павольна адкрые для нас сваю кволую існасць
Ззяючы хараством пялёсткаў у паўзмроку раніцы
Дзе галоўны Смяцяр рыхтуе Сусвет да новага дня



*Наталля Навіцкая нарадзілася ў 1986 годзе ў г. п. Бягомль Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. У 2003 годзе скончыла Мінскі фінансава-эканамічны каледж, цяпер — студэнтка 5 курса завочнага аддзялення Інстытута журналістыкі БДУ. Працуе рэдактарам радыёвяшчання Докшыцкага раёна. Друкавалася ў газетах «Родныя вытокі» (Докшыцкі раён), «Переходный возраст», «Знамя юности». У «Маладосці» — упершыню.*

Наталля НАВІЦКАЯ

***АПАВЯДАННІ***

## 08/86/27, АБО ПРОСТАЕ ЖЫЦЦЁВАЕ

«08/86/27... 08-86-27... што гэта? Можа, нумар тэлефона, аднак гарадскога ці мабільнага? Не, гэта было б зусім проста. Тады што? Што?» — думкі ганяліся адна за адной, быццам тыя матылькі, што ў кучачцы падбіліся пад вулічны ліхтар, безвынікова спрабуючы разарваць складзеную імі ж акружнасць.

А з чаго пачалося — здаецца, нейкая драбяза: прачнулася з лічбамі ў думках... Ну і што тут такога, пайшла б, па даўняй звычцы заварыла кавы з нятлустым малаком у любімы чырвоны кубак: пі і жыццю радуйся. Ды не — і каву п’ю, а ў думках — 08-86-27. Так, а што калі скласці? 121... ммм... 121 дае квадратны корань 11, тады што значыць 11? Не, не было ў цябе прыхільнасці да матэматыкі і не трэба. Думкі-матылькі перапыняе гук ключа ў замку. Адчыняюцца дзверы, чую родную хаду. Ведаеце, няма нічога лепшага, чым чуць на «сваёй тэрыторыі» родныя крокі. Такое шчасце ціхае ды неабсяжна бязмернае. Нам патрэбны ў жыцці нашы людзі, здаецца, нічога тут дзіўнага няма. Але ж у сілы вышэйшай на гэты конт свае погляды... неба надзвычай рэдка дорыць нам нашых людзей. Бывае так: пакажа — і ўсё... бывай! Пакіне, здаецца, і блізка, а, між тым, зусім далёка — у суседні дом, сям’ю, у суседняе жыццё. І хочацца крычаць: чаму? хочацца задаваць тысячы пытанняў, а задаваць няма каму. А нашы людзі, між тым, крочаць поруч, але так далёка, здаецца, працягні руку насустрач... а нельга. Прынцыпы, меркаванні... няма нічога больш атрутнага, чым уласная мараль. І зноў: 08/86/27... Чаго ты, дурненькая, прычапілася? Можа, гэта проста нумары здымкаў, што ты ўчора гартала ў сваёй камп’ютарнай папцы? Але ж дажыліся. Раней альбомы гартала, паказальна было — у кожнай дзяўчыны свой альбом: гэта ты маленькая ў мамкі на руках, а гэта з белым бантам у школьным двары, а гэта ты ў 10 класе на школьным вечары, а вунь той, крайні справа, ну вельмі табе падабаўся. А потым на выпускным балі, на беразе любімага возера.

А гэта — група інстытуцкая, першая паездка на мора, а гэты здымак — выява твайго, як здавалася, адзінага кахання. А цяпер што? «Пакажы здымкі». — «Зараз, толькі флэшку вазьму». Уталопішся ў манітор, першы слайд, другі... і... і ўсё. Паглядзеў і забыўся. А я вось падумала пра іншае, а між тым не забылася на 08/86/27... Можа, у мяне ўжо навязлівая ідэя, можа, мой «сістэмны блок» перагрузіўся? Зноў жа, параўнанні з нейкімі тэхнічнымі катэгорыямі. Спішам гэта на ўздзеянне часу. Дарэчы, няма лепшага паратунку ад такой перагрузкі, чым сон. Паклала галаву на мяккую падушачку (я, напрыклад, такія люблю, каб не надта цяжкія і вялікія), палічыла бараноў, авечак ці хаця б сукенкі свае ў шафе, уявіла сябе ў самай прыгожай і... потым не ведаю што, у гэты час я ўжо сплю. І сны бачу, часта і розныя, пустыя і, як кажа мая бабуля, прадбачлівыя. Але ж усё ў ступені веры нашай, не інакш. Ёсць тут шаманства нейкае незразумелае, хаця лепш не ўдавацца ў глыбіні, бо даведаешся часам пра такое, ад чаго ніякай асалоды не атрымаеш. Але ж, зноў жа ў сне ўбачыла я гэтыя 08/86/27. Што б гэта значыла? Добра, што сёння субота, а то на працу з такімі думкамі пасунулася б. Часам я думаю, наколькі б меней было ў нас праблем, каб мы іх самі сабе, каханенькім-родненькім, не прыдумлялі. Ёсць адна сапраўдная праблема — гэта страта здароўя, ды і яна часам вырашаецца. Чаму мы не ўмеем радавацца мінімуму паўсядзённаму? Не навучылі самі сябе, а больш ніхто-ніхто не навучыць. Трэба, каб у думках нешта закрэслілася, а гэта нешта — змена каштоўнасцей. На самай жа справе каштоўнасці — яны, на першы погляд, і не каштоўныя зусім, але яны і ёсць сапраўдныя. У кожнага зноў жа свае: няма большага кайфу, чым прыехаць летам да ракі, возера, спыніцца, разматаць вуду, месца «прыкормленае» знайсці... і такога «кайфу спаймаць» ад жыцця, ад неба гэтага велічнага, ад ядвабнай бліскучасці воднай, ад улову першага... А яшчэ, няма большай асалоды потым з такіх паездак у сам-насам з прыродай дадому вяртацца, скідаць адзенне і пад цёплыя струменьчыкі душа, заплюшчыць вочы і ні пра што не думаць, ні пра выгаранне на працы, ні пра праблемы сябровак, ні пра тое, калі ўсё ж жаданы дзень зарплаты. Восем-дзесяць хвілін для сябе, гэта штосьці роднаснае з ёгай... Вада ўвогуле надае сіл. Напрыклад, з год таму адкрыла для сябе лазню. Не, не такая я цёмная, ведала пра яе і раней. Але толькі зусім нядаўна зразумела, што лазня не проста для таго, каб змыць бруд з цела, яна душу грэе і, здаецца, выпарвае з цябе сабраны за тыдзень-два негатыў. Цяпер я не ўяўляю лазні без парылкі, без венічка, без думак добрых. Дарэчы, да думак, у галаве ізноў слайдам 08/86/27: паказаліся і зніклі, а думкі засталіся... напэўна, у парылку трэба мне «дурасць» гэтую лічбаваю выганяць.

Цікава, але шчаслівыя мы тады, калі гэтага не разумеем зусім. Калі думак пра сэнс жыцця і ўсялякія такія турботныя рэчы няма. Так добра: прачнуўся дома, у сваёй пасцельцы з фіялетавымі ірысамі ці аранжавымі тыграмі, паглядзеў на столь высокую, павярнуўся да акна з пытаннем, што за надвор’е, чаго ад дня гэтага чакаць, пацягнуў ручанькі ўгору, пакруціў кісцямі (для сэрца карысна) разоў з 10 у кожны бок, прыўстаў, знайшоў тапкі на тым месцы, дзе і трэба, і пайшоў на куханьку — дзве сталовыя лыжкі кавы ў турку, вадзіцы — і сачы, каб кава не збегла. Гэта такое шчасце рабіць штосьці на дваіх: два кубкі кавы, дзве лыжкі да абеду, два білеты ў кіно... 08/86/27. А што, па сутнасці, гэтыя лічбы?

Ды нічога ў параўнанні з чаканнем шчасця...

# ГАДАВОЕ ПРЫЗНАННЕ...

**Снежань.**

Снежань — гэта шчымлівая пара чакання. Чаго звычайна чакаюць? Банальна, але змен да лепшага. Парадаксальная рэч: нават, калі ўсё добра, тым не менш, чакаюць. А мо тыя змены і не патрэбны зусім?.. Вялікая навука атрымліваць асалоду ад таго, што маеш, не займела шмат вучняў. Затое ніхто не набярэцца смеласці назваць яе масавай. А гэта ўжо добра.

...Калі ты прачынаешся зусім не раніцай, а ў свядомасць гартаюцца слайды з выявай ёлкі, бурбалак савецкага напою, што хутка трапляе ў кроў, традыцыйнай салаты, чаканых і не вельмі падарункаў і іншых асацыяцый гадавых змен, то свядомасць пачынае падказваць, што настаў проста новы дзень. Так бы мовіць, чарговы... І больш нічога. Становіцца сумна. Але ж чаму новы дзень трэба ўспрымаць як штосьці звыклае? Гэта пакутная сцяжына, прычым сцяжына пакут, прыдуманых намі ж самімі. Хопіць жалю, не так ужо ўсё і дрэнна. І, такім чынам...

**Студзень.**

Першая яго палова імчыць хутчэй за парушальніка хуткаснага рэжыму пры «зялёным святле» на дарозе. А з надыходам другой раптам разумееш, што не будзе магчымасці даць перадыху страўніку і кашальку. І хаця новае жыццё забылася тэлеграмай нагадаць табе пра свой пачатак, час складаць планы. Хаця б на тыдзень. Безумоўна, ад слова план патыхае тым, з чым вядуць барацьбу, а менавіта бюракратызмам. Але ж рэч гэта дзейсная не толькі на адміністрацыйнай працы. Бо няма нічога больш цяжкога, чым пытаць у самога сябе, чым займацца ўласнай дысцыплінай.

Студзень — гэта час святочных прадказанняў і спроб зазірнуць у будучыню. А яшчэ ён нагадвае пра нешта вясковае: бабуліну хату, утульны трэск з грубкі, зноў жа мары... Адным часам смешна было ад такіх успамінаў 10-гадовай даўніны, а потым іх так стала не хапаць. І не вернеш. Мо толькі сама калі стану бабуляй, буду мець хату і грубку...

**Люты.**

Ніколі не любіла назву гэтага месяца. І няхай ён (месяц) мне прабачыць, ёсць у гэтай назве эмацыянальна-адмоўнае адценне. Але гэта толькі што тычыцца назвы. У астатнім люты не выклікае адмоўных асацыяцый. Глядзіш у акно з пятага паверха «хрушчоўкі» і чакаеш вясны. Ды так пільна, быццам бы яна зараз возьме і з’явіцца на дарозе. А яшчэ гэта час школьных сустрэч з аднакласнікамі (і гэта ў тысячу разоў лепей, чым на сайце, якому не трэба рабіць рэкламы), з любімымі і не вельмі настаўнікамі. Гэта час кранаючых душу размоў за чарговым кубкам кавы, час амаль апошніх у сезоне назіранняў за снежнымі матылькамі пад вулічнымі ліхтарамі.

**Сакавік.**

Пра тое, што вясною хочацца кахання, не гаварыў толькі той, хто ленаваўся гэта рабіць. Я маю на ўвазе гаварыць. Але ж кахання хочацца не толькі вясной, а заўжды. Проста гэта вельмі зручна, калі чаго не маеш, прымеркаваць яго з’яўленне

да даты, а потым сесці і чакаць. Толькі для таго, каб штосьці мець, трэба штосьці і рабіць. Вось менавіта таму з пачаткам вясны мне хочацца пачынаць новыя справы (часта забыўшыся пра тое, што час бы закончыць пачатыя). З месяц такіх роздумаў прыводзіць да наступнай кропкі каляндарнага адліку.

**Красавік.**

Кажуць, што ў народжаных у гэтым месяцы лёгкая рука. Што ні пасадзяць — расце, што ні прыгатуюць — смачна. Тым, хто з’явіўся на свет у якісьці з адзінаццаці астатніх месяцаў, чуць гэта не вельмі і прыемна. Асабліва жанчынам. Бо гэта падстава, каб засумнявацца ў сваёй выключнасці. А яшчэ да красавіка паспяваеш набыць чарговую пару абутку, пра якую марыў тры тыдні да таго, як стаў яе шчаслівым уладальнікам. Пасля гэтага, як звычайна, інтарэс да яе (пары абутку) цябе чамусьці пакідае. На змену яму прыходзіць іншае: «Ну і навошта?» Ёсць, напэўна, рацыянальнае зерне ў думцы пра тое, што частка мараў павінна толькі марамі і застацца, каб было жаданне да чагосьці імкнуцца.

**Май.**

Я люблю май ужо толькі за тое, што ў першай яго дэкадзе нарадзілася мая матулечка. А ўжо квецень і пахі, канікулы і ўмоўная кропка адліку водпускаў, сонца і мройная вышыня неба — на другім плане...

**Чэрвень.**

Чэрвень распачынаецца арганізаванымі турзлётамі і «несанкцыянаванымі» вылазкамі ў лес. Табе ўжо цёпла, але яшчэ не горача. Усяго ў меру. Чэрвень — гэта час аматараў ціхага палявання, час першых суніц, яшчэ кіславатых ля дарогі і больш дыхтоўных, калі падацца глыбей у лес. Разумная Маці-прырода і тут мусіла нагадаць, што, каб мець сапраўдную якасць прадуктаў спажывання, як, дарэчы, і адносін, трэба шукаць глыбей, а значыць, і прыкладаць больш намаганняў. Збіраць з паверхні трэба таксама, толькі гэта нецікава. Тым больш, што мы не шукаем лёгкіх шляхоў!

**Ліпень.**

Ужо сярэдзіна, ды яшчэ не канец. То добра, то млосна. Няма жадання чытаць добрыя кніжкі, хочацца аблегчанага варыянту, які абзывае «бестселерам сезона» бліжэйшая кнігарня. Загадзя разумееш, што цябе падманулі. Добра адпрацаваўшыя свае грошы, хлопцы і дзяўчаты з аддзелу рэкламы прафесійна зрабілі сваю справу. І ўсё ж дастаеш грашовыя паперкі з кішэні і ўпэўнена кладзеш у касу. І чаму часам нам хочацца быць падманутымі? Можа, каб была прычына пашкадаваць сябе і палаяцца на ілюзорнага віноўцу?

**Жнівень.**

Ведаю шмат людзей, што любяць жнівень. Адношу сябе да іх ліку. Падораныя нябёсамі жнівеньскія дзянькі тояць у сабе шмат асалоды. Цёплае начное паветра грэе лепш за ўтульную кофтачку, а калі пашанцуе, то і графік водпуску можа супасці з восьмым месяцам года. А яшчэ — гэта традыцыйнае жніво. Адно толькі назіранне за працай камбайнераў надае спакою і ўпэўненасці. За прыемнымі момантамі не паспяваеш заўважыць, як годам пачынае ўладарыць **верасень.**

**Верасень.**

Грыбная пара. Асабліва калі не паленавацца і трапіць у баравыя мясціны з раніцы. Асабліва калі ў кішэні любімы і «шчаслівы» ножык. Асабліва, калі гумавыя боты па памеры, а плецены кошык са зручнай ручкай. Асабліва калі з грыбніцы на свет з'явіліся не два ці тры, а ...наццаць грыбочкаў. Асабліва, калі такі вось ураджай табе ёсць дзеля каго збіраць...

**Кастрычнік.**

Кастрычнік пахне дымком. І гэты водар помніцца аж да наступнага года.

Глебу падмарожвае, а таму раніцай асаблівая кастрычніцкая свежасць. Ужо пачынае мроіцца пра мандарыны і снег. Пра якія хоць на некалькі дзён хочацца забыцца зімою.

**Лістапад.**

Закончыць хочацца лістападам. Бо ў маім светаўспрыманні менавіта ён падсумоўвае год. У лістападзе мне хочацца папрасіць прабачэння ў сваіх самых родных за тое, што крыўдзіш іх заўжды больш, чым астатніх, чужых. Мо таму, што родных хочаш бачыць бездакорнымі. І дзякуй ім за тое, што яны прабачаюць мне. І, такім чынам, зноў снежань.

Мікола МЯТЛІЦКІ



Мікола Мятліцкі нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філфак БДУ. Працаваў у рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Полымя». Аўтар зборнікаў вершаў «Абеліск у жыце», «Мой дзень зямны», «Бабчын», «Палескі смутак» і іншых. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы.

# АПАЛЕНЫ ЗОЛАК

## ВЯРТАННЕ ЮРКІ МІЦКЕВІЧА[1]

Вайны суровай кананада.
Марозны сорак першы год…
Імкне фашысцкая армада
Нах остэн — спешна на Усход.

Дымяцца свежыя варонкі.
Трымціць на ветры чарнатроп.
Цяпло радзімае старонкі…
На сцюжах выстылы акоп…

А снежань снежыць — жухнуць травы
Пад пульхным насыпам наўзбоч.
Хлапец на брустверы русявы —
Глядзіць блакітам юных воч.

І нікне сэрца ў горкай скрусе,
І светла мкне жыцця парыў.
«Мне сняцца сны аб Беларусі», —
Так дзядзька Янка гаварыў.

Ён помніць час той светлы весні,
І родны дом у шатах крон,
І голас бацькавае песні,
Што шле здаля вайне праклён.

Адна завея ў далі свішча,
І невядома юнаку:
Заместа хаты — папялішча
І шыбеніца на суку.

Вайны драпежна сцяты голас
І дых смяротна-агнявы.

[1] Юрый Канстанцінавіч Міцкевіч (1917—1941) — сярэдні сын народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Загінуў у баях пад Масквой.

Ў эфіры сумна тужыць Колас:
«Сын, адгукніся, ці жывы?!»

Ды ўчора ён — ў баі забіты,
Сніць сны аб роднай старане.
На бацькаў кліч ідзе з нябыту
Напроці смерці і вайне.

І чуе Колас голас сынаў
Праз поўны смутку скрутны час:
«На полі смерці я не згінуў,
Душой між сцюж зімы не згас!

З сябрамі паўшымі ў хаўрусе —
У шматгалоссі дружных моў.
Мне сняцца сны аб Беларусі,
Я крочу з наступам дамоў.

Застаўся ў снезе дзесь пад Ржэвам
Крывёй акроплены акоп.
Там вецер вые немым спевам,
Вясной вада цячэ ўзахлёб.

І гарыцвет на дзікім полі
Устаў, падпёршы небасхіл.
Там у сырым прамёрзлым доле
Мая магіла між магіл.

У ёй нязрушна прэюць косці,
Над ёй — сцяжынка мураша.
Ды смерць-няўклюда хай зайздросціць, —
Жыве між зор мая душа.

І жыць між зорак вечна мусіць,
Ёй чуць жывы святла прыліў.
Ёй сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

Яна пяе на небнай Ліры,
Прад ёй палае зорак рацць.
Яна ў свае дваццаць чатыры
Усё ж не хоча дагараць.

Не трак раз’юшанага танка,
Што на сыпчак сыры паўзе, —
Ёй бачны рэчка Балачанка
І бор у ранішняй смузе.

І груд вусцянскі — тры гваздзікі
У цёплай матчынай руцэ.
І над ракой ажыннік дзікі,
І плёскат рыбін у рацэ.

Не смертны пошчак кулямёта,
Не хіжы «тыгр», што рушыць вунь, —
Ёй бачна ранішняя цнота
Шчэ некранутых прыгажунь.

Шумлю-жыву някметным дрэвам
Вятрам раз’юшаным назло.
О колькі нас тады пад Ржэвам
Зімой марознай палягло!

Наш скрушны лёс, да болю горкі,
Мы не хацелі паміраць.
Над вамі ранішнія зоркі
Вачамі нашымі гараць.

Ідзём па гэтым зорным крузе,
Што ў небе Госпад сатварыў.
Нам сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

І наш паход — няспешны, чынны,
На зор зіхотлівым святле.
Мы дойдзем, веру, да Айчыны,
Дзе горкне чарка на стале.

Не з пакарыўшай цела змогай,
Удар прыняўшы агнявы, —
Мы дойдзем з юнай Перамогай,
Што вырастала на крыві.

І будзе шчасце ў новай хаце
Зіхцець, як кропелька святла.
Са мною прыйдзе, бацька, маці,
Яна сустрэць мяне пайшла.

Ты тужыш аб сваёй Марусі,
Двайную страту перажыў.
Нам сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

…Прыйду з калішняй сумкай школьнай,
Дзе кніжкам шчыльна з юні дзён.

Ды будзе ўсё ж смылець няўмольна
У пальцах сціснуты патрон.

Яго вазьму — вайны асколак,
Што супыніў мой рух зямны.
Настой-адвар з гаючых зёлак
Прагоніць холад ледзяны.

На плот ля хаты абапруся.
Ты дзверы, бацька, прыадкрыў.
Мне сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

…Гудзе застольная бяседа,
Зганяе смутную імжу.
Пра ўсё, што выпала мне зведаць,
У коле родных раскажу.

Ды не скажу, відаць, пра тое,
Як паміраць у юні дзён.
Як нішчыць шчасце залатое
Гарачай куляю патрон.

Аддам яго малому брату,
Ну так як забаўку — бяры!
Няхай не йдзе ён з ім у хату,
Гуляе-цешыцца ў двары.

Дзе стрэльбы нашы, — запытаю, —
Што ты на селішчы схаваў?
І не скажу — пара не тая —
Патрон жыццё мне абарваў.

Не грэх яму, малому, схлусіць,
Абы не згас вачэй наіў.
Мне сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

…Што, бацька, сам такі самотны?
Чаму ў вачах тваіх імжа?
Табе адкрыўся зноў кут родны,
Навекі знішчана мяжа.

І ты сягоння зноўку едзеш
Праведаць любую Альбуць.
З табою стрэнуцца суседзі.
Мяне ж паклікаць не забудзь.

Малому мне не давялося
Пабыць у гэтай старане.
Пачуць, як там вятры галосяць.
Відаць, не так, як на вайне.

Там спяць твайго маленства леты,
І леснічоўка — дзедаў дом.
І два Міцкевічы-паэты:
Ты — і ў руках Адамаў том.

Чытаеш зноўку верш уголас
З хвалою родных — за рубля.
Аб тым, што будзеш заўтра Колас,
Яшчэ не ведае зямля.

Ты проста Костусь між пагодкаў
І забіяка-шалапут.
Ды забруіць радкоў паводка
Пра родны край, пра родны кут.

Ты не судзі мяне так строга,
Што згас дачасна на вайне.
Бо зведаў сам тугу астрога,
І зразумееш ты мяне.

Ніхто душу прадаць не змусіць,
Якою Госпад адарыў.
Ёй сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

Павер, у ростані суровай,
Там, дзе міргае зор святло,
Мяне тваё трымае слова,
Што стойкай мужнасцю жыло.

Яно над светам прагучала,
Пачута ў роднай старане.
Ты пеў за двух — не ўспеў Купала
Усё сказаць у твар вайне.

…У парку Горкага на ўскраі
На родным котлішчы стаю
І з болем чутым азіраю
Хаціну даўнюю сваю.

Яна не спаленая, хата,
Яна стаіць у шатах дрэў.

Як цеплыні жыцця багата,
Дзе шчасця юнага павеў.

Сябры-студэнты аж да рання
Хаўрусна гутараць. Яны
Ў чаканні першага кахання,
А не суровых дзей вайны.

Не ўсе яны, як кветкі ў лузе,
Перажывуць прыход зімы…
Нам сняцца сны аб Беларусі, —
За дзядзькам Янкам шэпчам мы.

Прывет, сябры мае, зямляне,
Мы ўсе растрэсены вайной.
Як марыў я пра паляванне
На сцежцы хойніцкай лясной.

Палессе вабіла — на працу
Хацеў падацца я туды.
Ды як касцёр, так разгарацца
Мае ўсе стратныя гады.

Лось, не тужы… Не ўпаляваным
Ты рушыш хмызам балацін.
Мае крывёй сцякаюць раны.
Упаляваны не адзін

Рукой кашчаваю на полі
У маразы суровых дзён…
Напіша нам зямныя ролі
Вайной прынесены патрон.

…Сягоння бачыў, як у парку,
На лаўцы седзячы — арлы! —
Два юнакі гарэлку ў чаркі
Лінулі хвацка з-пад палы.

За што пілі — таго не знаю,
Канечне ж, тост не за мяне.
У іх узросце паміраюць
Хлапцы, бывае, на вайне.

У іх сваіх трывог багата,
А мне б святла душой глынуць!
Пара б, хлапцы, мяне, салдата,
На месцы гэтым памянуць.

Вядзеце сумныя гаворкі,
Атакі голас здрыгане.
Я чую сказ ваш скрушны, горкі
Аб неаб'яўленай вайне.

Нам пасталець прыйшлося рана,
А ўслед за намі ўжо і вам.
Прыйшлі з вайны, з Афганістана.
У аднаго — на твары шрам.

І тут, у парку, на паверцы,
Сышліся ў часе, хлопцы, мы.
У нас у кожнага на сэрцы
Свае адмецiны-шрамы.

Як часта вы ў сяброў хаўрусе
Трывогі чуеце прыліў.
Вам сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

…Ступаю. Плошча Перамогі.
Пялёстак Вечнага Агню
Сагрэе зраненыя ногі,
Зірну ў праспекта віратню.

І вось вясельны белы вэлюм.
Юнак дзяўчыну пад руку
Вядзе, і ён не здатны вельмі
Сказаць вітанне чужаку.

А я стаю на гэтай плошчы,
І сэрца сціснецца — чаму?
Няўжо, забіты, я зайздрошчу
Яму, наступніку свайму?

Вятры за мной гудуць-галосяць,
Супыну веям іх няма.
Мне крочыць так не давялося,
Ступала ў вэлюме зіма.

Мая нявеста ледзяная,
Яна пяе і сёння мне.
Дрыготкай лютай працінае
У мне вядомай старане.

Кахайце, хлопцы… Першацветам
Асыпле весняя пара.
Брыдзе здалёку белым светам
Вайна — суровая ігра.

Яе пазбегнуць зычу шчыра
Табе, жывому юнаку.
Вядзі, мой дружа, сёння з мірам
Дадому жонку пад руку.

Вас юны май з жыццём ў хаўрусе
Агнём кахання адарыў.
Мне ж сняцца сны аб Беларусі, —
Як дзядзька Янка гаварыў.

…Ну вось, пабыў я на Айчыне,
Усю душою прыгарну!
Бывайце ў ранішнім спачыне,
Мне ж час падацца на вайну.

Даруйце, рана патрывожыў
Пад небам ваш дасветны сон.
З сабой нясу я ў падарожжа
У пальцах сціснуты патрон.

Іду сцяжынай-кметай Бога,
Што росна ззяе на траве.
Патрон — ён мой… Жыцця другога
Знянацку ўжо не абарве.

Ён — мой… Яму на дне магілы
Да скону вечнага ляжаць.
Над ім зямныя небасхілы
Ад кананад не задрыжаць.

Тварыце свет красою дужай
Падальш ад пошаснага зла.
Няхай над ранішняю ружай
Заўсёды зумкае пчала.

Няхай ваш парк — мой дом калішні —
Сустрэне кожнага — жыві!
Кароткі век мой быў не лішні,
Бо ўстаў, расстрэльны, на крыві».

…Імкнуць варожыя армады,
Зліліся захад і усход.
Вайны забытай кананады.
Марозны сорак першы год.





*Ягор Конеў нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працуе выкладчыкам. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі прозы «Вартавыя», выдадзенай у бібліятэцы часопіса «Маладосць», і іншых.*

Ягор КОНЕЎ

# НОВЫЯ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

***Аповесць***

*Чорнагаловая, шэрахвостая варона* павольна кружыла над лесам, пакрысе зніжалася да гонкіх соснаў і зялёных хвояў. Яе цёмныя, з металічным бляскам вочы вышуквалі ўнізе спажытку, але пакуль што бачылі толькі вершаліны дрэваў і зараснікі.

Птушка прызямлілася на паляне, парослай фіялетавай сон-травой, склала крылы, патэпала па траве, схапіла дзюбай пяшчотна-бухматы бутон расліны ды незадаволена каркнула — нясмачны!

Гучна перамаўляючыся, на паляну выйшлі двое мужчын. Адзін нёс пад пахай шкляны слоік, другі сціскаў у руцэ сякеру. Іх раптоўнае з'яўленне прыйшлося вароне недаспадобы, і, абурана каркнуўшы, птушка ўзвілася ў паветра ды, ляпаючы крыллем, скіравалася ў гушчар.

Пэўны час яна ляцела над пясчанай калюжыстай дарогай. Раптам птушыную ўвагу прыцягнула імшыстая гара ў глыбіні лесу. Там, на парослым кустоўем і бярозамі ўзвышшы, тапталіся двое мужчын з рыдлёўкамі ў руках. Абодва былі ў цяльняшках і зялёных штанах, у высокіх скураных ботах з тоўстымі падэшвамі ды шнуроўкай амаль да каленяў. Адзін з іх — смуглявы, хударлявы і нізкарослы — меў на выгляд гадоў сорак. Другі — гадоў дваццаці пяці, высокі, скуласты, шыракаваты мацак. Яго даўгія русыя пасмы спадалі на плечы, а лоб перасякала зялёная стужка. Першага звалі Сяргей Свідэрскі, яго напарніка — Мішка Гардзейчык.

Вядома, варону гэтыя людзі зусім не займалі. Цікавасць выклікалі іх распакаваныя заплечнікі: ці не адшукаецца там якой-небудзь ежы?

Пакуль капачы апантана выкідвалі рыдлёўкамі зямлю з шырокай яміны, шэрабокая птушка спікіравала да іх рэчаў і ўважліва ўсё даследавала. Яна абышла ўвагай чорны мінашукальнік, рыштунак і пустыя палатняныя мяхі. Затое вельмі заінтрыгавалі яе пакеты з бутэрбродамі. Скрозь празрысты цэлафан варона разгледзела хлеб з каўбасой, салам, цыбуляй і парэзанымі агуркамі.

Птушка ўжо наважылася дзеўбануць тыя прысмакі, ды знянацку побач з ёй упаў камяк зямлі. Варона схамянулася, падняла галаву — і каля самага вока прасвісцеў яшчэ адзін. Пясок пасыпаўся на птушынае пер'е. Аказалася,

адзін з капачоў — дужы і высокі — запрыкмеціў хітрую ахвотніцу на бутэрброды і цяпер шпурляў у яе ўсё, што траплялася ў яго шырокую далонь. Гнеўна каркнуўшы на сквапнага здаравяка, варона паднялася ў паветра і ўзнеслася над кронамі хвояў.

Капальнікі ж адклалі шуфлі, расчахлілі кароткія сапёрныя рыдлёўкі ды пачалі зразаць зямлю тонкімі пластамі.

Звонка ценькалі сініцы сярод бярозавай лістоты. Пад акампанемент іх руладаў Свідэрскі натыркнуўся на нешта металічнае ў зямлі. Сяргей адклаў рыдлёўку, нацягнуў палатняныя пальчаткі, выняў з кішэні штаноў пэндзлік-памазок і стаў змахваць пясок са знаходкі.

— Адпачні пакуль, Мішка, — глуха загадаў ён напарніку.

Той порстка вылез, сеў на жвір, выцер успацелы лоб, прыслухаўся да зялёнага шуму лесу, пацягнуўся да хрусту ў плячах.

Неўзабаве з яміны выпаўз і Сяргей. У руках ён трымаў іржавую каску, з выглядам знаўцы задаволена канстатаваў:

— Эсэсаўская, — і ўказаў на тупыя рожкі па краях шлема: — Бачыш? Такія насілі жаўнеры дывізіі «Вялікая Германія». У сорак чацвёртым тут, пад Барысавам, дывізію разбілі ўшчэнт… Пачышчу яе, падлакірую. У Маскве за такую рэч заплацяць не менш за сотню янотаў.

— Каго? — перапытаў Мішка.

— Янотамі цяпер называюць еўра, — высакамерна патлумачыў Свідэрскі, памацаў пальцам адтуліну з левага краю каскі, радасна дадаў: — А за гэта накінуць яшчэ трыццатку. Многія калекцыянеры радуюцца, бы дзеці, калі ёсць сведчанне, што рэч належала нябожчыку, а не была скрадзена, напрыклад, з музейнага запасніка або армейскага склада…

— Значыць, мы зноў на нечыя магілы патрапілі? — сумеўся Мішка.

— А чаму гэта цябе хвалюе? — пасуровеў Свідэрскі.

І раптам змоўк, нервова паглядзеў у бок дарогі. Адтуль даляцелі чалавечыя галасы. Меней за ўсё капачы хацелі ўбачыць тут жывых людзей — кампанія нябожчыкаў імпанавала ім куды болей.

Гардзейчык разгублена збялеў, затое Свідэрскі зарыентаваўся вокамгненна — схапіў мінашукальнік і люта зашыпеў напарніку:

— Усё ў яміну!

Менш чым за хвіліну яны пашпурлялі ў выкапаны дол мяхі ды рыштунак, саскочылі самі, прыселі, сталі подых. Здалося, нават птушкі ўверсе заспявалі цішэй. Мужчынская гаворка чулася ўжо блізка.

Далакопы асцярожна прыўзняліся, паглядзелі ў нізіну.

З-за дрэваў паказаліся два немаладыя вяскоўцы — з шкляным слоікам і сякерай. Яны жыва перамаўляліся ды азіраліся наўкол.

— Прынесла іх па нашу душу, — прыглушана прагаварыў Сяргей.

Ціха вылаяўшыся, ён сцягнуў пальчаткі, схіліўся да свайго меху, пакорпаўся сярод рэчаў, выцягнуў кабуру з пісталетам, выняў зброю.

— Ты чаго ўдумаў, Шэры? — спалохана акругліў вочы Мішка.

«Шэрым» ён называў Свідэрскага, па-першае, за тое, што той звычайна апранаўся няярка, па-другое, паўсюль імкнуўся трымацца непрыкметна, па-трэцяе, ніколі нічога пра сябе не распавядаў і, па-чацвёртае, па аналогіі з імем Сяргей. Цяпер жа мянушка пракаўзнула ў Мішкіных вуснах таму, што Сяргей нагадаў яму шэрага драпежніка. Свідэрскі хаваўся да пары пад маскай эрудзіраванага аматара-археолага, а як адчуў небяспеку, то і праявіў сваё звярынае нутро. І ад такога адкрыцця зрабілася Гардзейчыку млосна.

Свідэрскі зняў пісталет з засцерагальніка, шчоўкнуў затворам.

— А ты ў турме сядзеў, Мішка? — ціха спытаў ён. — Павер, там блага. І я цвёрда засвоіў: не хочаш на нары — не пакідай сведкаў. А раптам яны, — кіўнуў у бок незнаёмых, — апішуць мянтам нашыя прыкметы?

Мішка ўцягнуў галаву ў плечы, спалохана паглядзеў на мужыкоў, якія і не падазравалі, што аказаліся «сведкамі», — і з палёгкай уздыхнуў. Бо вяскоўцы спыніліся метрах у сарака ад узвышша, каля маладой бярозы з густой кронай. Адзін з іх надрэзаў сякерай белы ствол, змайстраваў з бяросты жалабок і прымацаваў да дрэва гнуткім дротам. Другі падставіў слоік пад жалабок, па якім кропелькамі заструменіўся празрысты сок.

— Бачыш, і яны закон парушаюць, — шапнуў Мішка напарніку.

— За іх парушэнні ды за нашыя — розная кара, — змрочна адказаў той.

Пакаштаваўшы бярозавіку, мужыкі патэпалі ўпрочкі да калюжыстай дарогі. Сяргей зноў шчоўкнуў засцерагальнікам, сунуў пісталет у кабуру, схаваў яе ў заплечнік, дзелавіта нацягнуў пальчаткі.

— Ты ж пажартаваў, Шэры? — з надзеяй спытаў Мішка. — Наконт зброі...

— Яшчэ б, — спакойна адказаў той. — Ну, адпачылі, а цяпер за працу.

Капачы павыкідвалі з яміны свае рэчы ды ўзяліся за рыдлёўкі.

Неўзабаве Мішка зноў адчуў сябе непамысна. Пад лязо яго шуфля трапілі чалавечыя косткі, на якіх захаваліся рэшткі шэра-зялёнага мундзіра. А Свідэрскі выцягнуў з-пад камкоў гліны чэрап.

З дзіўнаватай усмешкай Сяргей узяў чэрап у левую далонь, адкінуў галаву назад, ускінуў падбародак і патэтычна прадэкламаваў:

— О, бедны Ёрык!

Мішка аніяк не адрэагаваў на гэтую мізансцэну. Дзе было ведаць Гардзейчыку, які ледзьве скончыў сярэднюю школу з пасрэдным атэстатам, што яго эрудытнапарнік такім чынам парадзіруе прынца дацкага. Класічных фільмаў Мішка не глядзеў, кніжак не чытаў. Яго судакрананне з мастацтвам абмяжоўвалася праглядам крымінальных тэлесерыялаў. Напарніка Мішка шанаваў, але ацаніць яго інтэлектуальны ўзровень не мог — дасведчанасці бракавала.

Не пачуўшы Мішкавых апладысментаў, Свідэрскі нахмурыўся, грэбліва шпурлянуў чэрап у хмызняк, уваткнуў лязо рыдлёўкі глыбей у зямлю.

Гардзейчыка аж перасмыкнула ад такой непавагі да безыменнага нябожчыка. Але крытыкаваць Сяргея не адважваўся. Пэўна, таму, што за пару дзён экспедыцыі Свідэрскі плаціў яму болей, чым Мішка зарабляў за месяц на заводзе, дзе працаваў манцёрам.

* * *

Чорнагаловая, шэрахвостая варона ляцела на поўдзень. Яе паветраны шлях пралягаў над гарадамі, дзе сярод гмахаў будынкаў сноўдала процьма людзей, над пасёлкамі, дзе драўляныя хаты межавалі з цаглянымі катэджамі, над вёскамі, дзе ўздоўж пясчаных дарог цягнулі галіны ў неба кашлатыя ліпы і цыбатыя клёны. Мінала птушка палі, дзе збажына налівала колас, махала крыллем над лясамі, лугамі, азёрамі, рэчкамі.

Час ад часу занепакоена блішчэла вароніна вока, калі прыкмячала ў блакіце неба іншых птушак. Варона баялася вераб'ёў або сарок — такія ўмомант задзяўбуць-заскубуць небараку-адзіночку. Таму трымалася бліжэй да аўтадарог — дзе з шумам лётаюць машыны, там драпежныя чароды радзей кружаць.

Варона ляцела над шасціпалоснай шашой, па якой кіраваўся транспарт на поўдзень і назад. Яе ўвагу прывабіла гнуткая палоска, якая чарнела на ўзбочы-

не побач з дарожным знакам — белыя літары ў сінім полі пазначалі: «Мінск— Калінкавічы — 260 км». Пікіруючы, птушка ўзіралася: што там унізе? Мо нешта ядомае? Напрыклад, чарвяк або здохлая гадзюка...

О, якое расчараванне напаткала варону! Не чарвяк і не гадзюка аказаліся пад яе кіпцюрамі, а кавалак гумавай стужкі, выкінутай нейкім аўтамабілістам. Пакрыўджаная птушка дзеўбанула палоску і патэпала на асфальт. Але не паспела ўсвядоміць усю глыбіню свайго расчаравання, як зусім блізка пачуўся роў матора, шоргат колаў і нешта страшна загудзела.

Варона панічна заляпала крыллем і ўзвілася.

Ледзь не збіўшы яе лабавым шклом, праімчаў па шашы чырвона-белы пасажырскі аўтобус. Яго сівавусы вадзіцель своечасова запрыкмеціў дурную птаху, якая палезла пад колы, і, каб не раздавіць, націснуў на сігнал. Варона была ўратаваная. Подых ветру ўстапырыў яе пер’е. Птушка незадаволена каркнула ўслед транспарту і, адчуваючы сябе пакрыўджанай і падманутай, паляцела далей ад шашы…

Між тым пасажыры ў салоне і не падазравалі, што іх аўтобус шчасліва пазбегнуў сутыкнення з воронай-падарожніцай. Трэцюю гадзіну ехалі яны з Мінска і большасць з іх задрамалі пад саладжавыя спевы Алы Пугачовай, якія нягучна даляталі з дынамікаў. Але парачка пасажыраў не толькі не спала, але і непрыхавана ігнаравала творчасць «прымадонны» расійскага шоу-бізу. Гэта былі брат і сястра Жакевічы — трынаццацігадовы Віктар і адзінаццацігадовая Юлька. Абодва мелі русыя валасы і сінія вочы, гэтым іх падабенства абмяжоўвалася. Брат быў вышэйшы за сястру на галаву і любіў пазіраць на яе зверху. Віктар коратка стрыгся, а Юлька адрошчвала валасы, якія сплятала ў касу. Любімай вопраткай Віктара былі шараваныя джынсы і майка. Юлька ж перад выхадам з кватэры амаль гадзіну перамярала ўсе свае строі.

Бацькі выхавалі Віктара ў цвёрдым перакананні, што ён мусіць аберагаць сястру — найперш, ад яе ўласнага дуру. Таму ён імкнуўся трымаць сястру навідавоку і даваць ёй карысныя парады. Юлька ж абагаўляла свабоду і з гэтай прычыны часта сварылася з братам.

Цяпер паміж падлеткамі ўсталяваўся нейтралітэт — ніхто нікога пакуль не дапякаў, не ўшчуваў і не крыўдзіў. Хлопец ігнараваў навакольныя гукі, пакольк паглыбіўся ў вывучэнне ілюстраванага «Батанічнага атласа». Дзяўчынка ж адкінулася на спінку крэсла і з заплюшчанымі вачыма слухала песні Брытні Спірс, што чуліся з навушнікаў плэера. (Употай ад бацькоў «спампавала» новы альбом любімай спявачкі з Сеткі.)

Другі раз за дарогу дзяўчына слухала «Цырк» і «Вумэнайзер», прыстукваючы ў такт красоўкам або выбіваючы рытм пальцамі аб падлакотнікі. Ды нарэшце сціх голас Брытні, і на Юльку зноў накаціла туга. Чым далей ад’язджаў аўтобус ад Мінска, тым мацней смуткавала дзяўчына. Звыклая адразу ж агучваць усё, што ў галаву прыйшло, Юлька расплюшчыла вочы, сцягнула на шыю навушнікі і сур’ёзна паглядзела на брата, запрашаючы да размовы.

Бакавым зрокам Віктар перахапіў позірк сястры, але праігнараваў яго, бо разумеў: наўрад ці пачуе штосьці прыемнае з яе вуснаў. Ён з павышаным інтарэсам моўчкі перагарнуў старонку атласа. Ды Юлька, прывучаная хутка атрымліваць усё, што захоча, зачыніла кнігу, у якую ўтаропіўся брат, і пакуль той абурана лыпаў вачыма, завалодала ініцыятывай у размове:

— Ну, вось растлумач: завошта мне такое пакаранне?

— Не табе, а нам, — адказаў брат. — І не пакаранне — адпачынак.

Сястру яго рэпліка падпаліла, бы запалка сухую траву:

— Ты гэта адпачынкам называеш? Прэмся чорт ведае куды!

— Не-абы куды, а на вёску, да дзядулі ды бабулі…

— Іншыя бацькі адпраўляюць дзяцей на адпачынак у Італію або ў Англію!

Ад яе верашчання прачнуўся пасажыр, які сядзеў цераз праход ад дзяцей, — тоўсты мужчына з сівымі валасамі — і спрасонку заазіраўся, спрабуючы зразумець прыроду гэтых гукаў. Мо кагосьці б'юць? Ці котка крычыць, якой на хвост наступілі?

Віктар балюча сціснуў руку Юльцы, каб сцішыла моц голасу.

— Нашы бацькі не такія багатыя, як нейкія там іншыя, — патлумачыў ён. — Яны хочуць, каб нам было лепей. Падумалі: навошта нам улетку парыцца ў горадзе? Лепш на Палессі адпачыць, — і прыгадаў яшчэ адзін важкі аргумент: — Дарэчы, там зараз і Мірон з бацькамі адпачывае. Ты вось упершыню едзеш на вёску, а мы з ім летась класна патусілі там. І зараз будзе файна. З Міронам сумна не бывае...

Аўтобус імчаў па насыпе, які рассякаў залітыя вадой нізіны. Рэдкія дрэвы тырчэлі сярод паплавоў. Юльчына вока такія краявіды не цешылі. Адвярнуўшыся да акна, яна прыгнечана бурчэла:

— А ну твайго Мірона ў балота... Разам з усёй вёскай… Чым цягнуць сюды косці, лепш засталася б я ў горадзе. Пагуляла б з сяброўкамі, пашапінгавалі б, паканекцікаліся б у чаце…

Брат паглыбіў яе іпахондрыю недалікатнай заўвагай:

— Надта ты на сабе засяродзілася. Зрабілася скончанай эгацэнтрысткай. Мела рацыю матуля: трэба табе мозг праветрыць. І тата недарма казаў, што на вёсцы ўлетку лепей, чым сярод асфальта…

— Пра якое лета ты вярзеш! Дажджы без перапынку два месяцы ішлі.

Юльчына раздражнёнасць не магла вывесці Віктара з раўнавагі.

— Але ўжо тыдзень як свеціць сонца. Дарма ты злуешся. А раптам табе спадабаецца Палессе? Можа, ты яго палюбіш …

Нават самому такія дапушчэнні падаліся фантастычнымі.

Пакрыўджаная Юлька націснула кнопку плэера, насунула навушнікі ды скрыжавала рукі на грудзях. Трэці раз слухала любімую Брытні і пры гэтым думала, што ніхто ў свеце яе не разумее, а родны брат — нявылечаны доўбень. І так стала шкада сябе! Ледзьве не заплакала.

Суцяшала, бадай, думка, што некалі стане багатай і знакамітай. Вось тады прыгадае брату, якім ён абэлтухам быў! Тады падакарае бацькоў за тое, што адпраўлялі яе на адпачынак за блізкім светам!

* * *

Чырвонае сонца ацяжэла апусцілася на макаўкі высокіх дрэў.

Прыгнечаны настрой панаваў на ўзвышшы, дзе Шэры і Мішка махалі рыдлёўкамі з ранку. Цяпер тут зеўралі колькі ямінаў глыбінёй у два метры. Пасярод іх на жвіровым груду знясілена ўселіся абодва далакопы і са смуткам разглядвалі іржавыя трафеі каля сваіх ног — патранташ, штык-нож, біклажку, рэшткі вінтоўкі Мосіна, спражку ад рэменя, пусты дыск ад кулямёта Дзегцярова, колькі гузікаў ад гімнасцёркі ды процьму гільзаў.

— Цэлы дзень надрываліся, — падсумаваў Мішка. — А вынікі?

Сяргею захацелася заехаць таварышу ў вуха. Але ж той, пэўна, пакрыўдзіцца. Хто ж тады Шэраму дапамагаць стане? І неймаверным напружаннем волі Сяргей змусіў сябе гаварыць спакойна.

— Усё гэтае дабро на сем сотняў янотаў пацягне, — прыкінуў ён. — Пэўна, тут ужо да нас пакапалі.

— Хто?

— Сапраўдныя археолагі, — паморшчыўся Сяргей.

— І што нам рабіць? — гараваў Мішка.

— Вяртаемся ў Мінск, — загадаў Шэры, порстка падняўся, нарваў моху, счысціў зямлю з рыдлёвак і зачахліў іх.

Мішка тым часам складваў у мех рарытэтныя знаходкі.

Калі спакавалі заплечнікі, Сяргей узважыў іх на выцягнутых руках, і той, які падаўся яму цяжэйшым, узваліў на Мішкавы плечы.

Неўзабаве капальнікі пашыбавалі па цупкай сцежцы, якая вяла іх то міма шчацiністага хвойніка, то міма прысадзістых дубкоў, то міма зараснікаў арэшніка. Дарожка то караскалася на пераплецены тоўстымі каранямі ўзгорак, то саскоквала ў калюгу з мутна-зялёнай вадой.

— Тут, на Барысаўшчыне, мы больш нічога не знойдзем, — разважаў услых Свідэрскі. — Трэба рухацца туды, куды не ступала нага археолага.

— Няўжо на Беларусі засталіся такія мясціны? — шумна сапеў Мішка.

— Хто шукае, той знойдзе… А мы знойдзем і заробім.

— І дзе пачнем шукаць? — удакладніў Мішка.

Сяргей прыціснуў да грудзей чахол з разабраным мінашукальнікам:

— У бібліятэцы.

* * *

Выстраліўшы сiняватым газам з выхлапной трубы, аўтобус ад’ехаў ад прыпынку, папыліў удалечыню па прасялкоўцы. Юлька чыхнула, адкінула русявую касу з пляча на спіну і гнеўна заявіла брату:

— Мне тут не падабаецца.

— Буду мець на ўвазе, — кіўнуў Віктар, азіраючыся.

З левага боку ад іх раскінулася парослая травой лагчына, з правага ўзвышалася крутая гара, з якой збягала шырокая дарога. За той гарой і пачыналася вёска Стружыца, куды брат з сястрой прыкацілі на адпачынак. Каля ног дзяцей ляжала вялізная чырвоная сумка на колцах. Такую зручна каціць за сабой па асфальце, а не сярод пяску і травы.

Юлька падышла да цаглянага слупа, на якім вісела белая шыльда, вывучыла пазначаны на ёй расклад руху — два рэйсы штодня, і гаротна ўздыхнула. Захацелася дзяўчыне, каб ёй паспачувалі, каб яе пашкадавалі, і таму зноў звярнулася да брата:

— Ты, мабыць, не зусім зразумеў. Мне тут наогул не падабаецца!

— Я зразумеў, — пацвердзіў Віктар.

Ён імкнуўся не ўлазіць у гутарку, ды сястра з дакорам дапытвалася:

— Тата казаў, што нас сустрэнуць бабуля і дзядуля. Ну, і дзе яны?

Гледзячы міма яе, Віктар заўсміхаўся, аб’явіў:

— Нас сустракае нехта больш увішны.

Юлька азірнулася і войкнула.

З гары на іх імчаў чорны ровар, а за рулём сядзеў дванаццацігадовы Мірон. Не даехаўшы да дзяцей колькі крокаў, хлопец ударыў па тармазах, эфектна выкруціў руль, спыніўся і саскочыў з сядла, ускінуў чарнявыя бровы, бліснуў карымі вачыма, павітаўся:

— Рады бачыць вас. Як даехалі?

Юлька не дала брату і рота раскрыць, адразу агучыла свой настрой:

— Тут блага, дрэнна, кепска.

— Відаць, ты — Юля? — ветліва ўсміхнуўся Мірон. — Віця казаў, быццам яго сястра — зялепуха з тонкай коскай. А ты сапраўдная прыгажуня.

Дзявочы настрой умомант перамяніўся. Юлька сціпла ўсміхнулася:

— Будучая зорка эстрады мусіць клапаціцца аб знешніх дадзеных.

— Класным ты роварам, Мірон, абзавёўся, — скарыстаў паўзу Віктар.

Мірон імгненна перадаў руль дзяўчыне, прапанаваў:

— Каці яго, зорачка, — а сам узяўся за адну ручку сумкі, указаў Віктару: — Трымай за другую ды паклыпалі, брат будучай поп-дзівы.

Юныя твары прыпякала вечаровае сонца, валасы кудлаціў вятрыска.

Будучая поп-дзіва без ахвоты штурхала перад сабою ровар і бурчэла:

— Толькі прыехала, а мяне прыпрацавалі ўжо...

Ды хлопцы яе не слухалі, цягнулі торбу ўгару, і Мірон тлумачыў, размахваючы свабоднай рукой:

— Вашыя бабуля з дзядулем папрасілі, каб сустрэў вас. А самі зранку прысмакі гатуюць дарагім унукам. Дранікаў вам напяклі, бліноў, катлет…

Мірон і Віктар сябравалі не першы год. Міронавы бацькі жылі ў Мазыры, працавалі на нафтаперапрацоўчым камбінаце. Бацькі Віктара — у Мінску, на трактарным заводзе. Але родам і Міронавы, і Віктаравы бацькі паходзілі з гэтай вёскі. Падлеткі пазнаёміліся пазалетась тут, у Стружыцы, куды бацькі адправілі іх на адпачынак.

Юлька ўсё гнула сваю ўпадніцкую лінію:

— Бліны й аладкі я паважаю. А ўсё астатняе мне тут не падабаецца…

— Павер, буркіта, тут клёва, — перапыніў яе Мірон, — крута, кул.

— Як можа быць клёва ў такой глушэчы! — цяжка дыхала, адольваючы кругагор’е, Юлька. — Адсюль да горада — як да іншай планеты...

А як паднялася ўслед за хлопцамі, то зноў войкнула:

— Як жа тут прыгожа!

З узвышша падлеткам адкрыўся краявід рачнога разліва. Адсюль і да зубчастай сцяны лесу ўдалечыні падымаліся хвалі сіне-зялёнага мора Прыпяці. Вецер калыхаў зараснікі чароту і асакі ўздоўж берага. Вечаровыя бліскавіцы скакалі на цёмнай вадзе. Каламутнае рэчышча то там, то тут віравала, пенілася. Макаўкамі кустоў лазы і алешніку тырчэў з вады заліты луг. Рака нібы дыхала водарам чабору і водарасцей.

На ўзор кінагерояў амерыканскіх фільмаў Юлька працягла вымавіла:

— Ваў! Якая ж яна шырокая!

— Усё з-за паводкаў, — патлумачыў добразычлівы Мірон. — Сёлета, самі ведаеце, зіма затрымалася да красавіка. А потым дажджы зарадзілі. Пяты дзень толькі, як сонца прыгрэла. Але пачакай пару тыдняў — вада сыдзе, можна будзе купацца, — і пацягнуў сумку далей па сцяжыне.

За ім паважна пасунуўся Віктар. Юлька ж зноў нахмурылася і заявіла:

— Спрачацца не буду, тут прыгожа. Але ўсё іншае не падабаецца мне.

Не згаворваючыся і не азіраючыся, хлопцы ў адзін голас крыкнулі:

— Зразумела!

* * *

Ранкам наступнага дня Шэры набліжаўся да гмаху Нацыянальнай бібліятэкі. Дзеля такога візіту апрануў новую блакітную кашулю і чорныя штаны, абуў лакіраваныя пантофлі. У правай руцэ сціскаў барсэтку, дзе захоўваліся аловак, асадка і нататнік, а левую руку ўпрыгожваў гадзіннік з надпісам «Rolex» (кітайскага вырабу, вядома).

Увайшоўшы праз шкляныя дзверы, Сяргей убачыў, як пасярод фае прагульваецца дзяжурны міліцыянер. Ад выгляду супрацоўніка ўнутраных спраў у Шэрага пахаладзела ўнутры — прыгадаліся гады знаходжання ў калоніі строгага рэжыму. Апусціўшы вочы, Сяргей сцішыў хаду — абы не прыцягнуць да сябе залішняй увагі.

Мінуўшы кантроль, Шэры падняўся на другі паверх, дзе ўладкаваўся за сталом з камп'ютарам, стаў набіраць на клавіятуры пошукавыя словы, учытваўся ў спіс літаратуры, які высвечваўся на экране манітора. Затым пачакаў пару гадзін у кавярні ды пайшоў у навуковую залу. Там прад'явіў бібліятэкару дыплом кандыдата гістарычных навук (дзесяць гадоў таму ён насамрэч абараніў дысертацыю па тэме археалагічных пошукаў), атрымаў стос заказаных ім кніжак — усе прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі, ды заняў стол каля шырокага акна. Праз шкло ён мог назіраць, як імчыць транспарт па праспекце Незалежнасці, як гуляе вецер па вершалінах дрэваў у парку каля Дома міласэрнасці, як усё вышэй падымаецца сонца над жылымі гмахамі Уручча.

Міналі гадзіны. Раз-пораз Свідэрскі адкідваўся на спінку крэсла, адпачываў, заплюшчваў стомленыя вочы, а затым вяртаўся да кніжных старонак — да ўспамінаў сведкаў векапомных дзён, да перадрукаваных дакументаў, да статыстычных матэрыялаў. З часоў аспірантуры Белдзяржуніверсітэта Сяргей навучыўся хутка чытаць і запамінаць самае істотнае. Сябе ён тады называў «бібліяфагам» — «паглынальнікам кніжак». Якраз у часы аспірантуры Свідэрскі вырашыў, што здабытыя звесткі можна выкарыстаць з большай выгодай — самому знайсці тое, чаго не заўважылі іншыя. У недалёкім часе ён са здзіўленнем высветліў, што ў свеце багата пакупнікоў рарытэтнага тавару — рэчаў нябожчыкаў, і гэтыя людзі звычайна не квапяцца. Такое адкрыццё парадавала, і пасля ўдалай абароны дысертацыі Свідэрскі не пайшоў працаваць выкладчыкам на гістарычны факультэт. Замест таго абраў долю «флібусцьера могілак» (гэтак сам сябе паэтычна называў). Былі ў такім занятку свае выгоды — працуеш дзе захочаш і колькі захочаш. Калі пашанцуе на «багатую» магілу, дзе, акрамя костак, знойдуцца рыштунак, амуніцыя або зброя, то на заробленыя «яноты» і «грыны» можна колькі месяцаў жыць, не бедаваць. Меліся, праўда, і свае хібы — Крымінальны кодэкс, краты на вокнах і небяспечныя суседзі па камеры.

Але Шэры не думаў пра благое. Сонца паднялося ў зеніт, а ў яго пошуках акрэсліўся рэгіён — Палессе, больш дакладна — зона на поўдзень ад Прыпяці. У тую частку Беларусі яшчэ не ўтыкалася яго рыдлёўка, туды пакуль не дацягнуўся яго мінашукальнік. Той абшар ад Турава да Лельчыц і ад Петрыкава да Мазыра ў 1942—1944 гадах кантралявалі сем партызанскіх брыгад. Ад радасці ў Свідэрскага подых перахапіла, калі прачытаў, што ў лютым 1944-га фашысцкае камандаванне кінула супраць партызан два мотапяхотныя карпусы. У паветры наступленне прыкрывала баявая авіяцыя, а на Прыпяці — ваенныя катэры рачной флатыліі.

«Колькі ж народу там палягло! — цешыўся Шэры. — Колькі дабра там, мабыць, пахавана!.. Я ўжо люблю Палессе!»

Ён старанна перапісваў у нататнік назвы вёсак і хутароў, рэчак і ўрочышчаў, нумары дарог і лясных участкаў, якія згадваліся ў кнігах. Вастрыё яго алоўка слізгацела па мапе, затрымлівалася то ля вусця ракі Сцвіга, то на ўскрайку балота Надзел, то ў цэнтры ўрочышча Тоўстае Балота. Кожную назву Сяргей узгадняў з тэкстам успамінаў колішніх удзельнікаў баёў, аператыўных зводак, дакументальных сведчанняў.

Сонца хілілася на захад. Скрозь акно Сяргей бачыў, як цень бібліятэкі падае на помнік Скарыне, побач з якім фатаграфавалася вясельная працэсія. Свідэрскі пацягнуўся, размяў анямелыя плечы, пахваліў сябе: «Няблага папрацаваў». Можна было ўжо вяртацца ў сваю аднапакаёвую кватэру, дзе заўсёды непрыбрана і адзінока, падсілкавацца, паглядзець тэлевізар, а потым падключыцца да Інтэрнэту, «завітаць» на сайты знаёмстваў. Але перш чым падняцца з мулкага крэсла, Сяргей затрымаў позірк на паверхні стала. З набранага ім стоса недачытанымі засталася парачка не самых тоўстых кніжак. Мо пагартаць іх цяпер, не адкладваць да заўтра?

Папярэдні вопыт навучыў Свідэрскага, што сапраўдныя знаходкі адшукваюцца ў кнігах не ў першы дзень. І нават не ў першы тыдзень. Каштоўныя звесткі трэба выглядваць сярод сотняў старонак — гэтаксама ж золаташукальнік перамые, ператрасе процьму гліны і пяску перш, чым на яго далоні заблішчаць часцінкі неацэннага металу.

Але ж здараюцца ў жыцці дзівосы! Раптам патрапіць на вочы тэкст, ад якога, здаецца, у вушах чуецца бравурная музыка, а цела набывае такую лёгкасць, быццам вось-вось узляціш над паркетнай падлогай!

Тое самае адчуў і Свідэрскі, калі дагартаў да паловы кніжку ўспамінаў Героя Савецкага Саюза Аляксея Курына «Палескі рубеж». На Сяргеевым твары заззяла рахманая ўсмешка. Яму ў рукі быццам патрапіла мапа вострава скарбаў — прычым сам складальнік карты пра гэта і не падазраваў.

Спярша Шэры здзівіўся, потым узрадаваўся і затым насцярожыўся: не разбурыць бы гэтую мрою няўдалым зрухам, зухаватым учынкам!

Ён асцярожна падняўся з-за стала і панёс кніжкі з залы, быццам трымаў у руках гарлачык, да краёў поўны вады.

З той жа дурнаватай усмешкай ён стаяў каля капіравальнага цэнтра, сочачы за тым, як бібліятэкарка ксеракапіруе старонкі замоўленай ім кнігі. З рахманай усмешкай ён сунуў копіі ў сваю барсетку і, калі мінаў вестыбюль, то нават ветліва паглядзеў на дзяжурнага міліцыянера.

Усмешка спаўзла з яго вуснаў, калі выйшаў на шумную вуліцу. Ён зірнуў на прылеглы да бібліятэкі парк, у якім па алеях гулялі маладыя матулі з каляскамі ды сноўдала дзятва, на фантаны, якія білі пасярод Сляпянскага канала, а вакол іх струмянёў утваралася вясёлка, і яго аблічча набыло дзелавіты выгляд. Шэры думаў пра тое, што трэба яшчэ пасядзець за тапаграфічнымі мапамі, пазначыць на іх арыенціры, згаданыя ў «Палескім рубяжы», а яшчэ — падрыхтаваць рыштунак і дакументы.

Прыціскаючы да грудзей барсетку, другой рукой Свідэрскі вынуў мабільнік, набраў нумар і, пачуўшы ў трубцы Мішкаў голас, загадаў:

— Збірай рэчы. Заўтра выязджаем. У палескую глухамань.

* * *

Поўднем наступнага дня чорнагаловая, шэрахвостая варона пралятала над прыпяцкімі разлівамі, азірала залітыя каламутнай ракой балоты і сенажаці. Калі стамлялася махаць крыллем, апускалася на рыжыя макаўкі курганаў, якія выторкваліся з-пад зеленавата-сіняй вады.

Чым далей на ўсход, тым часцей бачыла цікаўная падарожніца, як павадак адступае, як пашыраюцца ўздоўж Прыпяці рудыя палосы зямлі, на якіх сохлі прыліплыя да пяску і чарота водарасці.

Цяпер жа асаблівы інтарэс у вароны выклікаў луг, які ляжаў у нізіне на поўдзень ад ракі, а насупраць, на высокім беразе, размясцілася вёска ў сотню дамоў. З вышыні птушка ўгледзела, як прастору забалочанага лугу спярэсцілі сярэбраныя ручаіны, па якіх вярталася ў раку рыба. Варона скіравалася ўніз, каб выхапіць з вады якога-небудзь карасіка, ды знянацку наляцела зграя качак, адагнала падарожніцу.

Варона пераляцела на бераг каля вёскі, прызямлілася недалёка ад рыбацкіх чоўнаў, перавернутых днішчам дагары. Птушка ўзляцела на адну з лодак, пагрукала дзюбай аб дрэва — і заўважыла, як да яе набліжаюцца двое хлопцаў і дзяўчына. Ніколі раней варона не бачыла ані Юльку, ані Віктара, ані Мірона, і ўсё ж анічога прыемнага для сябе ад суседства з людзьмі не чакала. Таму злосна каркнула, узляцела і са свістам замахала крыллем, пакіравала да ледзь прыкметных удалечыні балотаў.

Падлеткі наогул не звярнулі ўвагі на птушку-падарожніцу. Мірон, у чырвонай кашулі навыпуск і чорных вельветавых штанах, басаnож шлёпаў па пяску — абутак пакінуў у хаце. Віктар плёўся побач з ім у джынсах і зялёнай кашулі, разувацца пакуль не спяшаўся, застаўся ў белых красоўках «Адзідас». Юлька ж, прысуседзіўшыся да брата і сябра, апранулася так, што здалёк магло падацца, быццам вясёлка на зямлю спусцілася — у жоўтую кашулю з чырвоным каўнерыкам і ярка-сіні камбінезон, а на нogі нацягнула аранжавыя гумавыя боцікі.

Зранку сябры абышлі Стружыцу ўздоўж і ўпоперак. Не без засмучэння Юлька высветліла, што дзяўчат на вёсцы, а тым больш яе аднагодак, небагата — вось і мусіла трымацца каля брата і яго сябра. Да таго ж, ёй імпанавала, з якім захапленнем на яе ўпотай пазіраў Мірон — дарма лічыў, наіўны, быццам яна нічога не прыкмячае. Дзяўчыне і самой падабаліся абветраны твар Мірона, рабацінне вакол роўнага носа, прыпухлыя вусны і неглыбокая ямачка на падбародку. Неяк удала сумяшчаліся ў Міронавым абліччы наіўнасць і нейкая сталая сур'ёзнасць. Не тое, што родны брат, які заўсёды глядзіць на яе, бы воўк на капусту!

Міні-плэер Юлька пакінула ў хаце. Па-першае, музыка ў навушніках замінала чуць, пра што гавораць хлопцы, па-другое, самой удзельнічаць у гутарцы, а патрэцяе, на прыродзе не так і хацелася, як сярод гарадскога тлуму, слухаць Брытні Спірс. Уранку яна пачула салаўіныя спевы ў садзе каля дзядулевага дома — і яны падаліся не менш мілагучнымі, чым песні абагаўлёных ёю Дзімы Білана і Энрыке Іглесіяса.

Учора дзеці добра пад'елі — бабуля і дзядуля пачаставалі іх блінамі ды аладкамі з макам, пханай пальцам каўбасой і самаробным сырам. Не галадалі і сёння. Гадзіну таму завіталі ў госці да Міронавых бацькоў, і тыя накармілі іх амлетам і катлетамі. Абедаць намерваліся ў бабулі і дзядулі, а пакуль здзяйснялі праменад і абмяркоўвалі планы на будучыню.

— Я хачу, калі вырасту, стаць заолагам, — натхнёна гаварыў Мірон. — Люблю вывучаць усялякіх звяроў, птушак, рыб. Тут іх багата! Мы на самай мяжы нацыянальнага парку жывём.

— Ну, наконт звяроў я не адмысловец, — прызнаўся Віктар. — А вось расліны — гэта па маёй частцы. Батаніка — мой любімы прадмет у ліцэі…

Вядома, і Юлька не магла не ўлезці ў размову:

— А я вучуся ў школе з музычным ухілам. Мая спецыяльнасць — эстрадны вакал. І калі-небудзь я стану знакамітай спявачкай...

Старэйшы брат раптам прызнаўся Мірону ў набалелым:

— А мне ўся яе эстрада зусім не падабаецца.

— Чаму? — здзівіўся сябра.

Сустрэўшы гнеўны позірк сястры, Віктар не стаў развіваць гэту тэму:

— Не па душы мне яна — і ўсё.

Мірон не адважыўся высвятляць прычыну такіх складаных стасункаў паміж братам і сястрой. А Юлька, быццам прадбачачы верагодную просьбу, катэгарычна адкінула русявую касу за спіну, заявіла:

— Зараз я спяваць не буду. І не прасі, Мірон. Мушу голас берагчы.

— Ды я і не збіраўся, — шчыра сказаў той.

Пакрыўджаная яго абыякавасцю, Юлька незадаволена перакінула касу цераз плячо. А паколькі пахваліцца ўсё роўна карцела, то лагодна ўсміхнулася і сказала:

— Ну, можа, аднойчы і паспяваю... Ці хочаш пачуць сакрэт? — і па-змоўніцку акругліла вочы: — Мой педагог па вакале кажа, што я магу патрапіць на конкурс дзіцячага «Еўрабачання»! Нават перамагчы.

— Толькі цябе тамака бракавала, — ціха буркнуў Віктар.

— І гэта братэрская падтрымка? — абурана звярнулася дзяўчына да Мірона, з дакорам указала на Віцю.

Дзяўчына пакрыўджана надзьмула губы. Віктар адмоўчваўся, азіраючы рачныя прасторы. Тады Мірон скіраваў гутарку ў меней канфліктнае рэчышча, указаў на прыпяцкія абшары:

— Ці паверыце, што яшчэ пару тысяч гадоў таму тут плёскаліся марскія хвалі? Пра тутэйшае мора пісаў старажытнагрэчаскі гісторык Герадот. І цяпер па берагах Прыпяці знаходзяць марскія ракавінкі...

— І куды гэтае мора падзелася? — млява пацікавілася Юлька.

— Рэзка перамяніўся клімат, пагарачэла надвор’е. І мора змялела, пераўтварылася ў тарфянікі ды балоты.

Пругкі вецер, напоены водарам прыпяцкіх разліваў, дзьмуў у твар падлеткам, кудлаціў іх валасы.

Юлька ўжо не злавалася на брата. У адрозненне ад Віктара яна ўмела хутка адцурацца думак пра благое, і цяпер яе ўвага скіравалася да лодак. На адну з іх яна ўскочыла, пастукала па дрэве гумавай падэшвай і перарвала Міронаву лекцыю звонкім пытаннем:

— А якая з іх дзядулева?

— Якраз на ёй ты прытанцоўваеш, — сказаў Мірон.

— Файна! — Юлька саскочыла на пясок і натхнёна прапанавала: — А давайце на ёй пракоцімся! Гэта будзе поўны ўлёт!

— З чаго цябе раптам у плаванне пацягнула? — падаў голас Віктар. — Ты ж усё ныла, што табе тут не падабаецца...

— Ты памылкова мяне зразумеў, — аспрэчыла брата Юлька. — Не ўсё так блага... Мясціны прыгожыя. Бабуля і дзядуля добрыя. І чаму б нам крыху не пакатацца? — і лісліва ўзяла Віцю пад локаць. — Калі ласка, брацік...

Перспектыва воднага падарожжа зусім не вабіла асцярожнага Віктара. Заклапочана гледзячы на раку, ён бачыў, што каля берага гладзь спакойная, без аніводнай зморшчынкі, але ў сярэдзіне рэчышча вада віруе і пеніцца, вірлівыя кольцы ўспыхваюць на сонцы. Зразумела, сястру такія дробязі не хвалююць! На шчасце, мелася неадольная перашкода.

— Як ты паплывеш без вёслаў? — спакойна спытаў Віктар.

Юлька пра такое і не падумала, таму адразу ж зажурылася.

Гаротны выгляд Юлькі засмуціў Мірона, і хлопец нечакана распавёў:

— Ваш дзядуля часта ходзіць сетку ставіць. І вёслы звычайна пакідае пад лодкай. Каб лішні раз не цягаць. Я сам бачыў.

Мірон прыўзняў край лодкі, зазірнуў пад яе.

— Ну, так і ёсць, — пацвердзіў ён і запытальна зірнуў на Віктара.

Каб дагадзіць дзяўчыне, Мірон гатовы быў перайсці балота, не замачыўшы ног. Або зайца злавіць за ногі. Або жабу-рапуху пешшу гнаць да Мінска. На брата ж яе прыгажосць аніяк не ўздзейнічала. Тады сястра пайшла да Віктара з міралюбівай, дагодлівай усмешкай. Яе голас загучаў так, быццам цукровы сіроп пакаштавала:

— Калі ласка, брацік. Крыху адплывем — і назад. Дзядулю нічога не скажам. Каб не хваляваўся дарма… Хочаш, я буду капітанам карабля?

Апошні аргумент наўрад ці можна было лічыць істотным, але Віктар завагаўся, сцішыў крок, канстатаваў:

— Вечна цябе на прыгоды цягне. І заўсёды ты іх знаходзіш.

— Сам падумай: ну, што ў нас за адпачынак? — енчыла Юлька. — Ядзім ды гуляем. А так будзе што ўзгадаць!

Павагаўшыся, Віктар пагадзіўся:

— Ну, добра. Плыць будзем нядоўга і блізка да берага.

— Які ў мяне цудоўны брат! — развесялілася Юля. — І які выдатны сябра!

Яна апантана кінулася перакульваць лодку. Мірон ёй дапамог. Яны з імпэтам пацягнулі пласкадонку, якая зашаргацела днішчам па пяску, да вады. Між тым Віктар у разгубленасці пачухаў лоб, згадаў:

— Мне ўся гэта сітуацыя нагадвае адну гісторыю. Чытаў пра яе...

Ды хіба яго нехта слухаў?

Нос лодкі ўваткнуўся ў мутную прыпяцкую ваду.

Юлька паважна заняла пярэднюю лаву, якую назвала «капітанскім мосцікам». Мірон збегаў за вёсламі, счакаў, пакуль Віктар уладкуецца на карме, сам сеў пасярэдзіне, усунуў вёслы ў качоты.

— Поўны наперад! —загадала Юлька.

Мірон так старанна прыналёг на вёслы, што дзяўчына ад рэзкага штуршка ледзь не звалілася ў ваду. Юлька заверашчала, а яе брат сярдзіта нахмурыўся, падумаў: ці не лепей скончыць прагулку зараз жа?.. Ды ўжо праз хвіліну Юлька супакоілася, радасна засмяялася, праз дзве — пахістала лодку, учапіўшыся ў нізкія барты, а праз пяць — павярнулася насустрач рацэ, паднялася і раскрыжавала рукі. Так рабіла гераіня яе любімага фільма «Тытанік» — у сцэне, якая папярэднічала караблекрушэнню. Дзяўчыне так захацелася, каб у гэты момант яе трымаў за талію закаханы юнак!

Мірон, седзячы спінай да Юлькі, не бачыў яе акцёрскіх выбрыкаў, а вось Віктару яны прыйшліся не даспадобы. Яму не імпанавала аналогія з лёсам самага знакамітага ў гісторыі лайнера. І заўважыўшы, што сястра паставіла нагу на лаву, каб падняцца вышэй, брат строга закрычаў:

— А ну, сядай!

Юлька імкліва апусцілася і склала далоні на каленях. На імгненне ёй падалося, быццам гэта прагучаў голас бацькі, якога лепей не злаваць.

Адплываючы ад пустыннага берага, дзеці зусім не звярнулі ўвагу на сiняватую хмарку, якая з'явілася на ўсходзе. І дарэмна!

* * *

З Мінска на поўдзень імчаў па шашы пасажырскі «Ікарус» — той, у якім пару дзён таму ехалі Віктар і Юля. Цяпер на тых жа месцах сядзелі Сяргей Свідэрскі і Мішка Гардзейчык. Народу ў салоне і сёння было няшмат, а з дынамікаў гучалі ўсё тыя ж саладжавыя спевы Пугачовай. Ды напарнікі-далакопы не зважалі ані на гукі папсы, ані на краявіды, якія пралятали за акном.

— Куды мы наогул едзем, Шэры? — спытаў Міша.

— Пакуль едзем, а потым пешкі, — Сяргей разгарнуў паходны планшэт, які трымаў на каленях.

За пластыкавай празрыстай плёнкай знаходзілася тапаграфічная мапа маштабу кіламетр у адным сантыметры. Прычым не такая мапа, якую звычайна купляюць турысты або аўтамабілісты і дзе арыенціры даволі ўмоўныя, а прызначаная для вайскоўцаў — з дакладнымі пазначэннямі палявых дарог і меліярацыйных каналаў, лясных просекаў і нават брадоў на рачулках. Некалі Свідэрскі прыкупіў цэлы стос такіх у адстаўнога афіцэра-тапографа.

— Вось да гэтай выспы, — пастуквае Сяргей пазногцем па мапе.

Гардзейчык паднёс планшэт да твару — і ўбачанае яму не спадабалася.

— Спрэс балоты, — сказаў ён, бы дыягназ паставіў. — А да бліжэйшай вёсачкі тупаць — як у Амерыку на цягніку ехаць.

— Вось і цудоўна, — усміхнуўся з яго дурноты Шэры. — Аніякіх сведкаў.

Праз колькі гадзін гэтая парачка высадзілася на прыпынку ля вёскі Чарноцкае — за паўсотню кіламетраў ад Стружыцы, дзе гасцявалі дзеці.

Яшчэ не асеў дарожны пыл, падняты аўтобуснымі коламі, а Мішка і Шэры ўжо ўскінулі на плечы вялізныя мяхі, пабрылі па вуліцы, якая цягнулася праз усё селішча. Па дарозе Свідэрскі знаёміў Гардзейчыка з папярэднімі дадзенымі пошукаў:

— З сорак другога гэтую мясцовасць кантралявалі сем партызанскіх брыгад. Узімку сорак чацвёртага фрыцы ўзялі іх у блакаду. На працягу месяца тут ішлі зацятыя баі. Партызаны ўсё ж прабіліся на ўсход і злучыліся з часткамі Другога Беларускага фронту...

— Карацей, вечная слава героям! — без асаблівага імпэту адрэагаваў Мішка. — А прычым тут выспа сярод балот?

— А дзе, па-твойму, хаваліся партызаны? — фанабэрліва спытаў Шэры.

— На выспах, — здагадаўся Гардзейчык.

— Астравоў сярод тутэйшых балот багата. А нам патрэбны самы буйны. Там размяшчаўся штаб брыгады імя Катоўскага. Пры ім знаходзіліся шпіталь, склад з боепрыпасамі, майстэрня, нават палявая друкарня… Партызаны сыходзілі адтуль спешна, пад бамбёжкамі. Уяві, Міша, колькі тамака засталося зброі, амуніцыі! Уяві, колькі за такія рарытэты заплацяць калекцыянеры ў Маскве!..

Натхнёны такой перспектывай Гардзейчык нават прыспешыў крок.

Уздоўж пясчанай вуліцы, па якой ішлі напарнікі, цягнуліся платы рознай вышыні ды якасці: з пачарнелых ад старасці ды вільгаці жардзін да высокіх шэра-гіпсавых канструкцый. Часта трапляліся лавы-прызбы каля брамаў, зрэдку — калодзежы, прыкрытыя абабітымі жалезам дахаўкамі. На адной з даўжэзных лаваў сядзеў белы кот, які правёў вандроўнікаў задуменным позіркам жоўтых вачэй.

Загледзеўшыся на бусла, які з клёкатам кружыў над хатамі, Свідэрскі ледзьве не спатыкнуўся аб курыцу, якая нечакана выскачыла на дарогу і панічна кінулася яму пад ногі. Сяргей хацеў адпіхнуць птушку, ды тая ўцякла пад створку брамы. Шэры нягучна вылаяўся.

— Няўжо ніхто не капаў тут пасля вайны? — спытаў яго напарнік.

— Азірніся наўкол, — у голасе Свідэрскага загучаў сарказм. — Сюды газ і нармальную дарогу правялі ўсяго гадоў пяць таму.

— І як мы адшукаем патрэбную нам выспу? — не мог дапяць Мішка. — Думаеш, сярод балот ёсць паказальнікі дарогі?

— У партызан не было паказальнікаў. Затое меліся праваднікі. Нехта з мясцовых. І нам належыць высветліць: хто менавіта?

* * *

Чорнагаловая, шэрахвостая варона сядзела на галіне сасны і азірала прыпяцкае сіне-зялёнае разводдзе. Бачыла птушка, як увышыні, пад аблокамі, кружыць бусел. Бачыла малькоў, якія сноўдалі на мулаватым мелкаводдзі. А яшчэ запрыкмеціла, як здалёк набліжаецца чорны човен з нізкімі бартамі. З яго чуліся чалавечыя галасы — спярша сцішаныя, пасля ўсё гучнейшыя. Цікаўная птушка сарвалася з галіны, паляцела насустрач чоўну. Аднак, не ўгледзеўшы анічога такога, чым можна было б паласавацца, галодная варона павярнула назад.

І насамрэч, што за справа ёй была да трох падлеткаў, якіх ужо бачыла каля вёскі? Цяпер гэтая тройца плыла ў лодцы, прычым веславаў адзін — чорнавалосы хлопец. Ён зрэдку пазіраў праз борт на адлюстраванне ў цёмнай вадзе сваёй суседкі. А суседка-красуня, захопленая краявідамі, гучна спявала:

Забяры мяне хутчэй!
Адвязі за сто марэй!..

Рэха падхоплівала Юльчын голас, несла яго ўдалячынь.

Трэці падарожнік скрыжаваў ногі на карме і часам занепакоена пазіраў на наручны гадзіннік. Варона адляцела ўжо далёка і таму не пачула, як ён сярдзіта сказаў дзяўчыне, пастукаўшы пазногцем па шкле гадзінніка:

— Юлька, ты дакляравала, што пакатаемся нядоўга! Адплывалі мы а палове першай. А цяпер ужо чатыры.

— Яшчэ пяць хвілін — і паварочваем назад, — умольна зірнула на брата Юля і крыкнула: — Бачу наперадзе лес. Плывем туды!

Яе загад адрасаваўся Мірону, які ўвесь час адмоўчваўся ды лагодна пасміхаўся з дзявочай балбатні. Моцная плынь нястомна круціла лодку, і хлопец з усяе сілы заграбаў то з левага борта, то ставіў вясло рабром з правага і кіраваў чоўнам, быццам лопасцю руля. Ад рэзкіх Юльчыных зрухаў вузкая пласкадонка небяспечна гайдалася, за што сястру ўжо неаднойчы паўшчуваў брат.

Сіне-белае неба адбілася ў цёмным люстэрку разводдзя. Адлюстравалася ў вадзе і шыза-шэрая хмара, якая пакрысе разраслася, навісла над рачной цішынёй і, пацяжэлая, быццам прыдушыла вецер.

Неўзабаве лодка праехала ўздоўж дубровы.

Прыўзняўшыся, Юлька сарвала дубовы лісточак, пакруціла ў пальцах, кінула ў ваду і адвярнулася. Ліст плыў побач з лодкай, ды нечакана за кармой закруціўся вір, імклівa зацягнуў ліст у мутную глыбіню. Мірон і Віктар прасачылі за лістом — і занепакоена пераглянуліся. Абодвум стала страшна ад думкі: а раптам лодка перакульнецца? Хлопцы сталі азірацца на цёмную аблачыну, якая зацягнула неба і нібыта выпраменьвала сінявaты змрок. Іх роздум перарваў дзявочы крык:

— Там, наперадзе, палоска зямлі! Даплывём туды. Разамнём ногі на беражку — і назад. Права руля!

Віктар пераглянуўся з Міронам і строга сказаў:

— Паварочваем. Зараз жа. Цяпер ты сядай на карму, а я за вёслы.

— Я пакуль не надта стаміўся, — шчыра адказаў Мірон. — Супраць цячэння веславаць цяжэй. Тады і будзем змяняць адзін аднаго.

У іх нягучных перамовах Юлька яскрава распазнала пагрозу сваёй уладзе і адрэагавала верашчаннем:

— Бунт на караблі! — і пакрыўджана надзьмулася: — Хіба мы не дамовіліся, што я — капітан, а вы — матросы? Значыць, — яна зухавата ўказала: — наш курс — на той лес! Да яго метраў трыста, не больш...

Хлопцы не памяталі аніякай дамоўленасці пра карабельныя пасады і прапусцілі яе імпульсіўныя рэплікі міма вушэй.

— Вернемся ў вёску — там і размінай ногі, — асадзіў сястру Віктар.

А Мірон стаў заграбаць правым вяслом, разварочваючы лодку.

Юлька пакрыўджана змоўкла, склала далоні на каленях і з гаротным выглядам пазірала на дно, дзе ўжо сабралася лужына бурай вады.

Каб запоўніць няёмкую цішыню, Мірон звярнуўся да Віктара:

— Даўно ты цікавішся заалогіяй?

— Гады два, — знарок не гледзячы ў бок сястры, адказаў той.

— І я не так даўно палюбіў біялогію... Памятаю, марыў, што з’еду ў Амерыку або ў Азію, буду даследаваць тамтэйшыя джунглі, пустыні... Думаў, што за акіянам мяне чакаюць і прыгоды, і сланы, і тыгры. А на Беларусі, меркаваў, анічога цікавага. Лясы, палі, балоты...

Узнятая сябрам тэма не жартам усхвалявала Віктара.

— А ці ведаеш, што ў нашых пушчах флора і фаўна не бяднейшая, чым у тропіках? — загаварыў ён. — Ці ведаеш, што на Беларусі жывуць звяры, якія сустракаюцца ў свеце куды радзей, чым сланы або тыгры?

— Амаль тое ж самае мне сказаў мой настаўнік біялогіі, — прыгадаў Мірон. — З тае пары я стаў падумваць: навошта кудысьці з'язджаць, калі побач столькі яшчэ можна вывучаць?

— І я пра тое самае падумаў, калі прачытаў адну займальную кніжыцу. Называлася яна «Палескія рабінзоны». Аўтар — Янка Маўр...

— А я кніжкі чытаць не люблю, — пакрыўджаным голасам нагадала пра сябе Юлька. — Мне больш падабаецца тэлік глядзець. А яшчэ ў нэце чаціцца. І наогул я не ўяўляю, як можна жыць без дамашняга кінатэатра? А без кампа? А без дзівідзішніка? Без плэера? Хіба гэта жыццё?

— Гэта адпачынак, — не стаў ігнараваць яе прысутнасць Мірон ды зноў звярнуўся да Віці: — І пра што была тая кніжка?

— Пра двух школьнікаў, якія шукалі прыгод на балотах, — прыгадаў ён. — Дарэчы, іх таксама звалі Мірон і Віктар, — падумаўшы, удакладніў: — Віктар быў самы разумны.

Сюжэтам зацікавілася і Юлька, спытала:

— А што пра дзяўчынак там было напісана?

— Дзяўчынак там не было. Затое былі дыверсанты і шкоднікі.

— Каму цікавая гісторыя без дзяўчат? — грэбліва зморшчылася Юля.

Віктар абараніў гонар класіка беларускай літаратуры:

— Тым хлопцам, якім ныццё іх сясцёр ужо ў пячонках засела!.. Па праўдзе кажучы, чытаць, як школьнікі выжывалі на востраве сярод балот, было цікава. Нечым нагадвала серыял «Застацца ў жывых»... Але на ўласнай скуры такое перажыць я не хацеў бы... Плывём дадому!

Юлька са шкадаваннем паглядзела на недалёкі востраў — белы пясчаны роўны бераг, а за ім узвышаўся густы сасняк — ды ўздыхнула.

Буйныя кроплі застукалі па днішчы чоўна. Дзеці сталі занепакоена пазіраць уверх. Захопленыя размовай, яны й не заўважылі, як чорная хмара зацягнула неба. Бліскавіцы раскалолі хмурую сінечу. Грымнула маланка, парывіста падзьмуў вецер-свяжак, узняў высокую хвалю. Мірон нарэшце развярнуў човен, але за гэты час моцная плынь далёка адцягнула іх углыб залітага вадою балота. Лодка апынулася паміж зараснікамі чароту ды купкай бярозак, якія шчыльна зрасліся. Дужаючыся з плынню, Мірон прыналёг на левае весла і раптам пачуў крык Віктара:

— Сцеражыся! З правага борту!

Мірон убачыў, як проста на іх рака нясе вялікі корч — мокрае доўгае чорнае карэнне тырчэла ва ўсе бакі. Зманеўраваць, адплыць ад яго часу ўжо не было. Мірон выхапіў з качотаў весла, ткнуў ім у корч, напружыўся, адштурхнуў ад борта. Корч крутнуўся, паплыў побач з лодкай. Загледзеўшыся на яго, хлопцы не заўважылі, што човен імкліва набліжаецца да бярозы, якая высока тырчэла з вады. Не бачыла дрэва і Юлька, якая павярнулася да сяброў і наперад не глядзела.

Менш чым за хвіліну дождж перарос у залеву. Струмені зліліся ў шквальны паток. Човен стаў запаўняцца вадой.

Вятрыска жвава круціў лодку, гнаў яе ў глыб балотаў. Пад яго халоднымі павевамі корч зноў скіраваўся да лодкі, нібыта хацеў прабіць борт. Мірон падняўся, упёрся ў карчажыну вяслом, адштурхнуў як мага далей. І ў гэты момант лодка стукнулася носам у ствол старога дрэва. Вастраверхія лісцікі пасыпаліся з бярозы.

Удар быў не такі ўжо і моцны, але зусім нечаканы. Пэўна, таму Мірон згубіў раўнавагу і з вяслом у руцэ паваліўся цераз борт. Юлька заверашчала і ажно збялела. Віктар жа зрабіўся пунцовым ды кінуўся на выручку сябру, працягнуў яму руку.

Мірон і сам гатовы быў крычаць, ды ад жаху і піскнуць не змог. Моцна таххала сэрца, ногі зрабіліся быццам ватныя. Хлопец адчуваў, як балюча б'юць па макаўцы

дадджавыя кроплі, як рачная плынь цягне яго ўніз. Ён ухапіўся за Віктараву руку, але ў галаве мільганула думка: той доўга не ўтрымае. Адчайна забоўтаўшы нагамі, Мірон выпусціў вясло і ўхапіўся за ніжнюю галіну бліжэйшай бярозы.

Вясло праплывала якраз побач з Юлькай. Дзяўчына маланкава рашыла: трэба і ёй зрабіць хоць нешта карыснае! Яна перагнулася цераз борт, учапілася ў вясло, пераможна ўсміхнулася. Ды раптам гром і маланка раскалолі неба, наляцеў новы шквал, і мокрае дрэва выкаўзнула з дрыжачых пальцаў Юлькі. Будучая прымадонна сусветнай эстрады страціла раўнавагу, кульнулася ў раку, адчайна залямантавала:

— Ратуй, брацік! Я не ўмею плаваць!

Віктар не адпускаў Мірона — той сам расшчапіў пальцы, ухапіўся за галіну бярозы абедзвюма рукамі. Віктар пераскочыў з кармы на нос лодкі, працягнуў далоні да Юлькі, загадаў:

— Трымайся. Але не цягні на сябе…

Юльчыны пальцы сутаргава сашчапіліся на братавых запясцях. Ад холаду ў сястры пасінелі вусны.

— Хапайся за борт і падцягвайся, — загадаў Віктар. — А я прылягу на суседні борт, каб захаваць раўнава…

Не паспеў дагаварыць, як Юлька неўтрапёна схапілася за нізкі борцік, абапёрлася аб яго і пакараскалася ў човен. А паколькі Віктар не паспеў адсунуцца назад, то паводле закона прыцягнення лодка перавярнулася дагары днішчам. Цяпер і Віктара апаліў холад павадка. Юлька, безумоўна, закрычала б яшчэ гучней, калі б яе галава не знікла пад вадой.

Мірон маланкава адштурхнуўся ад ствала бярозы, падплыў да Юлькі, схапіў яе за лямкі камбінезона, пацягнуў наверх. Будучая прымадонна вынырнула, шырока расплюшчыла вочы і выплюнула з рота ваду проста ў твар свайму ратавальніку. Той пакруціў галавой, сказаў:

— Трымайся за мяне…

Не паспеў дагаварыць, як Юльчыны рукі панічна сышліся на яго шыі. Спалоханая дзяўчына навалілася на Мірона. Той і запярэчыць не паспеў, як абодва зніклі пад вадой.

Віктар трымаўся за борт лодкі, намагаўся яе перавярнуць. Але, убачыўшы, як зніклі галовы сябра і сястры, адпусціў човен і паплыў ім на дапамогу. Мірон і Юлька апусціліся ўжо на добрыя паўметра. Давялося Віктару даць нырца. Сястру схапіў за валасы, сябра — за плячо і так пацягнуў за сабой. Праз пару секунд тры падлеткавыя галавы паказаліся сярод хваляў, сплёўваючы ваду і цяжка дыхаючы.

— Што ж гэта такое? — са слязамі ў голасе спытала Юлька.

— Прыгоды, — нявесела адказаў Віктар. — Пра такія ў кніжках пішуць.

Мірон засмучана маўчаў. Ён першы заўважыў і зразумеў незваротнае: лодку не дагнаць. Пакуль уся тройца боўталася тут, імклівая плынь знесла човен. Чортаў корч плыў побач, але ў борт ужо не біўся. Першай думкай хлопца было — плыць за лодкай наўздагон. Але тут жа асадзіў сябе. Пакуль ён будзе гнацца за чоўнам, ці ўтрымае Віктар сястру на паверхні? Сам толькі што пераканаўся: ратаваць Юльку — што жорнаў на шыю павесіць. Ці зможа ён сам перавярнуць лодку і вычарпаць з яе ваду? Дый якая наогул карысць з чоўна, калі вёслы згубленыя?

Юлька ж адчула, як плынь цягне іх на сярэдзіну ракі — і зразумела, зноў зайшлася. Маланкава зарыентаваўшыся, Мірон кінуў сябру:

— Плывём да бярозы. Тут насамрэч патонем.

Хлопцы па-сяброўску падзялілі вагу: за шыю Віктара Юлька трымалася правай рукой, за Міронаву — левай.

Як даплылі да дрэва, дзяўчына ўчапілася за ствол, нібы злілася з ім.

Між тым залева, якая бушавала амаль чвэрць гадзіны, суцішылася. Супакоіўся вецер, згладзіліся хвалі. Кроплі ўжо радзей падалі на раку. Чорная хмурына развеялася, разбеглася жмутамі па небе. Сонечныя прамяні заскакалі па кромцы далёкага лесу.

Тым часам Віктар даспеў да думкі, якую ўжо забракаваў Мірон:

— Можа, я пакуль зганяю за лодкай? А вы тут пачакайце…

— А раптам у вір патрапіш? — запярэчыў Мірон. — Міг — і ты на дне.

— Што ж нам — начаваць тут? — ціха падала голас Юлька.

Паазіраўшыся, Мірон указаў на захад:

— Бачыш, хмызы тырчаць. А далей — яшчэ. Значыць, там мелкаводдзе.

— Ясна, — зразумеў яго думку Віктар і загадаў сястрыцы: — Трымайся за мае плечы. Крыху паплывём, потым пойдзем пешшу.

— Мо спярша адпачнем? — заенчыла Юлька.

— На тым беразе адпачнеш, — кіўнуў брат у бок пясчанай паласы. — Хацела там ногі размяць? Радуйся. Твая мара здзейсніцца.

Юлька паслухмяна ўладкавалася за спінаю брата, і Віктар, высока трымаючы галаву, пагроб рукамі, забоўтаў нагамі.

— Паплыла чарапаха, — адкаментаваў гэткае відовішча Мірон.

І сам памкнуўся ўслед.

Неўзабаве Юлька адчула сябе нязручна на братавай спіне, паспрабавала ўладкавацца больш выгодна і ўхапілася далонямі за яго шыю. Віктар захрыпеў, кульнуўся ўбок, і дзяўчына знікла пад вадой, аднак абдымкаў не расшчапіла. Абодва пайшлі на дно тварам дагары.

Віктар адчайна выцягнуў перад сабой рукі. Мірон умомант падплыў да сябра і сястры, якія пускалі бурбалкі з носа і рота, сціснуў далоні Віктара, пацягнуў на сябе. Ногі Мірона шукалі кропку апоры і раптоўна ткнуліся ў цвёрдую глебу. Глеістае дно пад красоўкамі адчуў і Віктар, якому сябра дапамог прыняць вертыкальнае становішча.

Вынырнула і Юлька. Яна адпусціла брата, які ўсё не мог аддыхацца і адкашляцца, але сама не расплюшчвала вачэй, у якія зацякла вада і якія цяпер рэзаў боль. Дзяўчына дыхала шырока раскрытым ротам, пляскала па вадзе далонямі, намагаючыся плыць «па-сабачы», і крычала:

— Ратуйце! Брацік! Мірон! Дзе вы?

Хлопцы стаялі побач з ёй і азіраліся. На чыстым небе не засталося ані хмурынкі. Сонечныя блікі скакалі па рачной гладзі. Аднекуль з вышыні пачуўся клёкат бусла. Чарада качак праляцела над іх галовамі.

— Пэўна, мы цяпер пасярод поля стаім на кургане, — дапусціў Віктар.

Міронава гіпотэза падалася больш праўдападобнай:

— Або пасярод балота на купіне.

Яны адначасова ўзялі Юльку пад локці, дапамаглі ўстаць на ногі.

Будучая зорка нарэшце расплюшчыла вочы, выцерла павекі сагнутымі ўказальнымі пальцамі, пацікавілася:

— І куды далей?

— Наперад, — рашуча мовіў Віктар.

Зрабіў пару крокаў — і з галавою знік у цёмнай вадзе. Потым вынырнуў, адпляваўся, адплыў назад, вымавіў:

— Дно то знікае, то з’яўляецца.

— Панясем Юльку ўдвух, — прапанаваў Мірон.

Юлька моцна ўзялася за хлапечыя локці, уздыхнула:

— Я гатова.

Не менш трох гадзін дзеці дабіраліся да пясчанага берага.

Дзеля цікавасці Юлька спярша падлічвала, колькі разоў яны правальваліся ў водную яміну, боўталі нагамі ў пошуках дна, глыталі мутнаватую ваду. Але пасля трынаццатага паглыблення кінула гэткую справу, засяродзіла ўвагу на жаўруку, які трапятаўся ў блакіце неба і соладка спяваў. Вось бы і ёй навучыцца так спяваць, каб мільёны гледачоў успрымалі яе, бы тую птушку — недасягальную і прывабную!

І яшчэ разоў дваццаць зямля сыходзіла з-пад ног у Юлькі. Будучая прымадонна давала нырца, і штораз яе выцягвалі рукі брата і сябра. Утрох яны плылі, дужаючыся з плынню. Калі на шляху ім трапляліся дрэвы і хмызы, то хапаліся за галіны, адпачывалі ды рухаліся далей.

Пакрысе дзяўчына заўважыла, што рака мяльчэе — раней брылі па горла ў вадзе, а цяпер — па пояс. Аднак ісці стала значна цяжэй — цераз крок нага правальвалася ў каламутную жыжку, якая ўсмоктвала аж па калена. Нарэшце Юлька так стамілася, што са слязьмі ў голасе заявіла:

— Не магу больш ісці.

Віктар і сам ледзьве пхнуўся, а ўсё ж сястру падбадзёрыў:

— Не панікуй. Адчуваеш дно?

— Яно гразкае. Па ім тэпаць немагчыма.

— А ты выкарыстай закон Архімеда.

— Чаго? — дзяўчыне падалося, быццам брат кпіць з яе.

— Калі апусцішся па шыю, то станеш лягчэй настолькі, колькі важыць выцесненая табой вада. Твой ціск на дно паменшыцца.

Упершыню за апошні год сястра з павагай паглядзела на брата. І чаму ён раней не дэманстраваў, які насамрэч разумны?

Падлеткі прыселі ды памкнуліся да запаветнага берага, марудна перасоўваючы ногі. Пакрысе ўзровень ракі падаў, і яны мусілі прысядаць яшчэ ніжэй. Нарэшце ўжо не ішлі, а паўзлі яшчарамі, перабіраючы рукамі па бруднай твані. Падняцца ў поўны рост ужо не адважыліся б — баяліся, што дрыгва засмокча.

Калі да пясчанага берага заставалася метраў пятнаццаць, вада зноў паднялася да шыі — патрапілі ў рачную пратоку. Утрох адчулі, як плынь цягне іх убок — туды, куды сплыў човен, на глыбіню. З апошніх сіл Мірон і Віктар дагараблі па берагавой кромкі, на кукішках выпаўзлі з вады. Юлька ўжо наогул рухацца не магла — адно дрыжэла і ляскала зубамі ад холаду. Хлопцы падцягнулі яе за сабой, і нарэшце ўся тройца зняможана павалілася на мокры пясок.

Іх з’яўленне вітала карканнем чорнагаловая, шэрахвостая варона, якая ўладкавалася на пакручастай галіне прыбярэжнай сасны.

Віктар прыўзняў галаву, паглядзеў на птушку і вымавіў:

— А я ж чытаў гісторыі пра караблекрушэнні. Прыгожа іх апісвалі Конрад і Сабатыні. І думаў, што са мной такое нізавошта не здарыцца.

— Але ж здарылася, — падала голас Юлька. — І як нам цяпер быць?

* * *

Падлеткі, вядома, і не падазравалі, што залева, якая абрынулася на іх, была часткай таго ўрагана, што паруйнаваў паўночныя раёны Брэстчыны. Шквалісты вецер з дажджом і градам валіў лес на дзясяткі кіламетраў, зрываў дахі з дамоў. Пад яго подыхам выйшлі з берагоў рэкі Цна і Случ. На падыходзе да Тураўшчыны моц урагана ўжо значна саслабела. І дзеці на чоўне пасярод балота адчулі, бадай, яго апошні подых.

Імклівым дажджом скончыўся ўраган і на Петрыкаўшчыне, у вёсцы Чарноцкае, дзе Свідэрскі ды Гардзейчык завяршалі свой абход.

На працягу пяці гадзін Сяргей і Мішка заходзілі амаль у кожны двор, размаўлялі з гаспадарамі, распытвалі старых людзей.

Добразычлівая ўсмешка як прыляпілася да твару Свідэрскага, так і не сыходзіла з яго вуснаў. Такім чынам Шэры нібы запрашаў кожнага да шчырай размовы. Напарніка ж яго павышаная камунікабельнасць крыху бянтэжыла. Калі неба зацягнула хмурына і зацерусіў дождж, Гардзейчык і Свідэрскі схаваліся пад шырокай кронай дуба, які рос на ўзбочыне вясковай вуліцы. І тады Мішка прызнаўся:

— Нешта я не магу дапяць, Шэры. Звычайна мы хаваліся ад людскіх вачэй. А тут прэмся ў самы цэнтр увагі...

— Мы скарыстаем новую стратэгію, — Сяргей выцер з ілба дажджавую кроплю, якая прабілася скрозь густое лісце. — Сакрэтнасць не дапаможа нам патрапіць, куды трэба. Таму мусім стаць публічнымі асобамі.

Непрацяглы дожджык прыбіў пыл на дарозе і нават не патурбаваў свінню, якая разлеглася ў лужыне каля суседняга плота. Яшчэ падалі кроплі з неба, але ўжо засвяціла зыркае сонца, і напарнікі закінулі мяхі на плечы, памкнуліся па дарозе, якая вяла на ўзвышша. Там, сярод бярозавага гаю, тырчэлі жалезныя і драўляныя крыжы. А наводдаль ад могілак і наводшыбе ад вёскі чарнела хата, двор якой акаляў нізкі плот.

Мішка са шкадаваннем кіўнуў у бок крыжоў:

— Відаць, усе партызаны там адпачываюць. Ды іх праваднікі таксама.

— Хтосьці павінен застацца, — упарта сказаў Шэры. — Не адшукаем у гэтай вёсцы — пойдзем у суседнюю. Хіба забыў маё жыццёвае крэда?

— У цябе яно штомесяц новае, — пакрывіўся Мішка.

Свідэрскі любіў пахваліцца афарызмамі ўласнага сачынення — нават марыў з цягам часу скласці з іх зборнік і выдаць за ўласны кошт. А яшчэ любіў перайначыць чужыя крылатыя выразы. Дык хіба мог Гардзейчык запомніць усе яго мудрагельствы?

— Хто шукае — той знойдзе, а я знайду — і прадам, — вымавіў Сяргей.

— І куды нам цяпер, мудрэц? — спытаў Мішка.

Свідэрскі збочыў з дарогі ды па сцяжыне, якая вілася сярод высокай травы, накіраваўся да хаты наводшыбе. Капачы спыніліся каля плота. Насустрач ім выбег буйны сабака — чорны, але з брудна-белым брухам і шэрымі вушамі, забразгаў даўгім ланцугом, забрахаў. З нізкага праёма адчыненых дзвярэй паказаўся стары, прымружыў вочы, узіраючыся ў незнаёмцаў. Свідэрскі весела павітаўся з ім:

— Добры вечар, гаспадар. А ці можна вады папіць?

Ён адразу звярнуў увагу на калодзеж, што ўзвышаўся блізка ад ганку. Чым не нагода для пачатку размовы?

— Заходзьце, — дазволіў стары і крыкнуў сабаку: — Сядзець, Бабах!

Чатырохногі вартаўнік пасунуўся са сцяжыны і апусціўся на заднія лапы, аднак пры гэтым насцярожана памахваў хвастом і падазрона, як падалося Мішку, прынюхваўся да гасцей, якія паклыпалі да ганка. Быццам адчуваў, што гаспадару пагражае небяспека.

Гаспадар Бабаха аказаўся дзядком жвавым. Сівыя валасы тапырыліся над яго круглай лысінай, тырчэлі над вушамі, густа закрывалі маршчакаватую шыю. Зморшчаны, цёмны старэчы твар нагадваў печаны яблык, але выцвілыя вочы пазіралі на суразмоўцаў з цікавасцю. Гаварыў ён гучна — верная прыкмета, што сам крыху глухаваты.

Пакуль падарожнікі здымалі з плячэй ды складвалі мяхі каля ганка, дзед пакруціў барабан калодзежа, спусціў і падняў на ланцугу вядро, а з яго пераліў вады ў цяжкі, латунны карэц з чырвона-медней ручкай.

— І куды ідзяце? — пацікавіўся стары, пакуль Свідэрскі глытаў ваду.

Звычайна ў кожным двары вёў рэй у размове Шэры, а Мішка адмоўчваўся. А паколькі дзед наўпрост да яго звярнуўся, то Гардзейчык разгубіўся і не прыдумаў нічога лепшага, як прызнацца:

— А мне ўсё роўна. Куды Сяргей завядзе.

Свідэрскі сунуў яму ў рукі карэц, загадаў:

— Пі, — і, выціраючы вусны далонню, сказаў старому: — Мы, шаноўны, супрацоўнікі Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. З Мінска…

— Чуў пра такі, — паківаў дзед.

— А тут праводзім палявыя даследаванні, — жвава паўтараў Сяргей завучаную легенду. — Шукаем удзельнікаў вайны і партызанскага руху...

— Мала нас ужо засталося, — уздыхнуў дзед. — У суседнім сяле жыве парачка ветэранаў. А ў нашым, бадай, я адзіны застаўся...

Твар Свідэрскага заззяў абаяльнай усмешкай.

— Значыць, вы нам патрэбныя.

Ён вынуў з нагруднай кішэні курткі дзве пластыкавыя карткі. На іх меліся фотаздымкі Сяргея і Мішкі, пячатка, подпіс дырэктара музея.

— Нашыя службовыя пасведчанні, — патлумачыў Шэры. — Можаце называць мяне Сяргеем Валянцінавічам, а майго памочніка, — міралюбіва таўхануў у плячо Гардзейчыка, — Мішкам. Ён не церпіць фармальнасцей.

Нефармал Мішка выплеснуў з карца рэшткі вады на траву, рассеўся на лавачцы каля сцяны і моўчкі жмурыўся на сонцы. Ён ужо ведаў: Свідэрскі за колькі хвілін выцягне з суразмоўца ўсю неабходную інфармацыю. Непакоіў адно позірк вартавога сабакі. Карыя вочы Бабаха быццам папярэджвалі — гэтая экспедыцыя завершыцца зусім не так, як папярэднія.

Тым часам Свідэрскі вынуў з заплечніка планшэт, з яго выцягнуў нататнік, сеў побач з Мішкам, пасунуўшы напарніка на краёчак лавы, дзелавіта пстрыкнуў аўтаручкай, з надзеяй спытаў дзеда:

— Ці пагодзіцеся, шаноўны, адказаць на некаторыя пытанні?

Хто ж адмовіць чалавеку, які так даверліва глядзіць на цябе?

Дзед натапырыўся, каб прыхаваць ніякаватасць, маўкліва кіўнуў.

— Наш музей рыхтуе выставу, прысвечаную партызанскай барацьбе на Палессі ў гады вайны, — балбатаў Сяргей. — Хацелася б ведаць, якое вы маеце дачыненне да тых падзей?

— Не самае значнае, — падумаўшы, сказаў дзед.

— Можа, ведаеце імёны і адрасы былых партызанаў? — працягваў Шэры.

Дзед не дачуў новае пытанне, затое завяршыў адказ на папярэдняе:

— Ваявалі іншыя людзі. А я праваднікам служыў, у разведку хадзіў...

Свідэрскі ашаломлена пераглянуўся з Мішкам. Вось жа пашанцавала!

— А як вашае прозвішча? — пальцы Сяргея нервова сціснулі асадку.

— Статразаў Бенядзіктавіч Сямук, — з гонарам прадставіўся стары.

— Ста... Як? — удакладніў Сяргей, запісваючы.

— Статразаў, — заўсміхаўся Бенядзіктавіч. — Гэтае імя азначае — Сталінскі трактарны аўтамабільны завод. Мой бацька родам з-пад Царыцына. Ідэйным бальшавіком быў. А сюды пераехаў у трыццатыя…

Зразумеўшы, што гаманкі дзед можа надоўга паглыбіцца ў перыпетыі свайго радаводу, Сяргей быццам незнарок кашлянуў і скіраваў гутарку да больш істотнага для яго пытання:

— А скажыце, Ста... Бенядзіктавіч, як доўга вы былі праваднікам?

— З вясны сорак другога, — уздыхнуў дзед. — Немцы прыехалі тады ў вёску. Многіх пазабівалі. Маіх бацькоў таксама. Куда мне было падацца? Папрасіўся да

партызанаў. А ў атрад такіх малых не бралі. Ну, я і кажу камандзіру атрада: маўляў, усе сцяжыны ў балотах ведаю, магу нават ноччу байцоў вадзіць. Залічылі мяне ў разведчыкі… А як немцы ў сорак чацвёртым узялі нас у блакаду, то я вывеў нашых да Прыпяці. Там яны злучыліся з часткамі Другога Беларускага фронту… Горш за ўсё было, калі фрыцы авіяцыю пусцілі. З ранку да цемры бамбілі. Сярод балот на выспе базаваўся штаб Палескай брыгады. Вось дзе народу палягло!.. Ну, а я, каб не зманіць, тысячы дзве байцоў вывеў адтуль на золку…

Ад пачутага Свідэрскага ледзьве нервовая трасца не біла.

— Палескай брыгады, кажаце? — перапытаў. — І далёка той востраў?

— А хадзем, пакажу, — пасунуўся да брамкі Бенядзіктавіч.

Напарнікаў як ветрам здзьмула з лавы.

Сяргей ледзь на пяткі дзеду не наступаў, за што быў аблаяны Бабахам.

Мішка абышоў сабаку на паважнай адлегласці ды паказаў яму язык.

— А што ж гаспадынькі вашай не відаць? — спытаў Свідэрскі дзеда.

— Адышла яна пазалетась, там цяпер адпачывае, — гаротна ўказаў Бенядзіктавіч у бок могілак. — А дзеці з унукамі ў Мазыр паз’язджалі. Клічуць да сябе жыць...

Ён адвёў гасцей недалёка ад хаты, спыніўся з імі на высокім беразе, адкуль адкрыўся маляўнічы краявід: нешырокая рачулка вілася каля вёскі, за ёй цягнуўся заліты павадкам луг, далей — асіннік, а за ім да самай мяжы далягляду раскінуліся балоты. Вечаровае сонца афарбавала гэтае відовішча ў фіялетавы і ружовы колеры.

Жмурачы вочы, Бенядзіктавіч указаў у далеч:

— Бачыце, на паўднёвым усходзе сосны растуць?

Як ні ўзіраліся Сяргей і Мішка, аніякіх дрэваў не ўгледзелі.

— Пэўна ж, там захаваліся рэліквіі, якія можна выставіць у музеі? — зрабіў Свідэрскі выгляд, быццам у яго знянацку ўзнікла такая ідэя. — Я маю на ўвазе зброю, амуніцыю, рэшткі асабістых рэчаў…

— Мо і так, — не пярэчыў Бенядзіктавіч. — Гадоў трыццаць таму тут круціліся археолагі. Але да раскопак сярод балот рукі ў іх не дайшлі.

— Якой цікавай можа стаць нашая выстава! — усхвалявана гаварыў Шэры. — Такія рарытэты звычайна ўражваюць наведвальнікаў!

— Пра людзей, якія там галовы склалі, сапраўды трэба нагадваць, — пагадзіўся з ім Бенядзіктавіч.

— Калі б толькі вы адвялі нас на тую выспу! — ледзьве не застагнаў Свідэрскі. — У нас маецца і неабходны рыштунак, і дазвол на пошукі...

— Завесці туды магу, — спакойна сказаў Бенядзіктавіч. — Але дарога па балотах нялёгкая. Вы ўпэўненыя, што вытрымаеце?

— Не зможам ісці — папаўзём, — пакляўся Сяргей. — Знойдзеныя экспанаты выставім у музеі. А вам, Барысавіч, прысвецім асобны стэнд. Яшчэ і артыкул пра вас надрукуем. У «Звяздзе»…

— Па-першае, Бенядзіктавіч я, — лагодна паправіў яго дзед. — А па-другое, навошта мне той стэнд і артыкул? Калі вам так ужо цікава, то запішыце тое, што памятаю пра тыя часы. І вам будзе карысна, і мне прыемна. Бо каму яшчэ спатрэбяцца ўспаміны старога з глушэчы?

— Вось як вернемся з экспедыцыі, Багданыч, то сядзем з вамі, вы мне ўсё нетаропка раскажаце, а я запішу, — запэўніў Шэры.

Сам жа разважаў: дзе лепей пахаваць дзеда? На востраве? У балоце?

— А колькі тупаць да тае выспы? — пацікавіўся Мішка.

— Калі выйдзем на золку, то да цемры датэпаем, — прыкінуў дзед. — Начуйце, хлопцы, у хаце, мацуйце сілы, — і з паэтычным замілаваннем дадаў: — Балоты ў нас прыгожыя. Але дужа небяспечныя. Самі ўбачыце.

* * *

Чорнагаловая, шэрахвостая варона цікавала трох падлеткаў, якія бездапаможна валяліся на зямлі. Шалясцелі, накатваючыся на белы пясок, хвалі рачной пратокі. Здалёк далятаў ледзь чутны клёкат бусла — белая птушка кружыла над дрыгвяным драбналессем.

Першым апрытомнеў Віктар. Ён таўхануў у плячо сястру.

— Пад'ём, прымадонна.

Тая падняла галаву і вінавата прамовіла:

— Я зусім не пра гэта марыла, калі клікала вас у лодку.

— Пару гадзін таму здавалася, што ўсё не так і блага, — перавярнуўся на спіну і склаў далоні за патыліцай Мірон.

— А раніцай было яшчэ лепш, — уздыхнула Юлька. — Бабуля абяцала аладак напячы... Слухай, кніжнік! — імпульсіўна тузанула яна брата: — Ты згадваў рабінзонаў, якія завіслі на выспе сярод балотаў. Што яны перш-наперш зрабілі, калі ўбачылі, што справы ў іх кепскія?

— Яны былі смелымі хлопцамі, — сказаў Віктар. — Не панікавалі ды не нылі, як дзеўкі. Агонь без запалак здабылі. З бяросты посуд змайстравалі.

— А з чаго вы рашылі, быццам мы на востраве? — Мірон рашуча адхіліў небяспечную ідэю. — Можа, мы на паўднёвым беразе Прыпяці? І найперш трэба памыцца. Калі засохнем у такім брудзе — ператворымся ў мумій...

Парада была дарэчы — пакуль вандроўнікі дабіраліся па балоце да берага, то перапэцкаліся і глінай, і цінай, і водарасцямі. Але ніхто не спяшаўся ў ваду. Неймаверная стома схіляла да сну.

— Годзе ленавацца, народ! — млява прыкрыкнуў Віктар.

— Будзь для нас узорам, — пад'юджваў сябра Мірон.

— Давайце па маёй камандзе, — схіліўся Віктар да кампрамісу. — Як загадаю «тры» — падымаемся. Р-раз!

— І чаму мы не ўзялі мабільнікі?— панурылася Юлька.

— Два!

— Каму б ты адсюль дазванілася? — здзівіўся Мірон.

— Два з паловай! — прыўзняўся на локці Віктар.

— А можа, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях будзе нас цяпер шукаць? — марыла ўслых Юлька. — Прыляцяць за намі на верталёце...

— Тры!

Падлеткі падняліся і, не распранаючыся, пабрылі ў ваду.

Юлька скіравалася ўлева, за высокі куст. Неўзабаве адтуль пачуўся плёскат і яе верашчанне:

— Божухна, чаму вада такая халодная?! Лядоўня!

Пазмываўшы бруд з рук і галоваў, Мірон і Віктар распрануліся да трусоў, прапаласкалі вопратку, выбеглі на пясок, выкруцілі адзенне ў чатыры рукі, развесілі сушыцца на галінах прыбярэжнай сасны, карэнне якой вытыркалася з зямлі. Пры гэтым сагналі з дрэва варону, якая, абурана каркнуўшы, пераляцела да вярбы, што расла далей ад берага.

Хлопцы ўселіся на карнявішчы, цялёпкалі босымі нагамі па пяску, пазіралі на барвовы дыск сонца, на смугу, якая зацягвала далягляд, на чырвоныя блікі, якія хісталіся на воднай раўніне. Віктар выліў ваду з сваіх красовак і паставіў іх побач з сабой, паглядзеў на свой гадзіннік — стрэлкі спыніліся на сямі гадзінах з чвэрцю.

— Калі будзем шукаць дарогу дадому? — спытаў Віктар сябра.

— Хутка сцямнее, — памяўся Мірон. — Уначы ісці па лесе сярод балотаў рызыкоўна. Лепш ноч тут перачакаем, а на досвітку…

Пацёпваючыся, з-за кустоўя выйшла Юлька. Яна засталася ў адзенні, мокрыя валасы скруціла ў вузел, а ў руках трымала каляровыя боцікі.

— Чаго не распранулася? — асудзіў Віктар. — Падсушыла б камбез.

— Я чула, на целе адзежа сохне хутчэй, — заявіла яна.

Тады і азяблыя хлапчукі нацягнулі на сябе вільготную вопратку.

— Развялі б, мужыкі, вогнішча, — без асаблівай надзеі папрасіла Юля.

— На такую справу запалкі патрэбны, — сказаў Мірон. — Я не куру.

— Я таксама, — з гонарам дадаў Віктар. — Дый калі б мелі мы запалкі, яны даўно змакрэлі б.

— З запалкамі кожны дурань распаліць, — прабурчэла дзяўчына.

— Давайце лепш ложак забамбім, — міралюбіва прапанаваў Мірон.

І пакуль Юлька насуплена перамінался з нагі на нагу, ён адламаў сухі сук ды паглыбіў ім западзіну паміж каранямі сасны. Потым разам з Віктарам наламаў галінак з хмызоў і пазасцілаў імі яміну. Хлопцы ўлягліся, пакруціліся з боку на бок. Вузка, вядома, але можна ляжаць!

— Вядома, гэта не пярына ў дзеда, а ўсё ж тут мякчэй, чым на зямлі, — пахваліў пасцель Віктар. — І цяплей.

Юлька не ацаніла гумар брата, залямантавала:

— Не хачу спаць на зямлі! Я магу застудзіцца! Страціць голас!

Віктар даўно выпрацаваў навык, як лепей супакоіць неўтаймаваную сястру: калі яна павышала голас, то ён гаворыў цішэй. Тады і яна, каб чуць яго, звычайна супакойвалася. Вось і цяпер стрымана і строга мовіў:

— Не жадаеш — не спі. Сядай на дрэва і там цвыркай.

— Не гарачыцеся, — гэтак жа нягучна сказаў Мірон. — Прырода выпрабоўвае нас. Не псіхуйце дарма.

Спакойныя хлапечыя словы ахаладзілі Юльчын запал. Але ж не магла яна вось так адразу саступіць! Дзеля прыстойнасці яшчэ пахадзіла па беразе. А паколькі Віктар і Мірон не звярталі на яе ўвагі, то забылася пра свае выбрыкі, улеглася ў западзіне і прыціснулася да брата.

Змрок згусціўся. Чутна было, як шумяць пад павевамі ветру зараснікі чароту, як кугае пугач недзе ў лесе.

Падлеткі ўпіраліся галовамі ў сук і думалі пра адно: як хочацца есці!

— Паспявай нам, сястрыца, калыханку, — звярнуўся Віктар да Юлькі.

— А ідзі ты, братка. Не магу спяваць на пусты страўнік.

— А мне і песень не трэба, у маім жываце сапраўдны канцэрт, — вяла пажартаваў Мірон. — Суцяшае, бадай, тое, што магло быць і горш. Напрыклад, маглі патануць. Але ж не згінулі! Праўда, клёва?

— Суцяшае, — уздыхнула Юлька. — А есці ўсё роўна хочацца...

Чэрвеньская ноч кароткая. Але юным падарожнікам яна падалася доўгай. Умовы для начлегу аказаліся нязвыклымі, жудасна няўтульнымі. І прахалода, і камары, якія лезлі ў валасы, і гукі цёмнага лесу — усё бянтэжыла, палохала, трывожыла.

Хлопцы да самага ранку так і не заплюшчылі вачэй, усё нервова азіраліся, цялёпкаліся ад халоднага ветру. Юлька ж умудрылася заснуць на золку. Як падалося дзяўчыне, задрамала літаральна на парачку хвілін — і салодкі сон знянацку перарвалі штуршкі ў плячо ды братавы голас:

— Пад'ём, прымадонна. Публіка чакае.

Юлька з цяжкасцю расплюшчыла вочы, скурчылася, абхапіўшы локці далонямі, паскардзілася:

— Як жа халодна!

Белаватая смуга калыхалася, таяла над балотамі. Чутна было, як у глыбіні лесу галодны дзяцел малоціць у ствол дрэва-сушкі.

Мірон зайшоў па калена ў ваду, зачарпнуў яе далонямі, спаласнуў твар, шырока пазяхнуў, паглядзеў на белае кола сонца, якое прабівалася скрозь ранішні туман. Віктар скептычна ацаніў свае красоўкі: за ноч так і не высахлі. Аднак настроены быў бадзёра, рашуча ўсіх падганяў:

— Хадзем, у дарозе сагрэемся.

— У які бок пакіруем? — спытаў Мірон.

На імгненне завагаўшыся, Віктар указаў направа:

— Туды. Інтуіцыя мне падказвае.

Сястра і сябра анічога не мелі супраць яго інтуіцыі. Віктар і Юлька ўзялі ў рукі свой мокры абутак, і юныя вандроўнікі рушылі ў лес.

* * *

Яшчэ на золку чорнагаловая і шэрахвостая варона пакінула бераг, на якім спалі, нервова тузаючыся ад холаду, падлеткі. У пошуках спажытку птушка зноў паляцела на балоты, якія цягнуліся да мяжы небакраю. Веснавы павадак ператварыў дрыгвяную раўніну на поўдні ад Прыпяці ў сапраўдны архіпелаг, акружыў пратокамі мноства буйных і дробных астравоў. Яшчэ нядаўна рыбакі з далёкіх вёсак прыплывалі сюды на чаўнах, ставілі сеткі, лавілі рыбу кілаграмамі. Але цяпер вада пайшла на спад і пратокі звузіліся да ручаін, у якіх аніякая лодка не ўшчэміцца.

Світальнае неба афарбавалася барвамі зары. Туман развеяўся, і з вышыні палёту птушка бачыла, як чаргуюцца залітыя сіня-шэрай вадой і зацягнутыя раскай нізіны з пясчанымі косамі, як суседнічаюць парослыя травой і гнуткімі асінамі астравы з «зыбунамі» — градамі купін, пад якімі таілася бяздонная твань. А яшчэ варона бачыла, як шчыльна заселены балотны архіпелаг птушынымі зграямі. Тут ладзілі гнёзды, выседжвалі яйкі ды гадавалі птушанятак туруханы і гусі, свіязі і качкі, вераценнікі і чыбісы. Усё гэтае шматлікае птаства прачыналася, шумела, палявала на рыбу і жабак, гойсала над прыпяцкімі прасторамі.

Добра ўяўляючы, як пашкуматае ёй пер’е тутэйшая грамада, варона ўзляцела вышэй. Праз пару кіламетраў яна апусцілася на вузкі, парослы асінамі востраў. Тут, сярод зараснікаў журавін, варона паласавалася ягадамі. І раптам банкет перарваўся — пачуліся крокі, гучныя перамовы. Успуджаная птушка ўзвілася над дрэвамі ды ўбачыла, што на выспу завіталі трое мужыкоў з кіямі ў руках. Наперадзе тупаў дзед, кіраваў па ледзьве прыкметнай сярод імху сцяжынцы, за ім — нізкарослы чарнявы мужчына з шэра-зялёным заплечнікам, а замыкаў шэсце мацак, які цягнуў не толькі буйны мех, але і шырокую дошку на плячы. Ён шумна сапеў і нізка схіляў галаву, каб галіны не падрапалі яму твар.

Зразумела, варона не пазнала ані Свідэрскага, ані Мішку Гардзейчыка, а дзеда наогул бачыла ўпершыню. Суседства з людзьмі падалося ёй непамысным, і, гнеўна каркнуўшы, птушка порстка памкнулася ўпрочкі.

Падарожнікі ж на варону і не паглядзелі. Свідэрскі, тэпаючы ўслед за дзедам, з надзеяй спытаў:

— Мо гэта і ёсць той востраў, Браніслававіч?

— Калі б партызаны хаваліся так блізка ад мацерыка, немцы пералавілі б усіх за месяц, — пакруціў галавой дзед. — А найболей людзі баяліся не фрыцаў, а хахлоў-паліцаяў. Вось жа выродкі былі, крыважэры! Немцы мясцовых жыхароў маглі пашкадаваць, угнаць у свой фатэрланд. А гэтыя анікога не шкадавалі... Майго таварыша ў сорак трэцім схапілі, прывязалі да дзвюх асін... — уздыхнуў: — А між іншым, Бенядзіктавіч я.

— Так, прабачце, — пакаяўся за няпамятлівасць Шэры. — А ці не дарма мы з сабой дошку прыхапілі? Навошта нам лішняя вага?

— Зараз пабачыш, — дакляраваў Бенядзіктавіч.

Яны дайшлі да канца вострава, і Шэры адчуў, як у яго падгінаюцца ногі. Бо абсяг наперадзе, наколькі хапала вока, быў зацягнуты хісткім дыванам, утвораным з імху, зараснікаў асакі, паўзгнілых рэштак дрэў. Сярод купін, парослых аерам і чаротам, чарнела вада. Над яе гладкай паверхняй красавалі белыя гарлачыкі, кружылі матылі ды стракозы.

— Як тут прыгожа! — ашаломлена сказаў Мішка.

— Як тут страшна, — прагаварыў Сяргей. — Адзін неасцярожны крок…

— Балота ўсё чуе і адчувае, — спакойна давёў дзед. — З якім настроем да яго падыдзеш, так яно цябе і прыме.

Ён памацаў багну кійком, указаў Гардзейчыку на купіну, якая тырчэла метры за тры ад вострава:

— Кладзі дошку да яе.

І як толькі Мішка выканаў загад, пайшоў, злёгку балансуючы. Дасягнуўшы куп’я, павярнуўся, памахаў рукой:

— Ступайце за мной. У нашых балотах напраскі не гуляюць. Цвёрдая глеба тут астраўкамі ляжыць. Паміж імі — спрэс твань. А прайсці па-над ёй можна вось па такім мосціку. Толькі акуратна…

Апошняй рэплікай Бенядзіктавіч адрэагаваў на выбрыкі Свідэрскага — той, ступіўшы на дошку, так адчайна забалансаваў рукамі, быццам ішоў па трапецыі на вышыні ста метраў. Зразумела, не ўтрымаў раўнавагу і саслізнуў у чорна-зялёную дрыгву. Праваліўся Свідэрскі толькі па пояс, але так закрычаў, нібыта ўжо гінуў незваротна. Верны Мішка працягнуў яму кій, у які той адчайна ўчапіўся. Сяргей выпаўз з мокрага імху і папоўз па дошцы, узмоцнена дыхаючы. Апынуўшыся на купіне, скінуў заплечнік і стаў утрапёна атрасаць брудную ціну са штаноў.

Каб прыўзбадзёрыць яго, дзед прыгадаў паляшуцкую прыказку:

— Хто па кладцы боязка ступае, той у балоці азадак купае.

Сам і засмяяўся з уласнага жарту, але паколькі Свідэрскі ваўком на яго паглядзеў, то палічыў неабходным патлумачыць:

— Я маю на ўвазе, што пра такіх, як ты, Сяргей, у нас кажуць, нібыта ён ходзіць, як сабака без хваста.

Той усё роўна не ацаніў дзедаў гумар, адмаўчаўся.

Бенядзіктавіч дыпламатычна кашлянуў і загадаў Гардзейчыку:

— Забірай дошку.

Мішка падцягнуў яе, ускінуў на плячо, патэпаў міма Шэрага і дзеда.

— Каб дабрацца да таго вострава, трэба не толькі ведаць, дзе сцяжына ідзе па балоце, — сказаў стары, — але і дзе абрываецца...

Мішка рэзка спыніўся, павярнуўся да спадарожнікаў. Пры гэтым дошка на яго плячы са свістам рассекла паветра. Бенядзіктавіч і Свідэрскі ледзьве паспелі галовы прыгнуць.

— Ты лепей глядзі толькі наперад! — крыкнуў Шэры напарніку, а дзеда спытаў: — І часта, Багданыч, сцежка будзе абрывацца?

— Па-першае, Бенядзіктавіч я. А па другое — мала не падасца.

Дзед, відавочна, быў у гуморы!

* * *

Нялёгкай была дарога і трох юных падарожнікаў па зарослым беразе. То яны прадзіраліся скрозь хмызняк, то пералязалі праз паваленае дрэва, то абыходзілі шчыльныя зараснікі маліннíку.

Малінай падлеткі, зразумела, паласаваліся, але пачуццё голаду гэта асабліва не прыглушыла. Віктар уголас марыў:

— Хоць бы нам заяц які патрапіўся! Злавіў бы яго, так есці хачу!

— Навошта табе заяц, калі агню няма? — спытаў прагматычны Мірон.

Віктар спаслаўся на старажытныя інстынкты:

— Нашыя прашчуры елі сырое мяса. Значыць, і мы зможам.

— Годзе балбатаць пра ежу! — асадзіла брата Юлька. — Інакш завыю.

— Патрывай трохі, сястрыца, — паспрабаваў улагодзіць яе Віктар. — Ужо вечарам будзеш уплятаць бліны. А пакуль апетыт нагуляеш...

Юльку, аднак, турбавала не далёкая, а блізкая перспектыва.

— А як тыя рабінзоны ў Маўравай кніжцы сілкаваліся? — спытала яна.

— Яны арганізавалі вогнішча і грыбы на агні пяклі, — прыгадаў брат. — Яшчэ рыбу лавілі. А нерат змайстравалі са сваіх кашуль...

Паветра разарваў нечаканы крык. Хлопцы знерухомелі, а Юлька маланкава сігanula ў самае надзейнае сховішча — за брату спіну.

З густых зараснікаў папараці выскачыла буйная птушка з доўгай шыяй, чырвонай дзюбай і кароткім крыллем. Яна прабегла літаральна ў трох кроках ад дзяцей, ірванула ў балота і спрытна паскакала па купінах.

— Вы гэта бачылі? — у жаху прашаптала Юлька. — Што за пачвара?

— Вы гэта бачылі? — у захапленні прагаварыў Мірон. — Што за цуд!

— Цуд? — зморшчыў лоб Віктар.

— Гэта ж крохаль, — заявіў Мірон. — Мы яго спалохалі, вось і ён напужаў нас крыкам. А паколькі крохаль — птушка баязлівая, то не стаў лезці з намі ў бойку, а ўзяў лахі пад пахі.

— Можа, нам дагнаць яго і папрасіць прабачэння?— спытаў Віктар.

— Ты не разумееш усёй важнасці моманту! Крохаль — рэліктавы від. Ледзьве не адзіны на Беларусі, які захаваўся з часоў дыназаўраў.

— Дыназаўраў? — панічна заазіралася Юлька.

— Не бойся, — усміхаўся Мірон. — Крохаль толькі рыбай сілкуецца.

— Цікава, а ці смачны гэты крохаль? — летуценна прагаварыў Віктар.

— Зусім з глузду з’ехаў! — абурыўся Мірон. — Ва ўсім свеце крохаляў засталося пару дзясяткаў. Убачыць яго жыўцом — вось дзе экзотыка!

— Мы па самыя вушы ў экзотыцы, — змрочна прагаварыў Віктар.

* * *

Тым часам у жыцці чорнагаловай вароны-падарожніцы адбылася векапомная падзея. Адмахаўшы над балотамі амаль дваццаць кіламетраў, птушка склала крылле і прызямлілася ў вёсцы пасярод нечага агарода. Толькі варона занялася вышукваннем чарвякоў у зямлі, як пачула ззаду пагрозлівае карканне. Палахліва павярнуўшыся, птушка ўбачыла буйнога чорнага крумкача. Той падляцеў да вароны і дзеўбануў яе ў галаву — відавочная праява сімпатыі. Варона пацэліла нахабніку дзюбай у вока, ды не патрапіла. Птушкі насцярожана захадзілі кругамі, прыглядаючыся адно да аднаго.

Раптам нечаканая думка агаломшыла варону: мажліва, болей не будзе яна блукаць адзіночкай! Але трэба было праверыць, ці стане гэткі крумкач яе спадарожнікам? Варона ўзнялася над градамі, крыху праляцела, апусцілася ў пыл, уважліва зірнула на крумкача. А той, ганарліўца, і не паварушыўся! Паторкаў дзюбай у глебе, а на варону і не глядзеў. Значыць, і не шукаў сабе пары, а проста хацеў засведчыць, што на гэтым агародзе толькі ён мае права ласавацца чарвякамі ды лічынкамі.

Варона памкнулася далей ад вёскі, дзе зведала горкае расчараванне. А паколькі помніла толькі адно месца, дзе адчувала сябе спакойна і ўтульна, то туды і накіравалася — на выспу сярод балот. Здалося, ззаду пачуўся крумкачовы крык, але птушка не развярнулася. І ў яе, маўляў, ёсць гонар. А калі захоча, то сам яе адшукае!

Кіламетраў праз дзесяць варона зноў напаткала двух мужыкоў і жвавага дзеда, якія перабіраліся па дрыгвяных купінах. Адзін з іх, Свідэрскі, балансаваў на дошцы сярод твані. Ён зноў згубіў раўнавагу і з крыкам саслізнуў у брудную жыжку. Мішка дапамог яму выкараскацца. Варона раздражнёна каркнула на людзей ды шпарчэй замахала крыллем.

Перапэцканы Шэры на кукішках выпаўз на сплавіну — востраў, утвораны з галля і вецця, знесенага павадкам, тужліва паглядзеў на Бенядзіктавіча, які ўзіраўся ў балотную далеч, і спытаў:

— Ці хутка ўжо той чортаў востраў?

— Яшчэ й палову дарогі не прайшлі, — мацаючы кіем багну, сказаў дзед. — У вайну як было? Чым далей ад вёсак, тым бяспечней для партызанаў...

Чартыхаючыся, Свідэрскі няўклюдна ступіў са сплавіны на бліжэйшую купіну — і праваліўся па пояс.

— Натуральны сабака без хваста, — ціха пракаментаваў Бенядзіктавіч. «Хутка даведаешся, дзед, што павёў ты не сабаку, а шэрага ваўка», — пашкадаваў старога Мішка, выцягваючы дошку з твані.

* * *

Між тым юныя вандроўнікі выйшлі на пагорак, зірнулі з яго вышыні ў нізіну, дзе раскінуўся бор. Шумелі лістотай бярозы, шэра-зялёныя алешыны і вербы, цёмныя елкі і залацістыя сосны. З вышыні далятала вясёлае цвірканне вераб'ёў, здалёк чуўся плач зязюлі.

Віктар сарваў кветку, паказаў спадарожнікам:

— Ці ведаеце, што гэта?

— Ані хот-дог, ані гамбургер, — вяла адрэагавала Юлька.

Яна спярша часта войкала, калі ступала басанож на шышку або хваінку. Ды хлопцы асабліва не зважалі на дзявочыя енкі, разумелі: калі пачнуць шкадаваць, то яна змусіць іх несці сябе на руках! І пакрысе Юлька супакоілася, моўчкі моршчылася, але ўголас ужо не скардзілася.

— Маеш рацыю, — бадзёра заявіў брат. — Гэта кольнік каласавідны. Сцябло ў яго падоўжанае, а суквецце сабрана ў колас. На жаль, неядомы!

Усё ж надкусіў кветку, пажаваў і адкінуў.

Спусціўшыся ў нізіну, юныя падарожнікі пашлёпалі па лужынах сярод сакавітай травы. Леваруч ад іх паблісквў з-за хмызняку рачны разліў. Віктар сарваў расліну з ружовым вузкім лісцем, сказаў:

— Бачыце? Гэта скрыпень. Нашыя продкі ўжывалі яго замест чаю...

— Каб зварыць чай, трэба здабыць агонь, — заявіла Юлька.

— Па-навуковаму завецца «скрыпень вузкалісты», — працягваў яе брат. — Яго дадаюць у корм каровам, коням, авечкам.

Мірон сарваў яшчэ адну ружовую расліну, пажаваў, выплюнуў.

— Шкада, што я не конь, а ты не карова, — зрабіў хлопец выснову.

Неўзабаве лес падрабнеў. Прадраўшыся скрозь шчыльнае кустоўе, юныя падарожнікі выйшлі на пясчаную граду, якая абрывалася ў балоце.

— Паварочваем, — загадаў Мірон і з зайздрасцю паглядзеў на бусла, які лунаў над разлівам.

Ён зрабіў крок, як раптам Віктар страшным голасам закрычаў:

— Сцеражыся!

Мірон адскочыў назад і азірнуўся. Віктар паказваў на тонкую жоўтую расліну, якая пасярод пяску калыхалася пад ветрыкам.

— Я думаў, ты заўважыў кубло атрутных гадаў, — сказаў Мірон.

— Гэта залататысячнік, — распавёў Віктар. — Расліна з «Чырвонай кнігі», рэдкі від. Нам варта было патрапіць сюды ўжо дзеля таго, каб пабачыць яго на ўласныя вочы. А ты яго ледзь не растаптаў!

— Прабач, — кісла вымавіў Мірон і скептычна пераглянуўся з Юлькай.

Вярнуўшыся назад у лес, вандроўнікі павярнулі ўлева і праз гадзіну выйшлі на паляну, парослую чаромхай, хмелем, васількамі. Але Віктараву ўвагу прыцягнула трава з круглым лісцем.

— Заечая капуста! — закрычаў ён. — З яе можна боршч згатаваць. Ці дадаць у салат. Або і так з’есці!

Яго спадарожнікі з шчаслівым крыкам наляцелі на кіслы спажытак.

Чорнагаловая і шэрахвостая варона чула дзіцячыя крыкі. Самотна прыгнуўшы галаву, птушка сядзела на галіне прыбярэжнай таполі ды ўзіралася ў балотныя абшары. Праз пэўны час на бераг выйшлі юныя вандроўнікі. Дзяўчынка дажоўвала траву, а хлопцы пазадзіралі галовы, разглядваючы дрэвы ў лесе. Нізкая таполя, на якой уладкавалася адзінокая варона, іх не зацікавіла, куды больш усхвалявалі іх вершаліны елак і соснаў. Першым агучыў сваю трывогу Віктар:

— У мяне благое прадчуванне.

— У мяне таксама, — прамовіў Мірон.

— Вы пра што? — устрывожылася Юлька.

— Здаецца, мы высадзіліся на востраве, — змрочна сказаў Віктар.

— З чаго ты ўзяў? — ускіпела сястра.

— Прыгледзься да старых хвояў, — указаў на дрэвы Мірон. — З поўначы іх кроны пакрытыя мохам. А з паўднёвага боку — чыстыя.

Для Юлькі ўсе дрэвы ў лесе былі аднолькавыя.

— І што гэта азначае? — паціснула яна плячыма.

— Што мы апісалі круг.

— Ты ўпэўнены? — гатова была расплакацца Юлька.

— Дрэвы не падманваюць. Калі мы выйшлі з месца начлегу, мох рос на хвоях з паўднёвага боку. А цяпер — з паўночнага.

— Значыць, мы вернемся туды, дзе пачавалі? — жахнулася Юлька.

— Але, — паныла сказаў Мірон.

— Не хачу туды вяртацца! — заверашчала будучая прымадонна. — Мне тамака не падабаецца! Прыдумайце, як быць!

Сонца мінула зеніт. Сціхнуў вецер, і ад балота хмарай падняліся камары, якія закружыліся над галовамі падлеткаў, палезлі ў нос, у вочы, у валасы. Юныя падарожнікі наламалі галінак з кустоў і, адмахваючыся імі, таропка пабрылі па беразе.

— З поўначы нас аддзяляе ад вёскі разліў Прыпяці, — уголас разважаў Віктар. — З поўдня — балота. Значыць, трэба высветліць: можна яго прайсці або не? Што ты думаеш на гэты конт, Мірон?

— Трэба праверыць зараз жа, — прапанаваў сябра.

Хлопцы сталі борзда распранацца.

Юлька адной рукой адмахвалася ад камарэчы, другой прыхлопвала крывасмокаў у сябе на шчацэ або плячы. І толькі як задзьмуў вятрыска, камары кінулі грызці дзяўчыну. Тут яна нарэшце заўважыла, што яе спадарожнікі ўжо зайшлі па калена ў твань.

— Вы куды сабраліся? — запанікавала Юлька. — Кідаеце мяне?

— Сядзі ціха, — строга загадаў Віктар. — І не смей лезці за намі.

— Думкамі мы з табой, — без усмешкі пажартаваў Мірон.

— А раптам патонеце? — заплакала дзяўчына. — Як мне быць адной?

— Я цябе нізавошта адну не пакіну, — дакляраваў Мірон.

І Юлька нечакана распазнала ў ягоным голасе невядомую ёй раней інтанацыю. Ад гукаў хлапечага голасу, ад позірку Мірона зрабілася на сэрцы незвычайна цёпла. Захацелася прытуліцца да сябра, адчуць сябе надзейна абароненай ад усіх нягодаў...

Паглыбіўшыся ў такі роздум, дзяўчына села на пясок і скрыжавала ногі, гледзячы ўслед брату і Мірону. Хлопцы пабрылі па няўстойлівай глебе, а насустрач ім, з поўначы, вецер гнаў сіняватую хмару.

Тую хмару запрыкмеціла і чорнагаловая варона-адзіночка, якая цікавала за дзецьмі. Птушка-вандроўніца каркнула і прыкрыла галаву крылом. Чуццё падказала ёй, што будзе дождж, ды не абы-які — залева.

* * *

Сяргей Свідэрскі зусім не зважаў на блакітна-чорную хмару, якая плыла над яго галавой. Ён знясілена апусціўся на парослы верасам грудок і прылёг на свой заплечнік. Мішка выцягнуў з твані дошку, а Бенядзіктавіч мацаў кіем дрыгвяное дно. Шэраму заманулася ўдакладніць: колькі яшчэ пехкаць па гэтых чортавых балотах?

— Калі шчыра, Бенядзіктавіч, то я добра стаміўся, — прызнаўся ён. — Мо скажаш што-небудзь абнадзейліваe?

Дзед паварушыў бровамі, думаючы, як падбадзёрыць спадарожнікаў, і прыйшоў да высновы, што самае лепшае — сказаць праўду.

— Хлопцы, мы прайшлі палову шляху.

Ад такой прыемнай навіны падкасіліся ногі і ў Мішкі. Ён хоць і не скардзіўся ўголас, але даўно ўжо марыў пра адпачынак. Гардзейчык аслабела прысеў побач з Сяргеем. А той моўчкі адштурхнуў напарніка з сухога грудка: маўляў, самому месца мала!

— Я разумею, вам, гарадскім, тут нязвыкла, — паспачуваў дзед. — Балота кожнага правярае... Толькі тут і разумееш, з якога цеста ты вылеплены.

Сяргей скрыпнуў зубамі, а Мішка зноў у думках паспачуваў дзеду: «Лепей бы табе не зведаць, з якога цеста мы выпечаныя...»

Не зважалі на хмару, якая пакрысе распаўзалася па небе, і Мірон з Віктарам. Яны штурмавалі дрыгвяныя абшары, не падазраючы, што на адлегласці дзесяці кіламетраў ад іх адпачываюць Бенядзіктавіч і яго спадарожнікі. Хлопцы то прабіраліся скрозь зараснікі алешыны, то пераскоквалі з купіны на купіну, то краліся між чорных вокнаў багны.

— Трэба было спярша выламаць па кіёчку, — не без дакору сказаў Віктар Мірону. — Наступным разам прыхопім з сабой палкі.

— Наступным разам ты мяне ў балота і пернікам не заваб іш, — пакруціў галавой сябра і паморшчыўся, бо неасцярожна ступіў на востры сук...

Даўно знік з вачэй і пясчаны бераг вострава, і Юлька. Хлапечая ўвага сканцэнтравалася на вадзе пад нагамі, зацягнутай раскай ды цінай. Кожны крок тут меў непрадказальны вынік: босая нага або намацвала хісткае глеістае дно, або пагружалася да калена ў багавінне, або праваьвалася ў мутную бездань. Адзінае, што ратавала ў час гэтай рызыкоўнай выправы, — узаемадапамога. Хлапечыя рукі моцна сашчапіліся, і кожны ведаў, што сябра нізавошта яго тут не кіне, далоні не расціснe.

А тым часам Юлька страшэнна нервавалася. То яна прыўзнімалася на дыбачках, спрабуючы разгледзець, куды падзеліся брат і сябра. То палохала сябе думкамі, што пануры балотны абсяг паглынуў ужо брата і Мірона, і тады са стогнам апісвала кругі па беразе. Паспрабавала нават паспяваць, ды абарвала сябе, бо атрымалася не песня, а жаласнае выццё. Нарэшце апусцілася на пясок, скрыжавала ногі, заплюшчыла вочы і загадала сабе: «Мушу супакоіцца. Я — будыст, які дасягнуў прасвятлення».

Вытрымкі ў яе хапіла на пару хвілін. Юльчыну душу вярэдзіў напамін: «Як магла раней дакараць Віценьку, крыўдзіць яго?» Халадзіў сэрца дакор: «Чаму не шанавала брацюка? Ён заўсёды клапаціўся, каб мне было лепей! А я, дурніца, не разумела, не заўважала, не цаніла!»

Ад агіды да сябе дзяўчына ўскочыла, зноў паднялася на дыбачкі, паўзіралася, захадзіла кругамі па беразе.

Ведала б яна, як перапужаліся Мірон і Віктар, калі недалёка ад іх знянацку з аеру выскачыла дзівосная птушка — гнуткае тулава, доўгія ногі, шырокія крылы! Незвычайнае стварэнне пранізліва крыкнула і, гучна пляскаючы перапонкамі лап, паімчала па твані.

— А гэта што? — прасачыў Віктар за птушкай, якая знікла ўдалечыні.

— Драч, — вымавіў Мірон. — Яго яшчэ называюць палескім страўсам.

— Я думаў, страўсы жывуць у Аўстраліі.

— Драчу добра жывецца ў нашых балотах, — распавёў Мірон. — Палескія жабкі, гадаўкі ды рыбкі — лепшы далікатэс для яго. На зімоўку ён бегае ў Афрыку — праз украінскі стэп, балканскія горы, палесцінскую пустэльню. А вясной імчыцца зноў на Палессе.

— Навошта ж яму крылы, калі ён заўсёды бегае?

— Калі на шляху драча праляжа вузкая рэчка або дробны вадаём — драч іх пераляціць. А калі, напрыклад, возера зарасло гарлачыкамі, драч не стане махаць крыллем — перабяжыць па лісцях...

— Нам бы з такой хуткасцю дадому бегчы, — уздыхнуў Віктар.

— У Еўропе драча сустрэнеш толькі ў «Кнізе зніклых відаў», — лікаваў Мірон. — А мы з табой маглі рукой да яго дакрануцца!

— Вось жа шчасце прываліла, — з’едліва буркнуў Віктар.

Паглядзеў улева — і пахаладзеў: у пяці кроках ад яго з ціхім сыканнем паўзла чорная змяя. Хлопец разгледзеў на яе галаве дзве жоўтыя плямкі, ды ад разгубленасці не мог узгадаць: гэта прыкмета вужакі ці гадзюкі? Ад страху Віктар аж знямеў. Ён з маленства баяўся змей — з таго моманту, як упершыню іх убачыў у нейкім дакументальным фільме на тэлеканале «Animal Planet». Прычын свайго страху ніколі не мог усвядоміць і цяпер, гледзячы на цёмную гнуткую стужку, не адважваўся нават варухнуцца.

Мірон жа ў той бок і не пазіраў. Яго зноў напаткала непрыемнасць — не заўважыў пад раскай чорнага карча, ступіў на яго пяткай і пакаўзнуўся. Калі б не трымаўся за Віктара — паляцеў бы ў ваду. Віктар жа слупом прырос да купіны і разгублена лыпаў вачыма. Тут і Мірон зацікавіўся прычынай сяброўскага здранцвення.

Выгляд чорнай змяі, якая то скручвалася ў колца, то выпроствалася, Мірона не ўразіў.

— Вужык, — паторгаў ён сябра за руку. — Не атрутны. Але калі ўчэпіцца ў нагу, то нага будзе балець тыдзень. Я ведаю.

— Цябе кусала змяюка? — у Віктара акругліліся вочы.

— Сам вінаваты. Наступіў на яе дзеля жарту. Вось і яна пажартавала... І цяпер я дакладна ведаю: не пакрыўдзіш змяю, то і яна цябе не кране.

Тым часам вужака жвава адпоўз, і сябрукі памкнуліся наперад.

Праз паўсотні крокаў яны датэпалі да зыбкага берага шырокай пратокі. Хуткаплынны струмень рассякаў балота. На яго хвалях гайдаліся сучкі ды травінкі. Віктар асцярожна ступіў у ваду — і не змог намацаць дно. Хлопец страціў раўнавагу, і калі б не ўхапіўся за яго абедзвюма рукамі Мірон — знік бы з галавой у зялёна-шэрай каламуці.

— Нам бы дошку даўжынёй метры два, — здаўлена прагаварыў Віктар, разглядваючы дрыгвяныя абшары на тым беразе.

Туды ж са скрухай пазіраў і Мірон. Недзе там за шчыльнымі хмызамі ды рэдкімі асінамі, за купінамі ды пагоркамі заканчваліся балоты. Там не трэба ўзважваць кожны крок, баяцца неасцярожнага руху і гразкай твані. І чаму яны раней не шанавалі цвёрдую глебу пад нагамі!

— Няма ў нас дошкі, — сказаў Мірон сябру. — І моста цераз рачулку няма. Пара вяртацца. Юлька, пэўна, зачакалася…

— Мы што, назаўжды тут застанемся?! — разззлавана закрычаў Віктар.

— Завязвай з псіхозамі, — знарок ціха сказаў Мірон. — Я таксама хацеў бы зараз апынуцца ў іншым месцы.

З жаласлівым енкам над хлапечымі галовамі праляцела кнігаўка.

— Можа, паспрабуем пераплыць? — дакрануўся пяткай да вады Віктар.

— А калі нас у вір зацягне? Хто нас уратуе?

— Калі б мелі вяроўку, то адным канцом замацавалі б яе да якога-небудзь дрэва, а другім абвязаліся б самі, — дапусціў Віктар.

— Ты бачыш дзе-небудзь вяроўку? — ахаладзіў яго запал Мірон.

Але ж надта не хацелася Віктару паварочваць. Ён апантана пабрыў уздоўж спадзістага берага. Сярод высокай прыбярэжнай травы ўзвышаўся сухі пагорак. Хлопцу заманулася ўзняцца на яго. Ён рэзка паставіў нагу на грудок, і тут высветлілася, што пад белым пясочкам — пустэча. Віктар маланкава праваліўся па пояс. Хлопец адчайна закрычаў, адчуўшы, як усмоктвае яго пясчаная дрыгва. Мірон зноў схапіў яго за рукі, дапамог выкараскацца, асуджальна вымавіў:

— Вы з Юлькай спярша штосьці зробіце, а потым падумаеце!

— Дзякуй, — стомлена выдыхнуў Віктар. — Маеш рацыю, пара вяртацца.

Сябрукі маркотна пацяпаліся назад.

Дзе ім было ведаць, што праз пару гадзін пратоку будуць фарсіраваць Свідэрскі, Гардзейчык і Бенядзіктавіч! Бадзёры дзед і знясіленыя капальнікі перабяруцца цераз рачулку па дошцы метраў за пяцьдзесят на поўдзень ад таго месца, дзе тапталіся хлопцы.

* * *

Чорна-сіняя хмара расцягнулася на ўсё неба. У шэрым сутонні бліснула маланка, пагрозліва загрукатаў гром.

Буйная дажджынка ўпала на лоб Юлькі, якая напружана ўзіралася ў дрыгвяную далеч. Ды дзяўчына не зважала на кроплі, якія пачалі падаць вакол яе. Пачуццё незвычайнага шчасця ахапіла яе, ледзь убачыла дзве знаёмыя постаці, якія, стомлена хістаючыся, набліжаліся да берага.

Калі перапэцканы да вушэй балотнай цінай Віктар ступіў на пясок, дзяўчына моцна абняла брата, радасна спытала:

— Знайшлі дарогу дадому?

Віктар змрочна адасобіўся ад сястры, падняў з зямлі сваё адзенне і абутак, панула пайшоў упрочкі. Юлька занепакоена спытала Мірона:

— Няўжо ён думае, быццам мы назаўжды тут застанемся?

Той стаяў па калена ў вадзе, зачэрпваў яе прыгаршчамі, змываў з сябе бруд. Ён узяў сабе за правіла анічога не ўтойваць ад сяброўкі.

— Мо і не назаўжды. Але надоўга.

— Быць такога не можа! — не магла паверыць Юлька. — Я чула, што мы жывём у цэнтры Еўропы. Як можна згубіцца ў цэнтры Еўропы?

— Ну, а мы змаглі.

Мірон падабраў сваю вопратку і разам з Юлькай дагнаў Віктара.

— Што ж нам рабіць? — нерашуча спытала дзяўчына.

У адказ — ціхае сапенне, прыгнечанае маўчанне.

І тады Юлька прыняла адно з найважнейшых рашэнняў у жыцці: годзе чакаць, пакуль хтосьці ўладзіць усе яе праблемы! Трэба самой клапаціцца, праяўляць ініцыятыву. Найперш — падтрымаць брата і сябрука, а па-другое — здабыць карысную інфармацыю.

— Калі ласка, Віценька, прыгадай, як выжылі тыя хлапчукі, калі зразумелі, што ім не выбрацца з вострава? — ветліва папрасіла яна.

— Хто? — схамянуўся паглыблены ў роспач брат.

— Ну, тыя з аповесці Маўра... «Палескія рабінзоны».

— А мы, значыць, новыя палескія рабінзоны, — зрабіў выснову Мірон. — Усё паўтараецца. І ў жыцці, і ў літаратуры...

Наморшчыўшы лоб, Віктар згадаў:

— Ну, яны зайца злавілі. Знялі з яго шкуру і з’елі... Ягады елі… З чарапахі суп зварылі... А яшчэ мядзведзя палкамі да смерці забілі...

— Мядзведзя? — недаверліва перапытаў Мірон. — Палкамі?

— Яны завастрылі палкі. Спражкай ад рэменя.

— Спражкай? Ты сур’ёзна?

— Зайцоў я тут не бачыла, мядзведзяў і чарапах таксама, — услых аналізавала Юлька. — Значыць, будзем сілкавацца ягадамі.

— А наогул рабінзонам у аповесці дапамог чырвонаармеец-памежнік, — дадаў Віктар. — Разам з ім яны затрымалі банду шкоднікаў-дыверсантаў.

Дарогу ўздоўж берага ім перагарадзілі паваленыя бураломам дрэвы. Не азіраючыся, падлеткі павярнулі ў лес.

Праз гадзіну пасля таго, як вандроўнікі сышлі з берага, удалечыні, сярод дрыгвяных зараснікаў, паказаліся тры постаці. Ужо і дзед варушыўся не так бадзёра, як уранку. Мішка і Свідэрскі наогул валакліся з апошніх сіл. Толькі блізкасць запаветнай выспы і надавала ім моцы.

* * *

Дзеці далёка адышлі ў лес, калі залева абрынулася на востраў. Празрыстыя струмяні білі па балотных зарасніках ды імшарыне, стукалі па лужынах і ручаінах, прыгіналі траву і кветкі. Лівень змыў дзіцячыя сляды з пясчанага берага.

Рабінзоны вырашылі перачакаць залеву пад шырокай кронай дуба, прыхіліліся да яго шурпатай кары. Шумела лістота над імі, раз-пораз на плечы і галовы падалі кроплі. Дажджавая сцяна размывала абрысы дрэваў і хмызоў. Курчачыся пад павевамі ветру, Юлька спытала брата:

— Пра што ты думаеш, Віценька? Пра наш дом? Пра бацькоў?

— Пра іх якраз стараюся не думаць. Інакш зусім стане млосна.

— Чаго ж тады стаіш такі задумены? Бы помнік самому сабе...

— Спрабую ўявіць, як жылі нашыя далёкія прашчуры, — прызнаўся Віктар. — Без аўтамабіляў, тэлевізараў... Без каменных дамоў, парасонаў...

— Не жыццё, а жах, — заявіла Юлька.

— Нашыя продкі залежалі ад прыроды, — развіваў сваю думку Віктар. — Ад яе капрызаў і настрою... Яны шанавалі прыроду. І мы павінны яе паважаць. Няхай і маем тэлікі, кампы ды аўтамабілі...

— А ці хочаш ведаць, што я думаю? — засяродзіла размову на ўласным светаадчуванні сястра. — Па-першае, пачаўся сусветны патоп. Усяму віной глабальнае пацяпленне. А па-другое, я хачу есці.

— Колькі цябе ні кармі, усё роўна есці папросіш, — пажартаваў Віктар.

Мірон жа не зважаў на балбатню спадарожнікаў. Хлопец назіраў за вавёркай, якая, ратуючыся ад ліўня, выскачыла з лесу, ускараскалася на бліжэйшую сасну, а з яе перапырхнула на дрэва, пад кронай якога прытуліліся дзеці. Распушыўшы хвост, звярок учапіўся кіпцюрамі ў кару, пакараскаўся ўніз і ўлез у малапрыкметнае дупло.

Мірон падскочыў, ухапіўся за галіну, падцягнуўся і палез вышэй.

— Вячэраць будзем арэхамі! — парадаваў сябрукоў.

Мокрая лістота бісерынамі асыпала хлопца. Яго босыя ногі слізгацелі на чорназялёных галінах, але Мірон упарта набліжаўся да дупла.

— Тут вавёрчын дом, — гучаў з дзесяціметровай вышыні хлапечы голас, — а вавёркі прадбачлівыя, загадзя запасаюцца на зіму... Вы ведаеце, што навукоўцы налічваюць пяцьдзесят відаў вавёрак? Колер іх поўсці залежыць ад арэолу знаходжання. Напрыклад, у Цэнтральнай Азіі жывуць ярка-рудыя вавёркі, а ў Паўночнай Амерыцы — чорныя, як смала...

Сухая галіна, за якую ён узяўся, пераламілася — хлопец ледзь не кульнуўся. Юлька палахліва войкнула. Але Мірон ухапіўся правай рукой за суседні сук, а ў левай сціскаў зламаную палку.

Той палкай ён пастукаў праз колькі хвілін у вавёрчына дупло.

З цёмнага праёма паказалася вастраносая пыса перапалоханага звярка.

— Выбачай, што лезу без запрашэння, — сказаў Мірон. — Мне сяброў карміць трэба, — і пабіў галінай па ствале.

Успуджаная вавёрка вылецела ракетай са свайго жытла, скочыла на суседняе дрэва. Мірон адкінуў палку і, трымаючыся адной рукой за галіну, запусціў другую ў дупло, выцягнуў прыгаршчу арэхаў.

— Трымайце! — пачуўся яго радасны крык.

На Юльку і Віктара пасыпаліся зялёна-карычневыя арэхі. Не зважаючы на дождж, брат і сястра сталі падбіраць іх з моха. Складзіравалі ўвесь збор на разасланую Віктараву кашулю.

Калі Мірон нарэшце выграб вавёрчыны запасы і спусціўся па коўзкіх галінах на траву, Віктар ужо завязаў рукавы кашулі ў вузел ды з асалодай прыціснуў арэхавую горку да грудзей.

— Ты такі знаходлівы, Міронка! — пахваліла Юлька сябра. — Напэўна, закінь цябе на Паўночны полюс, ты і там знойдзеш, чаго паесці.

— З табой і Віцькам я куды заўгодна адпраўлюся, — усміхнуўся Мірон.

* * *

Апошнія кроплі дажджу падалі з пахмурнага неба, калі Свідэрскі, Гардзейчык і Бенядзіктавіч выйшлі на бераг вострава. Сяргей з асалодай расцягнуўся на пяску, Мішка паклаў трохметровую дошку каля хмызоў, скінуў мех з плячэй і прысеў на ім, а дзед агледзеўся, паўздыхаў, сказаў:

— Даўно сюды не заходзіў. Усё тут перамянілася. І дрэвы ўжо іншыя растуць. І гэтай алешыны не было...

Шэры выцягнуў мабільны тэлефон, націснуў на кнопкі. Экран не засвяціўся.

— Глухамань, сігналу няма, — схаваў Сяргей мабільнік у кішэнь і спытаў старога: — А дзе базаваўся штаб партызанскай брыгады?

— Тамака, — указаў Бенядзіктавіч у лясную глуш.

Свідэрскі падняўся, дзелавіта прыкрыкнуў на Мішку:

— Чаго рассеўся? Дома адпачнеш! — і загадаў дзеду: — Вядзі, Барысавіч.

— Бенядзіктавіч я, — без крыўды нагадаў стары.

І павёў далакопаў да ўсходняга краю вострава…

Між тым падлеткі, якія рухаліся на захад, выйшлі на той бераг, з якога на золку выправіліся на пошукі дарогі дадому.

Хмара рассеялася, у чыстым блакіце пяшчотна ззяла сонца, блікі святла гралі на хвалях рачной пратокі, якая аддзяляла востраў ад балотнага імшарышча. Сонца прыгрэла зямлю, ад травы ў неба пацягнуўся пар.

Юлька засмучана паглядзела на лагчынку паміж карэннямі сасны, у якой яны ўтрох спалі напярэдадні, ды звярнулася да брата, які нёс набітую арэхамі кашулю:

— Віценька, а дзе мы спаць будзем?

Брат нічога не меў супраць ранейшага прытулку.

— Мяркую, што і каля дрэва нам будзе ўтульна...

— Не хачу зноў класціся ў яміну! — тупнула Юлька. — А раптам і ўначы дождж пойдзе? Табе ўсё роўна будзе ўтульна?

— Што ты прапануеш? — Віктар паклаў кашулю з арэхамі на зямлю.

Юльчына парада мела невыразны характар:

— Вы знаходлівыя і разумныя. Вы абавязкова што-небудзь прыдумаеце.

— Можам зрабіць будан, — ціха сказаў Мірон.

— Якім чынам? — нахмурыўся Віктар. — Мо маеш шмат піламатэрыялаў?

— Мы ў лесе жывем. Тут і збяром будаўнічы матэрыял.

— А малаток і цвікі таксама ў лесе знойдзеш?

— Абыдземся без інструментаў. У нас ёсць твае красоўкі.

— А навошта табе мой абутак?

— Не мне, а нам. І не самі красоўкі, а шнуркі ад іх.

* * *

Бенядзіктавіч завёў спадарожнікаў у гушчар, парослы ельнікам і ляшчэўнікам. Вецер з берага сюды амаль не далятаў, таму ў цішы звінела процьма камароў. Свідэрскі ды Гардзейчык азвярэла адмахваліся ад іх, пляскалі сябе па шчоках і шыях, а стары праваднік усхвалявана ўказваў:

— Там была зямлянка камандзіра. Тамака разведчыкі жылі. У той лагчыне размяшчаліся кухня і медсанчастка. Калі нехта з нашых паміраў, яго хавалі ў балоце… Як тут ляшчына разраслася! А раней востраў быў чыстым, дрэвы толькі па берагах раслі… Аніякага напаміну пра вайну. Нібыта і не было яе... Добрую справу вы робіце, хлопцы! Трэба нагадваць людзям пра тое, як яно насамрэч адбывалася…

Сяргей і Мішка апусцілі заплечнікі на траву, распакавалі мяхі. Мішка звыкла вынуў сякеру і пачаў высякаць хмызы, ачышчаючы прастору для пошукаў, а Шэры збіраў мінашукальнік.

— Дзякуй, Браніслававіч, што давёў нас. Цяпер нашая чарга працаваць.

— А ці не позна? — спытаў дзед. — Можа, лепш пакуль адпачыць?

Свідэрскі сам бачыў, што змрок у лесе згушчаецца, што пара намёт ставіць ды пра вогнішча клапаціцца. Але ж думка пра тое, што пад яго нагамі тояцца сапраў-

дныя рарытэты, рэшткі боепрыпасаў, зброі або рыштунку, змушала забыцца і пра стому, і пра голад.

— Прагуляюся крыху па гэтай палянцы, і ўсё, — паабяцаў Сяргей, злучаючы прыборную дошку з шырокім дзяржальнам.

— Мудрагелістая рэч, — зацікаўлена разглядваў дзед мінашукальнік.

Засвяціўся зялёным агнём экран на прыборнай панэлі. На маніторы з'явіліся абрысы камянёў, карэння, гільзы ад патронаў.

— Нямецкі, — пахваліўся Сяргей, — прасвечвае на глыбіню да трох метраў, пазначае нават дробныя прадметы.

Ён няспешна пасунуўся па ачышчанай ад лазняка зямлі, водзячы чорным колам мінашукальніка над самай травой.

— Часта поспех залежыць ад складу глебы, — назіраючы за экранам, працягваў Шэры. — Напрыклад, калі нябожчыка закапалі ў гліну, то на маніторы з’явіцца толькі белая пляма. А вось у пясчаніку кожная дробязь фіксуецца. Нават пярсцёнак на пальцы мерцвяка...

Мішка, які расчахляў рыдлёўку, занепакоена звярнуўся да дзеда:

— Ты казаў, Бенядзіктыч, немцы ў сорак чацвёртым бамбілі востраў?

— Усю акругу прасавалі, — кіўнуў стары. — Памятаю, неба спрэс чорнае было ад дыму… Столькі металу ў балоты паляцела!

— А ці не магла з тае пары тут захавацца якая-небудзь авіябомба? — хваляваўся Гардзейчык. — Раптам мы яе адкапаем, а яна здэтаніруе?

— І такое можа быць, — не аспрэчваў дзед. — У нашым раёне і праз сорак гадоў пасля вайны людзі падрываліся на мінах.

— Што ж атрымліваецца? — разважаў Мішка. — Мы сюды прывалакліся, каб знайсці бомбу, якая раскідае нас па наваколлі?

— Годзе брахаць, філосаф! — прыкрыкнуў Шэры. — У кожнай прафесіі ёсць свае недахопы.

— А чаму вы не ўзялі з сабой сапёраў? — спытаў Бенядзіктавіч.

— Музей не можа дазволіць сабе такія выдаткі! — раззлаваўся Сяргей.

Пакуль ён абыходзіў паляну па перыметры, Мішка і Бенядзіктавіч цікавалі за ім на пачцівай адлегласці.

— У вашым музеі ўсе старэйшыя навуковыя спецыялісты такія нервовыя? — ціха спытаў дзед Гардзейчыка.

— Сяргей — адмысловы работнік, — унікліва ахарактарызаваў напарніка Мішка. — Ён бывае і ў добрым настроі. Як сёння, напрыклад.

«Старэйшы навуковы супрацоўнік» спыніўся, углядваючыся ў экран на панэлі мінашукальніка. Мішка і дзед заінтрыгавана выцягнулі шыі.

— Прыбор адшукаў пад зямлёй нейкую пустэчу, — заявіў Шэры.

— Пара капаць? — дзелавіта спытаў Гардзейчык.

— Зараз праверым, — задумліва прамармытаў Свідэрскі, засяроджана перамяшчаючы чорнае металічнае кола над травой.

Бенядзіктавіч задумліва запусціў пяцярню ў бараду і нягучна сказаў:

— Я, канечне, магу памыляцца. Толькі здаецца мне, быццам там...

Не паспеў дагаварыць, як Сяргей з крыкам праваліўся пад зямлю.

— …была выкапана яміна для смецця, — завяршыў фразу дзед.

* * *

Тым часам на заходнім беразе Мірон і Віктар нацягалі кучу наламаных галін. Пакуль хлопцы ачышчалі дубцы ад сучкоў і лісця, Юлька не сядзела без справы — напяваючы, нарвала лісце чарота.

Мірон павыцягваў шнуркі з брудных красовак Віктара, а сябру сказаў:

— Будзеш, як і я, басанож шлёпаць.

Юлька вырашыла падбадзёрыць брата:

— Я чула нядаўна, як у тэлеперадачы «Жаночы клуб» казалі, што хадзіць басанож карысна. Маўляў, у ступнях згрупіраваны важныя цэнтры нерваў, якія трэба масіраваць…

— Карысна, кажаш? — перапыніў Віктар. — Тады і сама разувайся.

На такую ахвяру Юлька пакуль была не здатная, таму адмаўчалася.

Хлопцы шчыльна паўтыкалі ў пясок лазовыя дубцы. Мірон перавязаў іх верхнія канцы шнуркамі ды гасцінна ўказаў на ўваход:

— Прыстойны будан атрымаўся. Засяляйцеся, калі ласка.

Юлька пасунулася ўнутр шалаша, рассцяліла чарот па пясчанай падлозе, разлеглася. Побач з сястрой уладкаваўся брат, склаў рукі за патыліцай, здаволена пацягнуўся, заявіў:

— У такім палацы можна ўсё лета жыць.

— Ціпун табе на язык! — абурылася дзяўчына ды палезла вонкі.

Яна спынілася каля кучы галля, якое не спатрэбілася для будаўніцтва, узяла ў рукі дубчык, памахала ім, сказала:

— Добра было б, каб вы яшчэ і агонь развялі. Сагрэліся б.

— Табе цяпер холадна? — здзвіўся Мірон. — Вунь, як сонца парыць…

— Гэта цяпер. А што будзе, калі сонца зойдзе?

— Мы ўжо гаварылі на гэты конт, — высунулася з будана Віктарава галава. — Як ты распаліш вогнішча без запалак?

— Адкуль мне ведаць? — прастадушна развяла рукамі Юлька. — Я слабая дзяўчына. А вы моцныя, знаходлівыя...

Слухаючы яе, Мірон прыняў малайцаватую паставу. Звычайна ён не цярпеў, калі да яго звярталіся: «Гэй, хлопчык!» А Юльчыны словы перапоўнілі Мірона пачуццём гонару. Хлопцу захацелася нават вырваць якое-небудзь высокае дрэва з карэннем і падкінуць да сонца, каб Юлька пераканалася, што ён сапраўдны герой. Аднак замест таго Мірон дзелавіта сказаў сябру:

— У мяне ёсць ідэя. Наконт агню.

— Ну і? — выпаўз на кукішках з будана Віктар.

— У цябе на руцэ гадзіннік, — указаў Мірон.

— Што ты ўсё квапішся на чужую маёмасць? — жартаўліва абурыўся Віктар. — Да таго ж, ён ужо не працуе. Сапсаваўся ў вадзе.

— Нам і не патрэбны дакладны час, — адмахнуўся Мірон ад камара, які прысеў яму на скронь. — Мы скарыстаем шкло ад гадзінніка. Ці памятаеш, як здабылі агонь героі «Таямнічага вострава» Жуля Верна?

— Ты чытаў Жуля Верна? — здзівілася Юлька.

Мірон завагаўся: мо адказаць станоўча? Так хацелася выглядаць перад ёй дасведчаным эрудытам! Ды не змог хлопец падмануць дзяўчыну.

— Не тое, каб чытаў… Глядзеў серыял паводле яго рамана.

— І як у фільме здабывалі агонь? — зняў Віктар з рукі гадзіннік.

— Прыкладна такім чынам.

Пазногцямі Мірон аддзяліў мутнаватае шкельца ад механізма і сфакусіраваў праз яго на сухія галінкі прамень вечаровага сонца.

Віктар засяроджана чухаў патыліцу, а Юлька аж стаіла подых, назіраючы за маніпуляцыямі Мірона. На камарыны звон над вухам ніхто не зважаў.

Міналі хвіліны. У Мірона пот выступіў на ілбе, а дровы не загараліся.

Нарэшце Юлька здрадліва пазяхнула, а Віктар спагадліва кашлянуў.

У Мірона вычарпалася цярпенне.

— Блін, едрыць-тарахцець! — вярнуў ён шкельца ў Віктараву далонь. — Відаць, у шыротах, дзе пасяліліся героі Верна, сонца грэла гарачэй.

Сябра запасліва схаваў шкельца ў нагрудную кішэню і сказаў:

— Сонечнага зайчыка лепш пускаць апоўдні, а не напрыканцы дня.

— Можа, падкажаш, як інакш здабыць агонь? — буркнуў Мірон.

— Мо і падкажу, — задзёр нос Віктар. — Я некалі глядзеў амерыканскі фільм «Барацьба за агонь». Там першабытныя людзі дзейнічалі так...

Ён пакрышыў сухія галінкі на трэскі, уваткнуў сярод іх два кавалкі дрэва ды пачаў узмоцнена церці адзін аб другі. Заінтрыгаваная Юлька схілілася да брата, выцягнула шыю, ледзь не торкнулася носам у трэскі.

— Рыхтуйся падкідваць дровы, — загадаў Віктар сябру.

Але міналі хвіліны, у Віктара ўзмакрэў твар ад поту, а полымя так і не нарадзілася. Урэшце кавалкі сасны ў руках Віктара раскрышыліся, нават не задыміўшыся.

— Ёлы-палы, ёрш вашу медзь! — раззлавана змахнуў кучу трэсак далонню Віктар. — І гэта не спрацавала!

— Але задумка была класная, — падтрымала аўтарытэт брата Юлька.

— Можа, у цябе ёсць ідэя? — хмура зірнуў на сястру Віктар.

Юлька села, скрыжаваўшы ногі, падумала і прыгадала:

— Аднойчы я бачыла тэлеперадачу, прысвечаную нейкім абарыгенам. Там паказвалі, як гэтыя дзікуны высякалі агонь крэменем...

— І як нам знайсці крэмень пасярод балота? — пацікавіўся Віктар.

Юлька глыбакадумна звяла бровы і ўперлася кулаком у шчаку. Не дачакаўшыся ад сястры адказу, брат уздыхнуў:

— У прыгодніцкіх кніжках і фільмах заўсёды ёсць нехта разумны. Той, хто ўсё прыдумае і зробіць. А ў жыцці...

— А ў жыцці мусім спадзявацца толькі на сябе, — падсумаваў Мірон.

* * *

Шэраю гадзінаю, на сутыку дня і ночы, чорнакрылая і шэрахвостая варона адчула незразумелую нуду.

Седзячы на яловай галіне, яна сачыла за дзедам і яго спадарожнікамі. Цікаўная птушка бачыла, як яны кружылі па хвойніку і цягалі чорную палку з колам на канцы, як адзін з прыхадняў паляцеў у яміну, а другі дапамог яму выкараскацца, як потым яны ставілі нейлонавы намёт, нацягвалі тэнт, збіралі ламачча і распальвалі вогнішча.

Ды раптам вароне прыгадаўся той крумкач, які ранкам сагнаў яе з гарода. Ажыло ў памяці чорная полымя, якое блішчала ў крумкачовым позірку. Ад такіх успамінаў не змагла птушка ўсядзець на месцы, сарвалася з галіны, замахала крыллем, скіравалася ўвышыню, у вечаровае фіялетава-сіняе сутонне, адкуль адкрыўся краявід зялёнай выспы, цёмнай ракі, шэрых зараснікаў балота.

На імгненне вароне падалося, быццам недзе ўдалечыні пачулася карканне. Птушка пакруціла галавою, але нічога не ўгледзела ў вечаровым паўзмроку і спікіравала ўніз. Вяртацца на ўсходні бераг ёй не захацелася, памкнулася на заходні. Вандроўніца праляцела над беразняком, дзе дрэвы ўзвышаліся, нібы акутаныя зялёным воблакам, над асіннікам, дзе на тонкіх дрэўцах трапятала чуйнае лісце, і нарэшце прызямлілася недалёка ад падлеткаў, села на высокі пень, побач з якім ляжалі паўзгнілыя рэшткі даўно паваленага ветрам ясеня.

Тэпаючы сярод вострых трэсак, птушка ўбачыла, што юныя падарожнікі сядзяць на пяску з надзвычай панылымі тварамі, спачувальна каркнула ім: маўляў, няма ў жыцці гармоніі!

Рэакцыя дзяўчынкі на птушынае спачуванне аказалася нечаканай, яна выхапіла з кучы галля палку і замахнулася, каб запусціць яе ў варону.

— Чакай! — раптоўна закрычаў Віктар. — Палку трэба завастрыць.

— Навошта? — перадала Юлька яму ў рукі тоўстую сукаванку.

— У мяне новая ідэя, — ускочыў на ногі Віктар. — Ужо й не памятаю, дзе чытаў пра яе, — і сагнаў варону з «аэрадрома». — Ляці прэч, не замінай.

Птушка пакрыўджана каркнула, паляцела ў лес.

Віктар стаў вастрыць кій, а Мірону загадаў:

— Знайдзі камень паболей. Прыціснеш ім палку.

На пясчаным беразе аказалася не так ужо і багата камянёў. Мірон браў у рукі то адзін, то другі — усе падаваліся недастаткова цяжкімі. Нарэшце, адышоўшы на сотню крокаў ад стаянкі, хлопец упадабаў камень памерамі ў дзве далоні, вярнуўся з ім і ўбачыў, што Віктар ужо выбіў завостранай палкай яміну ў пні, а Юлька засыпала ў яе сухія трэскі.

З балота падзьмуў зябкі вецер. З жаласлівым енкам праляцела над берагам кнігаўка. З лясных нетраў вострава даляцеў плач івалгі.

— Зараз сагрэешся, сястрыца, — дакляраваў Віктар, пагледзеўшы, як пацепваецца ад холаду будучая прымадонна сусветнай эстрады.

Ён уваткнуў палку ў кучу трэсак, а Мірон зверху прыціснуў яе каменем. Віктар пачаў круціць палку, ажно язык ад напружання высунуў.

І ўсё ж справа не заладзілася. То Віктаравы далоні саслізгвалі з гладкай кары, то Мірон незнарок біў яго каменем па руцэ.

Стаміўшыся, Віктар адкінуў кій, падзьмуў на пачырванелыя далоні.

— І гэты нумар не спрацаваў! — раздражнёна сціснуў ён у жмені халодны пясок. — Нам патрэбны агрэгат, каб круціць палку.

— А ідэя была класная, — ухваліла брата Юлька.

Мірон, прысеўшы на кукішкі, узяў сукаванку і паспрабаваў сагнуць.

— А ці не стварыць нам дынама-машыну? — раптам прапанаваў ён.

— Лёгка! — зыранізаваў Віктар. — Чаго прасцей!

— Я сур’ёзна кажу, — не ўсміхаўся Мірон. — Змайструем лук. Яго цецівой абкруцім палку і будзем пілаваць, як на скрыпцы. І палка закруціцца хутчэй, і мы не стомімся.

— А цеціву для лука ты ў кішэні прыхаваў?

— Зноў скарыстаем твае шнуркі, — сказаў кемлівы Мірон. — Таму спярша разбурым наш будан, а потым адновім...

На ролю лука Мірон абраў кароткую гнуткую галіну арэшніка, ачысціў яе ад сучкоў, сагнуў. Віктар звязаў два шнуркі ў доўгую стужку і прымацаваў іх да канцоў галіны — атрымаўся сапраўдны лук. Стралу, праўда, з такога далёка не пусціш!

— А раптам шнуркі парвуцца? — непакоілася Юлька, азіраючы паваленыя сценкі будана. — І без жытла застанемся, і без агню.

— Тады станем выць на поўню, — вылучыў гіпотэзу Віктар. — Або ты спяеш нам што-небудзь жаласлівае з рэпертуару Алёны Апінай.

Юлька паморшчылася і рашуча адмовіла:

— Не магу я спяваць. Мушу голас берагчы.

— Тады маўчы і дапамажы, — Віктар зноў уваткнуў завостраную галіну ў пень ды абкруціў яе самаробнай цецівой.

Юлька трымала завостраную палку, Мірон ціснуў зверху каменем, а Віктар пачаў тузаць лук налева-направа.

Як і думаў Мірон, палка жвава закруцілася, яміна ў пне паглыблялася.

— Вось дык дынама-машына! — цешыўся Віктар.

— Ты такі разумны хлопец, Мірон! — радавалася Юлька.

Разумны хлопец задаволена кхекнуў у кулак.

І вось пайшоў дымок ад трэсак, бліснула іскра.

— Хутчэй дровы! — крыкнуў Мірон.

Брат і сястра адначасова памкнуліся да кучы ламачча, сутыкнуліся лбамі, засмяяліся і, чухаючы галовы, сталі збіраць галлё.

Мірон тым часам падкладваў у агеньчык дробныя сучкі. Сухія галіны, якія сябры падносілі яму, ламаў на кавалкі, абкладваў імі полымя, якое пакрысе расло ў вышыню.

— Я ж казаў, што хутка сагрэешся, — пахваліўся Віктар перад сястрой. — Бачыш, як у нас з Міронам атрымалася...

Шчасліва ўсміхаючыся, Юлька адной рукой пяшчотна пагладзіла брата па валасах, а другой — Мірона па плячы.

— Прыглядвай за агнём, — загадаў Віктар, здымаючы з лука свае шнуркі, — а мы з Міронам адбудуем шалаш.

Яго камандзірскі тон сведчыў: да хлопца вярнуўся бадзёры настрой.

* * *

На змярканні з двух канцоў вострава пацягнуліся ў неба слупы дыму.

На заходнім беразе падлеткі смажылі ў вогнішчы апошнія арэхі, а на ўсходнім гатавалі вячэру Свідэрскі, Гардзейчык і Бенядзіктавіч.

Магутны Мішка як узяў у рукі сякеру, дык не толькі нарыхтаваў дроваў, але і зваліў сухую вярбу ды вырабіў для яе падпоркі. Атрымалася лава, на якой з асалодай рассеўся Шэры. Акрамя таго, Мішка паставіў нейлонавы намёт і нацягнуў над вогнішчам тэнт.

Не лайдачыў і Бенядзіктавіч. Ён з адной запалкі развёў агонь, а потым дапамагаў Мішку прывязваць тэнтавыя вяроўкі да дрэваў.

Знайшлася справа і Сяргею. Ён адкрыў бляшанку ялавічыны, крыху паласаваўся, а затым распячатаў пачак вермішэлі. Пры гэтым ані на хвіліну не губляў з поля зроку спадарожнікаў.

Колькі разоў Свідэрскі затрымаўся позіркам на яміне, якая зеўрала метраў за дзесяць ад намёта. Добра, што не папсаваў інструмент, як паваліўся туды! Ат, гэтыя рэшткі чалавечай жыццядзейнасці! Колькі ўсялякага смецця траплялася яму на раскопках — згадваць брыдка!

Ды яшчэ і Гардзейчык з’едліва ўвярнуў:

— Першыя пошукі завяршыліся не вельмі ўдала.

Свідэрскі прамаўчаў, а Бенядзіктавіч, сеўшы побач на дрэва, сказаў:

— Зямлянкі байцоў у лагчыне размяшчаліся, — указаў у лясную глуш.

— Наўрад ці ў тым месцы захавалася нешта каштоўнае, — перарваў яго Сяргей. — Шукаць трэба не там, дзе жылі, а дзе арганізавалі сховішча.

Патрэсквалі, дагараючы, дровы. Мішка паставіў на чырвонае вуголле паходны кацялок з вадой. Вадкасць пакрылася белым налётам, закурылася парай, на яе паверхні паказаліся бурбалкі, якія бязгучна лопаліся.

— Вы казалі, Бенядзіктыч, што ў час блакады партызаны рыхтаваліся да прарыву, — распытваў старога Свідэрскі. — Не маглі ж яны ўзяць з сабой усё, што назапасілі за два гады. У бой пайшлі са зброяй, харчам і боепрыпасамі. Астатнія каштоўнасці мусілі недзе схаваць…

— Так, выкапалі схованку, — прыгадаў дзед і неакрэслена ўказаў. — Недзе там, на беразе... Памятаю, як складвалі ў жалезную скрыню трафеі. «Шмайсеры» без патронаў, гранаты без запалаў, ордэны...

Свідэрскі ажно падскочыў і здаўленым голасам перапытаў:

— Ордэны?

— Але, — разгладзіў Бенядзіктавіч бараду. — Мяркуйце самі, каму тут былі патрэбныя нямецкія ўзнагароды? Іх прыцягнулі разам з трафеямі...

Забулькатаў кіпень у кацялку. Мішка закінуў у ваду пачак вермішэлі ды перамяшаў жалезнай лыжкай, якую прывязаў да палкі.

Ашаломлены Сяргей апусціўся на лаву, скрыжаваў ногі. Як нечакана ён атрымаў такую каштоўную інфармацыю!

— А ці маглі б вы, Бе... Бе... — ад хвалявання ён забыўся імя, — падрабязней распавесці пра тыя ордэны.

* * *

Той жа парою на заходнім беразе дзеці грэліся каля ахопленага агнём пня. Мірон выкатваў палкай з полымя падсмажаныя арэхі, Віктар і Юлька хапалі іх з пяску, перакідвалі з далоні ў далонь, астуджаючы.

Начны змрок ахутваў бераг, пакуль юныя вандроўнікі прагна паядалі арэхі, не зважаючы ані на пясок, які хрусцеў на зубах, ані на камарэчу, якая лезла ў вушы і валасы.

— Цяпер я разумею, чаму нашыя далёкія продкі шанавалі агонь, — заявіў Віктар. — Сам гатовы маліцца на яго.

Мірон з гонарам прыгадаў эвалюцыйны шлях чалавецтва:

— За пару гадзін мы здзейснілі тое, на што нашым першабытным прашчурам спатрэбіліся тысячагоддзі.

Бадзёры настрой хлопцаў крыху папсавала дзявочае пытанне:

— А вы падумалі, што мы заўтра будзем есці? Арэхі ж скончыліся...

— Мы ў лесе жывём, — прылёг на локаць Мірон. — Хоць і на востраве. А ўлетку ў лесе не згінеш.

— Думаеш, мы тут на ўсё лета завіслі? — зажурылася Юлька.

— Або пакуль Міністэрства па надзвычайных сітуацыях нас не адшукае, — Мірон дыпламатычна не стаў вызначаць дакладны тэрмін. — Упэўнены, мае бацькі ўжо трыста разоў туды пазванілі.

Юлька набралася смеласці ды агучыла самае страшнае дапушчэнне:

— А калі нас наогул не знойдуць?

— Пачакаем, пакуль балота змерзне і па лёдзе пойдзем дадому.

Спакойны голас сябра абнадзеіў Юльку, і дзяўчына ўжо шкадавала не толькі сябе, але і сваякоў:

— Страшна ўявіць, што адчуваюць нашыя бабуля з дзядулем...

На вочы ёй навярнуліся слёзы, ды Віктар строга прамовіў:

— Пра гэта лепш падумаем па дарозе дадому. А зараз будзем спаць.

І, падаючы прыклад, першы залез у будан.

— А раптам агонь за ноч згасне? — захвалявалася Юлька. — Можа, будзем па чарзе яго вартаваць, дровы падкладваць?

— Жар захаваецца пад попелам, — супакоіў спрактыкаваны Мірон. — Ранкам назапасім дроваў і распалім новае вогнішча.

Дзяўчына знянацку абняла яго, пацалавала ў шчаку, ухваліла:

— Ты, Міронка, заўсёды такі ўпэўнены, смелы. А я вечна ўсяго баюся. Непакоюся, што стане яшчэ горш...

Болей за ўсё на свеце хлопцу хацелася, каб Юлька не расціскала абдымкаў. Сам жа не адважваўся яе абняць і стрымана сказаў:

— Благое з намі ўжо адбылося. Горшае можа адбыцца. Але навошта перажываць з-за таго, што пакуль не здарылася?

Насамрэч Юлька хацела, каб Мірон заявіў, што і яна, маўляў, адважная і ўраўнаважаная. Ды дзе хлопцу здагадацца пра яе таемныя жаданні!

Дзяўчына апусціла рукі, адышла ад агня. А тут яшчэ з будана паказалася галава Віктара, які незадаволена буркнуў:

— Ну, вы будзеце спаць? Або дзе?

— Будзем, будзем, Віценька, — ласкава запэўніла Юлька.

Ведала, што брат не любіць, калі сястра вісне на шыі ў хлопцаў!

* * *

А на ўсходнім беразе выспы спаць пакуль ніхто не збіраўся.

Мішка зняў кацялок з вуголля, затым расклаў вараную вермішэль з тушонкаю па пластмасавых місах і раздаў порцыі спадарожнікам. Свідэрскі ўмомант праглынуў сваю вячэру і галоднымі вачыма пазіраў на Бенядзіктавіча, які жаваў нетаропка, астуджваў кожную лыжку варыва ды з працяглымі паўзамі распавядаў:

— Напрыканцы сорак трэцяга нашыя пусцілі пад адхон нямецкі эшалон. Пастралялі ахову, узламалі вагоны, пахапалі скрыні са зброяй. На санях прывезлі сюды. Адбыўся разбор трафеяў. І раптам з адной металічнай скрыні выцягнулі ўзнагародныя лісты і ордэны. Сам бачыў — жалезныя крыжы ў футаралах. Памятаю, камандзір атрада з камісарам паспрачаліся: што з імі рабіць? Камандзір хацеў выкінуць у балота, камісар — захаваць як трафей. Камандзір саступіў камісару. Занеслі тую скрыню на склад. А ў час блакады сыходзілі ўлегцы. Нямецкія ўзнагароды тут пакінулі...

Не марнуючы часу, Мішка паставіў на агонь другі, меншы па памеры, паходны кацялок з чыстай вадой. Калі вада закіпела, Гардзейчык закінуў у яе жменю гарбаты.

— А дзе размяшчаўся склад? — дапытліва разглядваў дзеда Сяргей.

— Ну, які там склад? Парачка зямлянак і ямін-сховішчаў. Усе іх жвірам закідала, як немец востраў бамбіў...

— Ну, хаця б прыблізнае месцазнаходжанне, Вадзімыч?

— Кажу ж, недзе на беразе, — Бенядзіктавіч паставіў пустую місу на траву і разгладзіў вусы далонню. — Столькі гадоў мінула, выспа зарасла...

— Нічога, адшукаем і раскапаем, — упэўнена сказаў Свідэрскі. — Нам спяшацца няма куды, а ўсе намаганні акупяцца з лішкам.

— Што ты маеш на ўвазе, Сяргей? — здзівіўся дзед.

Кроплі кіпеню з шыпеннем падалі на вуголле. Мішка зняў кацялок з агню, разліў чай па пластмасавых кубках, перадаў таварышам і паклаў на траву каля лавы цэлафанавы пакет з печывам.

Цяпер Свідэрскі загаварыў з доўгімі паўзамі, дробнымі глыткамі сёрбаючы гарбату і не паварочваючы галавы да Бенядзіктавіча:

— На маскоўскім рынку сапраўдная баявая ўзнагарода часоў Другой сусветнай вайны каштуе ад двух да сямі тысяч еўра. А калі размясціць аб’яву на інтэрнэт-аўкцыёне, то ёю зацікавяцца калекцыянеры з Амерыкі або Еўропы. Тады кошт можа ўзрасці пяцікратна.

— І адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — пакруціў галавой Бенядзіктавіч.

— Я ў музеі працую, мушу многае ведаць.

Дапіўшы чай, дзед патупаў да намёта, унутры якога Мішка, асвятляючы прастору кішэнным ліхтарыкам, ужо разаслаў поліўрытанавыя дыванчыкі ды парассцілаў спальныя мяхі. Гардзейчык гасцінна расхінуў перад старым нейлонавы ўваход, запрасіў:

— Разувайцеся, калі ласка, укладвайцеся. Як думаеце, Бенядзіктавіч, якім будзе надвор’е?

Дзед паглядзеў у неба, усеянае безліччу зорак, на галіны дрэваў, якія калыхаў вятрыска, затым, крэхчучы, схіліўся, памацаў траву і заявіў:

— Ноччу будзе дождж, а ўдзень — спёка.

— Чаму так лічыце? — Мішка вылез з намёта і задраў галаву.

— Бачыш, як смуга зацягвае неба? — указаў Бенядзіктавіч. — Значыць, дождж будзе моцны. А раса на траве — прыкмета спякотнага дня.

Гардзейчык паважліва прамаўчаў, счакаў, пакуль стары запаўзе ў намёт, зачыніў за дзедам замок-«маланку», вярнуўся да вогнішча, прыбраў брудны посуд і пакет з печывам. Свідэрскі, бы сыч, сядзеў на бервяне і сачыў за напарнікам, змрочна скрыжаваўшы рукі.

— Трэба вырашыць праблему з дзедам, — нягучна вымавіў Сяргей.

— Ты гэта пра што, Шэры? — насцярожыўся Мішка.

— Каб потым не балбатаў лішняга. Нам сведкі непатрэбныя.

— Ты што задумаў? — перайшоў на шэпт Мішка. — Ты ж не браў ствол?

Сяргей рэзка падняўся і моўчкі пайшоў да намёта.

* * *

На досвітку вецер сціхнуў, хмары схавалі зоры. Камары акупавалі будан на заходнім беразе, паселі на юначыя рукі, твары, шыі. Стомленыя Юлька, Віктар і Мірон спалі так моцна, што на ўкусы ўжо не зважалі. Калі ж боль станавіўся нясцерпным, юныя вандроўнікі прыхлопвалі крывасмокаў, не расплюшчваючы вачэй.

Гэтай ноччу рабінзонам прыснілася ўвасабленне іх запаветных мар.

Віктару, да якога ўшчыльную цiснулася сястра, трызнілася, быццам сядзіць у рэстаране за сталом, застаўленым талеркамі з прысмакамі. У правай руцэ хлопец трымаў курыную ножку, у левай — лыжку з чырвонай ікрой і сур’ёзна вагаўся: што спярша з’есці? Праблему выбару ўскладніла Юлька, якая і ў снах не давала яму спакою. Апранутая ў форму афіцыянткі, трымаючы ў руках паднос са смажаным парасём, сястра грацыёзна падышла да стала, замілавана ўсміхнулася, ласкава спытала:

— Ці жадаеш, братка, паслухаць, як я спяваю? Лекары кажуць, быццам спевы дабратворна ўплываюць на апетыт.

Нават і ў сне Віктар не страціў здольнасці здзіўляцца:

— Чаму ты спяваеш тут, а не на «Еўрабачанні»?

А потым яшчэ больш актуальная праблема ўсхвалявала хлопца. Пералічыўшы ўсе стравы на стале, ён заклапочана спытаў сястру:

— А дзе дэсерт?

Адказу чакаў да самага світанку...

Мірон бачыў у сонных мроях, як стаіць за кафедрай у канферэнц-зале Нацыянальнай акадэміі навук і як, стаіўшы подых, слухаюць яго лекцыю прафесары і акадэмікі. З паважным выглядам хлопец дакладваў:

— Дзякуючы маім даследаванням даказана, што Палессе насяляюць вось такія жывёлы! — і прадэманстраваў фотаздымак з выявай ваўка.

Уражаныя навукоўцы здзіўлена пераглядваліся, ківалі галовамі. Мірон жа агаломшыў іх яшчэ больш нечаканым адкрыццём:

— А яшчэ я пераканаўся, што вада ў Прыпяці ў час паводку да жаху халодная, і там плавае такая вось рыба! — і паказаў шчупака на малюнку.

Цяжка апісаць ажыятаж, з якім навуковае таварыства ўспрыняла яго выступленне. Апладзіравалі юнаму генію доўга. А потым сам старшыня прэзідыума павесіў на шыю Мірону залаты медаль з гравіроўкай: «За выключныя дасягненні ў вывучэнні заолгii!» Трэцяя літара ў апошнім слове была закрэслена і зверху выпраўлена на «а». Вядома, сціплы Мірон спачатку адмовіўся прыняць узнагароду, але пасля саступіў шматлікім упрошванням і пад гром авацый прыняў медаль. Раскланьваўся і дзякаваў за такое ўшанаванне яго заслуг да самага золку...

Юлька ж, якая і наяве асаблівай сціпласцю не вызначалася, у сне ўзнесла сябе, любімую, на вышэйшую мяжу сваіх мараў — на цырымонію ўручэння ўзнагарод «Грэмі», дзе ёй далі прыз за самы камерцыйна паспяховы альбом года. Яна, зразумела, праспявала шаноўным гледачам парачку хітоў, і зала ўзарвалася апладысментамі, да яе ног паляцелі шыкоўныя букеты. Юлька ў прыгожай ружовай сукенцы ветліва ўсміхалася, раскланьвалася, дасылала паветраныя пацалункі. А найболей яе душу цешыла тое, што яе брат-буркун глядзіць тэлетрансляцыю ў прамым эфіры і, безумоўна, дакарае сябе за тое, што раней не шанаваў таленавітую сястру. А яшчэ радавалася за свайго бойфрэнда Мірона, які тут жа ў зале з нагамі ўлез на крэсла і апантана галасіў:

— Я — твой фанат назаўжды! Спявай яшчэ, салавей маіх вушэй!..

Не дзіва, што ніхто з рабінзонаў не пачуў першых грымотаў, не пачуў, як зашумеў лес пад подыхам віхуры.

Толькі як упалі на востраў першыя буйныя кроплі і адна з іх разбілася на дзявочай шчацэ, Юлька прачнулася і, пацепваючыся ад халоднай вады, якая зацякала за каўнер кашулі, выглянула з шалаша. Бліскавіца асвятліла дажджавыя струмені, што барабанілі па пяску і залівалі згаслае вогнішча. А яе спадарожнікі бесклапотна драмалі!

— Не хацела б падацца недалікатнай, хлопчыкі, — тузаючы іх за ногі, гучна сказала Юлька, — але дождж ліе проста на агонь.

Хлопцы абудзіліся, спрасонку пераглянуліся.

— Дождж? — прамармытаў Мірон.

— На агонь? — перапытаў Віктар.

І панічна зараўлі:

— Ратаваць!

Яны стрымгалоў кінуліся вонкі, выштурхнулі з сабой і Юльку.

Падлеткі пакідалі ў агонь усю кучу дроў. Полымя разгарэлася, але пакрысе згасла. Залева ўзмацнілася, маланкі рассякалі шэрыя хмурыны.

Брудная лужына разлілася вакол вогнішча. Ад дроваў валіў белы дым. Сярод мокрых галін чырванеў вугельчык. Хутка мусіў згаснуць і ён.

Хлопцы разгублена пераглядваліся. Змакрэлае адзенне прыклеілася да іх спін і ног. Юлька дрыжэла ад холаду, але з пачуцця салідарнасці не хавалася ў будан. Яшчэ і падбадзёрвала:

— Не так ужо нам і патрэбны агонь. І пад дажджом мокнем не першы раз. Я нават прызвычаілася... Затое ў нас ёсць дах над галавой, — ды нечакана прапанавала: — А можа, зрабіць дах і над агнём?

— Бліскучая ідэя, — ухваліў Віктар і з павагай паглядзеў на сястру.

Затым сутаргава сцягнуў з сябе кашулю, адарваўшы пры гэтым парачку гузікаў, працягнуў правы рукаў Мірону, закрычаў:

— Трымай над агнём! — а сам узяўся за левы рукаў.

Віктарава кашуля, бы тэнт, навісала над мокрымі дровамі, але дажджавыя кроплі ўсё роўна пранікалі скрозь тканіну.

Тады і Мірон праявіў ініцыятыву — зняў сваю кашулю, паклаў яе другім пластом на Віктараву. Цяпер вада не крапала на галлё.

— Які ты знаходлівы, братка! — пахваліла Юлька.

— Гэта ты падказала ідэю наконт даху, — прызнаўся Віктар.

— Якая ж я разумная! — пагладзіла сябе па шчацэ дзяўчына.

Залева пакрысе слабела, затое вецер штохвіліну перамяняўся: то гнаў хвалі на бераг, то дзьмуў з лесу ў балота. Але хлопцы прылаўчыліся да паветраных пераменаў. Калі вятрыска ўзмацняўся з поўначы, Віктар прыгінаўся, а Мірон — прыўзнімаўся, і дажджавыя струмені збягалі ўбок па схіле кашуляў. Калі ж вецер змяняў кірунак, то Мірон апускаўся на калені, а Віктар станавіўся на дыбачкі. Не стаяла абібокам і Юлька — частку дроваў знесла ў будан, каб хутчэй там падсохлі.

Заклапочаныя ўратаваннем агню, дзеці і не заўважылі, як развіднела неба на ўсходзе, як адлюстравалася ў балотным разліве світальная зара, як белы сонечны дыск наліўся чырванню. Затое адчулі, як радзей сталі падаць кроплі з неба, запрыкмецілі, як на лужыне каля вогнішча выраслі бурбалкі, пачулі, як зацвіркалі птушкі ў лесе.

Буйны чорны крумкач прыляцеў з балота, сеў на пясок, агледзеўся, незадаволена каркнуў ды са свістам замахаў крыллем, пакіраваў да Прыпяці.

Хлопцы адступілі ад рэшткаў абгарэлага пня, у чатыры рукі выкруцілі кашулі, павесілі сушыцца на галінах прыбярэжнай сасны. А тым часам Юлька апусцілася на калені, абаперлася на локці ды падзьмула на ледзь прыкметны вугельчык. Той спярша звузіўся да чырвонай кропкі, а потым стаў пашырацца, з трэскам паглынаць галінку за галінкай.

На працягу гадзіны вогнішча то згасала, то разрасталася. Дзяўчына перыядычна дзьмула на агонь ва ўсю моц натрэніраваных лёгкіх. Хлопцы выцягнулі з будана рэшткі галля, назбіралі на ўзлессі новых дроваў, расклалі каля пня, каб шпарчэй падсушыць, а потым падсоўвалі ў полымя.

Нарэшце агонь увабраўся ў сілу, упэўнена заскакаў па дровах.

— Малайчына ты, прымадонна, — ухваліў Віктар ініцыятыўную сястру.

— Недарма педагог па вакале раіла мне развіваць дыяфрагму, — з гонарам сказала Юлька. — Спявак мусіць мець моцнае дыханне, інакш не выцягне складаную ноту, — і самазадаволена пакруціла плячамі.

Хлопцы горача заапладзіравалі ёй...

Між тым прачнуліся і на ўсходнім беразе вострава.

У нейлонавай сцяне заслізгацеў замок-«маланка», і з намёта высунуўся сонны твар Гардзейчыка. Мішка прыжмурыўся, азіраючы мокрыя хмызы наўкол, рэшткі вогнішча, якое курылася дымам пад нацягнутым тэнтам, нямыты посуд каля бервяна, на якім паважна ўселася жабка.

Ззаду Мішку стукнуў нагой Шэры — намякаў, што пара вылазіць.

Гардзейчык жвава выбраўся, сабраў талеркі, лыжкі, кубкі ды пакіраваў да пратокі, каб вымыць посуд.

— Надвор’е цудоўнае! — бадзёра крыкнуў ён таварышам: — Мне здаецца, што сёння нас чакае незабыўны дзень!

* * *

Сонца кацілася ўсё вышэй па небе, якое набрыняла густою сінечаю.

На заходнім беразе юныя вандроўнікі саграваліся каля вогнішча. На галінах сасны сушыліся ўжо не толькі хлапечыя кашулі, але і штаны, а таксама Юльчын камбінезон.

Дзяўчына пабарабаніла сябе па жываце і сказала:

— Хлопчыкі, у мяне прапанова. Чаму б нам не пашукаць ежы на вечар?

— А яшчэ дроваў назапасіць, — дадаў Мірон.

— І накрыць будан лістотай, — сказаў Віктар. — Каб не крапаў на нас чарговы дождж уначы, — і падумаўшы, прамовіў: — І каб наша прымадонна зберагла свой каштоўны голас.

Юлька спагадліва засмяялася і пабегла да сасны, зняла свой паўвільготны камбінезон, сунула ногі ў штаніны.

— Калі хочаш, можаш застацца на беразе, — усміхаючыся, прапанаваў дзяўчыне Мірон. — Мы самі прынясём дровы і ежу.

— Спярша шукаем ежу, а потым дровы, — удакладніў Віктар.

З жартаўлівым гневам Юлька адмовілася:

— Каб зноў застацца адной? Даймаць сябе думкамі: ці не здарылася з вамі нешта благое? Нізавошта! — яна сцягнула хлапечыя штаны і кашулі, запусціла імі ў сябрукоў: — Як я напераживалася, калі чакала вас з балота! За гадзіну пастарэла на пяць гадоў. Болей не адпушчу вас. Дый пагадзіцеся, без мяне вам будзе сумна.

— Затое з табой ніколі не нудна, — прабурчэў Віктар, зашпільваючы ацалелыя гузікі кашулі ды закасваючы рукавы.

— Хочаш сказаць, быццам я клоўн? — стала рукі ў бокі Юлька.

— Я не кажу, што з табой заўсёды весела. Але сумаваць ты не даеш.

Сястра вырашыла ўспрыняць братавы словы бы камплімент.

Вогнішча нарэшце згасла, і юныя вандроўнікі памкнуліся ў лес…

Тым часам на ўсходнім беразе Мішка зварыў для паплечнікаў аўсянку і згатаваў каву. Калі Бенядзіктавіч і Свідэрскі паснедалі, ён зноў вымыў посуд, схаваў паходныя рэчы ў намёт, параскідаў абвугленыя дровы.

Сяргей узяў у рукі мінашукальнік і пачаў з ім апісваць кругі па паляне. Стары цікаваў за ім, седзячы на бервяне, а Мішка расчахліў рыдлёўкі.

— Пакуль прачэшам тут, а потым пакіруем да берага, — сказаў Шэры…

Між тым дзеці паглыбіліся ў лясны гушчар.

Юлька, у якой круціла жывот ад голаду, вышуквала ежу. А паколькі нідзе яе не ўгледзела, то раздражнёна запатрабавала тлумачэнняў у брата:

— Скажы, геній-батанік, чаму на дрэвах не растуць булкі й каўбасы?

— У раслінаў свае эвалюцыйныя законы, — глядзеў пад ногі Віктар.

— Што ж тут наогул расце? — спытала Юлька.

— Ну, вунь васілёк, — указаў брат. — На Купалле дзяўчаты з яго вянкі плятуць... А вось хмель. Расліна неядомая...

Юлька ўсё ж сарвала кветку, пажавала, выплюнула — нясмачна!

Чым далей падлеткі паглыбляліся ў лес, тым болей Віктар распазнаваў раслінаў. Але агучаныя ім характарыстыкі не асабліва радавалі сястру:

— Вунь чарвец расце. У навуковай класіфікацыі — склерантус. У старажытнасці адварам з чарвеца фарбавалі тканіну і велікодныя яйкі… Не цягні рукі, Юлька, яго нельга есці!.. А гэта каліна. Па-навуковаму кажучы — вібурнум опулус. У старажытнасці сяляне верылі, што калі куст каліны пасадзіць побач з домам, то ў хату ніколі не стукне маланка... А гэтая расліна — куколь, аграстэма гітаго. Дзеля прыгажосці яе ўплятаюць у вянок з васількоў... А вось багаткі, тураксакум афісіналіс…

Юлька круціла галавой налева — направа. З усіх раслін яна распазнала бадай што дзьмухавец, серабрыстыя пушынкі якога бялелі ў мурожнай траве. Вядома, не стрымалася, каб не перадражніць настаўніцкі тон брата.

— Вой, хлопчыкі, паглядзіце! — закрычала яна, указваючы перад сабой. — Папараць зялёная! Па-навуковаму кажучы — папаратнікус зялёнус.

— Паводле народных паданняў, папараць квітнее ў купальскую ноч і ўказвае, дзе схаваны зачараваны скарб, — сказаў Віктар.

— Лепш паказала б дарогу да бліжэйшага «Мак-Дональдса»... А вунь і крапіва-пякучка! Крапівус звычайнус пякучус.

— А яшчэ прашчуры верылі, што крапівой можна адвадзіць ведзьму...

— І яшчэ ёю можна пачаставаць таго, хто корміць сясцёр байкамі!

— Ды што ты ўелася! — пакрыўдзіўся Віктар. — Атакуй лепш Мірона.

Ваяўнічая энергія Юлькі скіравалася да сябрука.

— А ты, жывёлазнаўца, што бачыш? — таўханула яна Мірона ў плячо.

Той якраз думаў сам сабе, што зграбная і танклявая Юлька нагадвае яму самую дзівосную кветку ў свеце.

— Я бачу наўкол шмат прыгажосці, — заявіў Мірон. — Вунь, божая кароўка паляцела. Над намі камары кружаць. У траве конік цвыркае…

— Карацей, харчу няма, — перапыніла дзяўчына і вылучыла смелую прапанову: — Можа, тады птушку ўпалюем?

— Птаства тут непалоханае, — ускінуў галаву Мірон. — Вунь, дзяцел уладкаваўся на сушыне. А там, бачыш? Дрозд пырхае...

— Няхай птушкі і непалоханыя, але самі ў рукі не ўпадуць, — перарваў арніталагічны расповед Віктар. — І я раю вам не вытарашчвацца ў неба, а зірнуць пад ногі. Хіба не бачыце, у які чарнічнік мы зайшлі?

— Вось каштоўная знаходка! — заверашчала Юлька.

Дзеці апусціліся на калені, набіралі ягады ў прыгаршчы, прагна елі…

Тым часам на ўсходнім беразе вострава Свідэрскі пранікнёна вымавіў:

— Вось каштоўная знаходка! — і атрос ад пяску іржавы аўтамат ПКШ.

Ён стаяў у цэнтры неглыбокай яміны. Побач, на кучы жвіру, сядзеў з рыдлёўкай у руках Мішка. Яго майка на спіне ўзмакрэла ад поту. Наводдаль, у цяньку ляшчынніка, стаяў Бенядзіктавіч, цікаваў за раскопкамі і галінкай адмахваўся ад камарэчы.

— Такая рэч пацягне на паўтысячы баксаў, калі загнаць яе масквічу, — перадаў Сяргей зброю Гардзейчыку. — Паўтары — калі прадаць немцу або амерыкосу. Сапраўдны рарытэт! Шкада, што прыклад згніў…

Мішка сунуў аўтамат у чорны баваўняны пакет.

— Няўжо ў вас зброяй гандлююць? — здзіўлена ўскінуў бровы дзед.

— Вядома ж, не, Багданыч, — запэўніў Свідэрскі. — Але ж музейныя супрацоўнікі абавязаны ведаць прыблізны кошт такіх экспанатаў.

Ён вылез з яміны і ўказаў Гардзейчыку:

— Цяпер капай там.

Жоўтая мятлушка запырхала-закружылася над апусцелай ямінай.

Падзьмуў гуллівы ветрык, пакалашмаціў кроны дрэваў, пакалыхаў траву. У ягоных павевах Бенядзіктавіч раптам улавіў пах дыму далёкага вогнішча. Стары здзіўлена паглядзеў у лясны гушчар. Няўжо на выспе яшчэ нехта пасяліўся? Адкуль тут маглі ўзяцца людзі?

Сваім падазрэннем дзед не стаў пакуль дзяліцца са спадарожнікамі. Неяк усё менш даверу выклікалі ў яго гэтыя музейшчыкі!

* * *

Злёгку здаволіўшы голад, юныя вандроўнікі бадзёра шыбавалі па лесе.

Чуваць было, як звонка цёхкае салавей, які схаваўся сярод густой бярозавай лістоты. Юлька сцішыла крок, слухаючы птушыныя спевы. З лёгкім сумам на сэрцы

дзяўчына марыла: вось бы і ёй навучыцца гэтак жа мілагучна выказваць свае думкі, мары, надзеі!

Мірон, які хвастом плёўся за ёю, заўважыў пад нагамі грыб, сарваў, працягнуў Віктару, пацікавіўся:

— Як думаеш, можна яго есці?

Юлька азірнулася і праявіла павышаную цікавасць да знаходкі.

— О, грыбы я люблю. Асабліва смажаныя. А яшчэ грыбны суп…

Віктар пакруціў грыб і бесцырымонна перарваў пералік гастранамічных схільнасцей сястры:

— Гэта сморж. Стары. Маладыя смаржы смачныя. А такім атруцішся.

Яго безапеляцыйны прысуд засмуціў Юльку. Але Мірон не разгубіўся:

— Калі ёсць стары, то побач могуць расці маладыя.

Дзеці закружылі па лесе, схіліўшыся да зямлі. Час ад часу то Юлька, то Мірон дэманстравалі Віктару свае знаходкі.

— Знайшла грыб! — радавалася дзяўчына. — Куды яго?

— Выкідвай, стары, — разгледзеўшы, адбракоўваў брат.

— А гэты? — падсоўваў Мірон яму пад нос грыб з тоўстай ножкай.

— Малады. Яго трэба падсушыць, падсмажыць — і можна есці.

Мірон падняў з зямлі тонкую сухую галінку, ачысціў ад сучкоў, налыгаў на яе, бы на шампур, шапку грыба.

— Шкада, што нажа няма, — сказаў Віктар. — Прыпсавалі мы грыбніцу. Болей тут нічога не вырасце.

Юлька вінавата панурылася, але праз хвіліну знайшла апраўданне:

— Пагадзіся, грыбнікі сюды не так і часта прыходзяць.

Віктар хацеў было паглыбіць экалагічную адукацыю сястры ды раптам з вышыні даляцела аглушальнае вуханне, карканне, пляскат крылля. Вандроўнікі задзерлі галовы і ўбачылі, як дзве птушкі ашалела б’юцца ля вершаліны шыракастволага дуба. Чорнае і шэрае пер’е кружыла ў паветры.

Мірон першы распазнаў, што тут адбылося.

— Здаецца, сарока сунулася ў дупло пугача, паквапілася на яго прыпасы. Не падумала, дурніца, што да пугача і ўдзень лепш не лезці.

Буйны пугач дзеўбануў нахабную птушку ў галаву, упіўся кіпцюрамі ў яе спіну. Сарока амаль па-чалавечы закрычала ад болю ды, крутнуўшы выскубаным хвастом, паляцела ўпрочкі. Здалёк пачулася яе злоснае карканне, пэўна, дасылала праклёны на махнатую галаву пугача. А той у адказ нешта грозна выгукнуў з цемры свайго жытла.

Юлька падабрала з моха светла-шэрае пяро, вымавіла:

— Так непрыемна бачыць, калі моцны б’е слабага...

— Гэта не тэлеканал «Жывая планета», гэта і ёсць сапраўдная прырода, — спакойна адрэагаваў Віктар. — Тут заўсёды трэба памятаць, што небяспека побач... — нахіліўшыся, ён вырваў з карэннем грыб, працягнуў Мірону: — Вось яшчэ каштоўны экзэмпляр для нашай калекцыі…

Амаль тое ж самае вымавіў і Свідэрскі, які стаяў на дне яміны ў трох кіламетрах ад юнакоў.

— Вось каштоўны экзэмпляр для нашай калекцыі, — сказаў Шэры, паклаўшы пад ногі Мішкі рэшткі кулямёта Дзегцярова.

Пакуль абгортваў зброю цэлафанам, Сяргей, апусціўшыся на калена, зразаў сапёрнай рыдлёўкай тонкімі пластамі гліну.

Сталёвае лязо ўтыкнулася ў чалавечы чэрап. Свідэрскі ўзяў чэрап у рукі, звыкла прагаварыў жарт, які шмат разоў агучваў у экспедыцыях:

— Быць або не быць? Што скажаш?

На тым яго пачуццё гумару вычарпалася. Шэры адкінуў чэрап і вылез з ямiны. У радыусе дзесяці метраў ад яго чарнелі яшчэ чатыры варонкі.

Мішка пакаваў знаходкі ў мяхі, а Бенядзіктавіч сярдзіта хмурыўся.

— Я, вядома, не спецыяліст у раскопках, — прызнаўся дзед. — Толькі дзіўнавата, хлопцы, вашая праца выглядае. То тут капаеце, то там... Нат не спрабуеце высветліць, хто тут пахаваны.

— Маеш рацыю, Вадзімыч. Ты — не спецыяліст, і не ведаеш, што кожнаму этапу — свая чарга. Цяпер мы здзяйсняем палявыя раскопкі. А потым прыступім да грунтоўнага даследавання.

Ён узяў у рукі мінашукальнік ды загадаў Гардзейчыку:

— Тут мы дастаткова пакорпаліся. Пераходзім на бераг.

— Бенядзіктавіч я, — нягучна нагадаў стары і патэпаў за капальнікамі.

* * *

Якраз да берага скіраваліся і юныя вандроўнікі.

Наперадзе ішлі Мірон і Віктар. Яны старанна адшуквалі смаржы сярод імху і травы, зрывалі, акуратна атрасалі іх ад зямлі, насаджвалі на дубец.

На значнай адлегласці ад хлопцаў плялася Юлька, занятая больш важнай справай — збірала букет. У яе далонях серабрыста-зялёны лісахвост суседнічаў з фіялетавым мятлікам, жаўтавокія люцікі — з ружовымі смолкамі ды чырвонай канюшынай. Як ёй цяпер падабаўся гэты лес! Як маляўніча пераліваўся вакол яе ўсімі колерамі вясёлкі дыван з кветак! Як велічна ўздымаліся гонкія сосны — цёмна-шурпатыя ўнізе, залацістыя ў вышыні! Які духмяны водар казытаў яе нюх — пахі раслін і лістоты, нагрэтага паветра і высахлай расы! Як мілагучна спявалі птушкі! Ад чароўнай прыгажосці, ад пачуцця шчасця дзяўчыне хацелася заспяваць. У горадзе яна ніколі раней не адчувала такога натхнення...

Між тым хлопцы парассунулі зараснікі арэшніку і выйшлі на бераг. Спярша яны зажмурылі вочы — так ярка свяціла зыркае сонца ў зеніце, потым пакрысе агледзеліся. Шырокі бераг парос высокай травою. Вузкая пратока аддзяляла яго ад балотных абшараў, якія цягнуліся за небакрай. У блакітнай вышыні мерна веславаў крыламі бусел. Сярод мурожнай травы бялелі духмяна-мядовыя шарыкі дзяцеліны. Над імі кружылі цёмна-бухматыя чмялі. На цёмнай вадзе плавалі бліскучыя лісты белай лілеі. Трывожна пінькала пліска на галінцы лазовага куста.

— Сюды мы яшчэ не забрыдалі, — ступіў у травяністую лужыну Віктар.

Мірон хутка сарыентаваўся на мясцовасці.

— Учора мы там фарсіравалі балота, — указаў на ўсход, — потым пабрылі ў гэтым кірунку, але завярнулі ў лес. Там нас дождж і накрыў…

Віктар паляпаў нагамі па мутнай вадзе і раптам знерухомеў.

— Мне гэта падаецца? — ціха спытаў ён. — Ці ты таксама чуеш?

Мірон напружыў слых. Праз хвіліну скрозь чмяліны гул, камарыны звон і птушыныя спевы ён пачуў нешта падобнае да чалавечых галасоў.

Ашалелыя ад нечаканай радасці хлопцы пераглянуліся.

— Там, у лесе? — няўпэўнена ўказаў Віктар.

— Там, на беразе, — кіўнуў удалеч Мірон. — Пабеглі…

Зрабіў крок — і рука Віктара моцна ўчапілася яму ў плячо.

— Чакай, — Віктаравы вочы заблішчалі. — Мы не дарослыя. Нам асцярожнасць не зашкодзіць…

— Што ты вярзеш? — неўразумела глядзеў на яго Мірон.

Віктар паклаў указальны палец сябруку на вусны:

— У аповесці Янкі Маўра школьнікі таксама сустрэлі людзей. Але не закрычалі адразу, а стаіліся, прыгледзеліся. І так ўратавалі сабе жыццё.

— І што ты прапануеш? — усхвалявана спытаў Мірон.

— Пойдзем да іх, але адразу вітацца не станем, — падзяліўся ідэяй Віктар. — І не па беразе, а па лесе. Каб мы іх бачылі, а не яны нас.

— Нейкі ты палахлівы зрабіўся, — сціпла асудзіў Мірон.

— А ты глядзіш крымінальныя перадачы па тэлевізары? — стрымана прагаварыў Віктар. — Хоць зрэдку? Ці ведаеш, колькі сярод дарослых трапляецца ўсялякіх вычварэнцаў? І хто нас тут абароніць?

Мірон моўчкі здрыгануўся — уявіў, што чужынцы насамрэч могуць аказацца нягоднікамі. Што будзе з Юлькай?.. І сам перайшоў на шэпт:

— Вяртаемся ў лес.

З лазняку пачуўся гучны Юльчын голас:

— Паглядзіце, які букет я сабрала…

Віктар маланкай шуснуў да хмызоў. Праз імгненне ён апынуўся побач з сястрой, абхапіў за плечы, прыпячатаў далонню яе рот і шапнуў на вуха:

— Абяцай, што будзеш паводзіць сябе ціха.

Юлька спалохана кіўнула і прыціснула кветкі да грудзей.

Брат апусціў далонь ды нягучна прамовіў:

— На беразе з’явіліся нейкія людзі…

— Людзі?! — падскочыла ад радасці сястра.

Віктар зноў закрыў ёй рот і дагаварыў:

— Але мы спярша пераканаемся, што нам анічога не пагражае. Пойдзем да іх ціха, паўглядаемся. Толькі не выкінь які-небудзь фокус…

— А інакш што ты зробіш? — скрозь яго пальцы прамармытала Юлька.

— Прывяжу да дрэва і пакіну тут, — прашыпеў Віктар.

Але сустрэў дакорлівы позірк Мірона і нечакана для сябе вымавіў тое, пра што ніколі не гаварыў, але заўсёды думаў:

— Я твой брат. А ты мая любімая сястра. Я абавязаны бараніць цябе. А ты мяне слухайся. Хаця б сёння...

Расчуленая Юлька кіўнула. Яна пашкадавала, што не праспявала брату калыханку, калі ён прасіў. І наогул дарма яна раней столькі злавалася на Віцю!

* * *

Сяргей Свідэрскі не жартам нерваваўся. Апошнім часам у ім нарастала адчуванне, што сённяшнія раскопкі кардынальна пераменяць яго жыццё.

Пару гадзін ён прачэсваў берагавую лінію мінашукальнікам. Вынікі былі несуцяшальнымі — на глыбіні да двух метраў прыбор фіксаваў адно каменне розных памераў. Вопыт падказваў, што верагоднасць знайсці нешта каштоўнае на ўзбярэжжы — мізэрная. Але Свідэрскі ўпарта не вяртаўся назад у лес. Тое, што ён шукаў, не ўяўляла аніякай каштоўнасці для партызанаў. Значыць, схрон яны маглі выкапаць не ў цэнтры выспы, а на беразе!

І калі ад стомы ў Шэрага ўжо дрыжэлі рукі, у зялёным полі панэлі высвеціліся цьмяна-жоўтыя рысы металічных прадметаў.

— Капай тут, — указаў ён Мішку, які стаяў побач напагатове.

Гардзейчык накідаў рыдлёўкай высокую кучу пяску. Аднак на глыбіні двух метраў анічога не адшукалася.

— Мо памыляецца твой прыбор? — дапусціў Мішка, стомлена дыхаючы.

— Ён дакладна фіксуе метал, — раздражнёна абараніў Сяргей якасць мінашукальніка. — Але ж адлегласць вызначае з пэўнай доляй верагоднасці. Плюс-мінус паўметра… Капай пабач.

На дне другой яміны, якую Мішка выкапаў і пашырыў ужо марудней, таксама не аказалася чаканага тайніка.

У Гардзейчыка з'явіліся сумненні: ці не дарма ён натужваецца?

— Можа, там усяго толькі асколак авіябомбы, — вылучыў ён гіпотэзу.

— Хопіць злаваць мяне! — закрычаў Шэры. — Ты ведаеш, які я бываю, калі нервуюся!

(Яго крык і пачулі хлопцы, якія выйшлі на бераг за сто метрў адсюль.)

Трэцюю яміну Гардзейчык і Свідэрскі капалі разам. Бенядзіктавіч тым часам сядзеў на траве ў цяньку ракіты і адмахваўся ад камароў.

Нарэшце высілкі капальнікаў далі плён — рыдлёўкі ткнуліся ў дахаўку буйной сталёвай скрыні.

Неймавернымі намаганнямі Сяргей і Мішка выцягнулі скрыню на жвір, ачысцілі яе ад гліны сапёрнымі рыдлёўкамі. Наблізіўся Бенядзіктавіч, памацаў шурпатымі далонямі паржавелыя сценкі, прамовіў:

— Памятаю, у іх захоўвалі зброю і боепрыпасы…

Скарыстаўшы лязо рыдлёўкі ў якасці рычага, Свідэрскі адчыніў скрыню і, зазірнуўшы ўнутр, задаволена прысвіснуў:

— Багаты ўлоў!

У скрыні захоўвалася трафейная нямецкая зброя: колькі аўтаматаў Шмайсэра ды пісталетаў Заўэра — усе без патронаў і магазінаў.

— Пэўна, таму партызаны і пакінулі іх, — разважаў Сяргей, перадаючы зброю Гардзейчыку. — Якая карысць ад ствалоў, што не страляюць?

На дне скрыні адшукаліся тоўстыя скураныя папкі, набітыя штабнымі дакументамі. Шэры няўважліва перагледзеў паперы на нямецкай мове.

— Ваенная бюракратыя ў трэцім рэйху патрабавала процьму справаздач за кожны ўчынак, — пракаментаваў ён і адкінуў папкі ўбок.

А потым убачыў тое, ад чаго перахапіла подых, — дзясяткі футаралаў з узнагародамі. Брудныя рукі Свідэрскага задрыжалі, калі ён адчыніў першы футляр, сціснуў пальцамі чорны лакіраваны крыж.

— Жалезны крыж другой ступені за адвагу, — ацаніў Шэры знаходку. — Звычайна іх уручалі танкістам і пехацінцам. Імянны, — торкнуў пальцам у цэнтр узнагароды і прачытаў гравіроўку: — «Паўль Метцэнгерштайн». — Ён асцярожна паклаў футарал назад, узяў суседні, адчыніў: — Дубовы крыж! Такім ушаноўвалі вышэйшыя чыны арміі. А яшчэ пілотаў люфтвафэ… Хто ж не атрымаў свой крыж? «Марцін Берлітцынген»...

Неўзабаве ён вынуў са скрыні ўсе ўзнагароды ды склаў іх у мех з непрамакальнай тканіны. Завязаўшы вяроўкай вузел на мяшку, Свідэрскі задуменна агледзеў спадарожнікаў. Мішка меў нейкі панылы выгляд, а дзед наогул выглядаў змрачнейшым за хмару. Радасны настрой Сяргея змяніўся трывогай. Побач з ім былі не напарнікі, а небяспечныя сведкі! А значыць, пара вырашыць: як абысціся з імі?

* * *

Чорнагаловая, шэрахвостая варона зранку прыляцела ў апусцелы лагер капальнікаў і дасыта паласавалася рэшткамі кашы, якую Мішка выкінуў з паходнага кацялка. Пагрэўшыся на сонейку, птушка паскакала вакол намёта, пастукала дзюбай у нейлонавы ўваход, а потым узнялася ў паветра, распрасцёрла крылле. Пакружыла

над востравам, убачыла, што і дзяцей няма на беразе, і адчула цікавасць: а куды ўсе людзі падзеліся?

У хуткім часе і дарослыя, і падлеткі адшукаліся на паўднёвым беразе. Адно падалося дзіўнаватым: тры мужыкі круціліся каля трох ямінаў, а трое дзяцей недалёка ўтачыліся ў хмызняк. З вышыні палёту варона бачыла, як плёхаліся сіняватыя хвалі ў затоцы, як гайдаліся пад ветрам кашлатыя вершаліны бярозак і асінак на ўзлессі, як лунае бусел на фоне бухматых, дымна-шэрых аблокаў. Неўзабаве цікаўная птушка апусцілася на галіну сасны каля ляшчынніка, у якім стаіліся юныя вандроўнікі.

Спярша паводзіны капальнікаў не падаліся дзецям, якія цішком наблізіліся з лесу, падазронымі. Хлопцы нават падумалі, быццам на востраў завітала археалагічная экспедыцыя, а Юлька — што рыбакі чарвякоў капаюць. Рабінзоны гатовы былі ўжо выйсці да чужынцаў, аднак, калі ў руках Свідэрскага з'явілася нямецкая зброя, падлеткі насцярожыліся. Далейшыя падзеі толькі ўзмацнілі іх занепакоенасць.

— Цяпер мы багатыя, — сказаў Сяргей, узважваючы мех з футараламі.

— Я вось пра што падумаў, Шэры… — хвалюючыся, пачаў Мішка.

— Навошта табе думаць? — пасуравеў голас Свідэрскага. — Роздум — мая прэрагатыва. А твой абавязак — слухацца і выконваць.

— Раней так і было, — пагадзіўся Мішка. — Але цяпер — іншае справа.

— Так, іншая, — апусціў дахаўку і прысеў на скрыню Сяргей. — У нашых руках здабыча, якая забяспечыць нас на шмат гадоў. Ты ўяўляеш, колькі ў Маскве каштуе баявая нямецкая ўзнагарода? А калі выставіць на інтэрнэт-аўкцыён для калекцыянераў? Ад такіх лічбаў галава закружыцца.

— А ты падумаў, Шэры, каму прызначаліся гэтыя крыжы? — задрыжэў Мішкаў голас. — Абодва мае дзяды загінулі на фронце, — ён пхнуў мех з футараламі: — А можа, гэта ўзнагароды для іх забойцаў?

— Спачуваю, але нябожчыкаў ты не адродзіш, — акамянеў твар Сяргея. — Лепш уяві, як парадаваліся б твае дзяды, калі б даведаліся, якая ўдача ўпала ў рукі іх прыдуркаватаму ўнуку.

— Як ты не разумееш? — замахаў рукамі Гардзейчык. — На гэтых крыжах — кроў. Кроў нашых дзядоў. Грошы за іх не прынясуць нам шчасця.

— Цябе, мабыць, аніякія грошы не ашчасліваць, — пагардліва сказаў Шэры, падняўся і ўпёрся рукамі ў пояс. — Што ты прапануеш? Пакінуць нашы знаходкі тут? Каб іржавелі пад дажджом?

— Навошта пакідаць? Адвязём іх у Мінск, здадзім у музей.

— У музей? — ашаломлена перапытаў Свідэрскі.

— А хіба гэта не вашая галоўная задача? — дадаў Бенядзіктавіч.

Дагэтуль ён разгублена лыпаў вачыма, а суразмоўцы яго ігнаравалі. Аднак і цяпер стары не дачакаўся выразнага адказу.

— А можа, самі немцы захочуць выкупіць узнагароды сваіх продкаў, — развіваў думку Мішка. — Можа, нешта перападзе і нашым ветэранам… Самае галоўнае — нам не будзе сорамна.

— Чаму ж раней тваё сумленне маўчала? — спытаў Сяргей.

— Раней мы адкопвалі безыменныя магілы, цягалі зброю і рыштунак, — прыгадаў Гардзейчык. — А сёння я пачуў сапраўдныя прозвішчы…

— Ну і дурань жа ты, Міша, — перарваў яго Шэры.

— Мо і дурань, — не адпрэчваў той, — а ўсё ж не сволач.

Інстынкт самазахавання падказваў Свідэрскаму: варта пагадзіцца з Мішкам, забалбатаць яго і дзеда! Галоўнае — выбрацца з вострава, дапяць да вёскі, а там ужо і разабрацца з непажаданымі сведкамі…

Але Сяргей так перапсіхаваў, што яго цярплівасць зусім вычарпалася. Пад рукой знаходзілася багацце, якое забяспечыла б яму шматгадовае бесклапотнае жыццё, і раптам гэты абэлтух Гардзейчык вярзе нейкую лухту! Ужо праз тыдзень Сяргей мог бы пасяліцца ў шыкоўным маскоўскім гатэлі — а яму замінаюць гаворкай пра сорам!.. І Свідэрскі сказаў сабе: досыць гуляў! Пара ўсім паказаць, хто тут галоўны!

— Бачу, трэба вырашаць праблему кардынальна, — хмура сказаў Шэры.

Тым часам Юлька, якая стаілася ў хмызах побач з хлопцамі, раптам заўважыла камара, які сеў на скронь Мірона. Жадаючы дагадзіць сябру, яна з размаху пляснула далонню хлопцу па галаве. Камара прыбіла, а вось удар атрымаўся даволі гучны. Віктар гнеўна высунуў ніжнюю сківіцу і акругліў вочы. Мірон умольна прыклаў палец да вуснаў. Дзяўчына вінавата ўгнула галаву ў плечы і малітоўна склала далоні.

На беразе таксама пачулі нейкі шум. Мішка і Бенядзіктавіч збянтэжана ўтаропіліся ў зараснікі. Аднак анічога не ўгледзелі, акрамя глянцава-зялёнай лістоты, якая мякка шапацела пад цёплымі павевамі ветру. А калі павярнуліся да Свідэрскага, то ўбачылі ў яго руцэ пісталет.

— Слухайце ўважліва, — хрыпла сказаў той. — Барысавіч, жыць хочаш?

Бенядзіктавіч неўразумела паціснуў плячыма, паколькі не паспяваў асэнсоўваць перапады настрою Сяргея.

— Тады прывязвай Мішку да дрэва!

— У цябе, Шэры, зусім дах паехаў, — разгублена вымавіў Гардзейчык.

— Наадварот, я разважаю прагматычна. І мушу цябе нейтралізаваць, паколькі ты можаш голымі рукамі мяне прыдушыць. Добра, што ў мяне ёсць важкая перавага, — пакруціў Шэры ствалом пісталета.

— А я думаў: мы сябры, — прамармытаў Мішка.

— Наша сяброўства завершанае. Браніслававіч, варушыся!

— Бенядзіктавіч я! — сярдзіта нагадаў дзед.

— Мне начхаць, дубіна, як цябе завуць! — тупнуў нагою Свідэрскі.

— І як такога ўзялі ў музей працаваць? — пляснуў рукамі стары.

— Ён такі ж музейны супрацоўнік, як я — балерына, — змрочна прызнаўся Гардзейчык. — Такіх, як мы, называюць чорныя археолагі. Знаходзім у зямлі рэчы памерлых. Я выкопваю, ён — прадае...

— А як жа дакументы, якія вы мне пад нос сунулі? — здзівіўся дзед.

— Любое пасведчанне можна падрабіць, Бенядзіктыч, — паблажліва сказаў Сяргей. — Патрэбныя толькі жаданне і якасны каляровы прынтар.

Хударлявы твар Бенядзіктавіча пацямнеў ад крыўды. Яго густыя сівыя бровы сышліся на пераноссі, паглыбіліся маршчыны на ілбе. Ды Шэрага ўжо не хваляваў настрой спадарожнікаў. Ён адчуваў неймаверную палёгку і ўзрушэнне ад таго, што не трэба болей таіцца, хаваць сваю існасць.

— Пагасцюеш пакуль на выспе, Мішанька, — натхнёна падзяліўся ён планамі з колішнім напарнікам, — а Бенядзіктыч адвядзе мяне на мацярык. Ён, добрая душа, не пацерпіць, каб ты тут камароў карміў, кінецца назад цябе ратаваць. А я тым часам з’еду ўжо далёка-далёка…

— Я маўчаць не буду, — папярэдзіў дзед. — У міліцыю заяўлю.

Свідэрскі высакамерна засмяяўся. Стары дурань лічыў, быццам Шэры пакіне яму жыццё!.. Стрымаўшыся, Сяргей міралюбіва параіў дзеду:

— Ты лепш не пагражай мне, а выконвай мае распараджэнні. Тады ўзнагароджу цябе парачкаю жалезных крыжыкаў, — пнуў ботам па меху.

— Ад цябе, павука, я нічога не прыму, — хітнуў галавою Бенядзіктавіч.

— Тады працуй бясплатна! — закрычаў Сяргей. — Інакш застрэлю!

— Ты ніколі не забіваў, Шэры, — паспрабаваў уціхамірыць яго Мішка.

— Усё калісьці ўпершыню!

— Ён блефуе, не стрэліць, — паспрабаваў супакоіць дзеда Гардзейчык.

Свідэрскі ўскінуў руку і націснуў курок.

Ад рэзкага гуку Юлька ўціснулася ў пясок, абхапіла руку брата, ледзьве стрымала палахлівы крык.

Чорнагаловая варона пужліва каркнула і паляцела ў глыб балотаў.

Бенядзіктавіч і Мішка баязліва прыгнулі галовы, хоць куля прасвісцела высока. У Сяргея задрыжэла рука, але зброю не апусціў.

— Блефую? — перапытаў ён Мішку і паўтарыў дзеду: — Вяжы яго.

— А чым вязаць, Шэры? — развёў рукамі Бенядзіктавіч.

Сяргей указаў ствалом на сваю куртку-вятроўку, якая ляжала недалёка ад яго, побач з запакаванай у тканіну зброяй:

— У нагруднай кішэні ляжыць скрутак вяроўкі.

Стары пашкандыбаў да Сяргея, схіліўся над курткай, а Гардзейчык раптоўна прыпусціў у лес. Цяпер і Віктар з Міронам спалохана прыціснуліся да зямлі: падумалі, што зараз гэты асілак іх растопча.

Ды далёка Мішка не адбег — Шэры зноў стрэліў у паветра, папярэдзіў:

— Годзе рыпацца, дурань.

Жудаснае пачуццё абсалютнай улады саладзіла душу Свідэрскага. Яму ўжо свярбела не проста прыпалохаць гэтых абэлтухаў — хацелася забіць іх. Аднак без дзедавай дапамогі ён не патрапіць у вёску!

Розум Сяргея імкліва прагназаваў далейшыя ўчынкі дзеда і напарніка.

— Я ведаю, пра што ты думаеш, Бенядзіктыч, — звярнуўся ён да старога. — Хочаш завесці мяне ў багну, паглядзець, як я там бурбалкі пускаць стану.

Дзед разгублена прамаўчаў. Такая думка насамрэч яго ўжо наведала.

— Ды толькі май на ўвазе, старэча, што я паспею цябе застрэліць, — зноў пакруціў зброяй Свідэрскі. — Ты сканаеш побач са мною, а Мішка здохне тут ад голаду. Бо ніхто яго не адшукае і не ўратуе. Ты, Бенядзіктыч, яго адзіная надзея. Калі не хочаш узяць грэх на душу — выведзі мяне без усялякага падману.

— Як ты ўсё хітра завярнуў, — хмура буркнуў стары.

— Табе патрэбны псіхіятр, Шэры, — збялеўшы, вымавіў Мішка.

— Навошта мне ўрач, калі я маю пісталет? — крыва ўсміхнуўся Сяргей.

Знянацку Бенядзіктавіч кінуўся на Свідэрскага і паваліў на зямлю.

Пісталет выпаў з Сяргеевых пальцаў, і Гардзейчык рынуўся да зброі.

Моцным ударам у грудзі Шэры адштурхнуў ад сябе дзеда. Бенядзіктавіч застагнаў і схапіўся за сэрца, а Свідэрскі рэзка ўскочыў.

Мішка ўжо схапіў пісталет, але не паспеў прыцэліцца, як на яго наляцеў Сяргей і раз’ятрана ўдарыў у скулу. Абодва капальнікі зваліліся на траву, а пісталет адляцеў да хмызоў, у якіх цікавалі юныя рабінзоны.

Юльку ўжо біла нервовая трасца, а Віктар затыкаў ёй рот далонню, каб не закрычала. Мірон жа дрыжачымі пальцамі сцягваў з дубца грыбы. Неспадзявана хлопца асяніла, якім чынам іх выкарыстаць.

Дужы Мішка замахнуўся і ледзь не прыбіў Сяргея, ды той лоўка вылузнуўся ўбок і стукнуў напарніка кулаком у нос. Ад рэзкага болю ў Гардзейчыка пацямнела ў вачах. Ён бездапаможна замахаў кулакамі ў паветры, а Сяргей на карачках жвава папраставаў да зброі. Яго далонь ужо дацягнулася да чорнай сталі, як раптам у лоб Свідэрскаму паляцелі смаржы. І пакуль Шэры агаломшана лыпаў вачыма, Мірон вылецеў з хмызняку, схапіў пісталет і прыпусціў далей

ад хмызоў. Надта ж не хацелася хлопцу, каб Шэры сутыкнуўся носам да носа з Юлькай.

Свідэрскі зароў, бы драпежнік, у якога сцягнулі здабычу з-пад носа:

— Ты адкуль узяўся? А ну, чакай!

Ён ірвануў за хлапчуком. Яшчэ пару секунд — і дагнаў бы.

Зразумеў гэта і Віктар. Ён падняўся, выйшаў на бераг і закрычаў:

— Мірон! Кідай мне!

Яго сястра засталася ў зарасніках, прыціснулася да пяску і адчувала сябе, бы чарапаха, на якую звалілася шматтонная вага.

Пачуўшы голас Віктара, Мірон развярнуўся і шпурлянуў пісталет.

Свідэрскі спыніўся ў пяці кроках ад хлапчука, прасачыў за траекторыяй, якую апісала зброя ў паветры, і паімчаў назад.

Ды Віктар ужо схапіў пісталет і, калі мужык з ашалелымі вачыма наблізіўся, зноў запусціў зброю Мірону, памахаўшы перад носам Свідэрскага пустымі далонямі, нервова рагатнуў і спытаў:

— Вы ніколі раней не гулялі ў «сабачку»?

Смяяўся не ад таго, што было весела, — ад страху.

Ашаломлена пазіралі на дзяцей Бенядзіктавіч і Мішка, да якога пакрысе вярнуўся зрок: маўляў, няўжо на востраве ўтварылі дзіцячы сад?

Ды Сяргей апрытомнеў ужо ад разгубленасці. Новы план склаўся ў яго. Годзе лётаць, як падсмаленаму! І нястрашна, што сведкаў стала больш. Ад усіх пазбавіцца па чарзе!

Шэры не пабег за пісталетам. Разумеў, што на ўліку кожная секунда, а Мішка падымаецца ўжо з каленяў. Свідэрскі стукнуў Віктара пад дых, схапіў хлопца за шыю і ўнушальна сказаў Мірону:

— Вярні ствол. Інакш твой сябрук здохне.

Віктар адчуваў, як шчыльна сышліся на ягоным горле далоні. І ўсё ж, гледзячы на Мірона, ён з неймавернай цяжкасцю адмоўна крутнуў галавой: не вер, не вяртай!

З жудасным верашчаннем з хмызоў выскачыла Юлька, павісла на спіне Свідэрскага, абхапіла пальцамі яго твар, паспрабавала намацаць яго вочы і націснуць на іх. Шэры балюча ўдарыў дзяўчыну локцем у грудзі — Юлька знясілена спаўзла на траву, закашляла.

Мірон са шкадаваннем паглядзеў на мілую, адважную дзяўчыну, на дарослых, якія стаялі побач, але не маглі дапамагчы, на сябра, у якога падгіналіся ўжо калені — ды пайшоў да Свідэрскага, працягваючы зброю.

Сонца ўсміхалася з чыстага купала неба. Ветрык калыхаў лістоту ляшчынніка. З балотаў даляталі птушыныя спевы і кваканне жаб. Але пяцёра чалавек на беразе вострава анічога не чулі ды не заўважалі, іх увага засяродзілася на чорным пісталеце ў руцэ падлетка. Насустрач яму працягнулася мужчынская далонь.

Не дайшоўшы да Сяргея трох крокаў, Мірон спыніўся і сказаў:

— Адпусці майго сябра. Інакш страляць буду.

Ды Шэры бачыў, як дрыжыць пісталет у хлапечых пальцах, чуў няўпэўненасць у голасе юнака — і не збаяўся.

— Не палохай, аддавай, — строга вымавіў Свідэрскі.

Мірон кінуў позірк на Юльку, у якой вочы заблішчэлі ад слёз. Дзяўчына таксама не давярала даросламу нягодніку, але зусім не ўяўляла, што яшчэ можна зрабіць, каб уратаваць брата.

Ды Мірон прыдумаў.

— Хочаш пісталет? — дзёрзка сказаў ён Сяргею. — Забірай!

І шпурлянуў зброю ў балота.

Пісталет пляснуўся ў зеленаватую жыжку, стаў павольна тануць.

Пару секунд Свідэрскі разгублена вагаўся, а потым раз'юшана зароў, адпусціў Віктара, паімчаў да вады.

Утрапёна хапаючы ротам паветра, Віктар паваліўся побач з сястрой. Тая села і паклала галаву брата сабе на калені, лагодна сціснула яго руку.

— Брацік мой даражэнькі, — не хавала Юлька слёз.

Мірон жа занепакоена сачыў за Шэрым і разважаў: што рабіць, калі гэты шаленец зноў завалодае зброяй? Уцякаць і хавацца ў лесе?

Дарма, аднак, хлопец хваляваўся. Калі Свідэрскі дайшоў па пояс у балотнай твані да таго месца, куды ўпаў пісталет, багна ўжо ўсмактала зброю. Сяргей апусціў рукі па плечы ў бруд, паспрабаваў намацаць сталь. Аднак у пальцы патрапілі паўзгнілая палка ды буйны камяк мокрай травы. Шэры раз’ятрана закрычаў ды пабрыў назад, разгублена азіраючыся.

А на беразе ўжо чакаў Мішка, церабіў у шырокіх далонях скрутак вяроўкі, і яго змрочны твар не гарантаваў гасціннай сустрэчы.

Свідэрскі збавіў крок, звярнуўся да Гардзейчыка з новай ідэяй:

— Мішка, кінь злавацца. Лепш уяві, як пераменіцца нашае жыццё. Утопім у балоце дзятву і старога партызана. А ўтаргаваныя грошы падзелім па-братэрску. Да скону пражывеш заможна і шчаслівa…

Гардзейчык паглядзеў на дзяцей, на дзеда і сказаў Свідэрскаму:

— Я табе ўдзячны, Шэры.

— Праўда? — насцярожыўся Сяргей. — За што?

— За тое, што сёння маё жыццё насамрэч перамянілася. За тое, што растлумачыў, якім асталопам я быў. І якім нягоднікам мог стаць…

— Ну і дурань жа ты, — застагнаў Свідэрскі, адступіўшы ад берага.

— Быў дурань, ды паразумнеў, — адказаў Мішка. — Ты хацеў мяне да дрэва прывязаць? Цяпер сам тут заначуеш.

Гардзейчык увайшоў па калена ў ваду.

Апанаваны жахам Сяргей пагрозліва замахаў кулакамі, закрычаў:

— Не набліжайся! Я небяспечны!

Разматваючы вяроўку, Мішка спакойна запярэчыў:

— З пісталетам ты небяспечны. А бяззбройны ты для мяне што камар.

Залямантаваўшы, Шэры прыпусціў углыб балота і неўзабаве знік сярод дрыгвяных абшараў. І толькі калі сціхлі ўдалечыні яго праклёны, усе, хто быў на беразе, пачулі, як прыгожа звіняць жаўрукі ў небе.

Віктар прыўзняўся і пацiснуў руку Мірона, ухваліў:

— Добра ты прыдумаў з пісталетам.

— Лепш перадаў бы зброю дзеду, — самакрытычна ацаніў той уласны ўчынак. — Ды не хапіла часу скеміць… У мяне вось якая просьба, сябры-рабінзоны. Калі будзем распавядаць бацькам, як бавілі тут час, то апусцім гэты эпізод. Навошта ім лішнія хваляванні?

— Даю слова, — дакляраваў Віктар. — Слова рабінзона.

Ён працягнуў правую руку далонню ўверх. На яе паклаў сваю руку Мірон. А зверху хлапечыя рукі прыпячатала далонькай Юлька.

— І я абяцаю маўчаць, — паклялася дзяўчына. — Хоць, прызнаюся, так цяжка будзе ўтаіць, як мы тут ганялі бандытаў…

Мішка выйшаў на бераг, спыніўся каля дзеда, заклапочана спытаў:

— Можа, дарма я адпусціў гада? Раптам ён яшчэ вернецца …

— Ты ўсё правільна зрабіў, Міша, — паляпаў яго па плячы Бенядзіктавіч. — У Сяргея цяпер адна дарога — да першай багны.

Гардзейчык з сумненнем пакруціў галавой, а дзед разгладзіў бараду і падышоў да дзяцей, зычліва ўсміхнуўся ім:

— А вас сюды якім ветрам занесла?

— Доўгая гісторыя, — уздыхнула Юлька.

— А мы нікуды не спяшаемся, — запэўніў стары.

— Ну, калі вам цікава, то я магу сёе-тое распавесці, — заявіла Юлька.

Хлопцы іранічна пераглянуліся. Маўляў, ведаем мы, хто акажацца галоўнай дзеючай асобай у дзявочай інтэрпрэтацыі падзей!

— Вы, пэўна, прагаладаліся? — спытаў Бенядзіктавіч.

— Так! — у адзін голас пагадзіліся падлеткі.

— Што засталося з прадуктаў? — звярнуўся стары да Мішкі.

— Вермішэль, тушонка, хлеб, — пералічыў Мішка, — яшчэ чай і печыва.

— О, як смачна гучыць! — прастагнала Юлька.

— То хадземце ў лагер, — прапанаваў дзед. — Падсілкуецеся.

Юных рабінзонаў не трэба было доўга ўпрошваць!

* * *

Чорнагаловая, шэрахвостая варона плыла на хвалях ветру над балотамі. Пад яе крыламі сінела дробнае азярцо з багністымі берагамі, парослымі чаротам. Зоркае птушынае вока бачыла, як сноўдаюць у празрыстай вадзе чорна-зялёныя чарапашкі, як дрэмлюць сярод мокрай травы жабоцькі, як кружыць над зараснікамі камарыная хмара.

Азярцо прыцягнула ўвагу цікаўнай птушкі, бо па ягоным беразе прабег мужык у кашулі з сінімі палоскамі, у зялёных штанах і ў высокіх шнураваных ботах. Мужчына цяжка дыхаў і панічна азіраўся.

На адлегласці трох кіламетраў ад яго, за гразкімі абшарамі ды рачной пратокай, зелянела выспа, куды яшчэ нядаўна так упарта пёрся гэты чалавек і адкуль зараз так спрытна ўцякаў. Вядома, вароне карцела даведацца, што здарылася з дзецьмі на тым востраве. Узмахнуўшы крыллем, птушка неўзабаве дасягнула берага, але не ўбачыла каля вады ані падлеткаў, ані дарослых. Тады цікаўная падарожніца скіравалася ў глыб лесу і на паляне ўгледзела юных рабінзонаў ды іх новых таварышаў. Хлопцы парасселіся, скрыжаваўшы ногі, на траве, дзед і дзяўчына ўладкаваліся на бервяне, а шыракаплечы мужчына распаліў вогнішча і выцягнуў з заплечніка прадукты.

З галодным бляскам у вачах рабінзоны пазіралі, як Мішка Гардзейчык адчыняе бляшанкі з ялавічынай і распячатвае пакеты з вермішэллю. А той не марнаваў часу і, пакуль закіпала вада ў кацялку, згатаваў бутэрброды з хлеба і каўбасы, працягнуў падлеткам. Хлопцы і Юлька праглынулі пачастунак за колькі секунд, ані крошкі не ўпусцілі. Дзяўчына з поўным ротам яшчэ і мармытала:

— Ну, як жа смачна...

Мішка засыпаў у кіпень вермішэль, кінуў тушонку і спецыі.

Юлька ж, крыху спатоліўшы голад, прынялася з натхненнем, размахваючы рукамі, яскрава апісваць іх прыгоды. Час-почас мужчына круціў галавою здзіўлена, стары — спачувальна, а юнакі збянтэжана пераглядваліся: маўляў, няўжо ўсё так і адбывалася?

Прыслухвацца да дзявочай балбатні варона не стала, скіравалася назад да ўцекача. Не тое, каб птушку надта ўжо хваляваў яго лёс. Але чамусьці чуццё падказвала, што ёй неабходна прасачыць за чалавекам.

З вышыні палёту варона чула, як уцякач нешта мармоча пад нос.

Свідэрскі насамрэч сам-насам размаўляў. Яму здавалася, быццам губляе розум ад перажытага. Такое багацце трымаў у руках! І ўсё страціў з-за сваёй дурасці! Забыўся пра асцярожнасць, захацеў прыпалохаць спадарожнікаў. А яго самога зацкавалі, бы зайца! Яшчэ і дзеці паскудныя невядома адкуль узяліся. Ну, чаму ўсё так дрэнна склалася?

— Ну, чаму ўсё так блага? — ледзьве не выў Сяргей, пераскокваючы з хісткай купіны на дрыгвяны ўзгорак. — Вось у цывілізаванай Еўропе — інакш. Там не пераследуюць такіх, як я. Выкапаў нешта карыснае — музей набудзе па тваім кошце... Жывуць жа людзі! А ў нас...

Ён праламіўся скрозь зараснікі ляшчынніка і раптам адчуў жах — глеба захісталася пад нагамі. Здалося, як толькі спыніцца — дрыгва засмокча.

Нарэшце Шэры ўжо не мог ісці — папоўз. Некалькі разоў нага або рука вязлі ў брудзе — і тады халадзела на сэрцы.

Неймавернымі намаганнямі Свідэрскі адолеў колькі сотняў метраў — і раптам яго далоні ды калені ўперліся ў камяністую зямлю.

Сяргей асцярожна падняўся і пайшоў, прыгінаючыся, наперад. Ды шлях аказаўся непрацяглым — праз дзесяць метраў зноў ткнуўся ў балота. Шэры апынуўся на невялікай выспе, пасярод якой узвышалася сасна з даўгімі гнуткімі галінамі, а побач прысуседзілася чэзлая бярозка.

Сонца закацілася за воблака — і навакольныя краявіды набылі папялістае адценне. Яшчэ і камарыная хмара наляцела з балотаў, нудна зазвінела над галавой Сяргея.

Ды цвёрдая глеба пад нагамі падбадзёрыла Шэрага, натхніла на новы план. І насамрэч, а з чаго ён так распанікаваўся? Мо не ўсё яшчэ страчана?.. Вось дачакаецца прыцемак, вернецца на той кляты востраў (каб яго балота паглынула, выплюнула і зноў паглынула!) і забярэ сваё дабро! Наўрад ці дзед, Мішка і дзеці застануцца там начаваць. І тым больш, наўрад ці перахаваюць выкапаныя рарытэты. Шэры забярэ мех з футараламі ды ў адзіночку адшукае дарогу да вёскі!..

Адмахваючыся бруднымі далонямі ад камарэчы, Свідэрскі распачаў пошук новага шляху з выспы. Пра тое, каб вяртацца той жа дарогай, якой праблукаў сюды, ён і падумаць баяўся.

Цікаўная чорнагаловая варона апусцілася на доўгую галіну сасны пасярод камяністага ўзгорка, склала крылы і з цікаўнасцю пільнавала, як адзінокі чалавек спрабуе фарсіраваць балота то з левага, то з правага берага. І няўцям было дапытлівай птушцы, як пакрысе перапаўняецца сэрца Свідэрскага роспаччу. Яго хітры план рассыпаўся прахам!

Спярша ён паспрабаваў сысці ў заходнім напрамку, ступіў на парослую травой і кветкамі раўніну. Ды аказалася, што пад раслінамі ды тонкім пластам зямлі — чорная вада. Ужо на трэцім кроку брудная вадкасць захлюпала ў Сяргеевых ботах, а на пятым — падабралася да каленяў.

Шэры павярнуў на ўсход — да мутных лужынаў, паміж якімі выгіналіся шэра-зялёныя пагоркі. Узышоў на бліжэйшы грудок — і пясчаная багна ўсмактала яго па пояс. Свідэрскі панічна зароў, ухапіўся за даўгі палын, які рос на ўскрайку выспы, папоўз назад. Толькі трываласць бляклых сцяблінаў і ўратавала яго ад дрыгвы.

Не зважаючы на камароў, якія абляпілі рукі ды твар, Сяргей дабрыў да сасны, абхапіў яе ствол, прыціснуўся, бы да самай дарагой істоты ў свеце, і застагнаў. Толькі гэтае дрэва і здавалася яму непахісным. Усё астатняе — няўстойлівае,

непрадказальнае, небяспечнае. Увесь свет пераўтварыўся для Шэрага ў балота, якое чакала яго — каб зацягнуць, жыўцом пахаваць...

Свідэрскі анічога не чуў, акрамя ўтрапёнага стуку сэрца ў грудзях. І анічога не адчуваў, акрамя страху і адчаю, якія хвалямі накатвалі на яго. Сяргей ужо не мог змусіць сябе не тое, каб адысці ад дрэва, а нават расшчапіць рукі. Адзінае, на што яшчэ быў ён здатны, — крычаць. І Шэры залямантаваў, амаль не чуючы ўласнага голасу:

— Ратуйце! Хто-небудзь! Калі ласка!

Чорнахвостая варона хоць і сядзела над галавой Свідэрскага, але таксама амаль не чула яго енкаў, не зважала на іх. А ўсё таму, што на суседнюю галіну сасны апусціўся крумкач — той самы, з якім птушка колькі дзён таму бачылася на вясковым агародзе. Той, пра каго не магла і дагэтуль забыцца. Ён, аказваецца, упарта шукаў яе. Нарэшце знайшоў!

Бліскучымі чорнымі вачыма буйны крумкач агледзеў шэракрылую птушку, прывітальна каркнуў, паляпаў крыллем. Варона пераскочыла на яго галіну, схіліла галаву. Крумкач далікатна торкнуў яе дзюбай у грудкі.

Радасна стала вароне ад усведамлення, што болей яна не адзінокая валацуга, што будзе з ёй заўсёды разам той, хто абароніць, дапаможа, пракорміць. Недарэмна яна столькі гойсала па свеце, шукала прытулак. Знайшла нарэшце!.. А яшчэ падказвала ёй чуццё, што будзе ў іх сваё ўтульнае гняздо і ўзаемная пяшчота. А прыйдзе пара — і народзяцца ў іх крумкачаня і вараняня, будуць дзюбы разяўляць, есці прасіць. Што ж, на балотах спажытку ўсім хопіць!..

І чорны птах ласкава туліўся да шэрай птушкі пад акампанемент жаласлівага плачу Свідэрскага:

— Дапамажыце! Гэй! Агу!..

* * *

Тым часам Юлька завяршыла свой расповед пераканаўчай заявай:

— Хлопцам пашанцавала, што я аказалася побач. Без мяне згінулі б…

Віктар іранічна ўсміхаўся, а Мірон залюбаваўся прыгажуняй — такой узнёсла-натхнёнай яна выглядала, калі сачыняла свае байкі. Пры гэтым пытанне, якім чынам юныя падарожнікі сюды патрапілі, дзяўчынка наогул не закранала. А хлопцы тактоўна прамаўчалі.

На траве валяліся пустыя талеркі ды кацялок. Мішка мог ужо і не мыць посуд — падлеткі ўсё дачыста пад’елі.

— Яшчэ ўранку адчуў дым вашага вогнішча, — пахваліўся Бенядзіктавіч. — Але не сказаў Сяргею. Мне ён ужо тады не падабаўся…

Паўднёвы вецер якраз данёс да іх лямант Свідэрскага.

— Я адна гэта чую? — удакладніла Юлька. — Ці мне мроіцца?

— Гэта наш чорны археолаг салаўём заліваецца, — вызначыў дзед. — Відаць, твані нахлябаўся. Цяпер, значыць, на купіне адпачывае, камароў корміць. Усе гарадскія на балотах паводзяць сябе аднолькава…

— Вы ведаеце, дзе ён цяпер? — спытаў Віктар.

— Але. У самую багну палез. Мясціны там каварныя.

— Няўжо вы там яго пакінеце? — пацікавіўся Мірон.

— Толькі на ноч. А як вернемся ў вёску, пазваню ў міліцыю. Прывяду іх сюды, а яны адканваіруюць капальніка куды трэба.

Ледзьве прагучала слова «вёска», як хлопцы паўскоквалі з пяску, усхвалявана пераглянуліся. Юлька ліслівая паглядзела на Бенядзіктавіча:

— Мы можам сысці адсюль? Вось так проста?

— Ну, калі не жадаеце яшчэ тут затрымацца, — пажартаваў дзед.

Юныя рабінзоны адмоўна пакруцілі галовамі. Ім так дадому хацелася!

— Тады вернемся на бераг, я вазьму дошку і — у дарогу, — сказаў стары, падымаючыся з бервяна.

— А доўга нам ісці? — усхвалявана спытаў Мірон.

— Калі выйдзем зараз, да прыцемак будзем на мацерыку, — Бенядзіктавіч улічыў вагу спадарожнікаў і адсутнасць у іх багажу.

Тады і Мішка задаў пытанне, якое не давала яму спакою:

— Як думаеце, Бенядзіктыч, суд улічыць чыстасардэчнае раскаянне?

— Ты добры хлопец, Міша, — вынес дзед вердыкт. — Многія ў жыцці памыляюцца. Не ў кожнага хопіць мудрасці прызнаць сваю памылку… Да таго ж, ты мяне і дзяцей ад смерці ўратаваў. Каштоўную знаходку здабыў для музея. Мяркую, гэта ўсё ўлічыцца.

— А мы сведкамі будзем, — заявіў Віктар. — А вы таго... Пагаварыце з нашымі дзядулем і бабуляй. І з бацькамі. Яны, пэўна, ужо з горада прымчаліся... І з бацькамі Мірона... Скажыце, што мы былі малайцамі.

— Пагавару, — дакляраваў Бенядзіктавіч.

Перад выправай Гардзейчык разрэзаў апошні каравай лустамі, раздаў падлеткам, якія пазасоўвалі хлеб па кішэнях штаноў: маўляў, каб падмацавацца, калі прагаладаюцца па дарозе. Затым хлопцы дапамаглі Мішку сабраць намёт і турыстычны рыштунак. Пакуль Гардзейчык спакоўваў заплечнік, Мірон і Віктар бадзёра абменьваліся ўражаннямі:

— Вось дык адпачынак у нас атрымаўся!

— Тут табе і караблекрушэнне, і бязлюдны востраў...

— Зусім, як у «Каралавым востраве» Балантая, — прыгадаў Віктар прачытаныя кніжкі. — Або ў «Рабінзоне Круза» Дэфо.

— А яшчэ — выкапаная скрыня з каштоўнасцямі да сапраўдны злодзей.

— Зусім, як у «Востраве скарбаў» Стывенсана. Або ў «Графе Мантэ-Крыста» Дзюма. Або ў «Трох талерах» Федарэнкі.

Адышоўшы ад сяброў крокаў на дзесяць, расчуленая Юлька ціха расплакалася ад радасці, затым выцерла слёзы, вынула з кішэні камбінезона акраец хлеба і пакрышыла на траву. Добра зведала дзяўчына пачуццё голаду і цяпер закарцела ёй, каб і якая-небудзь птушка таксама добра пад’ела, паласавалася, парадавалася жыццю.

Юлька пайшла назад да згаслага вогнішча, і не бачыла, як на паляну апусціліся чорны крумкач і шэрая варона. Енкі Свідэрскага ім надакучылі, прыляцелі сюды — і патрапілі на шчодры пачастунак. Буйнейшыя кавалкі хлеба крумкач перакідваў спадарожніцы, а тая ласкава каркала...

Тым часам юныя рабінзоны, Мішка і Бенядзіктавіч выйшлі на бераг. Дзед выцягнуў з прыбярэжных хмызоў сваю шырокую дошку-«масток», а Гардзейчык скінуў заплечнік на траву.

Перад доўгай дарогай усе пяцёра прыселі адпачыць.

— А ведаеце, вашая гісторыя нагадала мне адну кніжку, — загаварыў дзед. — У юнацтве яе чытаў. Імя аўтара, шчыра кажучы, не памятаю...

— Янка Маўр, — сказала Юлька.

— Так, сапраўды! А звалася яна...

— «Палескія рабінзоны».

— Малайчына, што кніжкі чытаеш, — ухваліў дзяўчыну стары.

Тая са сціплай усмешкай апусціла вочы.

— Але дзяўчат у аповесці Маўра не было, — строга паглядзеў на сястру Віктар. — І за гэтулькі гадоў шмат чаго на Палессі перамянілася.

— Самае галоўнае ніколі не зменіцца, — мружыў вочы Бенядзіктавіч.

— Што вы маеце на ўвазе? — паглядзеў на дзеда Мішка.

— Што сяброўства адолее любыя нягоды. Што свой край заслугоўвае любові ды пашаны. Што прыгажосць — паўсюль. І вакол нас, і ў нас. Трэба толькі распазнаць. Так заўсёды было. Так заўсёды будзе.

Паколькі Мішка не прыдумаў, як адрэагаваць на такія пастулаты, то з ухвалой сказаў Бенядзіктавічу:

— А вы, як пагляджу, філосаф.

— Пажыві на балотах семдзесят гадоў — і цябе на філасофію пацягне.

— А хочаце, я вам паспяваю? — раптам спытала Юлька.

Яна адчувала такое радаснае натхненне, што проста не магла маўчаць.

Стары і Мішка няўцямна паціснулі плячыма.

Хлопцы ад здзіўлення ажно вочы вытарашчылі.

— Ты ж казала, што мусіш голас берагчы, — прыгадаў Мірон.

— Справа тычылася не толькі голасу, — раскрыла сваю чарговую таямніцу дзяўчына. — Вялікіх артыстак трэба ўпрошваць.

І пакуль юнакі задаволена ўсміхаліся, дзяўчына адышла на пяць крокаў, павярнулася да публікі ды заспявала.

Слухалі яе сівы дзед, мужчына сярэдніх гадоў і падлеткі. І кожнаму з іх здавалася, быццам Юльчын мілагучны голас усё мацнее, узвышаецца і вось ужо ляціць над востравам, над цёмнымі водамі Прыпяці, над маляўнічымі балотамі, над усім Палессем.



*Міхась Пазнякоў нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1977). Працаваў настаўнікам, навуковым супрацоўнікам, пасля — галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», часопісаў «Вожык», «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці», «Час надзеі», «Любі і помні», «Святое правіла...» і многіх іншых. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі (1996), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2009).*

Міхась ПАЗНЯКОЎ

# І ЗАВАРОЖВАЕ СУСВЕТ...

* * *

Ты не кажы нічога мне, не трэба,
Любуйся моўчкі месяцам жывым,
Які нябачнаю рукою з неба
Нас абсыпае бляскам залатым.

Не ўзнікне пачуццёвага цунамі,
Хоць вельмі ты ласкавая са мной.
Ужо бяздонне змрочнае між намі
Палохае няверай і маной.

Лепш памаўчы, паслухай гукі ночы,
Салодкім словам час той не вярнуць,
Калі ўвесь свет і нашы сэрцы, вочы
Праменілі каханне і вясну.

Сплылі, знямелі, згаслі летуценні,
І хоць мы побач зноўку ў гэты час,
Ды з сумам поўня бачыць, што два цені
Пралеглі зараз на сцяне ад нас.

* * *

Басанож па дарожцы.
Як гэта не проста!
Ах, забыліся ногі мае,
Як скакалі ў маленстве
Па вуліцы жорсткай —
Па пяску, і камені,
І па крапіве.

Іх збіваў я і раніў,
Загойваў травою,
І ляцеў, і спяшаўся
Далей і далей.

І радніўся бліжэй
З дарагою зямлёю,
І было мне на сэрцы
Святлей і святлей.

Адвучыў мяне горад
Ад чуйнай размовы
З кожнай ціхай пясчынкай
Радзімай зямлі.
Ды цяпер буду зноўку
Вучыцца, каб словы
Мае
сэрцы людскія
Пяшчотай яе апяклі.

* * *

Чым больш жыву, тым болей
Адценняў набывае свет,
І прыбывае ў сэрцы болю,
І заварожвае сусвет.

І сэнс жыцця зямнога
У тым, каб тут, відаць,
Ачысціцца ад злога
І дабрынёю вечнай стаць.

## МАЯ АДЗІНОТА

Адзінай табе я адкрыю,
Упаўшы даверліва ніц,
І боль, што падсочвае крылы,
І слодыч жывых таямніц.

Адна ты ў мяне, нібы цнота,
Дарадца, надзейны мой схоў.
З табою, мая адзінота,
Сапраўдную волю знайшоў.

Відаць зразумею я потым,
Калі мой узвысіцца лёс:
З табою, мая адзінота.
Стасуецца тайна нябёс.

## СКРЫПАЧКА
## Ў ПАДЗЕМНЫМ ПЕРАХОДЗЕ

Круты мароз і вецер прыткі
Прыспешвалі ў падземны пераход,
А там трывожны голас скрыпкі
Нязвыкла шчыра сустракаў народ.

Усхваляваны, я пабачыў
Сярод натоўпу, ля глухой сцяны,
Дзяўчынку — юную скрыпачку
І футарал на бруку ледзяным.

Студзіў калючы холад рукі,
Ды яркі голас скрыпкі не глушыў,
Ліліся велічныя гукі,
Як слёзы пакаяльныя душы.

Чаму і што сюды загнала
Прыгожы, дзіўны талент малады?
Яму б стаяць прад чуйнай залай,
А не сярод прахожых і слаты.

...Іду, мяне сцінае сорам,
Душа, зніякавелая, баліць,
І ўслед бязлітасным дакорам
Мелодыя Агінскага гучыць.

* * *

Жыццярадаснае скерца
Самавіта граюць чараты.
Ціха месяц у азерцы
Плавае, бы лебедзь залаты.

Ноч дыхнула прахáлодай,
Узмахнуўшы прывíдным крылом.
Ліпень разлівае водар,
Бы частуе рэдкасным віном.

Я стаю, спатканне мрою
Нашае ў вясновыя гады...
Сорак год я жыў табою,
Пачуццём таемна-маладым.

Сорак год, як птушкі, міма
Праляцелі шпаркай чарадой,

Зноўку крыламі сваімі
І не ахінуўшы нас з табой.

Я сябе не папракаю.
І на лёс не стану наракаць.
Сонца ўвечар праважаю,
Каб уранні песняй сустракаць.

**ПРЫГАЖУНЯ**

Красы дзівосна-нечуванай,
З лагоднай, чыстаю душой,
Ішла па пляжы, а за ёй —
Сто позіркаў зачараваных.

І кожнай клеткай адчувала,
Як і ракушнік басанож,
Сваю святую прыгажосць,
І шчасця вечнага жадала.

Ішла, як з мора Афрадыта,
Цнатліва гледзячы вакол...
Сто сэрцаў біліся аб дол,
Амура стрэламі прабітых.

* * *

Маё багацце — шум бяроз,
І весніх яблынь звонкі квет,
І святламузыка стракоз,
І красак лугавых букет.

Маё багацце — звон зары,
І хвалі велічных жытоў,
Начныя чуйныя кастры,
І подых выспелых садоў.

Маё багацце — дзіўны спеў
У небе родным жаўрука,
Ручай, што змалку мне звінеў,
І ўся ў гарлачыках рака.

Маё багацце — смех дзятвы,
І позірк любасных вачэй,
І Беларусі дзень жывы,
Які за ўсё мне даражэй.

Дакладна шлях абраны мной
І ведаю, як трэба жыць,
Бо скарб мой у душы маёй,
І мне яго ўжо не згубіць.



Янка СІПАКОЎ



Янка Сіпакоў
нарадзіўся
ў вёсцы Зубрэвічы
Аршанскага раёна
Віцебскай вобласці.
Скончыў аддзяленне
журналістыкі БДУ.
Працаваў у часопісах
«Вожык», «Маладосць»,
«Беларусь».
Выдаў зборнікі паэзіі
і прозы
«Лірычны вырай», «Дзень»,
«Усміхніся мне»,
«Веча славянскіх балад»,
«Крыло цішыні»,
«Жанчына сярод мужчын»,
«Зубрэвіцкая сага»,
«Зялёны лісток
на планеце Зямля» і інш.
Лаўрэат
Дзяржаўнай прэміі
Рэспублікі Беларусь.

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

## *Кніга пра кнігі*

**ЭСЭ**

## ПАЛІЦА ПЕРШАЯ

***Я заўважыў яе каля рынку. Яна ласкава трымала на руках кацянятак, пяшчотна тулячы іх да грудзей. Кацяняткі былі вельмі чысценькія, дагледжаныя – як і сама жанчына. Яны былі такія ж ужо харошанькія, такія пушыстыя, што хацелася ўсіх адразу перасадзіць на свае далоні.***

***Кацяняткі разумнымі, даверлівымі вачанятамі, здаецца, глядзелі мне ў самую душу.***

***А перад імі стаяла кардоначка-ўмова з надпісам: «Аддам у ласкавыя рукі».***

***Вочы чалавека, які набывае кнігу, заўсёды радасныя і шчаслівыя. А калі ён з ёю развітваецца — зажураныя, вельмі зажураныя.***

***Але ж як яны загараюцца зноў — у таго, каму ты аддаеш сваю кнігу!***

***«Усяму свой час, і час кожнай рэчы пад небам… Час раскідаць камяні, і час збіраць камяні», — кажа Эклезіяст.***

***«Час збіраць камяні, і час думаць пра тое, як яны, камяні, будуць жыць без цябе і што, урэшце, рабіць з імі, сабранымі», — хочацца дадаць нам ад сябе.***

***Цікава, а дрэвам не бывае скрушна, калі яны ўвосень развітваюцца са сваімі лістамі?!***

### 1

За ўсё сваё жыццё я не сабраў сабе аніякіх скарбаў — ні золата, ні брыльянтаў, ні нават самых звычайных, пакамечаных і зашмальцаваных у шматлікіх кішэнях, папяровак.

І ўсё ж адна вельмі вялікая каштоўнасць, найдаражэйшы мой скарб, у мяне ёсць.

Я кажу пра маю хатнюю бібліятэку. Усё маё багацце — яна, яна, яна…

І, вядома ж, яны — кнігі .

Кнігі заўсёды былі маімі сябрамі. І іх было ў мяне шмат.

Часта я вітаўся з імі: «Добрай раніцы!» і, стомлены за дзень, жадаў ім: «Дабранач!»

З любым настроем і ў любы час дня і ночы падыходзіў я да кніжных паліц і заўсёды знаходзіў тое, што мне трэба было менавіта зараз, што ўціхамірвала, утаймоўвала, супакойвала мяне. Ці, наадварот, узбуджала.

Сваёй бібліятэцы я, можна сказаць, аддаў усё сваё жыццё. Здаецца, я амаль ніводнага дня не прыходзіў дадому без кнігі. А, здаралася, што вяртаўся і з двума важкімі пакункамі ў абедзвюх руках.

Што такое бібліятэка? Мой «Слоўнік замежных слоў», які я купіў 18 снежня 1957 года яшчэ студэнтам-трэцякурснікам аддзялення журналістыкі адзінага на той час Белдзяржуніверсітэта, сведчыць:

«Бібліятэка — 1) збор кніг; 2) памяшканне для захоўвання кніг; 3) установа, якая выдае кнігі для чытання».

Не, не і яшчэ раз — не! Ні першае, ні другое, ні трэцяе! Усё суха, дробязна. І прыблізна.

Бібліятэка — гэта, на мой погляд, сабраны разам увесь розум чалавецтва за ўсе часы і народы з таго моманту, як патухлая зорка Зямля зрабілася жывою, скарб, якім можа бесперашкодна і з радасцю карыстацца кожны чалавек на планеце.

Бібліятэка — гэта сувязь часоў. Яна прыбірае ўсе межы, яднае адлегласці, эпохі, народы. Тут жа Гамер і тут жа Карл Маркс. Вавіланяне і вось яны побач, паэты Украіны. Канфуцый, Цыцэрон, Герадот, Авідзій і нашы Максім Танк і Алесь Пісьмянкоў.

Усе даступныя, усе як сучаснікі. Пазамінулае тысячагоддзе і тысячагоддзе, якое толькі пачалося. Дванаццатае стагоддзе і поручкі стагоддзе дваццаць першае.

Бібліятэка — гэта схова, прыстанішча ад мітусні і зласлівасці. Кнігі — гэта наш спакой. Душэўны.

Бібліятэкі не даюць чалавеку расчалавечвацца. Можа, таму толькі сёй-той ужо спрабуе бібліятэкі называць перажыткам сацыялізму. І пачынае змагацца з імі, як яшчэ нядаўна змагаліся з рэлігіяй.

Але ж чалавек, які чытае кнігу, — шчаслівы чалавек.

Ды і бібліятэка — гэта сама чысціня, давер, парадак. І цішыня. Дзе яшчэ, як не ў бібліятэцы, можна пачуць затоенае, як дыханне, шалясценне кніжных старонак?! Якое не парушае цішыні, а, наадварот, упрыгожвае яе.

Маё дзяцінства — гэта кнігі. Мы, дзеці вайны, чыталі апантана. На перапынках у школе хуценька рабілі ўрокі на заўтра, каб дома нішто не замінала нам сустрэцца з любімаю кнігаю, з любімымі героямі, каб хутчэй даведацца, што з імі адбывалася далей.

Разумеючы час і эпоху, усё ж з болем успрымаеш відавочнае: сённяшняя моладзь, пакаленне Пепсі, Маўглі, камп'ютарных монстраў ды памперсаў, кніг амаль зусім не чытае…

Кнігалюбы лічылі маю бібліятэку адной з лепшых у Мінску. Я ж так не лічыў. Бо ведаў сапраўдных асаў «палявання на кнігу», сярод якіх быў і мой самы блізкі — ад студэнцкіх год і на ўсё жыццё — сябра Барыс Сачанка.

Я ж збіраў жывую бібліятэку.

Значыць, кнігі былі мае сябры, і было іх у мяне шмат.

Я шанаваў кожную кнігу. Браўся разглядаць новыя набыткі свае толькі шчыра памыўшы рукі. Нікому не дазваляў загінаць у кнігах старонкі, крэсліць іх. Я любіў кнігу і таму шанаваў яе, даражыў ёю.

А памятаеш, як шанаваў кнігу Гогаль? Мікалай Васільевіч. Яшчэ будучы юнаком. У Нежыне. У гімназіі.

Пачакай, дык а дзе ж гэта ты чытаў? А, у «Праметэі». У гісторыка-біяграфічным альманаху з серыі «ЖЗЛ». Вось ён, том трынаццаты. «Кнігі для Гогаля». «Любоў да кнігі была страсцю Гогаля». Першы біёграф пісьменніка П. А. Куліш расказвае, што, калі Гогаль быў у Нежыне, ён з'яўляўся захавальнікам бібліятэкі, якую гімназісты выпісвалі на агульную складчыну. Абавязкі свае гімназіст Гогаль выконваў надзвычай старанна. «Кнігі выдаваліся бібліятэкарам для чытання па чарзе. Той, хто атрымаў для прачытання кнігу, павінен быў у прысутнасці бібліятэкара ўсесціся паважна на лаўку ў класнай зале, на паказаным яму месцы, і не ўставаць з месца да таго часу, пакуль не верне кнігу. Гэтага мала: бібліятэкар уласнаручна загортваў у паперкі вялікі і ўказальны пальцы кожнаму чытачу, і толькі тады давяраў яму кнігу. Гогаль бярог кнігі, як каштоўнасць».

У Мікалая Васільевіча была свая вялікая бібліятэка. Аднак у апошнія месяцы яго жыцця пры ім было ўсяго 234 кнігі: рускіх кніг у пераплётах 87 і такіх жа без пераплётаў 63; замежных кніг у пераплётах 57. І такіх жа без пераплётаў 27.

А ў ліпені ж 1841 года з Масквы ў Рым, дзе на той час знаходзіўся Гогаль, толькі адпаведна рэестру было адпраўлена 363 кнігі з яго збору. Дык дзе ж падзеліся астатнія кнігі? Дзе, урэшце, уся яго бібліятэка?

У жыцці і смерці Гогаля было шмат таямніц.

І гэта таксама адна з такіх загадак.

Значыць, Мікалай Васільевіч Гогаль загортваў пальцы чытачоў у паперкі. Каб не пэпсавалі старонак.

Ведаеце, як і мне, калі я аддаваў каму-небудзь кнігі з маёй бібліятэкі, хацелася рабіць тое ж самае!

Мой аднакласнік, мой зубрэвіцкі сябра Толя Круцікаў, калі мы ўжо жылі ў Мінску, неяк выпрасіў у мяне пачытаць «Архіпелаг ГУЛАГ». Трохтомнік. Вялікія такія, важкія кнігі. Чысценькія і акуратненькія. Рэпрынтнае ўзнаўленне са збору твораў А. І. Салжаніцына, выдадзенага ў Францыі (Вермонт, Парыж).

Толю я не мог адмовіць. Мы з ім яшчэ ў школе прачыталі ўсё, што можна было знайсці ў Зубрэвічах. Потым хадзілі па кнігі ў Дубраўку, дзе пры сельсавеце была бібліятэка. Якая там бібліятэка! Усяго толькі адна шафа з кнігамі, што самотна стаяла каля сцяны. Мы справіліся з ёю хутка.

Дасюль памятаю тое нечакана прыемнае ўражанне, якое зрабіла на мяне кніжачка Івана Мележа «Гарачы жнівень», знойдзеная ў гэтай бібліятэцы. Другая кніга пісьменніка. Але тады, у школе, я не ведаў, другая яна ці першая ў Мележа. Не ведаў, што Іван Паўлавіч даражыў ёю — яна яму таксама падабалася. Для мяне яна, маленькая, была ўжо Кнігаю! Гэткай жа, як і першая кніга Янкі Брыля «У Забалоцці днее», якая выйшла ў 1951 годзе і якую я купіў яшчэ школьнікам. Першая кніга пісьменніка, якая была так высока ўганаравана — яна атрымала Сталінскую прэмію. Хтосьці з зубраўцоў, калі пасвіў у сваю рату кароў, узяў яе ў мяне пачытаць у полі. І пакінуў у канцы сваю рэцэнзію: «Очань інцярэсная кніга».

Здаецца, там, у той дубраўскай шафе, мы нечакана знайшлі і старую, старадаўнюю кнігу — з яць, з дзіўным загалоўкам: «Дон Кишот Ламанческий» — і прачыталі яе.

У Толі ўжо тады была свая бібліятэка. Ён трымаў свае кнігі на гарышчы і таму старэйшыя зубраўцы пры сустрэчы, убачыўшы ў ягоных руках новую кнігу, усміхаліся:

— У цябе там яшчэ столь у хаце не праламілася ад іх?

Час быў цяжкі, пасляваенны — мы ж пайшлі ў школу, калі яшчэ грымела вайна. А Беларусь ужо вызвалілі, і школа сабрала нас, дзяцей вайны — галодных і босых. Але з вялікаю прагаю вучыцца.

Тады была ва ўсім строгасць. І быў вялікі голад. Выключна на ўсё. І на кнігу — таксама.

Памятаю, як Захар Міхайлавіч Рубанаў, наш настаўнік па рускай літаратуры, а потым і дырэктар школы, даверыў нам з Толем, даў пачытаць па вельмі вялікім сакрэце, папярэдзіўшы, каб нікому не паказвалі і не гаварылі пра гэта, томік вершаў вялікага рускага лірыка Сяргея Ясеніна, які на той час быў у СССР чамусьці забаронены.

Да гэтага часу памятаю тую вабную кніжачку з беластволымі бярозамі на вокладцы — яе адразу ж хацелася разгарнуць і чытаць.

Там, где капустные грядки
Красной водой поливает восход,
Кленёночек маленький матке
Зелёное вымя сосёт.

І гэта напісаў пятнаццацігадовы хлапчук? Неверагодна! І мне ж, калі я чытаў кнігу, было амаль столькі ж… Дзіця… Нічога сабе, карапуз!

А гэта:

Поет зима — аукает,
Мохнатый лес баюкает
Стозвоном сосняка.
Кругом с тоской глубокою
Плывут в страну далекую
Седые облака.

Ды гэта ж сама музыка! Чуеце: о-а-у… Сапраўды «аукает»! У араторыі, якую выдатны рускі кампазітар Георгій Свірыдаў напісаў на выдатныя вершы Сяргея Ясеніна і якую я вельмі люблю і зараз, гэтыя словы і гукі, здаецца, з’яўляюцца ці не ключавымі.

Тая кніга назаўсёды зрабіла мяне прыхільнікам паэзіі гэтага сапраўднага лірыка, ці як яго потым назавуць наступныя пакаленні, — рускага салаўя.

Я і па гэты дзень ведаю на памяць шмат ягоных вершаў: «Вы помните, вы всё, конечно, помните». «Ты меня не любишь, не жалеешь», «Черный человек» і інш.

У маёй бібліятэцы ёсць аж два зборы твораў Сяргея Ясеніна — адзін, шасцітомны, такі, якім бы яго хацеў бачыць і сам паэт, якім ён склаў яго яшчэ пры жыцці, і другі — зялёненькі такі, вельмі прывабны, які мне прысылалі — кожны том — накладною платаю аж з Пастаў: быў там у камандзіроўцы, натрапіў на падпіску, адстаяў у чарзе. І падпісаўся! Праўда, пяты, апошні том, дзяўчаты з кнігарні не прыслалі — навошта, за яго ж ужо было заплачана, — і мне давялося даставаць яго ў букіністаў.

Я вельмі люблю гэтае выданне. У ім і наіўная, вучнёўская аповесць «Яр», у якой відаць, як паэт старанна вучыцца пісаць прозу: «Па акенцах куп’істага балота слізгалі ваўкі. Буры важак пацягнуў носам і клацнуў зубамі. Прымоўклая зграя ўчула здабычу»; і «Персідскія матывы»; і «Краіна нягоднікаў», за што, мусіць, паэт і заплаціў сваім жыццём; і вершы з «Масквы кабацкай», пасля якой нават звычайныя вершы, шчырыя на пачуццё, ва ўсіх, без выключэння, савецкіх паэтаў абзываліся ясеніншчынай; і чыстая, як сляза, сапраўдная-сапраўдная, шчырая-шчырая, аж баліць, паэзія рускай душы вялікага рускага паэта. Ва ўсіх пяці тамах!

У выданні шмат унікальных фотаздымкаў: Ясенін сярод сялян вёскі Канстанцінава; цудоўны партрэт кучаравага паэта з люлькаю, зроблены ў 1919 годзе; партрэт, зняты ў апошні год жыцця — якая чысціня, шчырасць, дабрата, давер і наіўнасць у вачах! А вось 1912 год, Сяргей з сёстрамі Кацяй і Шурай: старэйшая манерна паклала на нагу брата сваю ручку, а меншанькую, якая сядзіць ля яго, Сяргей прытрымлівае рукамі. І ўсе такія чысценькія, дагледжаныя. І прыгожыя.

Успаміны пра Сяргея Ясеніна. Пад рэдакцыяй Юрыя Прокушава. Выдадзеныя ў 1975 годзе.

Ясеніна пастулова, але настойліва, вярталі ў рускую і савецкую паэзію. Паэта, які жыў, «волнуясь сердцем и стихом». Ён не займаўся паэзіяй, ён дыхаў ёю пастаянна.

Адзін з сучаснікаў спытаўся ў яго:

— Вечна ты бадзяешся, Сяргей. Калі ж ты пішаш?

— Заўсёды, — адказаў Ясенін.

Кнігу ўспамінаў, як гэта і мае быць, адкрываюць сёстры. Тыя самыя маленечкія дзяўчаткі Каця і Шура, што на здымку. Аказваецца, у іх абедзвюх ёсць свой літаратурны склад, свой стыль. Кацярына Аляксандраўна стварае своеасаблівы партрэт узаемаадносін брата з мясцовай барыняй Лідзіяй Іванаўнай Кашынай, якая адна жыла ў панскай сядзібе, у двухпавярховым доме ў вялікім панскім садзе. Значыць, «Ганна Снегіна» — не выдумка паэта, а рэальная жанчына. Як рэальнае, мне так здаецца, і каханне, расказанае ў паэме.

Когда-то у той вон калитки
Мне было шестнадцать лет.
И девушка в белой накидке
Сказала мне слово: «Нет!»
Далекие милые были!..
Тот образ во мне не угас.
Мы все в эти годы любили,
Но, значит, любили и нас.

Я веру кожнаму слову паэта. Бо цяпер, пасля ўспамінаў Каці і Шуры для мяне гэтая ягоная паэма — аўтабіяграфічная.

Калісьці вельмі хацеў мець «Раман без хлусні» Марыенгофа. Гэтая кніга была ў Сяргея Дзяргая, які нам усім, маладым і пачынаючым пісьменнікам, быў нібыта за няньку.

Я папрасіў у Сяргея Сцяпанавіча пачытаць «Раман без хлусні», а пачытаўшы — вярнуў. Хацелася выканькаць кнігу назаўсёды, але не адважыўся. Бо адчуваў — не аддасць. Настаўнік сам даражыў ёю.

У Ясеніна ёсць верш «Развітанне з Марыенгофам».

Ах, Толя, Толя, ты ли, ты ли.
В который миг, в который раз —
Опять, как молоко застыли
Круги недвижущихся глаз.

Прощай, прощай. В пожарах лунных
Дождусь ли радостного дня?
Среди прославленных и юных
Ты был всех лучше для меня.

В такой-то срок, в таком-то годе
Мы встретимся, быть может, вновь…
Мне страшно, — ведь душа проходит,
Как молодость и как любовь.

Гэты верш быў напісаны паэтам перад яго паездкаю вясною 1922 года за мяжу і падараваны Марыенгофу. З'явіўся верш у друку тады, калі Ясенін быў за мяжою. Аднак Сяргей Аляксандравіч потым не ўключаў яго ні ў адзін са сваіх зборнікаў. Нібыта прадчуваючы, што пасля яго смерці Толя напіша аб ім не вельмі далікатны «Раман без хлусні», які нават тагачасная «Літаратурная энцыклапедыя» пад рэдакцыяй А. В. Луначарскага моцна пакрытыкавала:

«Акрамя вершаў, Марыенгоф выпусціў аўтабіяграфічны «Раман без хлусні», прысвечаны галоўным чынам інтымным бакам жыцця Ясеніна і свайго ўласнага. Эгацэнтрычная бесцырымоннасць, самаўлюбёнасць, схільнасць да таннай сенсацыі робяць гэту кнігу аднačасова і бульварна-мяшчанскай чытанінай і дэманстрацыяй буржуа, які апусціўся супраць новага ўкладу жыцця, што ствараецца рэвалюцыяй».

А сам Ясенін, вярнуўшыся з-за мяжы, напісаў вельмі характэрны верш:

Грубым дается радость.
Нежным дается печаль.
Мне ничего не надо,
Мне никого не жаль…

А на улице мальчик сопливый.
Воздух поджарен и сух.
Мальчик такой счастливый
И ковыряет в носу.

Ковыряй, ковыряй, мой милый,
Суй туда палец весь,
Только вот с эфтой силой
В душу свою не лезь.

У мяне і сёння на кніжных паліцах стаяць успаміны Матвея Ройзмана «Усё, што памятаю пра Ясеніна». Вось радкі толькі са зместу:

«Ясенін разважае пра «Моцарта і Сальеры». «Ясенін расказвае пра сябе». «Суд над імажыністамі. Выступленне Маякоўскага. Водпаведзь Ясеніна». «Галя Беніслаўская». «Пісьмо Канстанціна Ясеніна». «Сварка Ясеніна з Марыенгофам», «Выступленне Рурыка Іўнева».

Рурык Іўнеў, якога сябры, жартуючы, называлі «блукаючай ныркай імажынізму», быў лепшым сябрам Ясеніна. Вось яго кніга «Каля падножжа Мтацмінды». А ў ёй — успаміны «Пра Сяргея Ясеніна».

Іх Рурык Іўнеў пачынае нечакана:

«Самымі праўдзівымі мемуарамі лічаць «Споведзь» Жан-Жака Русо. Але я ніколі не забуду, што сказаў аднойчы Вячаслаў Іваноў: «Русо думаў, што ён даў крайне праўдзівую споведзь, аднак яна атрымалася ў яго самай ілжывай, так як ён перакрывіў у ёй да непазнавальнасці свой уласны вобраз, сказіў свядома, мяркуючы, што смакаванне сваіх недахопаў ёсць найвышэйшая праўдзівасць.

А самая вялікая вартасць мемуараў — гэта тое, калі аўтар дае праўдзівы вобраз чалавека, а не адны праўдзівыя факты».

Менавіта такім праўдзівым і атрымаўся вобраз Сяргея Ясеніна ва ўспамінах Рурыка Іўнева. Мемуарыст не вышукваў у памяці нейкія непрыстойныя факты, а ствараў дастойны партрэт сябра. І свой — таксама.

Рурык Іўнеў быў вельмі таленавіты паэт:

Сурова жизнь — и все ж она
Елейно иногда нежна.
Раз навсегда уйди от зла,

Гори, но не сгорай дотла.
Есть столько радостей на свете,
Юнее будь душой, чем дети.

Гэта з яго акраверша, прысвечанага Сяргею Ясеніну і напісанага ў 1919 годзе. Тады, калі сябра яшчэ быў жывы. У кнізе «Выбраныя вершы», з якой узята цытата, каля 15 аркушаў дабротнай, таленавітай паэзіі лепшага сябра Ясеніна, вершаў, напісаных за шэсць дзясяткаў гадоў (1912—1972).

А зараз з вашага дазволу, я дам слова жанчыне, якая, з яе слоў, «пачала танцаваць яшчэ ў лоне маці, верагодна, у выніку таго, што тая, цяжарная ёю, не могучы нічога есці, харчавалася толькі вустрыцамі ды шампанскім».

Той жанчыне, пра якую сам Сяргей Ясенін пісаў:

И какую-то женщину,
Сорока с лишним лет,
Называл скверной девочкой
И своею милою.

Айседора Дункан. «Маё жыццё. Мая Расія. Мой Ясенін». Успаміны.

У слыннай амерыканскай танцаўшчыцы свой падыход да ўспамінаў. Ёй, наадварот, падабаецца «Споведзь» Жан-Жака Русо. «Кожны, хто выкладзе сваё жыццё праўдзіва, — кажа Дункан, — напіша надзвычайную кнігу. Аднак ніхто яшчэ не асмеліўся напісаць праўду, і толькі Жан-Жак Русо прынёс гэтую найвышэйшую ахвяру чалавецтву, раскрыўшы праўду сваёй душы, сваіх самых інтымных учынкаў і думак… Ніводная жанчына яшчэ не расказала праўду пра сваё жыццё. Аўтабіяграфіі большасці жанчын уяўляюць сабою выкладанне бачнага існавання, дробязных падрабязнасцей і эпізодаў, якія не адлюстроўваюць іх сапраўднага жыцця. Пра важнейшыя моманты радасці і пакут аўтары, як ні дзіўна, не пішуць».

Гэта ў прадмове. А ў трэцім раздзеле яна ўжо расказвае пра сваю вялікую мэту:

«Я адкрыла сакрэт танца. Я адкрыла мастацтва, якое страчана ўжо дзве тысячы гадоў… Я прынесла вам танец. Я прынесла вам ідэю, якая зробіць пераварот ва ўсёй нашай эпосе. Дзе я адкрыла яе? Каля Ціхага акіяна, у сасновых лясах Сьера-Невады. Я бачу ідэальную постаць юнай Амерыкі, якая танцуе на вяршыні Скалістых гор».

Чакай, чакай. Гэта ўжо мне аднекуль знаёмае. А, то ж Уітмен. Паэт, якога я вельмі люблю і адзіную ягоную кнігу «Лісце травы» пераклаў на беларускую мову.

Ага, я не памыляюся: Айседора Дункан любіць таксама Уітмена! Яна піша: «Я адкрыла танец, варты паэмы Уітмена. Найвышэйшым паэтам нашай краіны з’яўляецца Уолт Уітмен. Я ствару для дзяцей Амерыкі новы танец, які адлюструе Амерыку».

А вось як пра тую ж любоў да сваёй краіны гаворыць і Уолт Уітмен, паэт, які ўсё ўспрымаў на фоне бясконцага па часе і прасторы Сусвету. Цытату я падаю ў сваім перакладзе:

Я пасею і выгадую, нібы густалістыя дрэвы,
суполкі сяброў і таварыстваў уздоўж усіх амерыканскіх рэк,
і на ўзбярэжжах вялікіх азёр, і ўсюды па прэрыях.
Я ствару гарады неразлучныя,
якія пакладуць адзін аднаму свае рукі на плечы…

А некаторыя згадкі Дункан пра Уітмена нават для мяне, здавалася б, добра знаёмага з жыццём і творчасцю паэта, былі невядомыя:

«Уолт Уітмен напісаў праўду пра Амерыку. Адзін час пошце забаранялі прымаць яго кнігу да перасылкі як «амаральную». Такая ацэнка цяпер здаецца нам недарэчнаю».

Кнігу забаранялі нават перасылаць? І праўда, глупства! Як амаральную? Лухта!

І вось Айседора Дункан робіцца жонкай Сяргея Ясеніна. Неяк хутка, амаль імгненна. Яна — шчыра любіць сваю Амерыку, ён — да самазабыцця любіць сваю Расію.

І несумненна — абое любяць адно аднаго.

Дункан палюбіла рускага паэта, па сутнасці, яшчэ хлапчука, пасля найвялікшай сваёй трагедыі. Яе дзетак, Патрыка і Дзердры, у закрытай аўтамашыне змыў дождж у Сену.

Вось як у сваіх успамінах пра Айседору «Нерасказаная гісторыя» піша пра гэта яе сяброўка Мэры Дэсці:

«Аўтамабіль, у якім яна (няня-англічанка) і дзеці патанулі, быў з закрытым верхам, і пакуль ён напаўняўся вадою, няня прыціскала дзяцей да грудзей, спрабавала прыкрыць іх пледам і з адчаем і жахам глядзела, як марудна набліжаецца смерць».

Сама ж Дункан успамінае тое, здавалася б, шчаслівае ранне:

«Патрык бушаніў болей, чым заўсёды. Забаўляючыся, ён пераварочваў крэслы, і калі крэсла падала, Патрык крычаў ад радасці».

«Чароўнасць вясны і выгляд маіх дзяцей, румяных, прыгожых і шчаслівых, усялялі ў мяне такую радасць, што я раптоўна выскачыла з пасцелі і пачала танцаваць з імі. Мы ўтраіх заліваліся смехам. Няня, усміхаючыся, глядзела на нас».

І ўсё ж:

«Пацалаваўшы дзяцей, я сказала:

— Я хутка вярнуся!

На развітанне Дзердры прыціснула вусны да шкла. Нагнуўшыся, я пацалавала шкло з другога боку у тым жа месцы. Дакрананне да халоднага шкла пакінула ў мяне трывожны асадак».

Як выразна ўсё ўспамінаецца ёй пасля трагедыі!

І вось ён. Сярожа. Таксама, хоць і малады, аднак са сваімі клопатамі і праблемамі.

Успаміны Дункан заканчваюцца яе прыездам у Расію, у СССР:

«Бывай, Стары Свет! Прывітанне Новаму Свету!»

Яна прыняла «рускую рэвалюцыю» і прыехала дапамагаць ёй.

А пра Айседору і Сярожу зноў жа ва ўспамінах яе сяброўкі Мэры Дэсці. У яе «Нерасказанай гісторыі».

«Раптам дзверы з трэскам расчыніліся, і перад Айседорай узнік самы прыгожы твар, які яна калі-небудзь бачыла ў жыцці, апраўлены залатымі, цудоўнымі кучарамі, з поглядам блакітных вачэй, які пранікаў у душу. Паэта і танцаўшчыцу не спатрэбілася прадстаўляць адно аднаму. Гэта быў лёс. Яна адкрыла абдымкі, і ён упаў на калені, прыціскаючы яе да сябе, прамаўляючы: «Айседора, Айседора, мая, мая!»

Потым яна ўжо не памятала, як танцавала, як Ясенін чытаў вершы, як яны прыехалі да яе дадому. Яна памятала толькі «галаву з залатымі кучарамі», якая ляжала ў яе на грудзях і словы «Айседора, Айседора, мая, мая!» і да самай смерці гаварыла, што памятае, як яго блакітныя вочы глядзелі ў яе вочы і як у яе з’явілася адзінае пачуццё — закалыхаць яго, каб ён адпачыў, яе маленькае, залатавалосае дзіця».

«З гэтага дня ў Айседоры не было ні гадзіны спакою, і вельмі хутка яна зразумела, што малады паэт не толькі вялікі геній, але і вар’ят. За ім заўсёды хадзіла група прыяцеляў, якія яго ні на хвіліну не пакідалі і не давалі ім застацца ўдваіх».

Яны, Сяргей і Айседора, часта бывалі ў Сяргея Канёнкава. Яны любілі да яго заходзіць, і ён любіў іх бачыць у сваёй майстэрні: сядзіць, нешта стругае… Можа, новага Ягора-пасечніка. А, можа, ужо і яго самога, Ясеніна, выразае, вызваляе з дрэва.

Партрэт Сяргея Ясеніна спачатку быў зроблены ў гліне з натуры, а потым па памяці ўжо пераведзены ў дрэва.

Дастаю з кніжнай паліцы томік «Канёнкаў». У серыі «Жыццё ў мастацтве». Вось гэта драўляная скульптура. Кампазіцыя бюста ўнікальная. Канёнкаў звычайна любіў заканчваць усе свае працы, а тут закончана толькі адна галава, а ўсе астатнія дэталі дадзены фрагментарна. Скульптар падкрэсліваў, што бачыць паэта ў хвіліны найвышэйшага творчага ўсплёску і таму імкнуўся схапіць самае галоўнае ў ім.

Яны, не зважаючы на розніцу ў гадах, вельмі сябравалі. Абодва былі славутымі сялянамі, і, трапіўшы ў горад, сумавалі без сваіх вёсак. Нават Анатоль Марыенгоф пісаў пра гэта ў сваім «Рамане без хлусні». Той Марыенгоф, які ўсчынаў сварку з кожным, хто пры ім гаварыў, што Ясенін піша лепш за яго. Канёнкаў любіў Ясеніна і казаў, што больш яркай і гарачай прыхільнасці за ўсё сваё жыццё ён не ведаў ні да аднаго са сваіх сяброў. Канёнкаў бываў у Ясеніных. Ясеніны бывалі ў яго. Балерыну Айседору Дункан ён і ляпіў, і маляваў, аднак з выяў яе амаль нічога не засталося.

Сярод іншых работ Канёнкава мне найперш хочацца ўспомніць тут выдатны «Аўтапартрэт» самога скульптара ды «Паганіні» ў мармуры — вытанчаны і элегантны шэдэўр вялікага віртуоза скрыпкі, месцазнаходжанне якога і зараз невядома. «Кампанелай» Паганіні я захапляюся даўно і, слухаючы, разумею, чаму сучасныя кампазітары не могуць не толькі выканаць, а нават і расчытаць некаторыя яго творы.

Дункан і Радэн.

«Потым я спынілася, каб растлумачыць яму мае тэорыі новага танца, — успамінае славутая танцоўшчыца. — Але неўзабаве зразумела, што ён мяне не слухае. Ён пільна глядзеў на мяне, вочы яго блішчэлі з-пад напаўапушчаных павек, а затым з тым жа выразам, які быў на яго твары, калі ён стаяў перад сваімі работамі, ён падышоў да мяне. Яго рукі слізгалі па маёй шыі, грудзях, пагладзілі мае плечы, прайшліся па бёдрах, па аголеных каленях і ступнях. Ён пачаў мяць усё маё цела, нібыта яно было з гліны. Ад яго веяла такім жарам, які хваляваў і абпальваў мяне. Мяне ахапіла жаданне аддацца яму ўсёй сваёю істотаю, і, сапраўды, я б зрабіла так, калі б мяне не спыніў сполах, выкліканы маім недарэчным выхаваннем. Я адступілася, накінула сукенку зверху тунікі і, збянтэжаная, прагнала яго. Як шкада! Як часта я раскайвалася ў гэтым ілжывым дзяцінным разуменні, якое пазбавіла мяне выпадку аддаць сваю нявіннасць самаму вялікаму Пану, магутнаму Радэну».

Ага, усё ў жыцці ўзаемазвязана, і наша жыццё ўжо само па сабе ёсць неймаверны і неверагодны сюжэт.

Для мяне Радэн — гэта, зразумела, «Пацалунак», «Мысліцель» ды шчымліва-пранізлівая «Тая, што была цудоўнай Аміер» — трагічны вобраз старасці.

І скульптура-помнік «Грамадзяне Кале», якую заказаў Радэну горад Кале.

У 1347 годзе, калі французскі горад, абложаны англійскім войскам караля Эдуарда III, не здаваўся і калі кароль паабяцаў яго зруйнаваць разам з насельніцтвам, каб ўратаваць людзей, да заваёўнікаў з вяроўкамі на шыі і ключамі ад горада ў руках выйшлі заложнікі — шэсць грамадзян Кале.

Спачатку думалі рабіць помнік аднаму з заложнікаў. Але Радэн настаяў на сваім — калі і рабіць гэты помнік, то ствараць скульптуры трэба ўсіх шасці. Праца цяжкая, але высакародная.

Групу чамусьці паставілі на высокі п’едэстал. Так, на вышыні, яна не глядзелася. Радэн злаваўся, быў незадаволены. Заложнікі павінны ісці па зямлі! Калі прыбралі пастамент — скульптар супакоіўся: людзі, босыя, як зазвычай, як заўсёды, ідуць па зямлі. Так, як і было задумана.

Яны і цяпер, шасцёра адважных, ідуць на смерць. Бачыце іх рукі? Яны, раскрытыя, растуленыя, развітваюцца з жыццём, як птушку, выпускаюць яго са сваіх далоняў…

А радэнаўская «Рука Бога»! Невядома адкуль яна, вельмі высліжаная, вырастае, узнімаецца і трымае ў нейкіх невядомых і недасяжных вышынях кавалак усё той жа неапрацаванай, як цвердзь, пароды, у якую ўпрасавана тысячагоддзямі белае, таксама высліжанае, мармуровае чалавечае цела.

А «Вечная вясна»! «Мармуровая глыба, на якой напаўляжаць закаханыя. Скала зрабілася нібыта абрамленнем фігур, і, махнуўшы рукою на ўсе прымхі, ён узяўся за сонечнага Адоніса, які абдымае зіхоткую німфу, што абвілася ва ўсхваляваным выгіне вакол цела свайго каханага. У гэтых, перапоўненых пачуццёваю знямогаю, постацях ён увекавечыў Камілу і сябе», — так напісаў у рамане-біяграфіі Радэна «Голым прыйшоў я» Дэвід Вейс, у кнізе, якая выйшла ў той жа вельмі папулярнай у СССР серыі «Жыццё ў мастацтве».

З кім яна, Айседора Дункан, толькі не сябравала!

«Аднойчы яна (Джульета Мендэльсон) запрасіла нас усіх танцаваць перад Элеанорай Дузэ».

І вось ужо:

«Мы ўсе паехалі экспрэсам, які ішоў у Фларэнцыю: Элеанора Дузэ, Крэг, Мэры Кіст і я з дзіцем».

Дзіцятка было немаўляткам — яно толькі што нарадзілася. Яны з Крэгам назвалі дзяўчынку Дзердры, што значыць улюбёная Ірландыі.

«У дарозе я няньчыла дзіця, аднак у мяне сапсавалася малако, і мне давялося карміць яго з бутэлечкі».

Цікава, а ці ёсць яны, славутыя, у нашай «БелСЭ» — «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі».

Дункан — няма. А Дузэ — ёсць: італьянская актрыса, з акцёрскай сям'і, выступала ў італьянскіх вандроўных трупах, арганізавала сваю, вызначалася праўдзівасцю і філіграннным майстэрствам…

«Пачаліся першыя дыскусіі, у якіх я была перакладчыцай паміж Крэгам, які не разумеў ні па-французску, ні па-італьянску, і Дузэ, якая не ведала ніводнага слова па-англійску».

Дык вось, Элеанора Дузэ… Кніга пра яе выйшла зноў жа ў серыі «Жыццё ў мастацтве».

Стой, стой, стой, хлопча… Ну і разгаварыўся ж ты! Спыніся, дружа, агледзься. А то нанізваеш усё, як на нітачку: гэта кніга, а тады гэта, а потым вунь тая… Няма стройнасці і прадуманасці сюжэта.

Прабач, а чым гэта дрэнна? Можа, яно якраз і добра, што ўсё чапляецца? Можа, менавіта гэта і ёсць сюжэт? Натуральнасць аповеда. Нязмушаная ручаіна, плынь свядомасці.

Значыць, на чым жа мы там, у самым пачатку сваёй працы, спыніліся? Ад чаго адхіліліся?

Ага, я расказваў, як мой школьны таварыш Толя Круцікаў выпрасіў у мяне пачытаць трохтомны «Архіпелаг ГУЛАГ» і потым вярнуў яго. Я, шчыра кажучы, жахнуўся, якімі ён вярнуў мне кнігі. Я не пазнаў іх!

Не, не скажу, што Толя не шанаваў кнігу. Не, ён таксама вельмі даражыў кнігаю і бярог яе. Чытаючы, каб захаваць чысціню выдання, старанна абгортваў яго.

Але ж… У Толі была дача, і ён часта ездзіў на яе. І браў з сабою «Архіпелаг ГУЛАГ». Вы не ўяўляеце, як ён яго занасіў, а правільней, завазіў, чытаў кнігу, едучы

на дачу і вяртаючыся адтуль, чытаў у вагонах электрычкі і на сваіх сотках, у сваім бунгала, а яна ж, дача, патрабуе працы з зямлёю, а зямля ж, колькі ні мый рукі, ўсё роўна не вельмі адмываецца.

Сварыўся я на сябра? Крыху. Але ж падараваў Анатолю потым і томік Арыстафана, і «Гісторыю інквізіцыі» — з усімі яе жахамі.

Сам я гэтага ўплямленага экзэмпляра ўжо не чытаў. Бо прачытаў «Архіпелаг ГУЛАГ» намнога раней. Чытаў тое ж падпольнае, Вермонскае выданне, з якога потым у 1989 годзе зроблена рэпрынтнае ўзнаўленне, і якое, заношанае, і цяпер з годнасцю стаіць на маіх кніжных паліцах.

Тады, у СССР, гэтая кніга была забароненая.

Яе мне на некалькі дзён даў Барыс Сачанка, якому таксама хтосьці па сакрэце прынёс пазнаёміцца.

І сам я чытаў той «ГУЛАГ», абгарнуўшы газетаю, хаваючыся. Ад сына — не хацелася яго, школьніка, падключаць да гэтага цяжкага матэрыялу, да нашых дарослых клопатаў. І месца, каб схаваць кнігу, здаецца, знайшоў выключнае. Але ж, калі праз некалькі гадоў у мяне зайшла размова з сынам пра Салжаніцына і «ГУЛАГ», ён усміхнуўся:

— Я ведаю «ГУЛАГ». Убачыўшы, што ты штосьці ўпотайкі, хаваючыся, чытаеш, знайшоў тваю схованку і таксама прачытаў раман. Тое першае, вермонскае выданне.

Калі з табою ўжо восень, з якімі ж лісткамі развітвацца — найперш? Усе ж яны дарагія мне…

**2**

Гэта і сапраўды быў век кнігі.

Кніга ў нашым родным XX стагоддзі, здаецца, была ці не самаю галоўнаю каштоўнасцю. Кнігі чыталі і абмяркоўвалі. Кнігі ведалі ў твар, паважалі і сябравалі з імі. Кнігі дарылі на любыя святы, і тыя, хто атрымліваў такі падарунак, былі шчаслівыя.

Мы ўпіваліся кнігаю! Вядома ж, у сваім дваццатым стагоддзі мы часам, здаралася, і прыгублялі сеё-тое, не без гэтага, але ж нашым самым галоўным наркотыкам, несумненна, была кніга.

Кніга была нашым жыццём. Ствараліся вялікія хатнія бібліятэкі ў нашых цеснаватых хрушчоўках. Спадзяюся, не было амаль ніводнай кватэры і ніводнай вясковай хаты, каб у іх не знайшлося хоць бы адной кнігі.

Нашы святы не абыходзіліся без кнігі — іх, як самых найлепшых сяброў, запрашалі на любую ўрачыстасць. Але ж не толькі гэта — у кніг былі і свае святы: Дзень Кнігі, Дзень Паэзіі, Дзень Ведаў.

Кнігі гаварылі з намі, іх мы цытавалі.

Выступленні паэтаў збіралі цэлыя стадыёны прыхільнікаў. Кнігі выходзілі стотысячнымі, мільённымі тыражамі, а іх усё было мала, мала і мала — паспрабуй насыціць такую агромністую краіну, якая чытала, як кажуць, запоем!

Калі маю кнігу, у якую былі ўключаны дзве аповесці «Крыло цішыні» і «Даверлівая зямля», у перакладзе на рускую мову выдавецтва «Правда» ў 1984 годзе выдала 500-тысячным тыражом, я спалохаўся: гэта ж паўмільёна! Заваляць, думаў, усе кнігарні СССР! Аднак неўзабаве супакоіўся, убачыўшы, што кніга з’явілася толькі ў некалькіх беларускіх кнігарнях і паляжала ўсяго некалькі дзён.

Нашы хатнія бібліятэкі ўсё папаўняліся. Ды так, што архітэктары і будаўнікі, якія рупіліся пра наша жыллё, пачалі думаць пра тое, каб умацаваць канструк-

цыі кватэр з разлікам на вялікую вагу нашых пашаноўных кніг. Дзе яшчэ ў свеце было такое?!

Захваляваліся сябры лясоў — ды гэтак жа мы, калі ўсё пойдзе так і далей, знішчым усе лясы, усю тайгу, перарэжам усе пушчы і пусцім іх на новыя кнігі!

Аднак трыумфальнае шэсце кнігі па Савецкім Саюзе ўжо немагчыма было спыніць.

Камю і Сартр, Верхарн і Рэмбо, Фолкнер і Моэм, Басё і Ду Фу, Лагерквіст і Лагерлёф, Уітмен і Аскар Уайльд, Апдайк і Фіцджэральд, Гамер і Канфуцый, Хаям і Фірдаўсі, Авідзій і Катул, Кэндзабура Оэ і Іўлін Во, Ражэ Вайян і Карлас Фуэнтас, Кабо Абэ і Кавабата, Герман Гесэ і Рэмарк, Карл Сэндберг і Герман Бёль, Рансар і Апалінэр, Сент-Экзюперы і Дос Пасос, Лорка і Пецёфі, Пірандэла і Унамуна, Марыяк і Акутагава. Гэтыя імёны лашчылі нам слых, хвалявалі сваёй недасягальнасцю, дражнілі наша ўяўленне. І кожнага з іх мы хацелі, мы марылі, мы праглі набыць у сваю бібліятэку. І радаваліся, калі гэта спраўджвалася.

Усе яны, творцы і мудрацы розных часоў, эпох і народаў, зрабіліся для нас на той час нашымі сучаснікамі, і мы часам шмат каго з іх уяўлялі сваімі сябрамі. Мы абыходзіліся з імі, як са сваімі равеснікамі.

— Што, ты яшчэ не чытаў «Сто гадоў адзіноты» Маркеса? — ушчувалі мы кагосьці, хто пакуль не пазнаёміўся з гэтым, нашумелым у той час, раманам.

— А памятаеш, у Бадлера: «Но ходить по земле среди свиста и брани исполинские крылья мешают тебе»? — спяшаліся мы падзяліцца сваёй радасцю адкрыцця з кімсьці.

Чакай, дык у цябе ж ёсць «Альбатрос» і па-беларуску, перакладзены Сцяпанам Ліхадзіеўскім.

Часта ловяць сабе на забаву матросы
Там, дзе горкая бездань, ні знаку зямлі,
Белых птахаў, вялізных марскіх альбатросаў,
Што рашыліся суправаджаць караблі.

І як толькі на палубе іх рапластаюць,
Сарамлівых, няспрытных блакіту цароў,
Крылы жаласна белыя іх пачынаюць
Валачыцца, як вёслы, з абодвух бакоў.

Гэта з анталогіі паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя «Галасы з-за небакраю», якую склаў Міхась Скобла.

Цудоўны пераклад — і ў тэме, і ў рытме, і па-беларуску! А вось апошняя страфа, на мой погляд, не зусім удалася. Нейкая вялая і бляклая атрымалася.

На зямлі ж яму шыкаюць, сыплюць папрокі,
І гіганцкія крылы абцяжваюць крок.

Не, усё-такі ў Вільгельма Левіка лепей:

Но ходить по земле среди свиста и брани
Исполинские крылья мешают тебе.

Дарэчы, ён жа, Міхась Скобла, склаў і другую такую ж кнігу — «Анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя». Гэтым важкім, дыхтоўным двухтомнікам ганарыцца мая бібліятэка!

— Ого, ты набыў аж усе тры раманы Фолкнера? У серыі «XX стагоддзе»? Віншую! А ты ведаеш, што ён адказаў прэзідэнту ЗША, калі той пасля прысуджэння пісьменніку Нобелеўскай прэміі запрасіў Фолкнера ў Белы Дом на чай?

Я ведаў. Нобелеўская прэмія яму была прысуджана ў 1949 годзе. У Фолкнера было выдадзена шмат раманаў. Але са славутай трылогіі — «Вёсачка», «Горад», «Асабняк» — быў напісаны толькі адзін — «Вёсачка».

Фолкнер — фермер. Даведаўшыся пра запрашэнне прэзідэнта, ён абурыўся. І адказаў прыкладна вось так:

— У мяне самае жніво. Клопатаў — хоць адбаўляй. Дык які ж гэта дурань у такі час кіне ўсё і паедзе за сотні міль у Вашынгтон, каб усяго толькі папіць чаю з зусім незнаёмым яму чалавекам?!

А Кнут Гамсун! Буйнейшы нарвежскі пісьменнік, які пражыў амаль сто гадоў. Колькі я папабегаў, каб купіць ягоны двухтомнік!

Яго «Голад» — гэта нават не эмацыйнае, а фізіялагічнае ўздзеянне на чытача: чытачу і напраўду здаецца, што ён сам галодны, што яму, сытаму, вельмі хочацца есці. Некаторыя лічаць, што гэта натуралізм, а мне думаецца, што тут працуе магутнае майстэрства пісьменніка. Вядома, не без уласнага вопыту. А такі вопыт у маладога Гамсуна, як мы ведаем, быў.

Падчас Другой сусветнай вайны, калі гітлераўцы захапілі Нарвегію, васьмідзесяцігадовы Кнут Гамсун падтрымаў іх і супрацоўнічаў з акупантамі.

Ён быў нібыта нейкім «культурным козырам» нацызму.

Народ Нарвегіі ўзлаваўся — з усіх канцоў краіны да дома, у якім жыў Гамсун, людзі на падводах везлі ягоныя кнігі, якімі яшчэ нядаўна захапляліся, і скідвалі грэбліва яму ў двор. І гэту ганьбу старому, нават састарэламу чалавеку, трэба было перажыць.

Пасля вайны яго абвінавацілі ў здрадзе радзіме і пасадзілі ў турму. Пра тое, што ён думаў, чакаючы суда, Гамсун расказаў у сваёй апошняй кнізе «Па зарослых сцежках».

Пасля смерці Гамсуна народ Нарвегіі ўсё дараваў свайму вялікаму сыну і выдаў пятнаццацітомны збор твораў пісьменніка.

Амаль такая ж, як у «Голадзе», прысутнасць чытача і ў апавяданні амерыканца Эдгара По «Калодзеж і маятнік». Не, гэта не герой апавядання, асуджаны да пакарання смерцю, а той, хто чытае, у выключнай цемры натыкаецца на слізкія сцены нейкага склепа інквізіцыі, дзе нейкі страшны калодзеж, нейкі злавесны маятнік… Усё гэта настолькі густа напісана, што і чытач ужо неадольна сочыць, як усё зніжаецца і зніжаецца востры маятнік над ахвяраю, як усё бліжэе і бліжэе ён да ягонай шыі…

Ага, По — Майстра найвышэйшай пробы. То ж трэба так напісаць пачуццё, адчуванне і жах. І тое, што, можа, сам ніколі не адчуваў, адчуць як рэальнае, перажытае. Вялікае майстэрства класіка.

Томік По выдадзены ў серыі «Бібліятэка літаратуры ЗША». Гэтая серыя амаль уся стаіць на маіх кніжных паліцах: Роберт Пэн Уорэн, Джон Чывер, Тарнтон Уайлдэр, Юджын О'Ніл, Генры Джэймс, Вашынгтон Ірвінг, Джэк Лондан, Фенімор Купер, «Паэзія ЗША» і інш.

А разам з намі ў Амерыцы пачыналі пісаць Джон Апдайк і Джойс Кэрал Оутс, нашы равеснікі.

Памятаю, колькі я папабегаў, каб набыць томік Апдайка, выдадзены ў серыі «XX стагоддзе», у які былі ўключаны раманы «Трус, бяжы» і «Давай ажэнімся»! Столькі ж, а можа, і больш, набегаўся я і за раманам Оутс «Рабі са мной, што захочаш».

Напачатку крытыка аб'ядноўвала гэтых двух таленавітых пісьменнікаў, а потым неяк пакрысе пачала астываць да іх і крытыкаваць: Апдайка — за тое, што яго раман «Давай ажэнімся» — усяго толькі адзін з эцюдаў да сучаснай гісторыі нораваў, дзе жыццё падменена сытым, сумным і пошлым бытам; а Оутс, пра якую спачатку гаварылі, як пра яркую з'яву ў літаратуры другой паловы 60-х гадоў і ўзыходзячую

зорку, абвінавачвалася ў павярхоўным містыцызме і пільнай увазе да ўсяго незвычайнага і дзіўнаватага толькі дзеля незвычайнасці і нестандартнасці.

Аднак пасля новых раманаў — «Кентаўр» Апдайка і «Сад радасцей зямных» Оўтс, — не зважаючы на тое, што шляхі гэтых творцаў ужо зусім разышліся, пра іх зноў загаварылі як пра выдатных пісьменнікаў.

Вядома, што перад «Садам радасцей зямных» адчуваецца магутнае дыханне рамана Джона Стэйнбека «Гронкі гневу», старэйшага за Оўтс у амерыканскай літаратуры папярэдніка.

Вядома ж, і там, і тут бунтуе вялікая думка, што ніхто, як бы ён гэтага не хацеў, не зможа застацца ўбаку ад драматычных падзей часу — гэты час і гэтыя падзеі ўкруцяць у свой вір кожнага.

Вядома, як пісалі тагачасныя крытыкі, «па маштабах таленту і багацці мастацкага свету Оўтс і Стэйнбек — пісьменнікі рознага ўзроўню».

Стэйнбек сам быў адным з герояў свайго сусветна вядомага рамана «Гронкі гневу». Спачатку ён разам з фермерамі, сагнанымі з зямлі, прайшоў крыжовы шлях ад Аклахомы да Каліфорніі. А потым стварыў трагічную эпапею пра амерыканскі народ.

У маёй бібліятэцы ёсць поўны Джон Стэйнбек — шасцітомнік у аганькоўскім выданні.

Мне, шчыра кажучы, вельмі падабаецца і ранейшы ягоны раман «Квартал Тартылля Флэт» — кніга, якую я пачытаў у Стэйнбека самаю першаю.

Лічыцца, што Каліфорнія нарадзіла двух вялікіх раманістаў Джэка Лондана і Джона Стэйнбека.

Цікава, а што ж чытаў сам Стэйнбек?

Стэйнбек рос на кнігах «Востраў скарбаў» Стывенсана, «Тры мушкецёры» Дзюма, «Роб Рой» Скота, якія вечарамі яму і яго сёстрам чыталі бацькі. У маім сірочым вясковым дзяцінстве мне і маім сёстрам не было каму чытаць гэтыя кнігі, ды і іх саміх у маіх галодных пасляваенных Зубрэвічах, зразумела, і ўвогуле не было.

На іх я, як згаладалы, накінуўся пазнавата ўжо, у студэнцтве, а потым, нібыта сплачваючы нейкі доўг таму голаду, набыў сабе зборы твораў гэтых ды іншых дзіцячых пісьменнікаў: і Стывенсана, і Скота, і Дзюма — аж дванаццаць вялікіх і цяжкіх тамоў Дзюма!

Сам Стэйнбек ужо чытаў «Злачынства і пакаранне» Дастаеўскага, «Мадам Бавары» Флабэра, «Страчаны рай» Мільтана. Вывучаў «Гісторыю» Герадота.

Усё гэта ёсць і ў маёй бібліятэцы. Поўны, акадэмічны, трыццацітомны збор твораў Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага, вялікага рускага пісьменніка, дарагога нашага земляка, карэнне якога ў вёсцы Дастоева, што на Піншчыне.

Побач з «Гісторыяй» Герадота — «Гісторыя Фларэнцыі» Нікола Макіявелі ды «Гісторыя дзяржавы інкаў» Інка Гарсіласа дэ ла Вега. Вось толькі тытульная старонка апошняй кнігі:

«Першая частка сапраўдных каментарыяў, што расказваюць пра паходжанне інкаў, якія былі каралямі Перу, аб іх ідалапаклонстве, законах і праўленні на вайне і ў свеце; аб іх жыцці і заваёвах і аб усім, чым была тая імперыя і іх дзяржава да таго, як прыйшлі ў яе іспанцы. Яны напісаны Інкам Гарсіласа дэ ла Вега, народжаным у Коска, капітанам яго вялікасці. Прысвячаецца яснейшай прынцэсе донне Каталіне Партугальскай, герцагіне Браганскай і г. д. Прапушчана з дазволу святой інквізіцыі, суддзі першай інстанцыі. У Лісабоне, у канторы Педра Красбеека надрукавана. Год 1609».

Зноў загаварыўся. Пра гэтыя кнігі я раскажу пазней. Як і пра «Жыццё дванаццаці цэзараў» Гая Святонія Транквіла з «Літаратурных помнікаў». Калі раптам забудуся — напомні, шаноўны мой чытач, пра гэта мне сам…

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

# ПАЭТЫЧНЫ ПОМНІК БЕЛАРУСКАЙ ГЕРАІЧНАЙ МІНУЎШЧЫНЕ

Гераічны эпас у кожнай нацыянальнай літаратуры — гэта тое, што народная памяць вуснамі сваіх вешчуноў-песняроў натуе ў вытанчаных словах. З антычных часоў еўрапейскія цывілізацыі спазнаваліся і спасцігаліся найперш праз помнікі эпічнай паэзіі. «Хто б ведаў пра Ахіла, калі б не Гамер?» — гэтая мудрасць даўніх стагоддзяў кіравала рукой вялікага Мацея Казіміра Сарбеўскага, калі ён старанна выводзіў паслухмяным пяром назву свайго навуковага трактата, прысвечанага эпапеі: «Пра дасканалую паэзію…».

Шматпакутны гістарычны шлях беларускага народа меў як мінімум адзін станоўчы вынік: бясконцыя войны, што грымелі па нашай зямлі, спараджалі не толькі гаротныя ахвяры, кроў і слёзы, але таксама высокія подзвігі, нечуваныя дагэтуль прыклады воінскай доблесці, якія патрабавалі велічнага ўслаўлення. Гэта і спрычынілася да росквіту жанру паэтычнай эпапеі ў айчынным прыгожым пісьменстве. Першым узорам «дасканалай паэзіі» ў нашай старажытнай літаратуры стала паэма Яна з Вісліцы «Пруская вайна», якая пабачыла свет у 1516 годзе і была прысвечана асэнсаванню гістарычнага значэння векапомнай перамогі пад Грунвальдам, слава якой не змарнела нават па прашэсці ста гадоў[1] Неўзабаве лёс паслаў нашым продкам новае выпрабаванне — доўгую Лівонскую (Інфлянцкую) вайну, якая цёмнай хмарай захіліла цэлую чвэрць шаснаццатага стагоддзя. Аднак праз папялішчы спустошаных Полацка і Віцебска, праз афарбаваныя крывёю воды Дзвіны і Улы, праз дым ад выбухаў варожых гарматаў прабілася велічная ў сваёй прыгажосці кветка высокага мастацтва, паэма Яна Радвана «Радзівіліяда», напісаная адной з Вергіліевай «Энеідай» мовай — лацінаю.

На сённяшні дзень дзякуючы намаганням літоўскага вучонага Сігітаса Нарбутаса (які пераклаў паэму на літоўскую мову) дакладна ўсталявана дата, калі з-пад выдавецкага прэса ў віленскай друкарні Яна Карцана з'явілася «Радзівіліяда» — 1592 год. А вось пра аўтара гэтай эпапеі, якая складаецца з 3302 радкоў дактылічнага гекзаметра, няма дакладных звестак. «Радван» — назва шляхецкага герба, якім карысталіся шматлікія сем'і арыстакратаў як у Вялікім Княстве Літоўскім, так і ў Польскай Кароне. Аднак канкрэтнай біяграфічнай інфармацыі пра нашага паэта мы не знойдзем ні ў адным гербоўніку. Тым не менш, зыходзячы з тэксту паэмы можна меркаваць, што аўтар «Радзівіліяды», які ў субскрыпцыях дадаваў да свайго імя слова «Lithuanus» («літвін») або «Vilnensis» («віленец»), хутчэй за ўсё, быў па паходжанні беларусам або палякам. На гэта ўказваюць многія акалічнасці. Паэт блага ведае геаграфію Жамойці (паведамляе, што рака Швянтойі ўпадае ў Нёман), літоўскі горад

[1] Хачу адзначыць, што менавіта ў часопісе «Маладосць» (1997, № 12) была ўпершыню надрукавана «Пруская вайна» ў перакладзе на беларускую мову.



RADIVILIAS.
SIVE,
DE VITA, ET REBVS
PRÆCLARISSIME GESTIS,
IMMORTALIS MEMORIÆ, IL-
LVSTRISSIMI PRINCIPIS NI-
COLAI RADIVILI GEORGII FILII, DV-
cis in Dubinki ac Bierze, Palatini Vilnensis, &c.
ac Exercituum Magni Ducatus Lituaniæ,
Imperatoris Fortissimi. &c.

LIBRI QVATVOR.

Ioannis Radvani Lit:

Iussu & Auctoritate Mag. D. Ioannis Abramovicz, in Worniany, Præsidis Derpatensis, Capitanei Lidensis Vendensisq́, &cet.

Addita est Oratio Funebris, Generosi D. Andreæ Volani, Secretary Sacræ Regiæ Magestatis, & quorumdam Auctorum Epigrammata.

VILNAE METROPOLI LITVANORVM.
Ex Officina Ioannis Kartzani,
CIↃ IↃ IIXC.

*Тытульны аркуш «Радзіваліяды» (Вільня, 1592) Яна Радвана*

Пасваліс ён называе ў славянскай форме — Posvolia. Час ад часу ў тэксце паэмы сустракаюцца нетыповыя для лацінскай мовы канструкцыі, якія лягчэй за ўсё растлумачыць уплывам славянскай мовы. Але ўсё гэта, на нашу думку, не мае істотнага значэння. Намнога важней тое, што сюжэтна «Радзіваліяда» непасрэдна звязана з Беларуссю і яе гісторыяй. Ключавыя ваенныя падзеі, апісаныя ў паэме, адбываліся пераважна на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Так, калі ў першай кнізе прадстаўляецца агульная панарама Вялікага Княства Літоўскага і распавядаецца пра духоўнае сталенне галоўнага героя, то ў другой кнізе апісваецца асада Полацка маскоўскімі войскамі ў 1563 г., у трэцяй — бітва на Уле (пры Чашніках); на пачатку чацвёртай кнігі распавядаецца, як па дарозе на Пскоў Мікалай Радзівіл вызваляў Полацк, Азярышча, Сокал. У межах апісання войска Стэфана Баторыя, якое рухаецца на Пскоў (кніга IV), паэт вельмі падрабязна пералічае назвы беларускіх ды літоўскіх гарадоў і рэк, адкуль паходзілі ваяры. Апроч Вільні, сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, тут узгадваюцца лічаныя геаграфічныя назвы, што лакалізуюцца на карце сённяшняй Літвы: *Cunassus* (Каўнас), *Trocae* (Тракай), *Vaca* (Балтойі-Воке), рака *Nerys* (Нярыс). Але большасць ратнікаў, як вынікае з тэксту, насяляюць *Vitebas* (Віцебск), *ripas Beresinae* (берагі Бярэзіны), *Lidam* (Ліду), *Erdivilonios campos* (Эрдзівілавы землі, г. зн., Наваградак. — **Ж. Н.-К**.), жывуць *in arvis Orsae* (на землях Оршы); іх гадавалі *vetus Polottus* (старажытны Полацк), *Mohilaeus* (Магілёў), *Ozeriscia* (Азярышча), *Homella* (Гомель), *Moseris* (Мазыр), *Mscislaus* (Мсціслаўль), *Vla* (Ула), *Crevus* (Крэва), *aequora Minsci* (землі Мінска), *moenia Brestae* (муры Брэста), *Cobrinia aequora* (кобрынскія землі), *parvae tecta Recitze* (хаты невялікай Рэчыцы). У войску караля Стэфана ён бачыць *Osmenios populos* (жыхароў Ашмян), тут — *Slonimii viri*

(слонімскія мужы) і *Volcoviscum colentes* (жыхары Ваўкавыска). Відавочна, што не толькі падзеі, якія апісваюцца ў «Радзіваліядзе», не толькі героі паэмы, але нават айчынныя тапонімы сталі асновай эпічнага мастацкага палатна, у цэнтры якога — Беларусь і беларусы.

У «Радзіваліядзе» прадстаўлены многія героі Лівонскай вайны з ліку беларускай магнатэрыі і шляхты. Гэта Ян Глябовіч, Філон Кміта-Чарнабыльскі, Георгій Тышкевіч, Мікалай Сапега, Ян Хадкевіч, Георгій (Грыгорый) Осцік, Георгій Зяновіч, Багдан Саламярэцкі ды іншыя. Тым не менш, беларускі літаратуразнавец Сяргей Кавалёў, які ўпершыню ўвёў паэму Яна Радвана ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры, справядліва заўважыў, што пры ўсёй увазе паэта да іншых правадыроў беларуска-літоўскага войска лідарства, прыярытэт Мікалая Радзівіла выразна захоўваецца, падкрэсліваецца тым ці іншым чынам. Пры гэтым постаць вялікага гетмана ўключана аўтарам у гістарычную перспектыву. Ён — нашчадак славы вялікіх герояў Грунвальда Ягайлы і Вітаўта, і нездарма менавіта вялікі князь Вітаўт з'яўляецца гетману ў вешчым сне. Наогул, ідэйная дамінанта «Радзіваліяды» звязана з пераемнасцю гераічных традыцый: ад легендарнага прапрашчура Палямона і першых вялікіх князёў — да Мікалая Радзівіла, які заслужыў вечную славу і пашану не толькі сярод суайчыннікаў, але таксама ў «нябесных сонмах».

Маючы на мэце стварэнне агульнадзяржаўнай гераічнай эпапеі, Ян Радван паспяхова выкарыстаў у сваім творы поўны арсенал прапісных арыстоцелевых атрыбутаў (якія пазней, у XVII ст., падрабязна сфармуляваў Сарбеўскі), важных для прэзентацыі эпічнага героя. Так, на пачатку паэмы аўтар фарміруе неабходную ў межах эпічнага твора «касмаграфію мора і зямлі», але гэты традыцыйны літаратурны прыём дапамагае паэту стварыць бясконца прывабны вобраз роднага краю. «Касмаграфія мора» напаў-




*Выява радавога герба Радзівілаў з эпіграмай Яна Радвана ў кнізе «Радзіваліяда»*

няецца апісаннямі дзівосных рэк — Нёмана, Віліі, Заходняй Дзвіны, «касмаграфія зямлі» — паэтычнай прэзентацыяй айчынных лясоў з іх натуральнымі багаццямі. У цэнтры створанага мастацкага сусвету, таксама як Вергілій — Энея, Ян Радван ставіць свайго героя. Да шэрагу вялікіх князёў, пералік якіх пачынаецца з легендарнага Палямона, аўтар далучае гетмана Радзівіла, «якому прадбачлівая мудрасць бацькоў дала імя і знак — Мікалай»). Мікалай Радзівіл, імя якога перакладаецца са старажытнагрэчаскай мовы як «пераможца народаў», прадстаўлены ў паэме як сапраўдны народны герой, асілак, здольны на выключна цяжкія і выключна велічныя дзеі. Радзівіл у Яна Радвана, таксама як Ахіл у Гамера або Эней у Вергілія — «найбольш агульная ідэя абсалютна дасканалага ў любым відзе дзейнасці героя», якога, згодна прадпісанням Сарбеўскага, і павінен прадставіць аўтар эпапеі. Разам з тым, прайшоўшы выдатную школу ў свайго «настаўніка» Вергілія, Ян Радван стварыў цалкам арыгінальны твор, сапраўдны паэтычны шэдэўр эпохі позняга Рэнесансу. «Радзівіляда» дыхае гераічным духам айчыннай мінуўшчыны. Сам аўтар літаральна ў першых радках эпапеі годна заяўляе, што паданні і легенды антычных часоў — гэта «сумныя байкі, што вабяць адных ганарліўцаў». Яго задача — расказаць пра велічную дзяржаву, што раскінулася на землях Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, пра яе герояў — мужных абаронцаў сваёй Айчыны.

Калі ў 1997 годзе ў Вільнюсе праходзіла прэзентацыя перакладу паэмы на літоўскую мову, факт «вяртання» «Радзівіляды» праз 400 гадоў быў супастаўлены па значэнні з вынікам егіпецкай экспедыцыі імператара Напалеона, якая праклала шлях да прачытання пісьмовых помнікаў тысячагадовай даўніны і ўзнікнення егіпталогіі. Падобным чынам, «Радзівіляда» з'яўляецца своеасаблівым ключом для расшыфроўкі не менш мудрагелістых іерогліфаў айчыннай гісторыі, для асэнсавання асаблівасцей сацыяльнага і дзяржаўнага ўладкавання нашай старажытнай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, для пранікнення ў паўсядзённае жыццё нашых продкаў, для разумення спецыфікі іх ментальнасці, іх патрыятызму і самаідэнтыфікацыі.

С. Нарбутас справядліва лічыць, што гераічны эпас можа ўзнікнуць і атрымаць прызнанне толькі ў сваёй дзяржаве і толькі ў той час, калі па розных прычынах грамадства пачынае адчуваць неабходнасць у жыватворнай сіле гісторыі. «Радзівіляда» адносіцца да канца XVI стагоддзя — таго перыяду, які наш вялікі прарок Уладзімір Караткевіч назваў «надзвычай цікавымі гадамі ў беларускай гісторыі». І ў размераных гекзаметрах паэмы Яна Радвана зафіксавана мастацкае асэнсаванне той важнай для фарміравання нашай нацыянальнай ідэнтычнасці эпохі. Зафіксавана тое, што пазней знойдзе свой працяг у «Пане Тадэвушы» Адама Міцкевіча, «Маргеры» і «Старых варотах» Уладзіслава Сыракомлі, «Кургане» Янкі Купалы, «Новай зямлі» Якуба Коласа. Усе гэтыя творы настолькі ж яднаюцца, наколькі і розняцца паміж сабою: паводле жанру, мовы, стылю, ідэйнай дамінанты. Але гэта сведчыць толькі пра тое, што наша духоўная спадчына — багатая і разнастайная, і кожным яе складнікам, кожным помнікам мы маем ганарыцца. Па-рознаму называлі нас пісьменнікі даўніх часоў — сарматамі, літвінамі або русінамі. На розных мовах звярталіся да нас нашы асветнікі: Кірыл Тураўскі — па-царкоўнаславянску, Васіль Цяпінскі — па-беларуску, Мялецій Сматрыцкі — па-польску, Ян Радван — па-лацінску. Але праз іх творы мы — розныя! — спазнаем сябе, спасцігаем свой шлях, усведамляем свае карані. Пакідаем годны і адметны след у гісторыі.

***Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ***

# РАДЗІВІЛІЯДА,

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга першая*

Сонца і месяца шлях, апісанне планет і сузор'яў,
Неба высокага знакі, праблемы паходжання свету,
Мора бясконцы прастор — вось што іншых паэтаў хвалюе.
Вельмі нялёгкі іх шлях… Ды найболей салодкая слава,
Прага аліву[1] здабыць уздымаюць душэўныя сілы!
Іншыя гучна спяваюць пра Дэўкаліонавы воды —
Памятку грэшных часоў[2], ды пра войны да самых нябёсаў!..
Ясна, чытаць цікавей не пра мір, а пра бітву гігантаў!
Хтосьці згадае яшчэ войны Кадма, бязлітаснасць Марса,
Дом ненавісны Пелопа прыпомніць, абед у Тыеста,
Вежу яшчэ ў Вавілоне ды Троі ліхія турботы —
Мноства дзівосаў старога, ссівелага свету!..
Гэтыя сумныя байкі, што вабяць адных ганарліўцаў,
Добра вядомыя ўсім, заслугоўваюць кедра[3] — не веры!
Песні ж мае — не хлусня, бо яны — не з такой барадою:
Я апяваю цябе, Радзівіл, твае слаўныя дзеі,
Вартыя памяці, ім піерыйскі[4] вянок ускладаю.
Чутка пра гэткі твой подзвіг прайшла праз Еўропу, да самых
Нават далёкіх краін, о Трырожац[5], аднак пачынаю
Я аздабляць сваім словам імя тваё, Старча вялікі,
Марса твайго, а таксама тваю неўміручую славу.
О, Каліопа з Эратай, да нас павярніцеся тварам,
Слаўце шматгучна цяпер ваяводы літоўскага подзвіг,
Зззяе ён славай да неба: герой той і ў міры, і з Марсам
Дбаў пра айчыну сваю; прыгадайце яшчэ навальніцу,
Што праз шматводдзе Улы, па Іванавых землях ляцела.
Мудрасць задумаў яго захіліла заслугі лівонцаў:
Можна лічыць, што ён сам зваяваў усю Скіфію цалкам.
Слаўце ж героя, Багіні, а вы, грамадзяне, жадайце

---

[1] *Прага аліву здабыць…* Аліва ў антычным свеце лічылася сімвалам міру. Паэт гаворыць тут пра тое, што сапраўдных мужчын больш за ўсё ўзрушвае магчымасць праявіць сябе ў ратным подзвігу, здабыць мір для Айчыны, заслужыць гонар і славу ў суайчыннікаў.

[2] *Дэўкаліонавы воды…* Дэўкаліон — антычны аналаг біблейскага Ноя — разам са сваёй жонкай Пірай доўгі час плаваў на караблі па водах пасля сусветнага патопу, якім Зеўс пакараў людзей.

[3] *Заслугоўваюць кедра…* З кедравага дрэва ў антычныя часы рабілі скрыні, у якія складвалі рэчы, прызначаныя на доўгае захоўванне.

[4] *Піерыйскі* — паэтычны.

[5] *Трырожац* — метанімічны перыфраз у дачыненні да Мікалая Радзівіла. Цэнтральны сімвал радавога герба Радзівілаў — тры ражкі («Трубы»).

Поспехаў мне. Гэты твор я МАГУТНАЙ ЛІТВЕ прысвячаю.
Воінскай велічы край, добра ў свеце шырокім вядомы, —
Гэта Літва, што наўсцяж распасцёрла шырокія нівы.
Плодныя землі яе, а народ — ваяўнічы і грозны.
Хто ж не пацвердзіць: калісь італійцы ў той край завіталі,
З Марсам у сэрцы мужы. Хто ж не чуў пра выгнанне Лібона
(Ён жа яшчэ — Палямон)[1], пра адвагу яго і пра мужнасць?
Скуль радавод старадаўні літоўскі вядзецца, адкуль жа
Гэты магутны народ? Як на блізкім балтыйскім узмежжы,
Так на ўзбярэжжы Эўксінскім ён славіцца аж да Алімпа.
Гожых кампанскіх узгоркаў, дзе шчодрая маці Цэрэра
З Бакхам спрачаецца смела, Панхаі ці Тэмпэ цудоўнай,
Плодных садоў Алкіноя і пестумскіх ружаў пяшчотных,
Розных духмяных раслін, руднікоў і крыніц мінералаў
Мудрая Маці-прырода зямлі той надаць не схацела.
Колькі ж тады і якіх ураджаяў прыносяць Гаргары,
Каб той народ мог штодня здабываць сабе хлеб бестурботна?
Рэкі празрыстыя тут апярэзваюць гонкія дрэвы
Гожых лясоў, дзе яны верхавінамі нават да зораў,
А каранямі да самых стыгійскіх сутонняў сягаюць.
Лось і алень тут жывуць, люты зубр знаходзіць прытулак
(Ён языком сваім шорсткім звычайна хапае здабычу,
Потым падкідвае лёгка ў паветра — вось гэткая сіла!),
Плямістаскурая рысь з паласатымі знакамі пысы,
Лёгкая ў руху казуля і тур — велізарны, магутны.
Што гаварыць тут пра рэкі, азёры, якія і з морам
Могуць спрачацца? А рыбы? Тут ёсць і буйныя істоты!
Я не хачу й светлы лён параўноўваць са срэбнай прасторай…
Мо, палічыць мне дары блаславёнага сонца? Навошта?
Лепей скажу, што ў лясах нашых велічных — безліч багаццяў.
Дуб напаўняецца тут прамяністым, празрыстым нектарам,
Пеніцца ў дуплах мядок, каб вясковаму простаму люду
Сотаў духмяных здабыць; ён, чысцюткі, па дрэвах бруіцца.
Кубкі на княскім стале напаўняюцца пахкім напоем.
Як апісаць мне ўсе рэкі, што з розных крыніц выцякаюць?
Вось Барысфена шляхі: ён магутна цячэ між парогаў,
Потым шумлівыя хвалі абрушвае ў бездань марскую,
Вільгаць пяшчотную зліўшы з вадою салёнага мора.
Вунь разліваецца Дуна[2], што круціць вірамі імклівa,
Полацкія берагі абмывае ў паважным цячэнні,
Потым нарэшце схлынае шырока ў Венедскае мора[3].
Ёсць у Літве і такая рака, што не надта сaступіць

[1] *Публій Лібон*, або *Палямон*, рымскі патрыцый, згодна з помнікамі беларуска-літоўскага летапісання XVI ст., жадаючы пазбегнуць пераследаў, перасяліўся з Рыма разам з іншымі сваімі суайчыннікамі ў I (паводле іншага варыянта падання — у V) ст. і, пасяліўшыся ў вусці Нёмана, стаў заснавальнікам дынастыі вялікіх князёў літоўскіх. Паданне пра Палямона стварыла грунт для так званай «рымскай» канцэпцыі паходжання магнатаў і шляхты нашай дзяржавы.

[2] *Дуна* — антычная назва Заходняй Дзвіны.

[3] *Венедскае мора* — старажытная назва Балтыйскага мора.

Рэкам старым іліёнскім: цячэ паміж ніваў багатых
Вілія чыстая. Вільня — яе называюць сястрою —
Лёгка і хутка бяжыць у абдымках цудоўнага брата,
Хрона[1] — вось як для мяне, то ракі прыгажэйшай у свеце.
Многія німфы, дрыяды дубовых дуброваў хацелі б
З Хронам злучыцца, ды ўсіх абышла непаўторная Свента,
Чыстая, нібы бурштын, нават лепей; зямлёй самагіцкай[2]
Свента цячэ і ўпадае ў цудоўнае рэчышча Хрона.[3]
Гэты вось край спарадзіў тут літоўцаў і дужых судзінаў,
Мужных яцвягаў яшчэ, і намадаў, і полаўцаў з імі,
Прусаў даўнейшых таксама, адважных душою аланаў,
Блізкіх аланам гепідаў. Магутныя тыя народы!
З гэтай зямлі — Эрдзівіл і Трайдэн знакаміты паходзяць,
Слаўны Мінгайла, Скірмонт неадольны і непераможны,
Потым Рамонт і Міндоўг — валадар, што каронаю з Рыма
Быў увянчаны; і Віцень паважны, і шматпераможны
Бацька яшчэ Гедымін, па загаду якога ўзняслісся
Вільні шматлюднай муры; а цяпер і сыноў яго ўспомнім,
Годных і мужных братоў Гедымінавічаў неадольных —
Кейстута разам з Альгердам. А потым дзяржава Ягайлы
Нават сарматам дала каралёў, і над гунам магутным
Панства сваё ўсталявала; для чэхаў, што з роду багемцаў
Многіх вядомых князёў нарадзіла. Цяпер МІКАЛАЯ,
З іх аднаго, РАДЗІВІЛА ВЯЛІКАГА, мы апяваем.
Ясна, імя — гэта знак[4], але ён быў чаканым нашчадкам.
    Бацька ягоны — Георгій[5] — паходзіў з выдатнага роду,
Слава дзяянняў яго разышлася па цэлай краіне,
Яснаю зоркаю ззяў у сваім радаводзе заможным.
Маці — ад прашчураў полька — паходзіла з дому Калянскіх,
Годнасцю роўнай была гераіням часоў старажытных, —
Гэткага ж сына яна нарадзіла літоўскаму свету…

***Працяг у наступным нумары.***

---

[1] *Хрон* антычная назва Нёмана.

[2] *Самагіцкай* — жамойцкай.

[3] Насамрэч, Швянтойя (Šventoji), якую Ян Радван называе Свентай, правы прыток ракі Нярыс (Віліі), не цячэ «зямлёй самагіцкай» (праз Жамойць) і не ўпадае ў Нёман. Літоўскі вучоны Сігітас Нарбутас мяркуе, што гэтыя радкі могуць мець сэнс, калі дапусціць, што гаворка тут ідзе не пра Нёман, а пра Куршскую касу, непасрэдным чынам звязаную з Балтыйскім морам, якую старажытныя летапісцы (у тым ліку Мацей Стрыйкоўскі) называлі «Нёманавым морам». Гэтая цікавая гіпотэза падаецца нам, аднак, занадта складанай. Намнога прасцей, на нашу думку, растлумачыць фактаграфічную недакладнасць каментаваных радкоў тым, што Ян Радван не быў літоўцам па паходжанні, таму блага ведаў геаграфію Літвы. Хутчэй за ўсё, аўтар «Радзівіліяды» па паходжанні быў беларусам або палякам (на што ўказваюць і іншыя фрагменты тэксту паэмы), і геаграфію заходняй часткі Літвы (Жамойці) спасцігаў пераважна праз помнікі беларуска-літоўскага летапісання і праз “Хроніку” Стрыйкоўскага, дзе, дарэчы, няма падрабязных звестак пра раку Швянтойю.

[4] Ст.-грэч. Νικολαυς — ‘пераможца народаў’.

[5] Георгій (Юрый) Радзівіл (каля 1480—1541), бацька Мікалая Радзівіла, быў заснавальнікам біржанска дубінкаўскай галіны роду.



*Андрэй Жвалеўскі нарадзіўся ў Гродне. З 1979 года жыве ў Мінску. На сённяшні дзень — аўтар чатырох дзясяткаў кніг, выдадзеных амаль паўмільённым тыражом. Лаўрэат некалькіх расійскіх літаратурных прэмій. Найбольш удалыя кнігі напісаны ў сааўтарстве з Яўгеніяй Пастарнак.*



*Яўгенія Пастарнак жыве ў Мінску. Аўтар шматлікіх кніг прозы. У сааўтарстве з Андрэем Жвалеўскім ёю былі напісаны: серыя раманаў «М+Ж», а таксама кнігі для дзяцей: «Правдивая история Деда Мороза», якая стала лаўрэатам конкурсу «Алые паруса» і атрымала прэмію «Заветной мечты» і «Время всегда хорошее» (кніга прызнана на РОсконе 2010 года лепшым фантастычным творам для дзяцей).*

Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13

***Раман-казка***

## ЧАСТКА 1

## КЛЮЧ З ЧАТЫРОХ ЧАСТАК

### Глава 1

### ЗАБІЛІСЯ!

Прырода здзекавалася з Антохі Волкава. Сонца майскае. Настрой майскі. А на календары толькі-толькі заканчваецца сакавік. Вядома, канец трэцяй чвэрці — справа добрая, але гэта ўсё ж такі не канец чацвёртай. Антоха пакасіўся на акно класа. Матэматычка Паліна Андрэеўна, як заўжды ўвесну, шчытна зашмаргнула шторкі — страшэнна баялася вяснушак. Паліна Андрэеўна слушна лічыла, што завучу па выхаваўчай працы нядобра выглядаць як старшакласніца. Але раней яна хаця б фортку адчыняла ў такую гарачыню, а цяпер...

— Волкаў! — матэматычка імгненна ўчула, што Антоха — ганьба класа і яе галаўны боль — зноўку скіраваў увагу на іншае. — На вуліцы нічога цікавага! Мяне слухай!

Тут яна хлусіла. Форткі якраз і былі зачыненыя таму, што на вуліцы адбывалася штосьці вельмі цікавае. Там валілі дуб. Мяркуючы па раздражнёных галасах рабочых — беспаспяхова. Вельмі беспаспяхова, таму што рабочыя спрачаліся палка і не выбіраючы выразаў. Спачатку Паліна Андрэеўна яшчэ спрабавала сарамаціць іх праз вакно, яны пераходзілі на неразборлівае мармытанне, якое перапынялася кашлем бензапілы, — і паступова зноўку вярталіся на павышаныя таны. Тады матэматычка зачыніла ўсе форткі. Галасы рабочых сталі неразборлівымі, але Антоха нават па абрыўках цудоўна разумеў, пра што тыя спрачаюцца.

Дуб валіцца не хацеў. Ён пляваць хацеў на ўсіх гэтых нікчэмных людзей з піламі — і пляваў, як і ўсе тыя стагоддзі, якія тут прастаяў. Ён быў тут заўжды, перажыў дзве вялікія вайны, уцалеў падчас будаўніцтва школы і, мяркуючы па ўсім, яе таксама збіраўся перажыць.

Дуб быў мясцовай славутасцю. Чаму школу пабудавалі каля яго, заставалася загадкаю. Волкаў-старэйшы, сам

архітэктар па адукацыі, расказваў, што школу павінны былі пабудаваць трошкі ў іншым месцы, але там узніклі праблемы, а тэрміны падціскалі... Адным словам, перанеслі школу туды, дзе яна і цяпер стаіць. Дрэва, што стаяла побач, тады не ўлічылі, думалі, што спілуюць яго — вось і ўсё. Не спілавалі. І цяпер не спілуюць.

— Волкаў! Што такога смешнага ў тэарэме Піфагора?

Антоха зразумеў, што зларадна пасміхаецца, уяўляючы сабе, як рабочыя палаяцца-палаяцца ды і пойдуць.

— Волкаў! Да дошкі!

Антоха паплёўся да дошкі, ледзьве перастаўляючы ногі. Па яго ўнутраным гадзінніку ўрок павінен быў ужо даўным-даўно скончыцца. Паліна Андрэеўна чакала яго, пагрозліва скрыжаваўшы рукі на грудзях.

— Я якраз казала пра доказ тэарэмы Піфагора. Ты пасміхаўся. Значыцца, табе гэты доказ знаёмы. Лагічна?

Гэта было ні на грам не лагічна, але спрачацца Антоха не стаў. Ён спыніўся каля дошкі з выглядам палоннага пірата, якога прымушаюць выдаць месцазнаходжанне скарбу. Антоха ўвогуле нагадваў карсара: невысокі, худы, жылісты, такому толькі па рэях і поўзаць. А яшчэ віхрасты, нягледзячы на тое, што русыя валасы падстрыжаны зусім коратка. Гэтыя віхры Паліну раздражнялі больш за ўсё.

— Прашу, — працягнула Паліна Андрэеўна, — адлюструй доказ на дошцы.

Антоха ўзяў у рукі крэйду і ўтаропіўся на дошку. Ніякай падказкі там не знайшоў. Тады ён стаў скоса разглядваць матэматычку.

— Ты думаеш, — яхідна спытала яна, — доказ напісаны на мне? Ты памыляешся.

Ён перавёў позірк на шторку. У гэтым месцы галіна дуба падступалася зусім блізка да шкла. Цень слізгацеў па шторцы, як быццам хтосьці падбадзёрваў, памахваючы Антоху рукой.

— І на шторцы доказу таксама няма, Волкаў. Не трэба марнаваць мой і агульны час. Клас! — матэматычка павярнулася да астатніх. — Ваш таварыш у бядзе. Вы можаце ўратаваць яго, калі дакажаце тэарэму Піфагора...

Над першай партай тут жа ўзнялася рука. Антоха крыва пасміхнуўся: наўрад ці вастраносая Машка-зубрылка вырашыла яго выручыць. Проста хацела паказаць, наколькі яна разумнейшая. Але пасяшалася, таму што Паліна Андрэеўна закончыла нечакана:

— ...невядомым мне спосабам.

Тонкая рука Машкі знікла, як быццам і не з’яўлялася. Сама Машка, дробненькая і жвавая, цалкам змясцілася за раскрытым падручнікам. Ды і ўвесь сёмы «Г» сядзеў, уціснуўшы галовы ў плечы. Усе пастараліся стаць невідзімкамі. Горш за ўсё гэта атрымлівалася ў Мішкі Беркіна і Любы Мяцёлкінай. Мішка ад прыроды быў здаравенны бугай, а Люба за пяць гадоў заняткаў плаваннем нагадавала такія плечы, што за ёю любы старшакласнік мог схавацца.

Антоха ўмольна паглядзеў на Сеўку Рогава. Калі хто і мог здзівіць матэматычку, дык толькі ён. Але Рогаў, як назло, штосьці захоплена пісаў. Напэўна, не па тэме, але да яго Паліна наўрад ці прыдзірацца будзе. Антоху здавалася, што часам яна Сеўку пабойвалася, а аднойчы нават збянтэжылася, калі той знайшоў у яе памылку. Рогаў ёй вельмі ціха сказаў на перапынку, толькі Антоха і чуў, але матэматычка залілася чырванню і яшчэ больш стала падобнай на адзінаццацікласніцу.

Антоха абвёў клас поўным адчаю позіркам. «Пара» перад самымі канікуламі яму была патрэбна, як шпоры зайцу. Ён ужо амаль перакanaў бацьку ў неабходнасці набыць новы мабільнік для сына, а тут такі аблом. Усе старанна адводзілі вочы. Толькі новенькая дзяўчынка са смешным імем Лёля глядзела на яго падбадзёрваючым позіркам і нават падміргнула.

«Даць бы табе ў вока, — змрочна падумаў Антоха. — Знайшла час падміргваць!»

Але чамусьці працягваў глядзець на яе, хоць глядзець асабліва і не было на што: дзяўчынка як дзяўчынка. Росту сярэдняга, не тоўстая і не худая. Белабрысая, вейкі і бровы амаль не бачныя, толькі вочы нейкія дзіўныя, адразу і не зразумееш, куды яны глядзяць. Прыкрыўшыся ад настаўніцы кніжкаю, Лёля займалася звычайным дзяўчынкавым глупствам — хутка-хутка вязала хітры вузельчык з нейкай нітачкі. Пры гэтым губы яе варушыліся, быццам яна расказвала верш на хуткасць, а шэрыя вочы імкліва наліваліся свінцом. Відовішча аказалася такім заварожваючым, што Антоха, нягледзячы на ўсю сур’ёзнасць сітуацыі, не мог адарваць ад яго позірку.

— Ну, калі гэтак... — злавесна пачала матэматычка.

У Волкава ўсё сціснулася ўсярэдзіне ад крыўды і несправядлівасці.

Пальцы і губы Лёлі заварушыліся з яшчэ большай хуткасцю.

— ...будзе лагічным, Волкаў...

«Не маеце права!» — хацеў абурыцца Антоха, але не паспеў. Лёля рэзка тарганула за кончыкі ніткі, тая выпрасталася без адзінага следу вузельчыка... і Паліна Андрэеўна раптам збілася з думкі. Настаўніца змоўкла, відавочна, імкнучыся ўспомніць, пра што яна зараз казала, пацерла лоб і з нейкім нават здзіўленнем утаропілася на Антоху.

А ўвесь клас утаропіўся на яе. Паліна славілася сваёй лагічнасцю і непрабівальнасцю.

Да шчасця для ўсіх, тут грымнуў званок. А то невядома яшчэ, чым бы ўсё гэта закончылася.

— Усе вольныя, — прамармытала матэматычка і імкліва выскачыла з класа.

На вялікім перапынку Антоха спачатку аблаяў Сеўку:

— Ты геній ці хто?

— А? — удакладніў Сеўка, спуджана азіраючыся. — А дзе геаметрыя?

— Скончылася ўжо!

Рогаў пачаў паспешліва закідваць у рукзак кніжкі:

— Вух ты... А я, разумееш, тут адну формулку калупаў...

Антоха толькі ўздыхнуў. Сеўка, наогул кажучы, някепскі: адданы і памяркоўны. Толькі надта ж няўклюдны. Доўгі, нескладны, ні кроплі мускулаў, галава як у іншапланецяніна, ды яшчэ акуляры гэтыя недарэчныя. Хіба цяжка бацькоў на лінзы раскруціць? Яны на свайго вундэркінда надыхацца не могуць. І яшчэ худы, як згаладалая трэска. Нават на фоне сухаватага Антохі Сеўка здаваўся каласком на ветры.

— Пакуль ты са сваёй фізікай забаўляўся, твайму лепшаму сябру ледзь «пару» ў апошні дзень чвэрці не ўляпілі!

— Не фізікаю, а хіміяй. Там, разумееш... — Сеўка спахапіўся, нават рукзак з рук выпусціў. — Як «пару»? За што?

— Паліна патрабавала доказ тэарэмы Піфагора. Такі, каб яна не ведала.

Сеўка жаласна паглядзеў у Антохавы вочы.

— Абышлося, — супакоіў яго Волкаў. — Гэтая... новенькая выратавала.

Рогаў радасна вярнуўся да рукзака:

— Крута... А як?

— А вось гэта мы зараз дазнаемся. За мной!

* * *

Лёлю яны знайшлі там, дзе тоўпілася паўшколы — каля агароджвання вакол дуба. Яна глядзела кудысьці на яго верхавіну і вельмі сур’ёзна слухала аднакласніка, які з важным выглядам прамаўляў:

— Разумееш, яны спачатку хацелі голле спілаваць, а потым узяліся за ствол, але пілка не працуе. Яны ўжо трэцюю пілку памянялі...

Тут расказчык заўважыў, што да яго рашуча набліжаецца Антоха, і правільна ацаніў сітуацыю. Хуценька знік. Лёля, трошкі здзіўленая такім раптоўным завяршэннем размовы, азірнулася цераз плячо, пабачыла Антоху з Сеўкаю і весела пасміхнулася.

— Не паваляць яны яго, — сказала яна з такім выглядам, як быццам паведаміла пра выздараўленне блізкага родзіча. — Дарэмна толькі час змарнуюць!

Яе шэрыя вочы на вуліцы раптам аказаліся ярка-зялёнымі.

— Ага, — сказаў Антоха. — Лохі яны. Думаюць, у казку патрапілі...

Ён і сам не хацеў, каб дуб спілавалі, але чамусьці быў незадаволены Лёлінай радасцю. Як быццам яна лепей за яго ўсё тут ведала. Лёля адразу ж спахмурнела і пачала зноў разглядваць дуб, але ў Волкава засталося непрыемнае адчуванне, што белабрысая патыліца не выпускае яго з поля зроку.

— Дзякуй, — дадаў Антоха. — Выручыла.

— Выручыла, — кіўнула Лёля, не адрываючы позірку ад дуба.

Антоху рабілася ўсё больш няўтульна. Сеўка, замест таго, каб дапамагчы, пазадаваць пытанні, стаяў, вытарашчыўшы вочы. «Зноў штосьці прыдумаў, — паморшчыўся Антоха. — Што за звычка такая, думаць без супынку. А паразмаўляць?» Але распачатую размову трэба было давесці да канца.

— Я цябе таксама калі-небудзь выручу, — раптам ляпнуў ён.

Лёля не стала хіхікаць, толькі вельмі сур’ёзна ўдакладніла:

— Слова даеш?

— Зуб даю, — буркнуў Антоха.

— Зуб непатрэбны. Мне тваё слова трэба. Даеш?

— Даю, — пагадзіўся Антоха.

«Хоць бы павярнулася!» — падумаў ён. Антоха ўжо з хвіліну глядзеў туды ж, куды і яна, але нічога займальнага не бачыў. Дуб як дуб. Вузлаваты, месцамі патрэсканы. На галінах сям-там — рудое, быццам бляшанае мінулагодняе лісце. Не дрэва, а манумент.

— Выдатна, — Лёля, не гледзячы, выцягнула з кішэні ўжо знаёмую нітку і спрытна завязала на ёй просценькі вузельчык.

Пасля чаго нітка знікла ў яе кішэні. На Антоху яна так і не зірнула. Гэта было ўжо верхам няветлівасці. Волкаву нават схацелася згадаць дзяцінства і таргануць Лёлю за коску. Косы — тоўстыя і бліскучыя — самі прасіліся ў руку.

— Слухай, — рэзка запытаўся Антоха, — а як ты гэта правярнула? Ну... цяпер, на матэматыцы?

Магчыма, Лёля і адказала б, але тут прачнуўся Сеўка.

— Слова! — радасна паведаміў ён. — Вядома, слова!

Тут ужо і Лёля азірнулася, і Антоха, ды і ўвогуле ўсе, хто апынуўся паблізу. У Рогава быў выгляд чалавека, які толькі што пакарыў самую высокую гару свету.

— Я пра тэарэму Піфагора! — растлумачыў ён трошкі цішэй. — Сума квадратаў катэтаў раўняецца квадрату гіпатэнузы, так?

Лёля і Антоха сінхронна кіўнулі.

— У слове «катэт» пяць літар, — працягнуў Сеўка. — У слове «гіпатэнуза» — дзесяць. Кожная літара ўпісана ў квадрацік, так? Значыцца, два «катэты»— гэта дзесяць квадрацікаў. І адна «гіпатэнуза» — дзесяць. Сума квадратаў катэтаў роўная квадрату гіпатэнузы!

Рогаў пераможна захіхікаў. Усе, хто стаяў наўкол, паглядзелі на яго са спачуваннем. Сеўку ў школе любілі. Хоць і быў выдатнікам, і атрымліваў дыпломы на

алімпіядах, гэта не раздражняла. Відаць, з-за Сеўкавай дзіцячай наіўнасці і непасрэднасці. Ён вучыўся не таму, што прымушалі бацькі, і не каб пакрасавацца — як, напрыклад, Машка, — Рогаву было проста цікава. Ён гуляў у формулы, як іншыя гулялі ў салдацікаў. Гэта было дзіўна, але натуральна. Праўда, усе астатнія ўжо адклалі салдацікаў, а Сеўка ўсё ніяк не мог нагуляцца, усё чараваў над сваімі закавыкамі. З-за гэтага і жарты ў яго былі... дзіўныя.

Звычайна пасля жарту Рогава павісала няёмкая цішыня (не здзекавацца ж з небаракі! ), але на гэты раз традыцыя была парушана. Лёля разрагаталася так шчыра, што і ўсе астатнія не ўтрымаліся. Хто пахіхікваў у кулак, а хто і падтрымаў Лёлю. Нават Антоха проці сваёй волі пасміхнуўся. Ён, зразумела, тут жа зноўку стаў сур'ёзным, строга паглядзеў на Лёлю...

Вочы ў яе гарэлі ясным ізумрудным святлом.

* * *

Апошнім урокам была гісторыя. Тэма так сабе, пра старажытных славянскіх багоў, ды і Мацвей Ільіч, як звычайна, не надта цікавіўся вучнямі — бубніў штосьці сабе ў вусы. Да таго ж сёння ў яго з'явілася жаданне весці ўрок на беларускай мове (такое з ім здаралася праз два разы на трэці), таму амаль ніхто і не імкнуўся слухаць.

Антоха прыдзірліва агледзеў клас, быццам важак чараду. Усе дурэлі па меры сіл, але без фанатызму: па калідорах мог хадзіць дырэктар. Зойдзе — мала не падасца. Толькі маленькая чарнявая зубрылка Маша, пакутліва скрывіўшыся і прыкрываючы левае вуха ад шуму, штосьці страчыла ў сшытку.

І Лёля...

Яна нічога не пісала, сядзела за сваёй другой партай, склаўшы рукі перад сабою адну на другую, як вучаць у першым класе, і вельмі ўважліва слухала. Часам ківала, часам злёгку пакачвала галавой, ад чаго яе косы падрыгвалі, як дзве вельмі ўважлівыя, але зусім не небяспечныя вужакі.

Антоха перагнуўся да Сеўкі, які сядзеў спераду і штосьці энергічна драпаў на паперцы, не балюча шчоўкнуў яго па патыліцы. Той азірнуўся і заміргаў, імкнучыся зразумець, дзе ён і чаго ад яго хочуць.

— Як табе новенькая? — шэптам запытаўся Антоха.

Шаптаў ён не з-за боязі перад гісторыкам, а каб суседзі не падслухалі. Пачнуцца потым падколкі, намёкі...Ён, вядома, хутка па галаве настукае балбатунам — толькі ж іх не заўжды за руку схопіш.

— Ды нармальная як быццам, — адказаў Сеўка і збіраўся вярнуцца да свайго драпання, але Антоха яго затрымаў.

— Нічога дзіўнага ў ёй не прыкмячаеш?

Рогаў зразумеў, што так хутка ад яго не адчэпяцца, сумленна ўтаропіўся на патыліцу Лёлі. Тая, быццам адчула позірк, азірнулася, падміргнула і прыклала палец да вуснаў. Пасля чаго зноўку вярнулася да гісторыі.

— Нармальная дзяўчынка, — пераканана сказаў Сеўка. — Не зануда. Воўк, мне трошкі-трошкі засталося, можна я дапішу?

Антоха адпусціў Рогава. Усё роўна карысці ад яго... Волкаў задумаўся. Усіх, хто яго акружаў, ён прывык раскладваць па катэгорыях: «сябры», «ворагі», альбо «ніхто». Сеўка ці Мішка былі сябрамі. Зрэдку траплялісяворагі. Астатніх можна смела лічыць «нікім». Але вось новенькая... Яна відавочна не адносіцца да катэгорыі «ніхто». Але і сябрам ці ворагам Антоха таксама не адважваўся яе прызнаць. Гэта яго і нервавала. Ён проста абавязаны быў зразумець, якою фарбай пафарбаваць Лёлю: белаю ці чорнаю...

Мацвей Ільіч стаяў насупраць Лёлі і размаўляў толькі з ёю. Яна сядзела нерухома і ўбірала кожнае слова, як сухая зямля ваду. Антоха спахмурнеў. Ну сапраўды, нармальная дзяўчынка. Дапамагла яму проста так... Незразумела, як у яе гэта атрымалася... Гіпноз, відаць, нейкі. Потым Сеўку таксама, у прынцыпе, выручыла, над яго дзіўнаватым жартам пасмяялася.

І ўсё роўна. Штосьці ў ёй не гэтак. Надта вольна новенькая сябе з Антохаю паводзіць. Астатнія дзяўчынкі яго пабойваюцца. Некаторыя задзіраюцца, нават вякаюць нешта, як Машка, але баяцца, гэта факт. Ён гэта нутром чуе.

Асабліва пасля той бойкі з дзесяцікласнікам.

Адзін хлапец з паралельнага спрабаваў дражніць Сеўку. Штосьці зусім неарыгінальнае, кшталту «Акулярык, у адным месцы шарык!». Волкаў крыўдзіцеля нават не біў, узяў за шкірку, злёгку страсянуў і ў вочы паглядзеў. Ён умеў так паглядзець, каб у чалавека паджылкі трэсціся пачалі. А потым аказалася, што ў хлапца і старэйшы брат такі ж самы ёлупень. Пасля школы падлавіў Антоху. «Зараз, — кажа, — я цябе ветлівасці вучыць буду».

Антоха, можа, і не стаў бы лезці ў бутэльку. Жыццё навучыла яго адступаць перад тупой сілай, захоўваючы годнасць. Але на гэты раз сітуацыя была асаблівая: дзесяцікласнік злавіў яго на вачах ва ўсяго класа. Калі б Антоха цяпер падціснуў хвост, дык усё, канец рэпутацыі. Таму ён сціснуў кулакі так, што пазногці ўпіліся ў далоні, і папёр на здаравяка. Моўчкі, без звычайных «бачылі мы такіх!», «ды ў мяне брат дэсантура!». Проста ішоў і звярэў. У байцы гэта галоўнае. Не тэхніка ўдару, нават не сіла — а вось такое азвярэнне.

Трэба было паспець завесці сябе вельмі хутка, каб ударыць першым. Потым такога шансу магло і не з’явіцца. Але ўдарыць Антоха не паспеў. Дзесяцікласнік чамусьці хутка стушаваўся і адступіў са словамі: «Псіх, ці што?». Волкаў спачатку нават не зразумеў, у чым справа, толькі раззлаваўся, што трэба рабіць лішні крок. Яшчэ адзін. І яшчэ. А потым стаяў і здзіўлена глядзеў на спіну, якая хутка аддалялася. Каб выплюхнуць назапашаную злосць, давялося з рыканнем прабегчы круг гонару пад улюлюканне аднакласнікаў, поўнае захаплення. Прабежка не дапамагла, Антоха кінуўся на дуб і хвілін пяць драпаў і біў яго — толькі тады адпусціла...

...Перад вачамі нешта шчоўкнула. Антоха ўздрыгнуў і ачомаўся. З другой парты яму весела пасміхалася Лёля, над якою разгублена навісаў гісторык.

— Гэта вы навошта? — запытаўся ён.

— Выбачайце! — як нічога і не было адказала Лёля. — Гэта так... Дык вы пра калаўрот нешта тлумачылі!

— Калаўрот, — Мацвей Ільіч часта заміргаў. — Гэта, вы бачыце, такая рэч...

Пасля ўрокаў усе зноўку кінуліся глядзець на бітву з дубам. Уласна кажучы, глядзець ужо не было на што: рабочыя бясследна зніклі, зняўшы агароджванне, толькі школьны вартаўнік Васіль Васільевіч задумліва разглядваў галіну, на якой бачыліся няўпэўненыя сляды пілы.

Выгляд у яго быў такі важны, што ніхто з вучняў не адважыўся дазнацца падрабязнасці: прыйдуць рабочыя яшчэ ці не. Але ён сам раптам сказаў, звяртаючыся незразумела да каго:

— Не зваляць яны дуб. Зачараваны ён.

Вечарам на ганку гімназіі на традыцыйным зборышчы было шматлюдна. У асноўным тут тусаваліся старшакласнікі, а малеча кшталту сяміклашак прыходзілі з прынцыпу, проста таму, што іх адтуль з усіх бакоў праганялі. Іх гналі старэйшыя:

— Гэй, малеча, вам ужо спаць пара...

Іх гналі настаўнікі:

— Каб вас болей на гэтых шабашніках не бачылі!

Іх не пускалі бацькі:

— Я табе быць дома ў колькі сказала, га-а?

Але менавіта таму нахабным сямікласнікам зборышча было як мёдам намазана. І нават калі вечарам яны збіраліся дзесьці ў іншым месцы, дык пастаянна дрэйфавалі ў бок школы, як быццам нехта чараваў па вечарах на школьным ганку.

Якіх толькі плётак тут не расказвалі!

Якіх толькі планаў не строілі!

Якія геніяльныя пражэкты распрацоўваліся да самых дробязей!

Якія жахлівыя спосабы адпомсціць і пакараць!

Ці, наадварот, уратаваць і ўзнагародзіць...

Карацей, прыйдзеш на зборышча — і праз пяць хвілін ты ўжо цалкам у курсе апошніх школьных падзей.

— Чулі, Ірачку застукалі ўчора ў кіно з дзесяцікласнікам. Кажуць, яна ледзь пад крэсла не залезла ад жаху...

Прыгажуня Ірачка, педагог-арганізатар, была вядомая тым, што па ёй сохлі амаль усе старшакласнікі школы. Уласна, яна была літаральна на некалькі гадоў старэйшай за іх, і пакутліва чырванела кожны раз, калі яе імкнуліся запрасіць на спатканне. Але дзе яна — тыпу настаўнік, а дзе яны — яшчэ школьнікі...

Плётку пераказвалі і перамолвалі, яна абрастала ўсё новымі падрабязнасцямі, дзяўчынкі сыкалі атрутай у бок Ірачкі, хлопчыкі злосна зайздросцілі яе кавалеру.

Перамыўшы ўсе костачкі бедалазе Іры, пераключыліся на матэматычку Паліну Андрэеўну, якая «канчаткова азвярэла» і «сёння зусім з ланцуга сарвалася». Устроіла ў дзявятых класах такое бліц-апытанне, што нават выдатнікі выходзілі з кабінета з успацелым ілбом і дрыжачымі каленкамі. Бедныя троечнікі гінулі смерцю храбрых яшчэ да заканчэння ўрока.

Потым размова чамусьці перамясцілася на дуб. Абмеркавалі, што з ім імкнуліся зрабіць гора-дрывасекі і што яны пры гэтым казалі. Прыйшлі да высновы, што дуб як быццам і не перашкаджае, толькі з-за яго ва ўнутраным дворыку гімназіі заўжды цень і немагчыма ў штосьці пагуляць.Рэдкі валанчык далятаў да сярэдзіны дуба і вяртаўся назад, рэдкаму мячу ўдавалася не застрагнуць у голлі.

А кожную восень дуб уяўляў сабою развясёлае відовішча. Лісце ападала, засцілаючы роўным тоўстым дываном увесь двор, затое станавілася бачна, што на галінах вісяць: самалёцікі, стужачкі , нечыя штаны, чыісьці кеды, сшыткі... Ачыстка дуба была важнаю часткаю традыцыйнага восеньскага суботніка — і шыкоўнаю забаваю.

Увогуле, гімназісты дуб любілі, і невядома чаму ўсе пачалі абмяркоўваць, як можна зваліць няшчаснае дрэва. Варыянтаў было прапанавана мноства, усе яны здзіўлялі вынаходлівасцю і крыважэрнасцю.

Якраз тут Антоха ў размову і ўлез, не ўтрымаўся. Да гэтага яшчэ атрымлівалася не звяртаць на сябе ўвагу, але калі гаворка пайшла пра арганізацыю скіраванага выбуху... Тады ён і зразумеў, што без яго гэткае мерапрыемства адбыцца проста не можа!

— А ты куды лезеш, малы? — паімкнуўся адштурхнуць Антоху нейкі дзесяцікласнік. — Не бачыш, тут дарослыя людзі размаўляюць.

Антоха насупіўся:

— Ага-ага... Размаўляюць. А зрабіць нічога не могуць. Дзесяцікласнік наважыўся было даць нахабнаму хлапчуку «ляшча», але чамусьці не стаў гэтага рабіць. Толькі запытаўся яхідна:

— А ты, значыцца, можаш?

Перад вачамі Волкава прамільгнулі формулы ў сшытку Сеўкі.

— Магу!

Цяпер на яго глядзелі з цікавасцю. Дзесяцікласнік, з якім Антоха зачапіўся першым, недаверліва адтапырыў губу:

— Угу-у... Мог адзін такі. Балбатун.

Антоха адчуў, як набухла жылка на скроні і пачаў гарэць твар.

— Забіліся? — сказаў ён, стараючыся, каб голас не дрыжаў.

У яго заўжды дрыжаў голас, калі ён заводзіўся. Сёй-той лічыў, што гэта ад баязлівасці — за што і атрымліваў па поўнай праграме. Дзесяцікласнік, здаецца, таксама вырашыў, што ў Антохі паджылкі затрэсліся. Таму ён пагадзіўся хутка і весела.

— Забіліся! — ён працягнуў Волкаву руку. — Калі заўтра...

— ...паслязаўтра! — запярэчыў Волкаў, пацiскаючы руку.

Яго сапернік пасміхнуўся:

— Добра. Калі паслязаўтра дуб будзе стаяць на месцы — атрымаеш пэндэля. Пры ўсіх, вось тут жа!

Антоха толькі мацней сціснуў руку і дадаў:

— А калі не будзе — табе пэндэля!

— Не пытанне! Разбіце, мужыкі!

«Мужыкі» ахвотна разбілі.

Волкаў імкліва пайшоў, амаль пабег, ад ганка.

— І ўлічы: я цябе запомніў! — крыкнуў яму ўслед дзесяцікласнік.

Антоха не адказаў. Яму трэба было тэрмінова паставіць задачу Сеўку. У цемры ён міма кагосьці праскочыў, але не стаў спыняцца.

## Глава 2

## ЯК ЗВАЛІЦЬ ДУБ

Сеўка доўга не мог урубіцца, што ад яго хоча сябар на ноч гледзячы.

— Формулы? — здзіўляўся ён. — Якія формулы? Я зараз тут адну праграмку пішу, да чаго тут формулы? І ўвогуле, канікулы ўжо!

Тут Сеўка занепакоіўся і ўтаропіўся на насценны каляндар — ці дакладна канікулы, ці ён зноў нешта пераблытаў.

— Ды канікулы, канікулы, — супакоіў яго Антоха, — але мне патрэбна дуб узарваць.

Сеўка ад такога паведамлення ўвогуле ашалеў. Давялося расказваць яму ўсё па чарзе: пра зборышча, пра спрэчку, пра тое, што старшакласнікаў пара правучыць...

— А-а-а! — зразумеў Сеўка. — Дык табе ўзрыўчатка патрэбна?! Трэба падумаць.

— Пачакай, — пахаладзеў Антоха, — а тыя формулы, якія ты ўвесь дзень пісаў... хіба гэта не ўзрыўчатка?

— Не, — здзівіўся Сеўка, — чаму ўзрыўчатка? Гэта спосаб хуткага аднаўлення металаў з раствораў.

Некалькі хвілін Сеўка і Антоха пільна глядзелі адзін на аднаго. Сеўка не мог зразумець, чаго Волкаў вырашыў, што ён займаецца вынаходніцтвам узрыўчаткі, а Антоха не мог зразумець, што яшчэ, акрамя ўзрыўчаткі, можна вынаходзіць.

— Так, — сказаў нарэшце Антоха. — А ўзрыўчатку можаш прыдумаць?

— А што яе прыдумваць? Усё даўно прыдумана. Пайшлі.

І пачалася марока. Спачатку яны гадзіну капаліся ў Інтэрнэце, потым выбіралі самы надзейны спосаб... А потым прыйшоў Сеўкаў бацька і адправіў Антоху дамоў. Яшчэ адчытаў за тое, што той мабільнік не бярэ, і Волкаву-старэйшаму даводзіцца тузаць Рогава-старэйшага.

Антоха выбег з пад’езда і ледзь не наскочыў на панурую Лёлю.

Размаўляць з ёю не хацелася, ён збіраўся абысці яе, але Лёля схапіла яго за рукаў і патрабавальна сказала:

— Не чапай дуб!

— А то што? — агрызнуўся Антоха. — Настукаеш?

Трэба было б вырвацца, але ён баяўся за сваю куртку — Лёля трымала яе вельмі моцна. Хутчэй рукаў адарвецца, чым гэтая зануда.

— Не чапай дуб, — ужо запатрабавала, а не папрасіла дзяўчынка. — А не то кепска будзе. Усім.

Антоха ўсё-ткі вырваў рукаў.

— Дык што кепска? Яшчэ дзякуй нам скажуць, калі мы яго павалім! Вунь рабочыя цэлы дзень пракалупаліся...

Лёля пакачала галавою. Тут ён зразумеў, што апраўдваецца перад гэтаю ненармальнай, і раз’юшыўся.

— Дык што ж будзе?! Што?!

— Я не ведаю, — сказала яна ціха. — Але будзе кепска.

Антоха фыркнуў і пакрочыў да свайго дома. Горш за ўсё, што ён і сам у глыбіні душы адчуваў, што не трэба чапаць дуб, што Лёля мае рацыю. «І што цяпер? — злосна падумаў ён. — Атрымліваць пэндэля на зборышчы? Ну ўжо не!»

* * *

Увесь наступны дзень ён правёў бягом. Сеўка раз-пораз пасылаў Антоху то ў магазін за ацэтонам, то ў аптэку за нейкімі таблеткамі, то зноў у гасмаг за ўсялякаю лухтою... Антоха, не паказваючы, злаваўся — няўжо цяжка было адразу скеміць, што спатрэбіцца?! Але абурэнне трымаў пры сабе. Рогаў у стане творчага пад’ёму наогул мала што цяміў. А калі яго, барані Божа, вывесці з гэтага стану — пішы прапала. Завісне на паўдня. У такія імгненні ён нагадваў нейкага жырафа-мутанта: вочы пустыя, бяздумныя, толькі вялікая галава на надта ж доўгай шыі злёгку пакачваецца.

Добра яшчэ, што рогаўскія бацькі з Сеўкавым малодшым братам з’ехалі з выпадку добрага надвор’я на дачу да Волкавых — а то давялося б хлусіць пра дамашнюю працу па хіміі. І добра, што частка рэактываў знайшлася ў Сеўкі ў кладоўцы, дзе ён абсталяваў сапраўдную лабараторыю, інакш Антоху давялося б у два разы актыўней бегаць па магазінах.

А яшчэ Антоху страшэнна раздражняла Лёля. Яна болей не спрабавала з ім загаворваць, проста сядзела на лаўцы каля пад’езда і глядзела ў зямлю панурымі, як лужыны, вачамі.

Нарэшце ўсё неабходнае было адабрана і праверана (Сеўка доўга змешваў нейкія вадкасці і прыдзірліва вывучаў белы асадак, які атрымаўся пры гэтым).

— Пацягне! — важна сказаў Сеўка.

Антоха натхніўся, але аказалася, што гэта толькі пачатак. Далей пайшла праца нудная і марудная: Сеўка пераліў змесціва вялікай смярдзючай бутэлькі ў эмаліраваную каструлю і пачаў акуратненька распускаць у ёй таблеткі, прынесеныя з аптэкі.

— Ды высып ты іх усе адразу! — не вытрымаў Антоха.

— Нельга, — замагільна адказаў Сеўка. — Рэакцыя экзатэрмічная... Калі перагрэецца — ірвануць можа.

Пасля распускання таблетак Сеўка адвалок каструлю ў ванны пакой, накідаў у яе ільду з халадзільніка і пачаў патроху даліваць ацэтон. Антоха завыў ад бяссілля. Да шчасця, тут пазваніў Мішка і пацікавіўся, чаму іх няма ў сетцы — яму не было з кім у «Контру» паганяць. Антоха ўзрадаваўся Мішку як роднаму і запатрабаваў, каб той зараз жа прыйшоў да Сеўкі. Шчыра кажучы, ён не толькі шукаў суразмоўцу

на час, пакуль Сеўка хімічыць. Мяркуючы па прыгатаваннях, узрыўчатка павінна была атрымацца надзвычай цяжкай, не самаму ж яе цягнуць? Пераноска цяжкасцей — праца якраз для Беркіна. А чалавек ён надзейны, хоць і замаруджаны.

Мішка, даведаўшыся аб грандыёзных планах па ўзрыве дуба, шчыра захапіўся і палез назіраць за маніпуляцыямі Сеўкі. Яны з Антохаю засталі Сеўку за дзіўным заняткам — ён трымаў пад струменем вады анучку, у якую было штосьці загорнута, час ад часу падносіў яе да рота, лізаў, задумваўся і вяртаў анучку пад струмень.

— Ты чаго? — здзівіўся Мішка.

Сеўка замест адказу тут жа сунуў яму анучку:

— Лізні!

Мішка скасавурыўся на Антоху, атрымаў ад ягоківок, які падбадзёрваў, і толькі пасля гэтага лізнуў.

— Ну як? — запытаўся Сеўка. — Не кісла?

— Не-а.

Сеўка радасна закрыў кран.

— Усё! — сказаў ён. — Цяпер сушыць будзем.

І разгарнуў анучку. У ёй аказаўся мокры белы парашок.

«Не гэтак ужо яе і шмат атрымалася, — падумаў Антоха , — дарэмна Мішку клікаў».

— Бікфордаў шнур патрэбен, — сказаў Сеўка. — Трэба яшчэ куды-нікуды збегаць...

«Не, не дарэмна Мішку клікаў», — падумаў Антоха і выштурхнуў Беркіна наперад.

— Пайдзі ў кіёск, — працягнуў Сеўка, сагнуўшыся на манер пытальніка і пазіраючы Мішку кудысьці ў жывот, — купі там газет.

— Сённяшніх? — удакладніў Мішка.

— Любых, — адмахнуўся Сеўка, — папера патрэбна.

Як толькі цяльпук Мішка прыцягнуў «любых газет», Сеўка дастаў з загашнікаў сялітру, прамачыў ёю паперу і скруціў з яе амаль сапраўдны бікфордаў шнур.

Тым часам узрыўчатка высахла. На гэты раз Сеўка стаў яе плавіць. Антоха ўжо знемагаў ад нецярплівасці. Нават марудлівага Мішку доўгая падрыхтоўка замучыла.

— Можа, у «Контру»? — нясмела прапанаваў ён, назіраючы за маніпуляцыямі Сеўкі.

Яны згулялі, але не ў «Контру», а ў «Як дастаць студэнта», прычым за клавіятураю сядзеў Антоха, а Мішка ў меру экспрэсіўна хварэў, асцярожна размахваючы рукамі — у памяці яшчэ ясна жыў успамін пра той выпадак, калі Мішка выпадкова скінуў з паліцы нейкі патрэбны Сеўку надта ж крохкі макет.

Але тут зноўку з’явіўся Сеўка і адправіў Мішку ў гастраном за драўнінным вугалем, Антоху — у гаражы за салояркаю, а сам узяўся за напільнік і алюмініевую трубку...

...Калі пад вечар бомба была гатовая, усе трое ўжо і не рады былі, што ўзяліся за гэтую справу.

— Можа, заўтра рванем? — жаласна папрасіў Сеўка.

Ён раптам адчуў, што дзіка стаміўся. Антоха маладушна павагаўся, але потым згадаў пра пэндаль і цвёрда сказаў:

— Ніякіх заўтра! Вось перакусім — і пойдзем!

Заўважыўшы няўпэўненасць на тварах Сеўкі і Мішкі, дадаў любімую прыказку:

— Што думалі — у казку трапілі?..

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Р. БАРАВІКОВАЙ.***

Вікторыя ГАРБАЧОВА

# СМЕРЦЬ ЗА ШАХМАТНАЙ ДОШКАЙ

## *Гісторыя аднаго сюжэта*

***Чорныя і белыя кляцінкі шахматнай дошкі. Чорныя і белыя фігуры на іх. З аднаго боку сядзіць чалавек, з другога — шчэрыцца жудаснай усмешкай шкілет. Гэта з аповесці Уладзіміра Караткевіча, напісанай у 1964 годзе, «Ладдзя роспачы». Але дазвольце... ці не пачалася гульня раней? Канечне, У. Караткевіч, з яго дапытлівасцю і ўвагай да гісторыі і сусветнай культуры, не мог не ведаць пра старажытнасць ужытай ім метафары. Упершыню яна з'явіцца больш за пяцьсот год да стварэння «Ладдзі»… і дайшла да пісьменніка даволі пакручастымі шляхамі. Пра шляхі гэтыя і пойдзе гаворка.***

У гісторыі Еўропы ні адна эпоха не ўглядалася ў твар смерці з такой пільнай упартасцю, з такім жахам, адчаем і хваравітай цікаўнасцю, як гэта рабіла XV стагоддзе. Для такой апанаванасці смерцю існавалі свае пэўныя прычыны і свае апраўданні. Гэта быў час, калі Еўропа ператварылася ў месца гіганцкай бойні. Ішла Стогадовая вайна. Сялянскія і гарадскія паўстанні змяняліся іншаземнымі нашэсцямі. Палітычны разлад, як у люстэрка, глядзеўся ў разлад рэлігійны: ужо множыліся ерасі, ужо прапаведвалі па гарадах і вёсках усё новыя ілжэпрарокі; ужо адбылася Вялікая схізма, і кожны каталік аказаўся адлучаны ад касцёла тым Папам, якога манарх ягонай краіны адмовіўся прызнаць. Па Еўропе лаваю распаўсюджваўся голад. За ім насоўваўся велізарны цень чорнай смерці — чумы. Яшчэ ў сярэдзіне XIV стагоддзя кожны трэці еўрапеец станавіўся яе ахвярай. Карціны гвалту і смерці, горы непрыбраных трупаў на плошчах гарадоў — будзённае відовішча для змучаных вачэй жыхароў Германіі, Францыі, Іспаніі, Чэхіі... Сапраўды, «коннікі Апакаліпсіса чакалі ля павароткі» (І. Бергман) у кожную вёску і кожны горад.

Тэмаю memento mori (быццам пра яе можна было забыць) прасякнуты ў гэты час амаль усе царкоўныя казані. Зноў і зноў святары са сваіх амбонаў даводзяць пастве аб тленнасці ўсяго зямнога і заклікаюць да пакаяння. Чаканне ўсеагульнага Страшнага Суда засланяецца ўяўленнем аб неадкладным судзе над душою адразу ж пасля смерці. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да «заняпаду ўваскрашэння» (П. Шаню) у еўрапейскай свядомасці. Раней, гледзячы на цела памерлага, вернік бачыў тое, чаму наканавана аднойчы ўзнавіцца ў цэласці і прыгажосці. Цяпер ён бачыў толькі распад. Ды як жа інакш, калі свежымі былі ўспаміны аб смярдзючых трупах на вуліцах гарадоў, ахопленых чумой, а ў Парыжы людзі спецыяльна збіраліся, як у тэатр, падзівавацца на старыя косткі, выкінутыя з магіл, Франсуа Віён іранічна завяшчаў свае акуляры сляпым, каб яны маглі адрозніць косткі нягодніка ад костак сумленнага чалавека. Смерць пужала, але ж яна і няўхільна вабіла.

Каб пазбавіцца страху, трэба яго намаляваць. Выявы смерці ў гэты час запанавалі на фрэсках, алтарных роспісах, у кніжных мініяцюрах і гравюрах. Дагэтуль яна была нячастай госцяй у працах мастакоў — гісторык Жак ле Гоф назваў яе «вялікім адсу-

тным» сярэднявечнага жывапісу: «сярод шматлікіх страхаў, якія змушалі іх (людзей сярэднявечча) дрыжаць, страх смерці быў самым слабым». Так працягвалася да XV стагоддзя, калі коннік на «бледным кані», з лаканічным надпісам «mors» над галавою, саступіў месца больш звыкламу для нас вобразу шкілета, муміі, трупа з ашмёткамі мяса на касцях. Уражвае разнастайнасць сюжэтаў з удзелам смерці: сустрэча трох памерлых і трох жывых, трыумф смерці, мастацтва паміраць і г. д. Зрабіўшыся будзённым спадарожнікам чалавека, смерць засвойвае будзённыя заняткі: яе выяўляюць у вобразе жняца, птушкалова, паляўнічага з аркебузай. Трохі пазней, на малюнках Гальбейна, смерць возьмецца за рала і поруч з селянінам правядзе ў полі апошнюю баразну. Усе гэтыя выявы служылі адной мэце — выклікаць у душы гледача жах перад непазбежным і паклікаць яго да пакаяння.

Але паступова тэма выходзіць з-пад улады яе натхняльніка — Царквы. Усё больш легкадумнымі, больш блюзнерскімі, змрочна-вясёлымі робяцца выявы смерці. Паўсюль па Еўропе распаўсюджваецца dance Macabre, так званыя «скокі смерці» — жывапісны сюжэт, дзе жывых гвалтоўна ўцягваюць у скокі шкілеты, а смерць акампануе ім на музычных інструментах. Выявы гэтыя часам прасякнуты хваравітым эратызмам: шкілеты непрыстойна абдымаюць дзяўчат і нават зазіраюць ім пад спадніцы. Менавіта ў гэты час мастакі ўпершыню навучылі смерць смяяцца. Як правінцыял, які з галавою кідаецца ў сталічныя забавы, яна адкрывае для сябе ўсё новыя сферы чалавечага жыцця. Сапраўды, што раней смерць магла прапанаваць свайму абранніку? Меч альбо хваробу, пажар альбо старасць? Цяпер жа яна прапаноўвала яму станчыць з ёю альбо згуляць у косці — ці ў шахматы.

Пакінем на хвіліну нашага змрочнага гульца і звернемся да самой гульні. З'явіўшыся ўпершыню на Усходзе, шахматы трапілі ў Еўропу ў VIII — IX стагоддзях. Праз дзвесце гадоў яны зрабіліся адной з самых папулярных забаў шляхты і нават уваходзілі ў праграму рыцарскага выхавання. Вялікі сімвалічны патэнцыял шахмат (ужо распрацаваны на Усходзе) адразу ж быў з энтузіязмам выкарыстаны духавенствам. Па-першае, шахматная дошка стала ідэальным увасабленнем мадэлі сярэднявечнага грамадства: на ёй стаялі фігуры караля і каралевы, фігуры сланоў — суддзяў і ладзей — вікарыяў караля. Пешкі сімвалізавалі рамеснікаў і сялян. У перыяд грамадзянскіх войнаў і агульнага палітычнага разладу такая сацыяльная мадэль, дзе за кожным саслоўем замацаваны стабільны статус, а яго перамяшчэнні-ўчынкі падпарадкаваны сістэме дакладных правілаў, была асабліва актуальнай. У больш шырокім сэнсе шахматы сталі выкарыстоўвацца як мадэль светабудовы, і менавіта так інтэрпрэтавалі гульню сярэднявечныя прапаведнікі. Тут ўгледжвалася многае: і суседства-саперніцтва жыцця і смерці, увасобленых у чорных і белых клетках дошкі; і людзей — шахматныя фігуры — якія займаюць рознае становішча, сапернічаюць паміж сабою, але ў канцы гульні ўсе разам ляцяць у адзін мяшок. Прычым кароль часта аказваецца на дне пад іншымі фігурамі. Чалавек можа быць уяўлены і як гулец, які распачынае партыю як некае падабенства жыцця, атрымлівае перамогі і церпіць паразы, а ў канцы адыходзіць у вечнасць. Відавочна, што сярэднявечны еўрапеец, абцяжараны такімі ведамі і прыгнечаны страхам смерці, седзячы за шахматнай дошкай, з лёгкасцю мог уявіць сваім партнёрам кірпатую госцю. Відавочна і тое, што смерць, якая толькі-толькі пачала адкрываць для сябе радасці свецкага жыцця, не магла не спакусіцца хітрамудрай гульнёй. Выявы смерці, якая гуляе ў шахматы з чалавекам, з'яўляюцца ў гэты час на фрэсках Страсбургскага сабора, у царкве гарадка Тэбі ў Швецыі, у іншых месцах.

Сэнс гульні са смерцю ў косці яскравы: абодва гульцы ў роўнай ступені закладнікі выпадку; трагічная іронія гульні схавана ў тым, што чалавек не можа спыніцца і вымушаны бясконца кідаць косці, пакуль не прайграе. З шахматамі ўсё складаней. Шахматная дошка, безумоўна, уяўляе сабою мадэль светабудовы, падпарадкаванай строгай логіцы розуму. На месца сляпой капрызлівасці выпадку яна ставіць свабодную волю чалавека, хаця і абмежаваную жорсткімі правіламі гульні. Ад ведання гэтых правілаў, ад мудрых і прадбачлівых хадоў гульца залежыць зыход. Дык чаму ж чалавеку раз за разам наканавана цярпець паразу ў гэтым інтэлектуальным супрацьстаянні, хай сабе перад ім і сядзіць сама Смерць?

Адказ на гэтае пытанне, услед за Мішэлем Фуко, паспрабуем сфармуляваць так. Бог у невымоўнай мудрасці сваёй пабудаваў сусвет, прасякнуты боскім розумам, — і пасяліў у ім дурнога чалавека. Ніколі слабы чалавечы мозг не зможа цалкам спасцігнуць законы, па якіх уладкаваны гэты свет. У вачах Бога (і ў вачах смерці) космас, як шахматная дошка, быў разумны і зразумелы. У вачах самога чалавека, разгубленага дурня, сусвет зрынуты ў хаос і вар'яцтва. Ды хіба гэта не вар'яцтва — Стогадовая вайна, скокі смерці, «раздваенне» Папы Рымскага? Разумны для Бога, разумны для смерці, для чалавека гэты свет рабіўся царствам абсурду.

Гульня не перапыняецца і ў наступныя стагоддзі. Шахматную сімволіку актыўна выкарыстоўвае эпоха барока. Таксама звязвае яе з ідэямі тленнасці ўсяго жывога. У 1790 годзе, на карціне невядомага мастака, супраць шкілета садзіцца гуляць граф Лаудон. На палатне пачатку XX стагоддзя гэта ўжо Мефістофель, заняты гульнёю з доктарам Фаустам. Аднак сапраўды новае дыханне гэтая тэма набывае толькі пасля Другой сусветнай вайны.

Нарэшце настае 1957 год. Распачынаецца чарговы Канскі фестываль: у гэтым годзе на ім, сярод іншых стужак, паказваюць «Сёмую пячатку» шведскага рэжысёра Інгмара Бергмана. Гледачы, затаіўшы дыханне, назіраюць за тым, як на пустэльным марскім узбярэжжы садзяцца за шахматную дошку Рыцар і Смерць. Адвечная гульня распачынаецца зноў.

У аснову сцэнарыя фільма І. Бергман паклаў уласную аднаактовую п'есу «Роспіс па дрэве», якую напісаў для тэатральнай школы, дзе ў свой час працаваў. Аднак сама ідэя гульні са смерцю жыла ў яго свядомасці задоўга да гэтага. Хлопчыкам ён часта суправаджаў свайго айца, лютэранскага святара, у паездках па вясковых і местачковых цэрквах паблізу ад Стакгольма. У маленькім гарадку Тэбі яму давялося ўбачыць фрэску з ужо знаёмым нам сюжэтам. Яна належала пэндзлю знакамітага Альберта Піктара (1440—1507) альбо камусьці з яго вучняў. Дзіцячае ўражанне доўгія гады жыло ў памяці І. Бергмана, так бы мовіць, стоеным, пакуль не абудзілася зноў у сярэдзіне пяцідзясятых. Для гэтага былі свае прычыны.

Калі мы скажам, следам за вучоным, што ў пяцідзясятыя гады «пагроза ядзернага Армагедона была такой жа часткай паўсядзённага жыцця, як пагроза чумы — у эпоху Сярэднявечча», ці не будзе гэта перабольшаннем? Але, так ці інакш, большасць гісторыкаў у тыя гады, упершыню пабачыўшы «Сёмую пячатку», пагадзіліся, што час, адлюстраваны ў фільме, — канец XIV стагоддзя, з яго песімізмам і эсхаталагічнымі чаканнямі, — мог бы служыць далёкім, але праўдзівым люстэркам іх сучаснасці. Сам рэжысёр у каментарыях да фільма пісаў так: «Маёй мэтай было маляваць [жыццё] такім самым чынам, як гэта рабіў сярэднявечны мастак: з той жа цікаўнасцю, пяшчотай і задавальненнем. Мае стварэнні смяюцца, усхліпваюць, рыдаюць, баяцца, гуляюць, пакутуюць, пытаюцца, просяць. Іх страшыць чума, Судны Дзень, зорка, імя якой Палын. Нашы страхі змяніліся, але словы засталіся ранейшымі. Ранейшымі застаюцца і нашы пытанні».

Пасля дзесяці гадоў крыжовага пахода Рыцар — Антоній Блок вяртаецца ў родную Швецыю. Перад яго вачыма распасцерлася краіна, ахопленая чумой і ліхаманкавым паляваннем на вядзьмарак. Але і гэта не самае сумнае відовішча, якое чакае яго на Бацькаўшчыне. На пустэльным марскім узбярэжжы да яго наведваецца чорная постаць Смерці. Каб атрымаць невялікую адтэрміноўку, Рыцар прапануе яму (Смерць у фільме мужчынскага полу) партыю ў шахматы. Пакуль будзе доўжыцца гульня, будзе жыць і Рыцар; ён будзе жыць і надалей, калі атрымае перамогу.

Так пачынаецца падарожжа Антонія Блока па разбураным чумою краі. Здабыты час патрэбны яму не для таго, каб апошні раз нацешыцца зямнымі асалодамі: Антоній не выглядае асаблівым аматарам вясёлага жыцця, ды і абставіны не пакідаюць вялікіх магчымасцей для геданізму. Сярод бессэнсоўнай рэчаіснасці, перад зацікаўленым тварам Смерці, Антоній Блок шукае апошнія сляды сэнсу, сляды прысутнасці Бога ў свеце: «Я жадаю ведання, не дапушчэння, а ведання. Я хачу, каб Бог працягнуў мне сваю руку, адкрыў мне свой твар, загаварыў са мною». Як інтэлектуал, як шахматны гулец, Антоній патрабуе такіх доказаў боскага існавання, якія б задаволілі яго розум. Час, які застаўся Рыцару на зямлі, ён хоча

прысвяціць нейкаму «свядомаму і важнаму ўчынку»: калі яму ўдасца здзейсніць яго, гэта стане сведчаннем асэнсаванасці быцця. Але Бог за ўвесь фільм так і не парушае свайго маўчання. Антоній прайграе партыю і памірае ў слязах, молячы ў Госпада літасці. Экзістэнцыяльнае перажыванне абсурднасці свету, маўчанне Бога, марныя пытанні пра тое, ці населена пустата, куды ўсе мы пераходзім, — вось што складае досвед галоўнага героя фільма. Добра, скажуць чытачы, мы нават гатовы пагадзіцца, што гэты фільм — класіка экзістэнцыйнага кіно (а так яно і ёсць на самай справе). Але пры чым тут шахматы? Справа не толькі ў тым, што з дапамогаю шахматнай дошкі Антоній (па старадаўнім рэцэпце Шахеразады: інтэлектуальныя забавы ў абмен на жыццё) на некаторы час затрымлівае Смерць, перашкаджаючы ёй зрабіць сваю справу; шахматы — яшчэ і спосаб давесці моц чалавечага розуму ў барацьбе з лёсам і рашучасць біцца да канца, калі паражэнне ў гульні робіцца немінучым. Нарэшце адзіны «свядомы і важны ўчынак» Антоній здзяйсняе, калі саштурхоўвае, быццам ненаўмысна, некалькі фігур з дошкі. Пакуль Смерць збірае іх і расстаўляе па месцах, ратуецца ўцёкамі сям'я акцёраў — сябраў Рыцара. Аднак Антоній, паглыблены ў свае метафізічныя развагі, аказваецца не здольны ўбачыць у гэтай падзеі свой галоўны, найвышэйшы подзвіг.

Так ці інакш, галоўны прыз зноў дастаецца Смерці. Але шведскі рэжысёр зрабіў адно значнае адкрыццё у сферы «шахматнай» думкі — патрэбу шукаць абходныя шляхі. Перамога ляжыць дзесьці па-за межамі «нармальнай» гульні па правілах. Дзе канкрэтна — мы даведаемся ніжэй.

Спецыяльны прыз Канскага фестывалю па праве адышоў «Сёмай пячатцы». Менавіта ў гэтым годзе, у атмасферы адлігі, імя І. Бергмана ўпершыню пачулі ў Савецкім Саюзе. Фільм павінны былі прывезці на Сусветны фестываль моладзі ў Маскве, але з-за слабых кантактаў са Швецыяй гэтага так і не адбылося. Значна пазней цэнзура дазволіла паказаць «Сунічную паляну», і на працягу наступных дваццаці гадоў гэтая стужка заставалася адзіным творам І. Бергмана, вядомым савецкаму гледачу.

Ведаючы ўсё гэта, ці праўда на баку аўтара дадзенага артыкула, калі ён даводзіць, што ў 1964 годзе, калі У. Караткевіч садзіўся пісаць «Ладдзю роспачы», меў на ўвазе канкрэтны сюжэтны ход з фільма І. Бергмана? Адкуль У. Караткевіч увогуле мог ведаць пра «Сёмую пячатку»? Аказваецца, мог. Першы агляд творчасці шведскага рэжысёра з'явіўся ў савецкім часопісе «Искусство кино» ў красавіку 1964 года. Гэта быў артыкул У. Матусевіча «Жестокий мир Ингмара Бергмана». Паўтаруся: надрукаваны ён быў *вясною* 1964 года! А ў канцы ліпеня таго ж года Караткевіч і пачаў сваю «Ладдзю...». Вельмі ж спакушальнае суседства дат для літаратуразнаўцы!

З таго часу, як пачала існаваць літаратура, падарожжы ў апраметную адбываліся ў ёй з вартай зайздрасці рэгулярнасцю. Пачынаючы ад «Адысеі» ды «Энеіды» геаграфія замагільнага царства распрацоўвалася, мабыць, з не меншай плённасцю і энтузіязмам, чым геаграфія «гэтага свету». Нельга сказаць, каб У. Караткевіч не скарыстаў гэтыя шматлікія крыніцы, ствараючы свой вобраз пекла. Тут і мясцовая рагачоўская легенда пра ўваход у пекла на дне Равучага возера. Тут і недвухсэнсоўныя алюзіі на Дантава «Пекла». Прычым У. Караткевіч, кіруючыся прыкладам паэта-выгнанніка, на ролю пакараных грэшнікаў абраў гістарычных асоб — ворагаў сваёй Бацькаўшчыны. Мог жа ён, напрыклад, дастасаваць вязьмо забітых жонак Генрыху VIII, каралю Англіі, а не Івану Грознаму. Але патрыятычныя пачуцці ўзялі сваё. Даволі экстравагантна абышоўся У. Караткевіч з антычнай міфалогіяй: побач з Перавозчыкам (у тэксце ён, праўда, не сын Эрэба Харон, а здраднік горада Полацка), з'яўляюцца лемуры (гэта яшчэ зразумела), а таксама павучыха Арахна, якая высмоктвае з людзей памяць. Хрысціянская замагільная геаграфія ўвогуле асэнсоўваецца Караткевічам у парадыйным ключы. Так, святы Пётра ператвараецца ў «сляпога з залатымі ключамі ля пояса» — вялікага канцлера падземнага царства. Застаецца толькі радавацца, што ў гэтым культурна-гістарычным паноптыкуме галоўны герой, Гервасій Выліваха, адчувае сябе зусім нязмушана.

Хто ж ён такі, гэты «добрага роду дваранін» Гервасій Выліваха? Гэта чалавек з менталітэтам эпохі Рэнесансу, для свайго атачэння нешта накшталт свецкага юродзівага, які ломіць любыя сацыяльныя абмежаванні

ў імя жыцця і яго асалод, «п'янюга, бабнік, бязбожнік», «абжора і пудзіла ўсіх добрых людзей». Калі гэты чалавек па прапанове Смерці садзіцца за шахматную дошку, каб гуляць на сваё жыццё, становіцца зразумела, што так проста гэта скончыцца ўжо не можа. Але пачакайце! Ці гульня пачалася толькі тады?

Уладзімір Караткевіч у сваёй аповесці-прыпавесці не проста выкарыстоўвае шахматы як сімвал і мадэль светабудовы. Сама прастора, у якой дзейнічаюць яго персанажы, прыпадабняецца шахматнай дошцы. Гульня, па сутнасці, пачынаецца яшчэ тады, калі героі ўзыходзяць на борт Ладдзі роспачы — не толькі карабля, але і шахматнай фігуры. Іх падарожжа па рацэ — гэта і перамяшчэнне па чорных і белых клетках разлінаванай дошкі. А бунт, які паднімае Вылівака на беразе «апошняга кантынента», — гэта яшчэ і змяшчэнне каардынат і змена «шахматнай» парадыгмы значэнняў: персанаж цяпер атаясамліваецца не з фігурай, а з самім гульцом. Але ж прыём гэты можа далёка адвесці нас у бок Льюіса Кэрала, таму пяройдзем да самой гульні.

Каб зразумець перамогу Вылівахі, трэба разабрацца ў тым, чаму герою была прапанавана менавіта гэтая гульня. Ды таму, што шахматы, з іх сістэмаю жорсткіх правілаў, з іх адмысловай рацыянальнасцю і інтэлектуалізмам, як ніякая іншая гульня адпавядаюць структуры падземнага царства. Сапраўды, Смерць прадстаўлена ў аповесці як увасабленне непераможнай логікі і чыстага дэтэрмінізму: яна здольная «нечалавечым сваім зрокам» убачыць, якім будзе дрэва «ў апошнюю хвіліну свайго існавання праз сто год, калі сякера ўдарыць яго ля камля», яна прадбачыць кожны ход свайго супраціўніка, не даючы яму ніякага шанцу на перамогу. А ці заўважалі вы, як любяць у гэтай апраметнай усё падлічваць? Тут мы даведваемся, і колькі жонак было ў Івана Грознага, і колькі год Гервасію Выліваху (трыццаць тры, дарэчы, і Смерць вельмі правільна заўважыла, што не любіць забіраць такіх, як ён, — яны маюць кепскую тэндэнцыю пакідаць яе царства). Як толькі вязні сходзяць на бераг апраметнай, іх маніякальна пералічваюць і разбіваюць на пары. А чаго вартая адна толькі арыфметычная феерыя ў канцы твора, калі кожны член экіпажа Ладдзі аднімае колькі год ад сваіх, прыбаўляе іх да ўзросту Вылівахі і Бярозкі, памнажае ўсё гэта на колькасць вязняў, і г. д., і г. д.

Сімптаматычна і тое, што да шахматнай дошкі прыпадабняецца не зямная паверхня, а менавіта прастора падземнага царства. Гэта яно — сусвет чыстага розуму, сусвет, пабудаваны па законах жорсткага дэтэрмінізму. Жыццё ж, там, на паверхні, — гэта, канечне, не царства чыстага абсурду, але там ёсць месца для незвычайнага і небывалага — і менавіта таму, што гэтага «не бывае»: заяц, які жыве амаль пад вокнамі ў людзей, дрэва, што расце амаль без зямлі. І чалавечая думка таксама заўсёды нясе ў сабе зярно абсурду і вар'яцтва, нечаканага і бессэнсоўнага.

Калі Вылівака бачыць, што вось-вось прайграе Смерці, ён кідаецца ў псіхічную атаку дзіўных, дурных, падчас ідыёцкіх хадоў, якія дыктуе яму «боская непрадказальнасць» яго думкі: «рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто, — і тады пераможаш». Гэтым ён так дэмаралізуе сваю супраціўніцу, што... сапраўды атрымлівае перамогу! Досвед, які перажывае Вылівака, можна назваць антыэкзістэнцыяльным: менавіта ў абсурдным ён знаходзіць найвышэйшую свабоду.

За чатырыста год здарыўся вялікі пераварот у свядомасці людзей. Сярэднявечны чалавек за шахматнай дошкай цярпеў паразу таму, што быў залішне неразумным, — чалавек сённяшняга часу блазенствам сваім заваёўвае перамогу. У. Караткевіч зрабіў вельмі важную справу: ён напрыканцы вярнуў у сферу абсурднага тую яе частку, у якой ёй адмаўлялі экзістэнцыялісты, — ён вярнуў ёй Цуд.

# ШАМЯКІНЫ

***Безумоўна ж, народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін — шырокавядомы творца як у нашай краіне, так і далёка за межамі Беларусі. Яго раманы, аповесці, апавяданні могуць зацікавіць чытача любога часу, любой эпохі, іх можна назвать «чалавеказнаўствам» — праз мастацкае слова, праз вобраз ці нават нейкую жыццёвую сітуацыю, у якую здараецца патрапіць чалавеку.***

***Пра творчасць Івана Шамякіна мы шмат што ведаем, пачынаючы са школьнай парты. І біяграфія пісьменніка ёсць у энцыклапедыях ды самых розных іншых біяграфічных даведніках. А вось якім Іван Пятровіч быў у сям'і, сярод сваіх самых блізкіх, родных людзей?***

***Таму рэдакцыя «Маладосці» вырашыла звярнуцца з некалькімі пытаннямі да (сярэдняй і малодшай) дачок пісьменніка: доктара філалагічных навук, прафесара Таццяны Іванаўны Шамякінай, кандыдата філалагічных навук Алесі Іванаўны Шамякінай, а таксама дзвюх унучак — Марыі і Славяны, ды ўнука Івана, каб яны такім чынам падзяліліся з чытачамі «Маладосці» сваімі ўспамінамі.***

***Пытанні ж наступныя: 1. Якім Іван Пятровіч быў мужам, бацькам, дзедам? 2. Самы яркі эпізод з жыцця, які найбольш запомніўся і ўжо назаўжды незабыўны? 3. Як паўплываў Іван Пятровіч Шамякін, ці што стала вызначальным у лёсе, дзякуючы адносінам у сям'і і, увогуле, яго выхаванню?***

*Радкі ўспамінаў*

## Таццяна Іванаўна ШАМЯКІНА,
***дачка***

**1.** Адносіны паміж сабою майго таты і маёй мамы даўно сталі легендай у пісьменніцкім асяроддзі, ва ўсялякім разе, тыя, хто ведаў іх, заўсёды па-добраму зайздросцілі і нязменна захапляліся. Сапраўды, мае бацькі пражылі разам 57 гадоў, прайшоўшы праз вайну, ростані, выпрабаванні, тым ліку выпрабаванні бацькавай славай, дабрабытам, пашанай. Любоў да жонкі — і стымул дзейнасці Шамякіна, і ўтрыманне яго ад памылак, самаўпэўненасці, самазахаплення. Характар Марыі Філатаўны — тымі ці іншымі сваімі бакамі — увайшоў амаль ва ўсе творы Шамякіна, стаў асновай большасці жаночых вобразаў пісьменніка. Ёй ён прысвяціў пранікнёную, кранальную аповесць «Слаўся, Марыя!». Да яе, ужо смяротна хворай, бацька, які сам перасоўваўся з цяжкасцю (балелі ногі), нязменна ездзіў штодня на працягу паўгода, каб яшчэ адзін дзень, яшчэ адну гадзіну пабыць з той, каханне да якой пранёс праз усё жыццё. Яна ж, у сваю чаргу, стварыла яму ўсе магчыма камфортныя ўмовы для працы, і хоць нас у яе было чацвёра, увага да мужа нязменна ў маці стаяла на першым месцы. Яна мела дзве адукацыі — сярэднюю медыцынскую і вышэйшую філалагічную, але з таго часу, як бацькі пераехалі ў Мінск, ужо не працавала, поўнасцю прысвяціўшы сябе сям'і. Менавіта яна перадрукоўвала ўсе бацькавы творы на машынцы, а часам гэта прыходзілася рабіць пасля яго правак да дзясятка разоў. Яна ж чытала карэктуры, адказвала на лісты чытачоў і вяла ўсю сакратарскую працу. Калегі-пісьменнікі з зайздрасцю ўздыхалі і гаварылі: «Шамякін таму так многа і напісаў, што яму жонка дапамагала». І гэта праўда. Шамякін-бацька і Шамякін-дзядуля — ідэал памяркоўнасці. І малыя дзеці, і ўнукі маглі рабіць з ім што заўгодна, ажно да скокаў на галаве, — ён нязменна ставіўся да гэтага зусім паблажліва... Заўсёды і ўсюды ў нас было людна і весела, а дзеці выяўлялі сваю натуру на поўную моц. І толькі ўжо на ква-

тэры па вуліцы Янкі Купалы, дзе Шамякін пражыў трыццаць пяць гадоў, да сваёй смерці, ён атрымаў утульны кабінет, куды не дасягаў шум, ды і шумець асабліва не было каму: я, старэйшая сястра Ліна, брат Саша выраслі і разляцеліся ад бацькоў, а малодшая сястра Алеся, якая засталася з імі, заўсёды вызначалася маўклівасцю і абсалютным спакоем. Яе ж сын Ваня асвяціў радасцю апошнія гады ўдаўца Шамякіна.

**2.** Мне помняцца вельмі многія эпізоды з бацькам, у тым ліку і сумныя гады яго старасці. Але люблю я ўспамінаць тату і маму маладымі і вясёлымі, асабліва калі мы ўсе разам жылі ў вёсцы Церуха Гомельскага раёна — на радзіме маці. Там Шамякін на ганарар за першы свой раман «Глыбокая плынь» пабудаваў зусім сціплы драўляны, менавіта вясковы, дамок, куды нязменна прыязджаў кожнае лета з сям'ёю — ажно да трагедыі Чарнобыля. Вось тут яму працавалася найлепш: пакуль дзеці бавіліся на рэчцы ці ў ягадах, а да яго даносіўся толькі спеў птушак і такія прыемныя для вуха вясковыя гукі. Я ведаю, што сама атрымалася б зусім іншая, каб не Церуха, — яна ўвайшла ў свядомасць як самае дарагое і прыўкраснае ў жыцці. І тым, што я, чалавек, які нарадзіўся і пражыў усё жыццё ў Мінску, пішу пра вёску, нават пра вясковую цывілізацыю і вясковую тэму ў беларускай літаратуры, — тым я таксама ўдзячная Церусе і бацькам, якія жылі там натуральным жыццём менавіта вясковых жыхароў. У іх абсалютна не было снабізму, а мяне бацька нязменна папярэджваў пра небяспеку захварэць на пошасць і мяшчанства... А першы мой успамін пра бацьку надзвычай прыемны. Я гляджу ў акно нашай кватэры на першым паверсе па вуліцы Камсамольскай, акно выходзіць у двор, а па ім ідзе тата і нясе мне на мой трохгадовы дзень нараджэння велізарную ляльку. З таго часу рознага роду падарункі ад бацькі я атрымоўвала неаднаразова. Адзін з іх такі: бацька кліча мяне ў свой надзвычай утульны кабінет у нашай любімай кватэры па вуліцы К. Маркса, 36 (мне не больш шасці год) і пачынае чытаць урыўкі з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Чаму прыйшло яму такое ў галаву (увогуле ж чытаў мне вельмі многа), чаму менавіта ў гэты вечар — не магу сказаць сёння. Можа быць, гэта было пісьменніцкае прадбачанне будучага майго лёсу, а можа, сам і заклаў ён чытаннем праграму гэтага лёсу: тэмай маёй дыпломнай працы ва ўніверсітэце стала «Новая зямля», яна ж — разам з іншымі творамі Коласа і ўсіх беларускіх класікаў — і аб'ект доктарскай дысертацыі.

**3.** Па сутнасці я ўжо адказала на пытанне: што вызначыў бацька ў маім лёсе. Ды літаральна ўсё. Адно не перадаў — пісьменніцкага таленту. Хоць я пішу (прагу да пісання ўсё ж тата заклаў), маю каля 400 публікацый, прычым не толькі па літаратуразнаўстве, а і па гісторыі сусветнай культуры, па міфалогіі, па фальклоры. І я ўдзячная лёсу за свае сціплыя здольнасці. А талент, як гэта і належыць па прыродзе, перайшоў да трэцяга пакалення — да ўнукаў, у тым ліку да маіх мілых дачок, якіх дзядуля вельмі любіў.

## Марыя ШАМЯКІНА,
### *унучка*

**1.** Я жыву з перакананнем, што чалавеку сапраўды таленавітаму нішто не можа замінаць працаваць. Добра памятаю, што дзядуля наш ніколі не павышаў голасу, калі мы, малыя, гулялі і шумелі, пакуль ён працуе... І таму, думаецца мне, што талент стаіць вышэй за ўсе побытавыя дробязі-перашкоды! Пазней, у маім падлеткавым узросце, помню, дзядуля неяк вельмі пранікнёна, кранальна і па-добраму гаварыў, як непрыгожа хваліцца перад сяброўкамі дарагой вопраткай, якую іх бацькі не могуць ім набыць. Мяне вельмі ўражвалі яго словы. Дарэчы, у мяне не было модных джынсаў з валютнай крамы «Бярозка», ніякага іншага «імпарту» да тых часоў, пакуль усім гэтым не завалілі рынкі нашы дробныя прадпрымальнікі ў 90-х. Я не насіла залатыя завушніцы і іншыя каштоўныя ўпрыгожванні — не нашу іх і цяпер. І да гэтага часу лічу вялікай пошасцю імкненне паказваць свой матэрыяльны дастатак. Такіх самых поглядаў прытрымліваецца і мая сястра. Дарэчы, таксама выхаваныя і наша маці, і яе сёстры. Калі маці была падлеткам, амаль увесь час хадзіла ў строгім швэдрыку і сціплай спадніцы. У нашай сям'і быў проста нейкі культ сціпласці, і гэта тычылася ўсяго — адзення, ежы, мэблі, самога ладу жыцця... Сапраўды, няма нічога больш брыдкага і вульгарнага, чым публічная дэманстрацыя свайго багацця, непатрэбнай раскошы з прэтэнзіяй на нейкую абранасць, на тое, што гламурная

медыяперсона стаіць ва ўсіх сэнсах вышэй за простых смяротных. Што вялікія грошы могуць узнесці чалавека над іншымі, нягледзячы на ягоныя маральныя ці інтэлектуальныя ўласцівасці.

**2.** Для мяне аднымі з самых прыемных эпізодаў, звязаных з дзядуляй, былі канікулы ў Доме творчасці пісьменнікаў на Іслачы. Мы прыязджалі туды некалькі гадоў запар. Аднойчы святкавалі Новы год разам з сям'ёй Васілеўскіх. Там, у Доме творчасці, маёй лепшай сяброўкай была Алеся Васілеўская. Іслач існавала зусім нядоўгі час, немагчыма параўнаць гэты Дом творчасці нават з Каралішчавічамі, а тым больш са старымі і знакамітымі дамамі творчасці саюзнага маштабу. Нельга сказаць, што на Іслачы адточвалі пёры пісьменнікі некалькіх пакаленняў, што ў тых сценах напісаны вялікі шэраг выдатных твораў... Мала часу было адпушчана гэтаму дому. Шкада. Але асабіста мне было б вельмі цікава даведацца, якія вершы, апавяданні, а, можа, і раманы напісалі там нашы творцы. Несумненна, гэтая мясціна пакінула свой след у беларускай літаратуры. А, між іншым, менавіта Шамякін, калі з'яўляўся першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, курыраваў будаўніцтва гэтага дома. І атрымаўся ён прыгожы, камфортны. Помню, дзядуля браў на адпачынак партфель з рукапісамі і працаваў над імі кожны дзень. Івану Шамякіну была ўласцівая ўнутраная дысцыпліна, дысцыпліна творчая, пра гэта гавораць і пішуць не так часта. Таму, мабыць, ён і змог напісаць так многа якасных твораў. Пра тэматыку і сюжэты іх сёння можна меркаваць па-рознаму, але гэта, бясспрэчна, літаратура самага высокага гатунку, узор сапраўднай творчай культуры. Працаваў дзядуля на Іслачы, падчас адпачынку, таксама як і ў любы іншы дзень. Мы дакладна ведалі, калі пойдзем разам з ім на прагулку, бо ў яго меўся строгі распарадак. Але, звычайна, падчас нашага праменаду ён сустракаў каго-небудзь са сваіх сяброў, спыняўся, размаўляў. А мы ішлі далей: я, мая сястра Славяна, Алеся Васілеўская, Даша Мележ, іншыя дзяўчаты.

**3.** Дзядуля выхоўваў нас у вялікай любові да літаратуры. У першую чаргу, як ні дзіўна — да класічнай паэзіі. Гэтае захапленне так назаўсёды і засталося са мной. І цяпер для мяне лепшы адпачынак — прачытаць некалькі вершаў. Магчыма, цікавым падасца тое, што я асабліва цаню паэтаў напаўзабытых, малавядомых, тых, хто незаслужана ў заняпадзе, каго недастаткова паважаюць. Напрыклад, мой любімы рускі паэт — Ігар Севяранін. Я цікаўлюся паэзіяй маладых і сачу за публікацыямі ў «Маладосці», за палымянскімі дэбютамі, лімаўскімі паэтычнымі падборкамі. Гэта надзвычай цікавае захапленне. Калі бачу ўдалыя радкі ці запамінальны верш маладога паэта, радуюся, як балельшчык, калі любімая каманда перамагае. Думаю, гэта вялікае шчасце жыць так — калі некалькі дзён ходзіш у выдатным настроі з-за таго, што на вочы трапіўся добры верш. Ажно да паступлення ў школу палову тыдня я праводзіла ў дзядулі і бабулі, бо бацькі заўсёды працавалі страшна многа. У Шамякіных я жыла сярод збораў твораў, сярод мора кніг. І лепшага антуражу не ўяўляю.

## Славяна ШАМЯКІНА,
***унучка***

**1.** Найперш, што характарызавала нашага дзядулю — павага да любога чалавека, нават зусім малога. Ён лічыўся з нашымі густамі, захапленнямі. У той жа час імкнуўся тактоўна ўплываць, выхоўваць. Так, ён, заўважыўшы ў маёй старэйшай сястры Машы яўны літаратурны талент, прасіў яе скіраваць увагу на творы рэалістычнага плана. Праўда, Маша па-ранейшаму пісала вершы рэлігійна-містычныя, а прозу — фантастычна-філасофскую. Шамякіну такая тэматыка — абсалютна чужая, але ён не пярэчыў, ставіўся да творчасці ўнучкі з павагай. Я пачала пісаць вершы ў сем год, таксама паказвала дзядулю. Безумоўна, ён горача мяне падтрымаў.

**2.** Аднойчы мы гасцявалі ў кватэры Шамякіных, калі Алеся, мая цётка, ужо выйшла замуж. Вельмі шакіравала маладую пару, выключных акуратыстаў, калі раптам высветлілася, што я і мая траюрадная сястра Насця (нам было гадоў па пяць), пакуль дарослыя гутарылі пра сваё, паціху і даволі працяглы час разбіралі на асобныя крышталікі прыгожую жырандолю, якую дзядулю падарылі на нейкі яго юбілей. Дзядуля з гэтага толькі смяяўся, асабліва захапляўся

тым, па якой складанай сістэме я крышталікі здымала, так, што доўга ніхто не мог заўважыць, што жырандоля ўжо непаўнацэнная, самі ж яе часткі я хавала пад піяніна. І такі ён быў ва ўсім — добры, памяркоўны, выключна рахманы, заўсёды добразычлівы да людзей. Сумная ў яго была старасць, а ўсё ж ён умеў радавацца — асабліва з чалавечай дабрыні, спагадлівасці, праяўленняў таленту. Цікавасць да людзей, любоў да іх ён захаваў да канца.

**3.** Дзядуля заклікаў нас вучыць вершы на памяць, прычым вершы вялікага аб'ёму, і, каб заахвоціць нас, запісваў наша чытанне на магнітафон. Запісваў ён і нашы ўласныя творы. Любіў пракручваць плёнкі з творчасцю ўнучак. Безумоўна, гэта быў для нас стымул. Ды і памяць такім чынам трэніравалася. У выніку ўжо ў раннім узросце Маша ведала на памяць увесь «Курган» Янкі Купалы, а я — «Казку пра цара Салтана» Пушкіна. Праўда, і мама чытала нам вершы ледзь не пачынаючы з нашага нараджэння. Але ж і мама — выхаванка свайго бацькі, нашага дзядулі. Так яно па ланцугу і перадавалася.

## Алеся Іванаўна ШАМЯКІНА,
***дачка***

### ГІСТОРЫЯ ЗНАХОДКІ ДАВАЕННАГА ДЗЁННІКА ІВАНА ШАМЯКІНА

Летам 2005 года, разбіраючы кніжныя шафы ў дачным гаражы, я знайшла невялікую чырвоную папку. У ёй аказаўся пажаўцелы ад часу школьны сшытак у клетачку. Я адразу пазнала почырк свайго бацькі — народнага пісьменніка Беларусі Івана Пятровіча Шамякіна. Можна ўявіць, якое хваляванне мяне ахапіла! А калі я ўбачыла дату — 16 сакавіка 1939 года — я зразумела, што сшытак, які я трымаю ў руках, — найкаштоўнейшая знаходка, бо не так многа рэчаў ці аўтографаў бацькі (амаль нічога) не захавалася з даваенных часоў... Чытаецца дзённік надзіва лёгка: ужо тады бацька валодаў дарам даступна і проста, цікава і займальна сказаць пра рэчы звычайныя і будзённыя. Хаця будзённымі, звычайнымі яны здаюцца нам, чытачам сённяшнім. А для таты тыя падзеі — амаль самае галоўнае на той час у жыцці, бо гэта — гісторыя яго кахання з мамай, калі яны пазнаёміліся і сябравалі, пакахалі адзін аднаго.

Потым, на гарадской кватэры, праглядаючы пазнейшыя татавы дзённікавыя запісы, я знайшла запіс ад 11 лістапада 1981 года: «Разбіраючы перад рамонтам дачы рукапісныя завалы, знайшлі абадраны сшытак — мой юнацкі дзённік за сакавік-май 1939 года. Гэта «разгар» майго кахання да Машы, нашы спатканні на вуліцы Астроўскага ў Гомелі. Безумоўна, дзённік запоўнены каханнем. Але — божа мой! — няўжо ў 18 год мы былі такімі ўзвышана наіўнымі? Цяжка паверыць. Многія запісы чытаеш і чырванееш за наіўнасць сваю. А можа, гэта і хораша, што мы былі такімі? Але магчыма і другое: адносіны нашы былі прасцейшыя, натуральныя, а мне, дурню, які лічыў сябе паэтам, хацелася запісваць іх гэтак — паэтычна-ўзвышана, ідылічна. Напрыклад, не помню, каб я звяртаўся да Машы: «Мая маленькая ластаўка», бо пазней такога не было ні ў пісьмах з арміі, ні пасля, калі я вярнуўся з вайны, па-ранейшаму, між іншым, гэткім жа ідэалістам і гэтак жа закаханым па вушы ў сваю жонку. Пры ўсёй гарачай нашай любові мы ніколі не ўніжаліся да сюсюкання накшталт «ластаўка», «коцік»... Дзённік кранула мяне наіўнасцю. Я сапраўды чырванеў. Але не столькі ад саміх запісаў, колькі ад іншага. Гадоў трыццаць назад, калі я з сям'ёй пачаў праводзіць водпуск у Церусе, Машына сястра і некаторыя яе школьныя сяброўкі гаварылі: «Ой, Пятровіч! Пры немцах, калі не было чаго чытаць, мы вашы дзённікі чыталі. Цікавей за любы раман». Я і тады чырванеў і папракаў Машу: пусціла па руках інтымныя запісы. Патрабаваў, каб яна «изьяла» дзённікі з гэтай «народнай бібліятэкі». Не помню, каб тады яна нешта знайшла, хоць і згадваю, што шукала ў сваёй старой, дзе пражыла вайну, хаце, на гарышчы. Выходзіць, знайшла, раз абадраны сшытачак гэты апынуўся на дачы тут, у Ждановічах. Я не помню, каб чытаў яго тады, 30 гадоў назад. Можа, не надаў значэння. Але ў гісторыі з гэтым сшытачкам кранула іншае, пра што, малады, я не думаў, а пасля забыўся і нават у «Непаўторнай вясне» не напісаў. Дзённікі мае — а іх было добры дзясатак сшыткаў, агульных, адыходзячы ў армію ў кастрычніку 1940 года, я перадаў Машы. А потым грымнула вайна. Маша вырашыла з Артукоў Рэчыцкіх, дзе працавала фельчаркаю, пра-

біраццa ў Церуху, у бацькоўскую хату. Гэта быццам бы і недалёка: кіламетраў 30. Але цераз Дняпро, цераз Сож, праз пустынныя балоты міжрэчча... Падвезла яе... гаспадыня, у якой кватаравала, толькі да Холмечы. Далей — пехатою. На руках... няхай сабе і бедны, скарб, але ж нейкія кашулі і сукенкі несла. І дзесяць сшыткаў дзённікаў з запісамі, якія цяпер здаюцца да сорамнага наіўнымі. Такімі мы былі! Так кахалі!»

Дык вось, аказваецца, што! Дзённік «знаходзіўся» двойчы. Першы раз — 25 год таму назад! Але чаму ён затым аказаўся ў гаражы, хай сабе і сухім, але ўсё ж такі не прызначаны для захоўвання рукапісаў? Хто паклаў яго туды? Думаю, што не тата — ён мала займаўся сваім архівам, перапаручаў рабіць гэта іншым.

І яшчэ. Мяне асабліва ўразіў дзённікавы запіс ад 25 мая 1939 года: «Што я раблю? Я зрабіўся канчатковым, закончаным гультаём: чытаю мала, пішу мала, за выключэннем пісем, дзённіка не вяду...». Гэтыя словы вельмі ўразілі мяне, бо ў іх — увесь бацька, яго чалавечы і творчы характар. У апошнія гады жыцця, амаль праз 70 год пасля гэтага запісу, бацька часта гаварыў пра сябе: «Гультай я! Не напісаў сёння ні радка!» (Але які там гультай! За апошнія гады бацька напісаў вялікую кнігу — аб'ёмам 45 аўтарскіх аркушаў — «Начныя ўспаміны»!). Бацька заўсёды жыў па прынцыпе: ні дня без радка...

## Ваня МАХОНЬ,
## *унук, 7 «А» клас СШ № 4*

### МОЙ ДЗЯДУЛЯ

Мой дзядуля — народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. На вялікі жаль, ён памёр, калі мне было ўсяго сем год. Дзядуля напісаў пра мяне апавяданні — «Ваня-аўтааматар», «Ваня-матэматык», «Ваня-кніжнік». Асабліва падабаецца мне апавяданне «Ваня-кніжнік». У ім гаворыцца пра тое, як я, малы, любіў хадзіць у кнігарню. Вельмі мне падабаліся кніжкі з прыгожымі малюнкамі, хоць я тады яшчэ не ўмеў чытаць, я разглядваў малюнкі, а чыталі мне іх тата і мама. Я нават памятаю назву кнігі, якую я першую выбраў у магазіне. Гэта казка «Жыхарка».

Калі я перад школай навучыўся чытаць, дзядуля параіў мне весці чытацкі дзённік, куды можна запісваць назву кнігі і яе аўтара, імёны герояў і асноўныя падзеі. Я завёў такі дзённік, як раіў дзядуля. Мая першая настаўніца Тамара Іванаўна вельмі хваліла мяне за гэта і нават паставіла дзясятку.

Я і цяпер люблю кнігі. У мяне вялікая бібліятэка. У ёй ёсць кнігі, якія чытаў яшчэ мой тата, калі быў маленькі. Адна з іх называецца «Аповесць пра адданую Аніску». Напісала яе выдатная пісьменніца Вольга Гур'ян. У кнізе расказваецца пра лёс кіеўскай дзяўчынкі, служкі князёўны Ганны Яраслаўны. Кіеўскі князь Яраслаў аддаў сваю дачку за французскага караля Карла. Князёўна са слугамі накіравалася ў Парыж. Дарога была доўгая, бо ездзілі тады на конях. Верная служка Аніска выратоўвае Яраслаўну ад смерці, абараняе ад злых ворагаў. Пазней на ўроках гісторыі я даведаўся, што гэтая кніга напісана на гістарычным матэрыяле.

З мамінага дзяцінства захавалася любімая маміна кніга «Прыгоды Рэксі і Пуцэка» — пра двух вясёлых сабачак. Я рагатаў, калі чытаў пра іх прыгоды. Мама ўспамінае, што яна таксама рагатала, калі чытала пра іх.

У маёй бібліятэцы многа кніг беларускіх пісьменнікаў з іх аўтографамі, ёсць у мяне амаль усе кнігі Уладзіміра Ліпскага, якія ён мне падарыў. Асабліва мне падабаецца чытаць пра прыгоды Нуліка, Антоніка-поніка. Вельмі цікава было даведацца пра стварэнне свету з кнігі Ліпскага «Як Бог стварыў свет».

Пісьменнік Алесь Савіцкі таксама падарыў мне свае кніжкі — «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка», «Прыгоды Муркі», «Дзівосы Лысай гары». Гэта вельмі цікавыя прыгодніцкія аповесці, напісаныя дасціпна і займальна.

Вядомы фальклярыст Уладзімір Васілевіч падарыў мне складзеную ім кнігу загадак «Стаіць цыган на золаце». Мы з татам праводзілі спаборніцтвы: хто больш адгадае загадак? Мама нам чытала загадкі, а мы з татам адгадвалі. Я заўсёды перамагаў.

Я таксама спрабую пісаць апавяданні. Некалькі маіх твораў ужо надрукаваў часопіс «Вясёлка». Самому мне вельмі падабаюцца казка «Як павучкі сустракалі Новы год» і апавяданне «Кітайскія вераб'і». Цяпер, калі я паспрабаваў напісаць колькі апавяданняў, я зразумеў, што пісьменніцкая праца — гэта вельмі цяжкая праца. Цікавага ў свеце многа. а вось цікава напісаць пра цікавае могуць не ўсе людзі, а толькі пісьменнікі.

*Старонкі гісторыі*

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ПРАЗВАЛІ ЯГО НАБОЖНЫМ

## НАВОШТА БЫЎ КІЕЎ



*Расціслаў Мсціслававіч.*

Расціслаў Мсціслававіч уцякаў, як той палахлівы заяц, якому толькі што цудам удалося ўратавацца ад пагібелі і які, хоць яго ўжо ніхто і не праследуе, ніяк не можа прыйсці ў сябе, а таму і стараецца як мага далей адбегчы ад небяспечнага месца. Праўда, калі раніцой каля Белавоса, дзе ён стаяў са сваімі воямі, убачыў, як на процілеглым беразе злавеснай чорнай хмарай, не абяцаючай нічога добрага, насоўваліся полчышчы полаўцаў, яму спачатку пра асабістую смерць не думалася, а вось што ягонае войска можа быць разгромлена, не сумняваўся. Дастаткова гэтай лютай лавіне пайсці ў наступ і яна без асаблівай цяжкасці пераадолее водную перашкоду і гэтаксама лёгка змяце ўсё, што напаткае на сваім шляху. Тым не менш адступіць без бою ён не мог сабе дазволіць. І не толькі таму, што гонар не дазваляў. Спадзяваўся яшчэ, што становішча ўдасца выправіць з карысцю для сябе.

Як цяжка ні далося прыняцце такога рашэння, ён мусіў пайсці на перамовы з чарнігаўскім князем Ізяславам Давыдавічам, прасіць, каб той адмовіўся ад вядзення баявых дзеянняў супраць яго. Вядома, паколькі адносіны паміж імі даўно былі кепскімі, нельга было спадзявацца, што той лёгка згодзіцца. Таму прасіў яго за адпаведную «плату»: абяцаў за гэта Ізяславу Давыдавічу нават вялікакняжацкі прастол у Кіеве.

Адначасова вырашыў засцерагчы сябе ад небяспекі збоку пераяслаўскага князя Глеба Юр’евіча, таму да яго звярнуўся з прапановай аб міры. І таксама пайшоўшы на ўступку: заявіў, што на Пераяслаў прэтэндаваць не будзе.

Аднак і Ізяслаў Давыдавіч, і Глеб Юр’евіч ягоныя просьбы-прапановы ігнаравалі, што яшчэ больш ускладняла яго становішча. Не мог не разумець, што абодва яны, заўважыўшы, як ён цясніць ворагаў (гэта было, канечне, малаверагодна, ды мала што бывае, калі Усявышні возьме твой бок), выступяць супраць яго на баку полаўцаў.

Позна спахапіўся, што неабходна хаўрусавацца і з тым жа Ізяславам Давыдавічам, і з Глебам Юр’евічам. Чагочаго не чакаў ён, дык таго, што ваяваць з полаўцамі давядзецца без Мсціслава Ізяслававіча. Пляменнік, абураны тым, што дзядзька пачаў весці перамовы, не ўзгадніўшы гэта са сваімі саюзнікамі, да якіх належаў і Мсціслаў Ізяслававіч, у гневе заявіў:

— Ні мне не будзе Пераяслава, ні табе Кіева! Я са сваёй дружынай у гэтым баі не ўдзельнічаю! Мне няма чаго тут рабіць!

З гэтымі словамі Мсціслаў Ізяслававіч павярнуў каня. Прыклад князя адразу ж пераняла яго дружына. У Расціслава Мсціслававіча заставалася адно выйсце: нягледзячы ні на што ўступіць з полаўцамі ў бой. Такой думкі быў і ягоны сын Святаслаў.

Да полаўцаў ужо дайшло, што ў процілеглым лагеры няма адзінства. Таму паспяшаліся адразу выкарыстаць такую спрыяль-

ную для сябе сітуацыю. Яны без асаблівай цяжкасці пераадолелі водную перашкоду і, разлічваючы на хуткі поспех, уступілі ў бой, мяркуючы, што ён будзе кароткачасовым. Але памыліліся.

Войска Расціслава Мсціслававіча, хоць крыху і завагалася, а некаторыя воі, не вытрымаўшы націску полаўцаў, нават пачалі адступаць, вытрымала першы наступ.

— Выстаім, бацька! — пачуў Расціслаў Мсціслававіч поруч голас сына і ўбачыў, як Святаслаў кінуўся ў самую гушчу сечы.

— Выстаім, сыне! — адказаў Расціслаў Мсціслававіч і пераняў яго прыклад.

Была раніца, калі пачалася гэтая бітва не на жыццё, а на смерць…

І ўжо настаў поўдзень, а бітва працягвалася. І калі наваколле ахінуў сваёй паволокай вечар, полаўцы не былі канчаткова ўпэўнены ў перамозе. Аднак і войска Расціслава Мсціслававіча не магло пахваліцца поспехам. Апроч таго станавілася відавочным, што назаўтра зыход бою будзе не на ягоную карысць. Спадзяванне заставалася хіба на тое, што Мсціслаў Ізяслававіч адумаецца, вернецца са сваімі воямі назад.

Назаўтра ён і сапраўды вярнуўся. На жаль, ягонае вяртанне ўжо не магло істотна паўплываць на раскладку сіл. Самыя горшыя спадзяванні Расціслава Мсціслававіча спраўдзіліся. Двухдзённае супрацьстаянне прыходзіла да свайго завяршэння. Развязку паскорыла тое, што нечакана пад Расціславам Мсціслававічам быў забіты конь і вялікі князь кіеўскі апынуўся на зямлі. Яшчэ б імгненне — і варожыя коннікі раздавілі б яго. Балазе Святаслаў, які знаходзіўся поруч, своечасова падаспеў на дапамогу, а з ім і некалькі дружыннікаў. Яны ўзялі Расціслава Мсціслававіча ў кальцо, тым самым не даўшы магчымасці полаўцам расправіцца з ім. Тут жа знайшлі князю і новага каня. Але тое, што здарылася, не прайшло не заўважаным для воінаў. Кароткага замяшання было дастаткова, каб яны, не вытрымаўшы далейшага наступу полаўцаў, у паніцы пачалі разбягацца.

Разам з усімі пачаў ратавацца ўцёкамі і Расціслаў Мсціслававіч. Уцякаў, як той палахлівы заяц. Не ведаючы яго, нават цяжка было б паверыць у тое, што гэты князь дасюль неаднойчы гераічна паводзіў сябе ў баях і заўсёды выходзіў пераможцам.

Спакойна, упэўнена і бяспечна ён адчуў сябе толькі тады, калі ўдалося ніжэй Любеча пераправіцца праз Днепр. Аднак усё адно стараўся прабірацца праз маланаселеную мясцовасць. Не толькі за сябе непакоіўся, а і за блізкіх яму людзей, бо не паспеў забраць з Кіева жонку і дзяцей.

«А ці так патрэбен ужо быў табе гэты Кіеў?» — усё часцей непакоіўся па меры набліжэння да свайго ўдзелу. І як ні сіліўся, ніяк не мог даць на яго адназначнага адказу.

Цяжка было на душы. Цяжка і нясцерпна балюча, што так драматычна для яго ўсё склалася. Праўда, ад усведамлення, што не толькі сам ён правіў у Кіеве, а вялікім князем кіеўскім быў і ягоны дзед, гэты прастол займаў яго бацька, а пасля брат Ізяслаў, станавілася хораша. Усё ж столькі жадаючых заняць такі ганаровы прастол. Ды сталася, што года не ўтрымаўся. Пакінуў яго, пацярпеўшы такое сакрушальнае паражэнне. Не было ўжо на чыю падтрымку разлічваць. У тых, хто гатоў бачыць яго вялікім князем кіеўскім, мала сіл, каб супрацьстаяць тым, хто імкнецца на гэты прастол.

## З РОДУ МАНАМАХАЎ

Пачыналіся землі Смаленскага княства — ягоны ўдзел. Хоць і не ва ўсім ён можа пацягацца з Кіевам, аднак усё адно — кавалак прынадны, кожны не супраць таго, каб правіць тут. Але жадаючых шмат, а Смаленшчына адна. І зямля гэтая яго, Расціслава Мсціслававіча, удзел. Ад такога ўсведамлення да яго зноў вярнуўся добры настрой. Вяртаўся ж туды, дзе заўсёды адчуваў сябе хораша, лёгка і ўпэўнена, дзе калі і ўзнікалі якія-небудзь непаразуменні, то хутка знікалі, бо людзі, якія жылі тут, прывыклі заўсёды знаходзіць паміж сабой паразуменне. Старанна працавалі, годна давалі адпор ворагам, а да ўсяго ўмелі добра гандляваць, чаму шмат спрыяла ўдалае геаграфічнае размяшчэнне Смаленскай зямлі.

Смаленск жа, заснаваны ў 863 годзе, кантраляваў шлях па Верхнім Дняпры і па раздзеле, населеным поліэтнічным і розным па сваім сацыяльным складзе насельніцтвам. Першым смаленскім князем быў Вячаслаў Яраслававіч, другім — Ігар Яраслававіч. Да пачатку XII стагоддзя Смаленск заставаўся кіеўскай воласцю. Пасля смерці Ігара

Яраслававіча тут не было нават пастаяннага князя. Два гады правіў Уладзімір Манамах, непрацяглы час Давыд Святаслававіч, потым зноў Манамах, затым ягоны сын Святаслаў, следам яшчэ адзін сын — Вячаслаў. Тым самым на гэтай зямлі паступова ўмацоўвалася дынастыя Манамахаў, а сама Смаленская зямля пашырала свае межы, суседнічаючы з Ноўгарадскай, Растова-Суздальскай, Чарнігаўскай і Полацкай землямі.

Уладзімір Манамах, з'яўляючыся прыхільнікам моцнай улады, нямала зрабіў дзеля «збору» славянскіх зямель. Безумоўна, мірным шляхам дасягнуць гэтага не заўсёды магчыма, бо кожны князь моцна трымаўся за сваю вотчыну. Таму Манамаху давялося хадзіць войскам і на Полацк, і на Менск, які ён у 1084 годзе разрабаваў, не пакінуўшы «ні чалядзіна, ні скаціны». Гэта ён, жадаючы далучыць да сваіх уладанняў Полацка-Менскую зямлю, у 1118 годзе захапіў у палон менскага князя Глеба Усяслававіча.

У яго было некалькі сыноў, старэйшы з якіх Мсціслаў (у хрышчэнні Фёдар), пасля смерці празваны Вялікім, і стаў бацькам князя Расціслава Мсціслававіча. Шмат дзе давялося княжыць Мсціславу Уладзіміравічу: і ў Ноўгарадзе, і ў Растове, і ў Смаленску, і ў Суздалі. У Суздалі ён і ўзяў сабе ў жонкі дачку мясцовага пасадніка Хрысціну.

Калі Уладзімір Манамах 19 мая 1125 года памёр, Мсціслаў Уладзіміравіч, заняўшы вялікакняжацкі прастол у Кіеве і выконваючы апошнюю волю бацькі, раздаў вотчыны сваім малодшым братам і сынам. Ізяслаў як старэйшы сын атрымаў Курскае княства. Усеваладу дасталося Ноўгарадскае. А Расціслаў пачаў княжыць у Смаленску. Княжанне Расціслава Мсціслававіча і дало пачатак Смаленскаму княству.

Зыходзячы з гэтага, гісторыкі і называюць магчымую дату нараджэння Расціслава Мсціслававіча. Паколькі для таго, каб заняць прастол, неабходна было дасягнуць паўналецця, то і сыны Мсціслава Уладзіміравіча на гэты момант яго ўжо дасягнулі. Таму Расціслаў, як самы малодшы, нарадзіўся прыкладна ў 1100 годзе. Але не пазней 1110 года. Ёсць падставы і для такога меркавання.

Паколькі полацкія князі лічыліся законнымі прэтэндэнтамі на кіеўскі вялікакняжацкі прастол, яны не маглі змірыцца з тым, што яго заняў Мсціслаў Уладзіміравіч, і пачалі рабіць набегі на землі, якія адышлі да яго і ягоных родзічаў. Князь кіеўскі мусіў таксама брацца за зброю. У 1127 годзе вялікая кааліцыя князёў пад ягоным камандаваннем рушыла на Полацкую зямлю. Ёсць звесткі, што Расціслаў Мсціслававіч узначаліў адзін са смаленскіх палкоў. Ягонай задачай было захапіць старажытны беларускі горад Друцк, што некалі знаходзіўся на тэрыторыі цяперашняга Круглянскага раёна. Удзел у гэтай бітве таксама сведчыць на карысць таго, што Расціслаў Мсціслававіч у гэты час ужо быў паўналетнім.

## ЧОРНАЯ МАГІЛА — НЕ ЗАЎСЁДЫ МАГІЛА

Заняўшы прастол у Смаленску, ён пачаў прымаць захады і да пашырэння даменіяльных уладанняў, а прасцей кажучы — асабістых, што знаходзіліся далёка ад Смаленска і станавіліся ягонай асабістай уласнасцю. І, зразумела, не мог заставацца ўбаку ад палітычнай барацьбы, якая то ўзмацнялася, то крыху аслаблялася. Чарговы ўсплёск яе адбыўся пасля таго, як 14 красавіка 1132 года вялікім князем кіеўскім замест памерлага Мсціслава Уладзіміравіча стаў ягоны брат Яраполк. Ён пераразмеркаваў удзелы і даў старэйшаму сыну Мсціслава Усеваладу, які правіў у Ноўгарадзе, Пераяслаў.

Тым самым былі абдзелены родныя браты новага вялікага князя кіеўскага Вячаслаў і Юрый Уладзіміравічы. Калі першы з іх крыўду, як кажуць, хаваў у сабе, дык Юрый дзейнічаў рашуча. Яшчэ да паўдня ён выбіў пляменніка з Пераяслава, і таму давялося вяртацца ў Ноўгарад, дзе яго ўжо ніхто не чакаў. З вялікай цяжкасцю гараджан усё ж удалося ўгаварыць, каб яны прынялі князя, які не па сваёй волі па сутнасці стаў перабежчыкам. Але Вячаслаў Уладзіміравіч у Ноўгарадзе правіў нядоўга. Неўзабаве там пачаў правіць Святаслаў Ольгавіч, а пасля таго, як яго выгналі, сын Юрыя Уладзіміравіча Расціслаў.

Асабліва атмасфера накалілася пасля таго, як 18 лютага 1138 года памёр Яраполк Уладзіміравіч і кіеўскі прастол заняў Усевалад Ольгавіч. Паколькі на гэта куды больш правоў было ў Юрыя Уладзіміравіча, ён спешна стварыў кааліцыю. Цэнтрам збору войскаў стаў Смаленск. Але задуманае

сарвалася. Ноўгарадцы адмовіліся ісці на Кіеў. Расціславу Юр'евічу давялося ўцякаць у Смаленск. Кааліцыя пачала распадацца, хоць і не абышлося без ваенных дзеянняў, але яны мелі лакальны характар і не маглі паўплываць на змену ўлады ў Кіеве.

Усевалад Ольгавіч правіў да 1 жніўня 1146 года. Ён памёр раніцой, завяшчаючы прастол свайму брату Ігару. Аднак самі кіяўляне пажадалі мець вялікім князем Ізяслава Мсціслававіча. Пасля заняцця прастола ён аддаў свайму брату Расціславу горад Пераяслаў з усімі ўладаннямі, а Смаленск перадаў зводнаму брату Уладзіміру.

Такая ракіроўка працягвалася нядоўга: Расціслаў Мсціслававіч зноў стаў смаленскім князем, а Уладзімір быў накіраваны ў Гарадзец. А праз некалькі месяцаў князю Расціславу разам з сястрынічам вялікага князя кіеўскага Святаславам давялося спыняць мяцеж Вячаслава Уладзіміравіча Тураўскага, узняты супраць Ізяслава Уладзіміравіча. Аб гэтым смаленскага ўладара папрасіў сам вялікі князь кіеўскі. З пастаўленай задачай Расціслаў Мсціслававіч справіўся паспяхова. Усе заваяваныя мяцежнікамі гарады былі вернуты, Тураў заняты.

Увогуле, ён заўсёды і ва ўсім падтрымліваў брата. Нават тады, калі даводзілася сутыкацца з неразуменнем, а то і супрацьстаяннем іншых князёў, як у 1147 годзе, калі яны вырашылі ваяваць са Святаславам Ольгавічам і ягоным саюзнікам Юрыем Суздальскім, якія рабілі падкопы пад вялікага князя кіеўскага. Іншыя князі на гэтую прапанову не адгукнуліся. Толькі Расціслаў і Уладзімір не пакінулі брата ў бядзе і сабраліся са сваімі дружынамі ва ўрочышчы Чорная Магіла.

Тады ўсё ж удалося абысціся без кровапраліцця. Не асмеліліся змоўшчыкі нападаць, дый наёмнікі-полаўцы ў апошні момант адмовіліся ваяваць. Ізяслаў разумеў, што менавіта саюз з братамі з'яўляецца аплотам умацавання ягонай улады. Таму і надалей карыстаўся іхняй дапамогай пры вырашэнні важных задач. Калі Расціслаў з Уладзімірам вярнуліся з урочышча Чорная Магіла, сумесна вырашылі, што смаленскаму князю, сабраўшы войска смалян, ноўгарадцаў, неабходна «идти вниз, в области Юрьевы, чтобы его не пустить черниговским и северским помогать, а Изяславу, когда реки покроются льдом идти к Чернигову».

Ізяслаў заўсёды даражыў меркаваннем свайго малодшага брата і да ягонай думкі пастаянна прыслухоўваўся. Прынамсі, калі князі, якія ядналіся супраць яго пацярпеўшы паражэнне, паслалі сваіх паслоў прасіць у вялікага князя кіеўскага міру, той запытаўся ў Расціслава ў адной з грамат, пасланых яму, як быць у гэтай сітуацыі. Атрымаў адказ, што мір лепш, чым вайна.

## БЕЗ БАЯВЫХ ДЗЕЯННЯЎ — НЕЛЬГА

Вялікі князь кіеўскі паслухаўся свайго малодшага брата і прызначыў на 14 верасня 1147 года для мірных перамоў з'езд у Гарадцы. На ім сабраліся ўсе нядаўнія ягоныя праціўнікі за выключэннем Юрыя Уладзіміравіча. Таму было вырашана прадоўжыць супраць яго вайну.

Пачаўшы баявы паход, Ізяслаў Мсціслававіч, апярэдзіўшы асноўныя сілы свайго войска, з малой дружынай заехаў да брата ў Смаленск. У тым, што суздальскі князь будзе разгромлены, яны не сумняваліся, але не хацелася марна праліваць кроў і на гэта асабліва звяртаў увагу Расціслаў Мсціслававіч. Ён і ўгаварыў старэйшага брата паслаць у Суздаль ганцоў. У грамаце вялікага князя кіеўскага гаварылася, што ён, шануючы брата свайго бацькі «за старшего и не желая в междоусобице кровь невинную проливать и свою отчизну — государство русское разорять», прапануе заключыць мір. Аднак на такі крок Юрый Уладзіміравіч ісці не збіраўся. Ён нават не вярнуў вялікакняжацкіх паслоў з якім-небудзь адказам, дый ад сябе нікога не паслаў, каб патлумачыць сваю пазіцыю.

Братам давялося пачынаць баявыя дзеянні. Спачатку яны збіраліся заваяваць Яраслаўль, але ажыццявіць гэта не ўдалося, бо ў свае правы ўступала вясна. Лёд пачаў раставаць, дарогі станавіліся непраходнымі. Ізяславу давялося вяртацца ў Кіеў.

Праз нейкі месяц-другі Расціслаў Мсціслававіч прыняў захад для ўмацавання саюза з чарнігаўскімі князямі. Для гэтага ён ажаніў свайго сына Рамана на дачцы Святаслава Ольгавіча Северскага. Толькі паразуменне паміж нядаўнімі праціўнікамі працягвалася нядоўга. У жніўні 1149 года

Юрый Уладзіміравіч у хаўрусе са Святаславам арганізавалі чарговы паход на Кіеў.

Як і чакалася, першым, да каго вялікі князь кіеўскі звярнуўся па дапамогу, стаў ягоны брат. Іхнія войскі аб’ядналіся каля Пераяслава. Гэта ў лагеры праціўніка выклікала пэўнае замяшанне. Юрый Уладзіміравіч прапанаваў памірыцца. Але Ізяслаў на гэта не пайшоў. Ён не паслухаўся нават пераяслаўскага епіскапа Яўфімія, які ўгаворваў яго «избавить невинных людей от смерти и русскую землю от тяжкого разорения, от Господа Бога спасение и милость получить».

І дарэмна не паслухаўся. Суздальскаму князю ўдалося зрабіць хітры манеўр і аб’яднанае войска вялікага князя кіеўскага і князя смаленскага было разбіта. Браты ўцяклі ў сталіцу, але кіяўляне, даведаўшыся пра паражэнне, выгналі іх і заявілі, каб не вярталіся, пакуль ва Уладзіміры і Смаленску не збяруць войска, здатнае даць адпор Юрыю Уладзіміравічу.

Сам жа Юрый Уладзіміравіч 2 верасня 1149 года заняў вялікакняжацкі прастол. Браты з гэтым, канечне, не маглі змірыцца і са сваімі саюзнікамі вялі супраць яго барацьбу. Нарэшце ў 1152 годзе ён «видя себя русской земле вовсе лишенным, от великого княжения отказавшись, основал престол в Белой Руси» — так тады называлі Суздальскую зямлю. Аднак, вярнуўшыся ў Кіеў, Ізяслаў правіў нядоўга і, крыху пахварэўшы, 13 лістапада 1154 года памёр.

У завяшчанні ён пераемнікам назначыў Расцілава Мсціслававіча, а свайго сына Мсціслава прасіў лічыць бацькам Вячаслава Уладзіміравіча, князя тураўскага, і Расціслава Мсціслававіча. Але нядоўга заставалася жыць і Вячаславу Уладзіміравічу. Не паспеў Расціслаў Мсціслававіч, цяпер ужо вялікі князь кіеўскі, аплакаць смерць, як актывізаваліся ягоныя праціўнікі. А скончылася ўсё яго поўным разгромам полаўцамі.

### КАБ ЖА АПОШНЯЯ СМЕРЦЬ

...Доўга адседжвацца спакойна ў Смаленску Расціславу Мсціслававічу аднак не ўдалося. Першым парушыў ягоны спакой родны дзядзька, Юрый Уладзіміравіч. Даведаўшыся аб ягоным разгроме, узяўся заваёўваць Смаленск. Не сядзелася яму без справы. Невыпадкова за пастаяннае жаданне далучыць да сябе як мага больш зямель, у тым ліку і аддаленых яму далі клічку Даўгарукі. Праўда, Расціслаў Мсціслававіч угаварыў яго ад падобнага намеру. Але не паспеў смаленскі князь пазбавіцца адной непрыемнасці, як прыйшла другая.

Ноўгарадцы, бачачы, якое хісткае становішча ў Расціслава Мсціслававіча, выгналі яго сына Рамана і запрасілі на прастол сына Юрыя Уладзіміравіча — Мсціслава. Аднак не ў планах Юрыя Даўгарукага, які заняў вялікакняжацкі прастол, было сварыцца з пляменнікам. Ён выклікаў яго ў Кіеў на перамовы, а для сведчання асаблівага даверу адправіў у Смаленск гасцяваць сваю жонку і дзяцей.

Вялікі князь кіеўскі задаволіў просьбу пляменніка даць братам і сынам ягоным удзелы, хоць і агаварыўся, што яны, родзічы, нямала яму зла прычынілі. Адносіны ў дзядзькі і пляменніка склаліся прыязныя. Калі полаўцы запрасілі ў Канеў вялікага князя кіеўскага для сустрэчы, ён паехаў не адзін, а разам з Расціславам Мсціслававічам. У сваю чаргу смаленскі князь нямала зрабіў для прымірэння Юрыя Уладзіміравіча з пляменнікам Мсціславам Ізяслававічам. Наперадзе ж было яшчэ адно княжанне Расціслава Мсціслававіча ў Кіеве.

15 мая 1557 года адышоў у вечнасць Юрый Даўгарукі (верагодна, што баяры яго атруцілі). Вялікім князем кіеўскім стаў Ізяслаў Давыдавіч. Але правіў ён нядоўга і пасля няўдач, што напаткалі яго ў вайне з князем Мсціславам Ізяслававічам, мусіў уцячы з Кіева спачатку ў Гомій (тагачасная назва Гомеля), а пасля ў «вяцічы». Князі-пераможцы, увайшоўшы ў сталіцу, сышліся на тым, што лепшага новага вялікага князя кіеўскага, чым Расціслаў Мсціслававіч, ім не знайсці. Другі раз ён узышоў на вялікакняжацкі прастол 12 красавіка 1159 года, акурат на Вялікдзень, і, як сказана ў летапісе, «в великой радости и весели».

Гэта, аднак, не значыць, што перад ім адкрываліся толькі бясхмарныя перспектывы. На вялікакняжацкі прастол пасля смерці Даўгарукаву прэтэндавалі ягоны сын Андрэй Багалюбскі, а таксама Святаслаў Ольгавіч. З апошнім Расціслаў Мсціслававіч, стаўшы вялікім князем, і паспяшаўся ўладзіць адносіны. Ужо 1 мая 1159 года Расціслаў Мсціслававіч і Святаслаў Ольгавіч дамовіліся на «великую любовь».

Жадаючы яшчэ больш умацаваць з ім дружбу, вялікі князь кіеўскі «просил у него отпустить сына своего Олега к нему в Киев, чтобы он более мог, знаясь с киевлянами, берендичами и торками, любовь к нему в них укоренить и их обычаи познать». Аднак па прыездзе Алега Святаслававіча ў Кіеў, знайшліся тыя, хто змог пераканаць яго, што гэтае запрашэнне невыпадковае. Маўляў, яго, выкарыстаўшы даверлівасць, проста заманілі ў пастку. Быццам Расціслаў Мсціслававіч хоча забраць Чарнігаў, каб аддаць яго затым Ізяславу Давыдавічу, заключыўшы з ім мір. Зламыснікі адначасова пачалі распускаць і плёткі пра самога Алега, абгаворваючы яго перад вялікім князем кіеўскім.

Расціслаў Мсціслававіч, відаць, да ўсяго гэтага ўсур'ёз не паставіўся, бо, калі Алег Святаслававіч адпрасіўся ў яго ў Чарнігаў, пярэчыць ягонай просьбе не стаў. «Олег же, приехав в Чернигов, ничего того своему отцу не сообщил, но тайно гневаясь на отца своего, или не смея (відаць, прапушчана «паведаміць яму пра гэта». — **А. М.**) отцу, или храня данное клеветнику обещание, поскольку смолоду крепок был в слове, стал проситься у отца в Курск». А ў Курску ён заключыў саюз са Святаславам Усеваладавічам і Ізяславам Давыдавічам.

Трэба аддаць належнае Святаславу Ольгавічу. Такі сынаў крок яму не спадабаўся: «опечалился вельми и объявил о том боярам своим и нуждался в их совете». Толькі, як вядома, слова не верабей: вылецела — не зловіш. Тым больш, калі яно нясе ў сабе штосьці такое, да чаго можна паставіцца дваяка, гледзячы з якога боку да ўсяго падыходзіць. Баяры ўсё ж змаглі пераканаць свайго князя ў тым, што Расціслаў Мсціслававіч сапраўды робіць пад яго падкопы. Пасля гэтага Святаслаў Ольгавіч са сваім сынам і Ізяславам Давыдавічам і пайшоў на вялікага князя кіеўскага войскам. Бітву, якая адбылася паміж імі, Расціслаў Мсціслававіч прайграў. Ізяслаў Давыдавіч уступіў у Кіеў. Ён, «войдя в церковь святой Софии, объявил киевлянам прощение и сразу же пошел к Белгороду», дзе знаходзіўся са сваім войскам Расціслаў Мсціслававіч.

Разлічваць на літасць з боку свайго заклятага праціўніка яму наўрад ці выпадала. Ды Расціслаў Мсціслававіч належаў да тых, пра каго кажуць, што ён нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Трэба ж было надарыцца такому супадзенню, што, як сведчыць летапісец, «в это время было знамение великое и страшное в луне…». Пра яго старыя людзі казалі, што яно «проявляет смерть князя». Толькі каторага з іх?

Верагодней было падумаць — таго, які нядаўна пацярпеў паражэнне. Але падзеі разгортваліся якраз не на карысць Ізяслава Давыдавіча. І на тое было дзве прычыны. Асляплены лёгкай перамогай над Расціславам Мсціслававічам, ён не прыняў пад увагу таго, што ўсялякае можа здарыцца, а таму разлічваў, што і цяпер яму будзе спадарожнічаць поспех.

А на падмогу дзядзьку са сваім вялікім і добра ўзброеным войскам падаспеў ягоны пляменнік. Дый не трэба забываць таго, што на баку Ізяслава Давыдавіча ваявалі полаўцы. Яны ж добра памяталі, чаго каштавала ім даўняя перамога над Расціславам Мсціслававічам і адно ягонае імя наводзіла на іх жах. Таму, «услышав трубы его за горою», яны кінуліся ўцякаць. Гэта пасеяла паніку і ў акружэнні Ізяслава Давыдавіча. Калі загартаваныя ў баях наёмнікі збаяліся, то што казаць пра княжацкіх дружыннікаў. Разам з усімі ўцякаў і Ізяслаў Давыдавіч. Магчыма, і ўцёк бы, ды за ім арганізавалі пагоню і Ізяслаў Давыдавіч быў смяротна паранены трапна пушчанай услед яму стралой.

Расціслаў Мсціслававіч нават і не ведаў, чаму гэта, але ў яго мільганула думка аб тым, што як бы добра было, калі б смерць Ізяслава Давыдавіча стала апошняй смерцю, сведкам якой ён з'яўляецца. Адначасова менавіта ў гэты момант яму вельмі захацелася жыць. Толькі без войнаў, без крыві. Ды разумеў, што гэта не ад аднаго яго залежала. Калі што і залежала ад яго, дык тое, каб па меры магчымасці спрэчныя моманты старацца вырашаць мірным шляхам.

## ХРАМ — ДУХОЎНАЕ АПІРЫШЧА

Найчасцей не сам пачынаў баявыя дзеянні, а толькі выступаў у якасці саюзніка сваіх бліжэйшых. Эпоха Расціслава Мсціслававіча азнаменавалася для Смаленскага княства не толькі (нават не столькі) будаўніцтвам ваенных умацаванняў, колькі клопатам аб пабудове храмаў, у якія часта і сам князь

хадзіў, каб, адлучыўшыся ад спраў зямных, паразмаўляць з Богам, знайсці ў яго падтрымку і духоўнае апірышча, і ўсяляк да гэтага заахвочваў і іншых. Нездарма яшчэ сучаснікі празвалі яго Набожным.

Найбольш значны ў Смаленску ягонымі стараннямі пры Боскай дапамозе храм быў узведзены на Смядыні. Гэтае месца Расціслаў Мсціслававіч выбраў сам невыпадкова. У 1015 годзе тут, ва ўрочышчы, па-зверску быў забіты князь Глеб. Праз трыццаць гадоў у памяць аб ім і ягоным браце і пабудавалі храм Барыса і Глеба — вялікі, прыгожы, уваход у які для прыхаджан станавіўся сапраўдным святам. У гэтым храме знайшлося і месца княжацкай усыпальніцы, дзе першапачаткова і сам Расціслаў Мсціслававіч хацеў быць пахаваны.



*Ікона з выявай святога дабравернага Расціслава-Міхаіла.*

За Дняпром жа, там, дзе знаходзілася княжацкая рэзідэнцыя, неўзабаве сваімі купаламі памкнулася ў неба царква Пятра і Паўла. Таксама вабная вытанчанасцю форм і таксама з густам аздобленая фрэскамі, з мазаічнай падлогай. Гэтая царква мела ход, што вёў у двухпавярховы княжацкі палац.

Прыкладна ў гэты час будаўнікі, якія ўзводзілі храм на Смядыні, на краі дзяцінца пабудавалі княжацкі церам. Верагодней за ўсё, дзякуючы іхнім стараннем, на дзяцінцы з’явіліся і епіскапскія палаты.

У палацы знаходзілася нямала рукапісных кніг, бо смаленскія князі і найперш сам Расціслаў Мсціслававіч валодалі граматай. Любоў да слова, кніжнасці ў іх, асабліва ў Расціслава Мсціслававіча, была спадчынай. Дзеда ж Уладзіміра Манамаха Яраслава Уладзіміравіча празвалі Мудрым. Дый бацька Манамаха Усевалад Яраслававіч для свайго часу з’яўляўся вельмі адукаваным чалавекам, ведаў пяць моў. Не кажучы пра самога Уладзіміра Манамаха.

Беручы прыклад са свайго князя і тыя, хто належаў да бліжэйшага акружэння Расціслава Мсціславіча, таксама з’яўляліся людзьмі пісьменнымі. Валодалі граматай і смаленскія купцы, а тым больш купцы кіеўскія. Іначай яны б не змаглі весці дакладны ўлік сваім таварам. Дый трэба было весці іншыя запісы, выкліканыя практычнай неабходнасцю. У прыватнасці, запісваць імёны даўжнікоў, указваючы, за што яны не расплаціліся і якая ў кожнага сума доўгу. Занатоўвалі, што трэба абавязкова прывесці з чарговага рэйсу, асабліва, калі гэта быў тавар рэдкі, ці ён патрабаваўся ў невялікай колькасці. А паколькі купцы шмат кантактавалі з княжацкім акружэннем, то і большасць чыноўнікаў таксама авалодалі граматай. Дый увогуле ўжо тады карысталіся такім зручным спосабам кантактаў, як перапіска. Прыклад у гэтым паказвалі смаленскія князі.

Найбольш ахвочым да перапіскі быў Ізяслаў Мсціслававіч. Захавалася 62 граматы, напраўленыя ім з розных месцаў, ці прысланыя яму. Першую важную вестку ад брата Расціслаў Мсціслававіч, знаходзячыся ў Смаленску, атрымаў у 1147 годзе. Ізяслаў Мсціслававіч, будучы тады вялікім князем кіеўскім, дамаўляўся аб тым, каб ноўгарадцы і смаляне выступілі сумесна з ягоным войскам.

Паводле яшчэ адной граматы, датаванай тым жа 1147 годам, але адпраўленай у верасні, браты, абмяняўшыся думкамі аб узяцці Любеча, дамаўляліся сустрэцца на поўдні. Дый іншыя граматы таксама нясуць у сабе важную інфармацыю, што дазваляе атрымаць больш поўнае ўяўленне як аб дзейнасці саміх Мсціслававічаў, так і аб асноўных падзеях у Кіеўскай Русі таго часу. Пра самога ж Расціслава Мсціслававіча часта згадваецца ў летапісах. Цікавыя звесткі можна знайсці і ў «Аповесці аб князе Мсціславе (памылкова Расціслаў ператварыўся ў Мсціслава. — **А. М.**) і аб царкве», якая больш вядома, як «Пахвала князю Расціславу».

## А ЦІ НЕ ПАЙСЦІ Ў МАНАСТЫР?

З гадамі пачаў заўважаць за сабой, што без дай прычыны з'яўляецца нейкая незразумелая стомленасць. Наступалі такія імгненні, калі нічога не хацелася рабіць і ні за што не хацелася брацца. Толькі ён стараўся не падаваць выгляду, што адчувае сябе няўпэўнена. Хіба мог завесці гаворку са сваім духоўнікам аб тым, наколькі ўсё на зямлі тленна. Аднак хто-хто, а Сімяон добра разумеў, што прычына акурат і ёсць: князь па сутнасці не ведае адпачынку, імкнецца жыць гэтаксама, як і ў маладосці, да ўсяго даходзячы сам.

Праўда, пра гэта стараўся яму не гаварыць, бо ўжо неаднойчы змог пераканацца, што Расціслаў Мсціслававіч падобныя размовы сустракае неяк азлоблена. Аднак Сімяон ніколі на яго не крыўдаваў. Як жыў раней, дагэтуль, хай такім і застанецца, таму што мяняць чалавека, ягоныя паводзіны мае права толькі Усявышні, а паколькі ён абараняе Расціслава Мсціслававіча, значыць, ён задаволены і ягонымі паводзінамі, і ягоным жыццём.

Калі пра што і гаварыў духоўнік, дык толькі пра тое, што ён, Расціслаў Мсціслававіч, усё ж павінен ашчаджаць сябе, бо так патрэбны тым, з кім жыве поруч і дзеля каго жыве. Таму калі часам — асабліва пакутліва-роздумныя хвіліны, князь пытаўся, а ці не пастрыгчыся яму ў манахі — падобныя гаворкі былі і раней, але цяпер яны сталі нейкімі больш настойлівымі, Сімяон нязменна адказваў адно і тое ж :

— Ты не маеш на гэта права, князе. Таму што ты патрэбен людзям, — гучала ў адказ.

— Але і будучы манахам, — не пагаджаўся князь, — я змагу служыць ім верай і праўдай. І Богу служыць.

— У кожнага свой лёс, княжа, — як малому тлумачыў яму Сімяон. — І кожны мусіць знаходзіцца там, дзе ад яго большая карысць. Ты ж, княжа, болей у зямных справах неабходны. А калі...

— Што калі? — здрыгануўся Расціслаў Мсціслававіч.

— Калі ж вельмі захочацца табе пайсці ў манастыр, — спакойна адказаў духоўнік, — тады пра гэта і пагаворым.

Неўзабаве давялося забыць князю пра стомленасць. Задумаў яшчэ больш пашырыць кола сваіх сваяцкіх сувязяў. У сакавіку 1166 года яму ўдалося без асаблівых цяжкасцей жаніць пляменніка Яраполка Ізяслававіча з дачкой Святаслава Алегавіча, а ў 29 ліпеня таго ж года выдаў сваю дачку Агаф'ю замуж за ноўгарад-северскага князя Алега Святаслававіча.

Дый наступны год быў такім, што стала не да таго, каб рупіцца аб здароўі. Толькі непасрэднае ўмяшанне вялікага князя кіеўскага магло паставіць крыж на самаўпраўстве полаўцаў, якія на працягу доўгага часу наносілі шкоду гандлю з іншымі краінамі. Выбраўшы зручнае для сябе месца каля Дняпроўскіх парогаў, яны чакалі судны, што вярталіся з Візантыі, і нападалі на іх, забіраючы ці не ўвесь тавар.

Каб сарваць намер полаўцаў і прымусіць іх у далейшым адмовіцца ад нападу на гандляроў, да парогаў адправіў на чале са сваім ваяводам Уладзіславам войска, у задачу якому ставілася пад аховай правесці судны ў небяспечным месцы. Полаўцы не асмеліліся напасці. Але праз некаторы час яны зноў пачалі з'яўляцца ля Дняпроўскіх парогаў. І яшчэ з большымі сіламі.

Дзеля гэтага Расціслаў Мсціслававіч выклікаў у Кіеў усіх князёў, якія знаходзіліся ў ягоным падначаленні. Ды не з воямі, якія ахоўвалі іх, а з войскамі. Іх і накіраваў да парогаў. Але гэты намер стаў вядомы полаўцам. Яны, спалохаўшыся, вырашылі ў гэтым месцы больш не паказвацца.

## ДУХОЎНІК — КНЯЗЕВАГА СПАКОЮ АХОЎНІК

Здавалася б, хоць крыху адпачыць можна. Ды ноўгарадцы выказалі незадавальненне сваім князем. Калі б хто іншы займаў гэты прастол, а не ягоны сын Святаслаў, магчыма б, спаслаўшыся на нездароўе, а гэта і сапраўды было так, Расціслаў Мсціслававіч адмовіўся б умешвацца ў канфлікт. Толькі сына пакінуць аднаго ў бядзе ён ні пры якіх абставінах не мог. Многія, у тым ліку і духоўнік, адгаворвалі. Баяліся, што гэтая паездка можа стаць для вялікага князя апошняй. Толькі ён праявіў надзвычайную цвёрдасць і ад задуманага адмаўляцца не збіраўся.

Сімяону не заставалася нічога іншага, хіба што як мага лепей арганізаваць гэтую няблізкую і такую небяспечную для жыцця

Расціслава Мсціслававіча паездку. Аднак у Ноўгарад ён адначасова адпраўляўся і для таго, каб развітацца з тым, што для яго было не менш блізка і дорага, чым лёс Святаслава. І з людзьмі, якія былі для яго гэтаксама блізкімі і дарагамі, як і сын. Таму і захацеў па шляху ў Ноўгарад заехаць у Чачэрск, дзе на той час знаходзіўся ягоны зяць ноўгарад-северскі князь Алег Святаслававіч. Не заставалася сумнення, што і Смаленск не абміне. Тым больш, што па дарозе. Там княжыў ягоны сын Раман.

Сустракалі Расціслава Мсціслававіча яшчэ за 30 вёрст ад Смаленска. Каб зрабіць вялікаму князю сюрпрыз, не ўсе сабраліся ў адным месцы, а віталі па чарзе. Першымі, каго ўбачыў ён, былі знакамітыя смаленскія баяры. Яшчэ крыху праехаў, напаткаў сваіх унукаў і адразу ж праслязіўся. Калі ж выйшаў з карэты, то і зусім ужо не мог стрымаць слёз. Пасля пасадзіў унукаў да сябе ў карэту, пачаў распытваць іх, як жывуць. Гэтаксама зацікаўлена распытваў аб жыцці-быцці сына Рамана, які са сваёй світай вітаў ягоны прыезд яшчэ бліжэй да горада.

Калі ж да Смаленска заставалася ўсяго нейкая вярста, зірнуў Расціслаў Мсціслававіч наперад, і вачам сваім не паверыў: ці не ля самых гарадскіх варотаў стаяў радасны людскі натоўп. Хоць і далекавата да яго было яшчэ, але па меры набліжэння, вялікі князь усё больш і больш упэўніваўся, як шчыра радуюцца гараджане ягонаму прыезду.

Не паспеў Расціслаў Мсціслававіч выйсці з карэты, як да яго накіраваліся смаленскі епіскап Мануіл са святарамі, каб засведчыць сваё шанаванне. А праз нейкае імгненне ён разам з імі апынуўся ў цесным коле людзей. Сярод сустракаючых знаходзіліся і гараджане сталага веку, тыя, хто добра памятаў ягонае даўняе княжанне ў Смаленску і гэтая сустрэча з Расціславам Мсціслававічам была для іх і ў пэўнай меры вяртаннем у гады, калі адчувалі сябе здаровымі і ўпэўненымі. Як і сам ён адчуваў. Ад гэтай думкі лёгкая павалока сабралася засціць ягоныя вочы. Аднак вялікі князь апошнім намаганнем спыніў спакуслівае жаданне заплакаць — тое, што ён мог дазволіць сабе пры ўнуках, нельга было рабіць цяпер, калі для ўсіх ён — не звычайны чалавек з ягонымі слабасцямі, а ўладар аднаго з магутнейшых княстваў.

Ён бы яшчэ і надалей працягваў знаходзіцца сярод гэтых, блізкіх яму і дарагіх людзей, забыўшыся пра сваю стомленасць, пра тое, што пасля дарогі трэба б адпачыць. Ды падышоў Раман:

— Бацька, — сын звярнуўся да яго неяк ушчувальна, так як некалі ён сам (гэтае параўнанне маланкава прамільгнула ў ягонай свядомасці) гэтаксама ўшчувальна звяртаўся да іх, сваіх малалетніх дзяцей, калі тыя рабілі штосьці не так, як трэба было рабіць. — Бацька, — паўтарыў Раман: — час у харомы адпраўляцца. Ты ж здарожыўся, адпачыць трэба.

Пасядзелі, пагаварылі яны толькі назаўтра. За сняданкам Расціслаў Мсціслававіч цікавіўся справамі сына, хоць і так добра ведаў аб іх, радаваўся ўнукам, якія не адыходзілі ад дзеда. Такія ягоныя паводзіны Раману падабаліся, аднак ён не мог не заўважаць, што бацька толькі з усіл сіл стараецца пабыць бадзёрым і вясёлым. Хоць і доўга спаў, але не ў тым стане, каб ехаць адразу ў Ноўгарад.

— Можа, само ўсё неяк уладзіцца, — выказаў меркаванне Раман.

— Не ўладзіцца, сыне, слаба ты ведаеш ноўгарадцаў. Яны толькі баяцца таго, хто рашучы ў дзеяннях. Але не толькі баяцца, а і паважаюць, — Расціслаў Мсціслававіч уздыхнуў, аднак не так, як да гэтага: у гэтым уздыху адчуваўся адчай чалавека, які мусіць сказаць тое, што гаварыць яму непрыемна. — Але нашаму Святаславу Усявышні мала даў такой рашучасці. На полі ратным ён смелы і адчайны, а ў мірных справах... Гэтым ноўгарадцы і карыстаюцца.

Абодва замоўклі. Першым парушыў маўчанне Расціслаў Мсціслававіч:

— Так і быць, затрымаюся ў цябе на некалькі дзён. Усё ж здарожыўся я.

Нарэшце, настаў дзень, калі пад вечар Расціслаў Мсціслававіч заявіў:

— Заўтра раніцой ад’язджаю.

Раман разгублена паглядзеў на бацьку, не ведаючы, што і адказаць. Але Расціслаў Мсціслававіч удакладніў:

— Еду ў Вялікія Лукі, а там відаць будзе.

Аднак у Вялікіх Луках Расціславу Мсціслававічу стала так блага, што ніякай гаворкі аб тым, каб працягваць паездку,

ісці не магло. Таму і загадаў спешна накіроўваць у Ноўгарад ганцоў, каб тыя аб'явілі гараджанам, што вялікі князь чакае ў Вялікіх Луках Святаслава Расціслававіча і іхніх паслоў.

У чаканні, пакуль яны прыбудуць, пры Расціславе Мсціслававічу пастаянна знаходзіўся ягоны духоўнік. Цяпер князь ужо больш настойлівай, чым раней, заводзіў з ім гаворку аб тым, што яму трэба ісці ў манастыр, таму што толькі гэта можа ўратаваць ад хваробы. На што Сімяон адказваў, што пакуль гэта рабіць рана дый так князь сваімі добрымі справамі заслужыў абарону і падтрымку Усявышняга.

— Але ў манастыры я змагу памаліцца і за іншых, — пярэчыў яму Расціслаў Мсціслававіч, — за тых, хто пакуль безабаронны перад людзьмі.

— Усяму свой час, — адказваў духоўнік, а сам думаў, што, магчыма, гэта і адзінае ўратаванне для князя — ісці ў манастыр, бо ўражанне такое, што ягонай душы ўжо цесна ў звыклай абалонцы, яна прагне іншай прасторы і іншага вымярэння. Аднак трэба ўсё ж дачакацца Святаслава Расціслававіча і ноўгарадскіх паслоў, бо толькі вялікі князь кіеўскі — адзіны, хто дзякуючы свайму вялікаму аўтарытэту можа наставіць абодва гэтыя бакі на шлях згоды і ўзаемапаразумення.

## КІРАВАЎ ПА ПРАЎДЗЕ

Святаслаў з ноўгарадскімі пасламі прыехаў тады, калі Расціславу Мсціслававічу ўжо здавалася, што ўсе ягоныя чаканні марныя. Калі ж убачыў сына, дык як тое старое дрэва, што па вясне можа пакрыцца ледзь прыкметнай лістотай, якая хоць і нядоўга пратрымаецца, хутка засохне, але засведчыць, што яно яшчэ цалкам не засохла, трымаецца за жыццё, ажывіўся, павесялеў, быццам гэта і не ён зусім нядаўна яшчэ кволіўся, ледзь ні паміраць збіраўся.

Праўда, міма ягонага позірку не прамінулася, якія нацягнутыя ў сына адносіны з пасламі, але стараўся гаварыць так, каб ніводзін бок не мог папракнуць яго ў прадузятасці. Яны ўсе для яго былі аднолькавыя і жадаў, каб толькі пamірыліся. А для гэтага, разумеў, неабходна прыкласці нямала намаганняў, каб ні сына, ні паслоў не пакрыўдзіць.

Ён праявіў усю сваю дыпламатыю. Не гадзіну, не дзве занялі перамовы. І не адзін дзень доўжыліся. Затое, як радаваўся, калі бакі пайшлі на прымірэнне. Для Расціслава Мсціслававіча асабліва прыемна было, што паслы ад імя ўсіх ноўгарадцаў папрасілі ў Святаслава прабачэння за паводзіны, накіраваныя на тое, каб скінуць яго з трона.

Аднак, як толькі развітаўся з сынам і ноўгарадскімі пасламі, зноў пачала адольваць хвароба. І для яго самога, і для ягонага акружэння была зразумела прычына гэтага. Жадаючы прымірыць бакі, Расціслаў Мсціслававіч дзейнічаў на мяжы магчымага, а паехалі яны, і аслаблы арганізм вярнуўся ў свой звыклы стан, а ён быў такі, што вялікі князь ужо зусім знямог. Аднак тым не менш у Вялікіх Луках заставацца не жадаў. Дый у гэтым не было сэнсу, бо як бы тут добра да яго ні ставіліся, у гасцях усё ж не дома. Тым больш, дайшлі чуткі, у Смаленск якраз прыехала родная сястра Расціслава Мсціслававіча, полацкая княгіня Рагнеда. Яна і магла паклапаціцца аб ім, дапамагчы, наколькі можна, паспачуваць, а, як вядома, і добрае, чулае, спагадлівае слова часам лечыць не горш, чым заморскія лекі, якія яму прывозілі гандляры з Грэцыі і іншых краін нават тады яшчэ, калі яны яму і непатрэбнымі былі. Цяпер жа, на жаль, не дапамагалі.

Таму і павезлі хворага вялікага князя кіеўскага ў Смаленск, хвалюючыся, каб толькі ён дабраўся туды жывым. Дабраўся, але адразу заявіў Рагнедзе, што затрымлівацца ў Смаленску не збіраецца. Як ні ўгаворвала яна, настойваў на сваім. І нават пасля таго, калі сястра напомніла, што ў Смаленску ёсць некалі ўзведзеная ім і прыгожа аздобленая царква, не перамяніў свайго рашэння:

— Вязіце мяне ў Кіеў. Хачу быць пахаваным толькі ў адкрытым маім бацькам Фёдаравым манастыры. Спачываць у ім — для мяне найвялікшае шчасце, а калі пашанцуе... Ведаеце ўжо гэтае маё жаданне: пайду ў манастыр. У Пячорскі, — дадаў ён стомлена, — а цяпер крыху адпачну.

Духоўнік, які ўжо даўно не адыходзіў ад вялікага князя ні на крок, на гэта нічога не адказаў. Зразумела, ён быў не супраць таго, каб Расціслаў Мсціслававіч паспаў — хай набіраецца сіл, яны яму яшчэ спатрэбяцца.

Як і з разуменнем ставіўся да ягонага жадання абавязкова ехаць у Кіеў. Сімяон палічыў лішнім у гэты момант даводзіць, як рабіў неаднойчы, што вялікаму князю кіеўскаму аніяк не выпадае адасабляцца ад людзей, нават тады, калі ягоныя дні ўжо злічаны. Навошта яго лішні раз хваляваць, будзе яшчэ магчымасць пераканаць у тым, што няма неабходнасці ісці ў манастыр.

Такая мажлівасць з'явілася тады, калі да Кіева было ўжо блізка. Усе ўздыхнулі з палёгкай, што Расціслаў Мсціслававіч, нягледзячы ні на што, удала завершыць гэтае падарожжа, якое доўжылася ўжо не адзін месяц, як князь, прадчуваючы свой блізкі скон, зноў напомніў духоўніку аб сваім жаданні пайсці ў манастыр. Той па-ранейшаму як мог адгаворваў яго ад таго намеру, але марна. Давялося згадзіцца. Толькі гэтае жаданне Расціслава Мсціслававіча так і не здзейснілася: 14 сакавіка 1167 года ў сяле Гордзіна, у якім падарожнікі прыпыніліся, ён аддаў Богу сваю душу. Пры гэтым прысутнічалі духоўнік Сімяон, пасцяльнічы Расціслава Мсціслававіча Іванка Фларовіч і смаленскі баярын Барыс Захар'ініч.

А праз тыдзень цела памерлага прывезлі ў стольны Кіеў. Была выканана апошняя воля князя смаленскага, вялікага князя кіеўскага Расціслава Мсціслававіча. Як таго ён і жадаў, пахавалі яго ў Фёдараўскім манастыры. Прайшоў час і Праваслаўная царква аднесла дабравернага Расціслава-Міхаіла да святых. Памяць аб ім адзначаецца штогод 27 сакавіка па н. ст.

Некаторыя гісторыкі, а тым больш праваслаўныя вернікі схільны да таго, што менавіта Расціслаў Мсціслававіч стаў у гісторыі ўвасабленнем слова прарока Ісая аб цары, які будзе царстваваць па праўдзе і князях, якія будуць правіць па законе. У падобным сцвярджэнні ісціна ёсць.

Вядома, яму не заўсёды ўдавалася прытрымлівацца такога правіла, бо далёка не ўсё ў той час ад яго залежала, але менавіта гэтым правілам Расціслаў Мсціслававіч імкнуўся кіравацца ў сваім жыцці.

Дарэчы, слова «набожны» азначае не толькі чалавека, які верыць у Бога і выконвае ўсе рэлігійныя абрады. Набожны — гэта яшчэ і поўны вялікай павагі. Абодва гэтыя вызначэнні вельмі добра стасуюцца да князя Расціслава Мсціслававіча.





Ірына КЛІМКОВІЧ

# ТОРТ СВЯТОЧНЫ РЫХТАВАЦЬ І РАДЗІМУ ШАНАВАЦЬ

***Наш народ заўсёды шанаваў хлеб. Беларус не дазваляў сабе ставіцца да яго як проста да ежы, ва ўсе часы лічыў яго сакральным дарункам багоў. Нават існаваў старадаўні звычай: людзі, якія дзеляць хлеб паміж сабой, робяцца сябрамі, амаль сваякамі. З хлебам праводзілі на вайну і сустракалі тых, хто вярнуўся з яе. А тых, хто ніколі не вернецца, паміналі таксама хлебам. Калі гарэла хата, гаспадар тры разы абносіў яе кавалкам хлеба, а затым кідаў яго ў агонь. Лічылася, што пасля такой ахвяры, полымя суцішыцца. У нашы дні змянілася многае. Забываюцца некаторыя народныя звычаі, а хлеб-бацюхна і дагэтуль застаецца адной з самых вялікіх каштоўнасцей. Хлеб заўсёды быў і будзе пасрэднікам паміж людзьмі. Наш народ хлебасольны. З хлебам-соллю сустракаюць дарагіх гасцей і маладых на вяселлі, яго бяруць з сабой у дарогу. У кожнага свой хлеб. Кожны па-свойму памятае, успрымае і ацэньвае яго. Тым не менш, для ўсіх нас ён атаясамліваецца перадусім з жыццём, якое немагчыма без свежага і духмянага хлеба.***

***Але перш чым хлеб трапіць на стол, трэба вырасціць і сабраць жыта, змалаціць, змалоць і, нарэшце, — спячы яго. Асабліва таямнічым лічыцца працэс хлебапячэння. Лічаць, што менавіта ён паклаў пачатак цывілізацыі. Нездарма ў міфах старажытных народаў сцвярджаецца, нібыта сакрэт хлебапячэння людзі атрымалі ад багоў. Шанавалі і тых людзей, якія ведалі гэты працэс з пачатку і да канца. Здавён іх называлі хлебапёкамі або пекарамі. Сёння мы пагаворым пра гэту выключна «хлебную» прафесію — як і дзе яе можна атрымаць. Прынамсі, у сталіцы. Гаворка пойдзе пра*** **Дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж хлебапячэння.** ***Спачатку крыху гісторыі.***

### КАЛІ І ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ ХЛЕБ?

Сярод археолагаў ёсць меркаванне, што першы хлеб быў зроблены з жалудоў. Вымачаныя і высушаныя, іх расціралі паміж камянёў у муку. З яе гатавалі першыя праснакі і кашу. Але, магчыма, чалавек упершыню скарыстаў зерне дзікіх злакаў яшчэ ў каменным веку, прыкладна 15 тысяч год таму. Спачатку людзі спажывалі сырое зерне і толькі потым навучыліся вырошчваць яго і змешваць з вадою. Першы хлеб меў выгляд вадкай зерневай кашы, якую і сёння ўжываюць у некаторых краінах Азіі і Афрыкі. Калі чалавек пачаў здабываць агонь і стаў выкарыстоўваць яго для прыгатавання ежы, ён навучыўся падсмажваць і раструшчанае зерне. Каша з такога зерня атрымалася значна смачнейшай. Затым людзі навучыліся выпякаць праснакі з густой зерневай кашы, своеасаблівага цеста. Гэтыя шчытныя падгарэлыя кавалкі зерневай масы мала чым нагадвалі сённяшні хлеб. Але дзякуючы менавіта гэтым праснакам, якія выпякаліся на гарачых камянях з вогнішча або на гліняных дысках, і паўстала хлебапячэнне.

Прайшло яшчэ нямала часу, пакуль здзейсніўся яшчэ адзін цуд. Старажытныя егіпцяне навучыліся гатаваць хлеб спосабам браджэння, што па сваёй сутнасці з'яўляецца асновай сучаснай тэхналогіі хлебапячэння. Паводле легенды, па недаглядзе



*Штодзень паўтары тоны хлеба выпякаюць у міні-пякарні каледжа.*

раба, які рыхтаваў цеста, яно падкісла і, каб пазбегнуць кары, ён рызыкнуў спячы з яго праснак. На дзіва такія праснакі атрымаліся пульхнымі і румянымі. Каб спячы смачны хлеб, апроч дражджэй, трэба мець муку, змолатую з добрай пшаніцы. Хлеб не зрабіўся б такім, якім мы любім яго сёння, калі б егіпцяне не мелі дасканалай сістэмы земляробства. І калі б яны не зрабілі яшчэ адзін важны крок у тэхнічным развіцці. Маецца на ўвазе вынаходніцтва мельнічных жорнаў. Так, спалучыўшы тры важныя дасягненні, егіпцяне стварылі сённяшні хлеб, які з тых часоў застаецца практычна нязменным.

Мастацтва выпякаць пульхны хлеб з заквашанага цеста амаль тры тысячы год таму засвоілі і грэкі. Гамер у сваіх творах, пакінуў нам сведчанне таго, што арыстакраты Старажытнай Грэцыі лічылі хлеб самастойнай стравай. У тыя далёкія часы на абед падавалі, як правіла, дзве стравы: кавалак мяса, падсмажаны на ражне, і белы пшанічны хлеб. Кожную страву елі асобна. Эліны былі перакананы, што чалавек, які спажывае ежу без хлеба, будзе пакараны багамі. Дарэчы, гэта перакананне перагукваецца са старажытнымі законамі Індыі. У першых стагоддзях нашай эры злачынцаў каралі тым, што забаранялі ім спажываць хлеб. Чым большым было злачынства, тым даўжэйшым тэрмін пакарання. Індусы верылі, што той, хто не спажывае хлеб, будзе мець слабое здароўе і яго чакае няшчасны лёс. І ў нашы дні індусы пачынаюць ранішнюю малітву згадкай пра хлеб, для іх ён «вялікая маці ўсёй ежы на свеце».

Хлебапёкам Старажытнай Грэцыі мы абавязаны і самім паходжаннем слова «хлеб». Грэцкія майстры выкарыстоўвалі для выпечкі хлеба гаршчэчкі спецыяльнай формы, якія называліся «клібонас». Гэтае слова потым у старажытных готаў ператварылася ў «хлайфс», ад іх перайшло ў мову старадаўніх германцаў, славян і іншых народаў. У старажытнанямецкай мове існуе слова «хлайб». Яно вельмі падобна на наш «хлеб» і эстонскі «лейб».

Старажытныя рымляне таксама шанавалі хлеб і пекараў. Да нашых дзён захаваўся трынаццаціметровы манумент Марку Вергілію Эўрысаку, патомнаму пекару. Пекару, які дзве тысячы год таму заснаваў у сталіцы Рымскай імперыі некалькі вялікіх пякарань, што забяспечвалі хлебам увесь «вечны горад». Пра тое, як высока ацэньвалася праца хлебапёка ў Рыме, сведчыць і такі факт. Раба, дасведчанага ў выпечцы хлеба, прадавалі за 100 тысяч сястэрцый, у той час як за гладыятара плацілі 10-12 тысяч.

У раннім сярэднявеччы пры кожным замку і кляштары меліся свае млын і пякарня, працавалі свае мукамолы і хлебапёкі. Пазней паселішчы вакол замкаў выраслі ў мястэчкі і гарады, дзе майстры хлебапячэння аб'ядналіся ў рамесныя цэхі. Як і шматлікія іншыя рамесныя аб'яднанні, саюзы пекараў мелі свае сцягі, гербы, статуты і правілы навучання чаляднікаў. Вучыцца хлебапячэнню ў тыя часы даводзілася шэсць-сем гадоў. Пры пасвячэнні ў майстры кандыдаты на гэтае шаноўнае званне праходзілі строгі іспыт. У прысутнасці сяброў цэха трэба было спячы булку або крэндзель. Тыя, хто праходзіў іспыт паспяхова, атрымоўвалі дыплом, які даваў ім права выпякаць хлеб у сваёй пякарні або працаваць у пякарні іншага майстра. У выпадку няўдачы прэтэндэнта чакала ганебная кара. Так, яшчэ ў XVII ст. няўдалага пекара або кандытара садзілі ў кош і ў прысутнасці гараджан спускалі з моста ў раку.

У старажытнай беларускай дзяржаве існавала сувязь паміж ступенню свежасці

хлеба і сацыяльным станам людзей. Так, пры каралеўскім двары ўжывалі толькі свежаспечаны хлеб. Магнаты маглі есці і хлеб, спечаны напярэдадні, дробная шляхта — два дні таму. Трохдзённы хлеб лічыўся ўежным для манахаў і шкаляроў, а хлеб, спечаны чатыры дні таму, у асяродку сялян і дробных рамеснікаў. Цікава, што ў тыя самыя часы ў Азіі чэрствы хлеб лічыўся больш каштоўным, чым свежаспечаны.

Сімвалам сярэднявечных майстроў-пекараў у Заходняй Еўропе быў вялікі крэндзель. Яго выраблялі з металу або дрэва і залацілі. Такія крэндзелі віселі над уваходам у пякарні і хлебныя крамы пры іх. Вітымі крэндзелямі ўпрыгожвалі свае булачныя і майстры старых беларускіх гарадоў, у тым ліку і Мінска.

## ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ НЯДАЎНЯЙ ГІСТОРЫІ

Мінулі стагоддзі, адшугала полымя войнаў і рэвалюцый. Шмат што змянілася ў жыцці беларусаў, у тым ліку і спосабы навучання старажытнаму майстэрству хлебапячэння. Сёння ў нашай краіне існуюць тры асноўныя кузні кадраў для хлебапякарнай і кандытарскай вытворчасці. Гэта Баранавіцкі тэхналагічны каледж, Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж і Дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж хлебапячэння. Апошні размешчаны ў Мінску на вуліцы Якубоўскага, 43. Ягоныя навучэнцы пасля двух гадоў і чатырох месяцаў навучання атрымоўваюць тут дзве асноўныя спецыяльнасці — «тэхналогія хлебапякарнай вытворчасці» і «грамадскае харчаванне». Першая ўключае ў сябе пяць кваліфікацый: пекар; цеставод; заквасчык; машыніст цестараздзелачных машын; фармоўшчык цеста. Другая спецыяльнасць выпускае кандытараў.

Установа адукацыі мае даўнюю гісторыю, свае традыцыі, якія склаліся за гады яе існавання. А пачыналася ўсё ў сакавіку 1945 года, калі Другая сусветная вайна падыходзіла да свайго завяршэння, але да нармальнага і сытага жыцця было яшчэ далёка. Беларусь ляжала ў руінах. І вось загадам Міністэрства харчовай прамысловасці БССР была створана школа фабрычна-заводскай вучобы. Месцілася яна на вуліцы Слясарнай пры хлебазаводзе «Аўтамат». Па ўспамінах першага дырэктара навучальнай установы **Браніслава Вікенцьевіча Шалькевіча**, вучнямі і выпускнікамі тады былі дзеці загінулых на вайне, сіроты. Працоўнымі сталамі для іх сталі скрыні з-пад снарадаў, а крэсламі — скрынкі з-пад патронаў. Запатрабаванасць у хлебе павялічвалася ў краіне з кожным годам. У тыя цяжкія часы гэта быў амаль адзіны асноўны прадукт харчавання. Аднак дабрабыт у краіне рос, наспявала тэхнічная рэвалюцыя, якая і пачалася ў 1960 гадах. Не абмінула яна і хлебапякарную галіну. У 1962 годзе навучальная ўстанова зрабілася прафесійна-тэхнічным вучылішчам № 47 харчавікоў. З распадам Савецкага Саюза ў хлебапякарнай вытворчасці зноў адбыліся змены. Для падрыхтоўкі спецыялістаў патрэбны былі новыя метады навучання, заснаваныя на прагрэсіўных тэхналогіях і сучасным абсталяванні. Таму ў 1994 годзе асноўнае базавае прадпрыемства навучальнай установы — вытворчае аб'яднанне Мінскхлебпрам узводзіць сучасны чатырохпавярховы будынак на месцы былой вёскі Мядзведжына, што на заходнім ускрайку сталіцы. У ім быў адчынены «Цэнтр прафесійнай адукацыі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў» ВА «Мінскхлебпрам». У сакавіку 2004 года вучылішча было пераўтворана ва ўстанову адукацыі «Дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж хлебапячэння».

## ХЛЕБНАЯ НАВУКА

Нягледзячы на змену назваў і адрасоў навучальнай установы, нязменнымі заставаліся яе традыцыі і багаты досвед у падрыхтоўцы кадраў для хлебапякарнай і кандытарскай галіны. Цяпер тут рыхтуюць кваліфікаваных рабочых на аснове базавай адукацыі з адначасовым атрыманнем агульнай сярэдняй адукацыі, а таксама тэхнолагаў хлебапякарнай, макароннай і кандытарскай вытворчасці, якія атрымоўваюць сярэднеспецыяльную адукацыю. За год тут выпускаюць у свет ад 120 да 150 спецыялістаў. Выпускнікі запатрабаваны на базавым прадпрыемстве КУП «Мінскхлебпрам». Многія з іх працуюць у пякарнях сямі сталічных хлебазаводаў. А гэтыя заводы выпускаюць не толькі хлеб і батоны, а больш за 150 найменняў хлебабулачных і столькі ж кан-



*Салодкая прафесія — кандытар.*

дытарскіх вырабаў. І штодзень каля 500 тон гэтых вырабаў спажывае беларуская сталіца. Пасля заканчэння каледжа ягоныя выпускнікі могуць працягнуць адукацыю па абранай прафесіі ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце, Магілёўскім дзяржаўным універсітэце харчавання, Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы і Баранавіцкім тэхналагічным каледжы. А яшчэ для тых, хто не знайшоў сябе ў жыцці або вырашыў павысіць сваё майстэрства, «Цэнтр прафесійнай адукацыі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў» штогод дае такую магчымасць пяці сотням жадаючых. У спадзяванні на перакваліфікацыю і атрыманне новай прафесіі сюды едуць з усёй краіны.

Для арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ў каледжы маюцца пятнаццаць вучэбных аўдыторый, тры лабараторыі і вучэбна-вытворчыя майстэрні булачнай і кандытарскай вытворчасці. Будучыя пекары і кандытары не толькі вучаць тэорыю, у сценах каледжа яны выпякаюць і гатовую прадукцыю на міні-заводзе з адной паточнай лініяй. Штодзень — паўтары тоны хлеба, булачак, піроўжных, тартоў і другіх хлебабулачных вырабаў. Усё гэта рэалізуецца больш чым у трыццаці магазінах горада і ў фірмовай краме каледжа.

Каб пазнаёміць дзяўчат і хлопцаў з прафесіяй хлебапёка і адначасова з лепшымі ўзорамі выпечкі хлеба, у каледжы ўжо пяты год існуе музей хлеба. Адна са сцен у ім аформлена як маляўнічая дыярама. Невялікі макет вадзяного млына, праз кола якога цурчыць струменьчык вады, пераходзяць у насценны роспіс. А там сцэнкі з народнага жыцця і працы красамоўна распавядаюць пра тое, як вырошчвалі, апрацоўвалі і пяклі хлеб нашы продкі ў XIX ст. Злева ад дыярамы — сапраўдная печ, якую склаў дасведчаны ў гэтай справе работнік хлебазавода. На стале — вышыты ручнік і старадаўні самавар. Побач манекены ў нацыянальных строях. Большасць экспанатаў сабрана з усіх куткоў краіны сіламі супрацоўнікаў каледжа і навучэнцамі, іх бацькамі. А якіх тут толькі хлебных вырабаў няма! Узоры ўсемагчымых караваяў і пірагоў, крэндзеляў і абаранкаў. А колькі казачных і фантастычных рэчаў! І хлебнае дрэва, якое ахоўвае сабака з цеста, і злакавы ключык Бураціна, і мучны вожык, які глядзіць на вас пшанічнымі вочкамі. І ўсё гэта не муляжы, усё можна з’есці. Дырэктар музея выкладчык спецтэхналогій **Марына Іванаўна Васілеўская** кажа, што для таго, каб выпякаць хлеб, трэба не толькі шмат ведаць, але і быць сапраўдным эстэтам, паэтам у душы. Марына Іванаўна ўпэўнена, што лепшыя вырабы з хлеба, якія сабраны ў музеі, паказваюць дзецям, чаго можна дасягнуць у майстэрстве, якому яны тут навучаюцца, і разам з тым вучаць любіць і паважаць традыцыі нашага народа, чэрпаць у іх новыя ідэі для сваёй будучай прафесіі. Нездарма ж кажуць, што ўсё новае — добра забытае старое.

## СЕЙ У ДОБРУЮ ПАРУ — ЗБЯРЭШ ХЛЕБА ГАРУ

Пячы хлеб павінны людзі не толькі з залатымі рукамі, але і з добрым сэрцам, перакананы выпускнік гэтай навучальнай установы дырэктар каледжа **Уладзімір Іванавіч Басалыга**. Ён узгадвае, як у далёкім 1966 годзе прыехаў у сталіцу з роднай Случчыны сямнаццацігадовым юнаком. Паступіў у вучылішча і з галавой сышоў у вучобу. Пасля заканчэння патрапіў на працу ў першую брыгаду хлебазавода № 1. Скончыўшы завочна Маскоўскі інстытут харчовай пра-

мысловасці, ён упэўнена і з гонарам узнімаўся па прыступках кар'ернай лесвіцы. За яго плячыма і праца майстра вытворчага навучання, і досвед педагога, і клопаты на пасадзе намесніка дырэктара. Вось ужо шаснаццаць гадоў Уладзімір Іванавіч працуе дырэктарам. Дарэчы, свае абавязкі кіраўніка навучальнай установы дырэктар спалучае з выкладчыцкімі. Ён вядзе ўрокі малюнка і лепкі, сакрэты якіх так неабходны будучым кандытарам. Сёння, перагортваючы старонкі працоўнай біяграфіі, Уладзімір Басалыга ўпэўнены, што поспехамі і дасягненнямі ён абавязаны сваім настаўнікам. Перш за ўсё, канечне, бацьку, прафесійнаму настаўніку. Вывучыць сакрэты пякарскага мастацтва яму дапамог **Уладзімір Станіслававіч Бартошык**, які ўсё сваё жыццё аддаў хлебу і прайшоў шлях ад пекара да начальніка цэха хлебазавода №1. У гады вучнёўства ў вучылішчы на маладога хлопца вельмі паўплывалі тагачасны дырэктар **Антон Ільіч Моніч** і майстра вытворчага навучання **Леанід Антонавіч Шыманскі**. Гэта яны заклалі тыя добрыя і слаўныя традыцыі ў станаўленні і развіцці сённяшняй навучальнай установы і яго працоўнага калектыву. Уладзімір Іванавіч перакананы, што без гэтых людзей — прафесіяналаў у сваёй справе ён не адбыўся б не толькі як дырэктар гэтай навучальнай установы, але і як асоба.

А ў тым, што Уладзімір Басалыга ўпэўнены ў сабе чалавек з моцным характарам, пераконваешся, калі знаёмішся з ягонымі справамі. Справамі і ўчынкамі, зробленымі дзеля роднай установы. Калі чатырнаццаць гадоў таму ён прапанаваў спалучыць вучэбна-выхаваўчы працэс з творчым патэнцыялам навучэнцаў, многія ягоныя калегі, мякка кажучы, не зразумелі свайго кіраўніка. Для эстэтычнага выхавання і развіцця творчага патэнцыялу навучэнцаў у каледжы створаны хор і розныя гурткі. Раней дзяўчаты і хлопцы займаліся там пасля заняткаў, а гэта, як мінімум, восем урокаў. Дзеці прыходзілі ў хор ці ў танцавальны гурток як выціснутыя лімоны. З аднаго боку, ім вельмі хацелася і патанчыць, і паспяваць, а з іншага, сілаў на гэта ўжо не заставалася. І вось па прапанове дырэктара ўвялі сістэму разарванага дня. Сэнс яе ў тым, што пасля двух урокаў дзеці ідуць у сталовую і там снедаюць. Дарэчы, тая сталовая знаходзіцца на поўным забеспячэнні каледжа, вучні адзін раз на дзень



*Калі гаспадар дбае, тады і мае. У. І. Басалыга.*

бясплатна ў ёй харчуюцца. Пасля сталовай дзеці на працягу гадзіны і пятнаццаці хвілін займаюцца ў гуртках па інтарэсах. Такіх гадзін, якія ў каледжы назвалі гадзінамі творчай рэалізацыі, за тыдзень набягае нямала. Яны насамрэч дапамагаюць навучэнцам развіць свой інтэлект і адначасова пераключыцца на новы від дзейнасці. Да таго ж адпачывае адно з паўшар'яў мозга. Пасля такіх гадзін навучэнцам лягчэй засвойваць асноўны вучэбны матэрыял. У выніку ўсе задаволены: і вучні, і педагогі, і бацькі.

Удзячныя дырэктару каледжа і ветэраны вайны, працы, якіх у Фрунзенскім раёне нямала. Гэта тычыцца і шматлікіх ветэранаў хлебапякарнай справы. Штогод у гасцінныя сцены каледжа запрашаюць на святочныя мерапрыемствы тых людзей, якія сваім нялёгкім жыццём заслужылі пашану, у гонар якіх і ладзіцца свята. Пасля ўрачыстага шэсця да помніка маршалу Якубоўскаму, які знаходзіцца непадалёк ад каледжа, ускладання кветак і ўзнёслых прамоў для ветэранаў сіламі навучэнцаў ладзіцца канцэрт і святочная вячэра. Так дзеці вучацца помніць і шанаваць мінулае сваёй краіны.

Але не толькі ўпартасць і моцны характар вызначаюць сённяшняга дырэктара каледжа. Адначасова гэта вельмі чулы і добры чалавек, які любіць не толькі людзей, але і прыроду. Трэба паслухаць, з якой любоўю ён расказвае пра цудоўны лесапарк, які зай-



*Спячы хлеб і пасадзіць дрэва. Першы дырэктар каледжа Б. В. Шалькевіч (справа) і У. І. Басалыга. 1994 г.*

мае два з паловай гектара і акаляе будынак каледжа. А гэта 870 дрэваў і кустоў. Сярод іх два дзясяткі дубоў розных парод, канадскія клёны і нашы родныя бярозы, блакітныя елкі і звычайныя сосны, маньчжурскі арэх і шаравыя яблыні, шыпшына і акацыя. Цяжка ўявіць сабе, што яшчэ шаснаццаць гадоў таму нічога падобнага тут не было. А ідэя засадзіць пустку вакол будынка дрэвамі прыйшла тады, як навучэнцы каледжа пасля працы ў Ракаўскім лясніцтве (займаліся пасадкай лесу) у дадатак да зарплаты атрымалі прэмію — саджанцы дрэваў. Так, дзякуючы ініцыятыве Уладзіміра Іванавіча, ягоным калегам і навучэнцам паўстаў гэты насамрэч райскі куток. Куток, дзе ўвесну квітнеюць духмяныя алеі яблынь і каштанаў, дзе можна пачуць салаўіны пошчак.

Любоў да прыроды і ўсяго жывога прышчапляецца і дзецям. Стала ўжо добрай традыцыяй штогод улетку выпраўляцца ўсім каледжам на турзлёт у Ракаўскае лясніцтва. Навучэнцы і выкладчыкі жывуць у намётах на беразе маляўнічай рэчкі. У намётавым мястэчку ёсць свая кухня, генератар для асвятлення. Тыдзень, адведзены на турыстычны злёт, пралятае незаўважна. Ён насычаны конкурсамі і спаборніцтвамі, каля вогнішча спяваюць турыстычныя і патрыятычныя песні, ладзяць танцы. Невычэрпная энергія вучняў перадаецца і іх настаўнікам — дырэктару і педагогам.

Тым не менш, Уладзіміру Іванавічу гэтага мала. Свой вольны час ён аддае рыбалцы. Дзякуючы такому захапленню, дырэктар аб’ездзіў амаль усю Беларусь. Ды не адзін, а з жонкай, сябрамі, дзецьмі, цяпер ужо і з унукамі. Ён чэрпае ад прыроды станоўчую энергію, дабрыню і спагаду. Тыя якасці, якія так неабходны ягоным вучням, і без якіх немагчыма спячы смачны і заўсёды жывы хлеб.

## ХЛЕБНЫХ СПРАЎ МАЙСТРЫ

Адказную працу па выхаванні маладых прафесійных кадраў вядзе дасведчаны педагагічны калектыў каледжа. Сярод іх, безумоўна, тыя, на каго кладзецца асноўны цяжар арганізацыйных клопатаў. Гэта намеснікі дырэктара па вучэбна-выхаваўчай і па вучэбна-вытворчай працы **Аксана Уладзіміраўна Глушко і Святлана Вячаславаўна Савіцкая**. А намаганнямі такіх педагогаў, як **Аліна Міхайлаўна Макрыцкая, Ірына Фёдараўна Ліве і Алена Міхайлаўна Вераскоўская** каледж дасягнуў высокіх паказчыкаў у навучальным працэсе і ўжо не першы раз на «выдатна» прайшоў акрэдытацыю. Дзякуючы загадчыку аддзялення метадыстаў **Таццяне Аляксандраўне Вайцяховіч** і яе памочніцы **Ірыне Віктараўне Чарновай** распрацавана разнастайная вучэбная і планавая дакументацыя. Яна захоўвае ў сабе багаты працоўны досвед папярэдніх майстроў і выкладчыкаў каледжа. На яе аснове сённяшнія педагогі выпрацавалі адзіны падыход да навучальнага працэсу па хлебапякарскіх і кандытарскіх прафесіях ва ўсёй краіне.

Педагагічны калектыў на чале з дырэктарам імкнецца напоўніцу раскрыць патэнцыял навучэнцаў. А спрыяе такім памкненням правядзенне розных выставак і конкурсаў прафесійнага майстэрства, прыняць удзел у якіх жадаюць многія навучэнцы. Праводзяцца ў каледжы і майстар-класы пекараў і кандытараў, падчас якіх і навучэнцы, і выкладчыкі атрымліваюць патрэбную інфармацыю пра перадавыя сусветныя тэхналогіі і распрацоўкі.




*Трэба быць не толькі працавітымі,*
*але і прыгожымі. Конкурс прыгажосці-2008.*

Безумоўна, усё жыццё каледжа, увесь навучальны і вытворчы працэс, усе выставы і конкурсы не маглі б адбыцца, здзейсніцца, калі б імі не апекаваліся самыя неабходныя тут людзі — майстры вытворчага навучання. Яны паўсюдыісныя, без іх тут немагчыма нічога! Амаль усе майстры — выпускнікі гэтай навучальнай установы, і таму навучэнцы ўжо з першага курса атрымліваюць неабходныя прафесійныя ўрокі, набываюць пэўныя хуткасныя і якасныя навыкі. Доўгія гады працуюць тут **Валянціна Пятроўна Вашкевіч, Аляксандра Фёдараўна Харко, Галіна Афанасьеўна Шаўцова і Вера Міхайлаўна Бялевіч**. Побач са сваімі настаўнікамі-майстрамі працуюць ужо і іх вучні: **Надзея Пятроўна Веялка, Таццяна Іванаўна Гіль, Таццяна Уладзіміраўна Дварэцкая, Алена Міхайлаўна Дробава, Алена Анатольеўна Дубініна, Таццяна Мікалаеўна Застрожнава, Юлія Алегаўна Малашка, Наталля Віктараўна Мілаш, Вольга Аляксандраўна Праснякова, Наталля Станіславаўна Правалёнак, Наталля Віктараўна Рыжэўская, Вольга Анатольеўна Рыжко, Таццяна Леанідаўна Таўкач, Яўгенія Сяргееўна Хадасевіч, Вольга Яўгенаўна Чаравака, Крысціна Юр'еўна Шыпко, Людміла Уладзіміраўна Паскробка**. Усе гэтыя людзі не шкадуючы сіл рыхтуюць годную сваіх папярэднікаў змену. Ужо сёння яны вызначылі самых лепшых сваіх вучняў і спадзяюцца, што тыя працягнуць іх справу.

Педагагічны калектыў каледжа праводзіць не толькі вялікую работу па ўдасканаленні навучальнага працэсу, але і работу, накіраваную на развіццё творчасці і самарэалізацыі навучэнцаў. Таму тут створана такая сістэма навучання, якая забяспечвае развіццё кожнага будучага спецыяліста як асобы, у адпаведнасці з ягонымі схільнасцямі, інтарэсамі і магчымасцямі.

Гонар каледжа — хор, дзе займаецца кожны чацвёрты навучэнец. Ягоны кіраўнік **Т. А. Лях.** Немагчыма застацца абыякавым, калі выступае танцавальны гурток, у якім займаецца сорак пяць чалавек. Рэалізаваць сябе, паказаць свае новыя магчымасці могуць дзяўчаты і хлопцы, якія займаюцца ў тэатральным гуртку. Шмат станоўчых эмоцый атрымоўваюць тыя дзеці, якія займаюцца ў гуртках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. А гэта саломапляценне і аплікацыя, кераміка, фларыстыка і вышыўка.

Педагогі каледжа ў адзін голас сцвярджаюць, што прыгажосць фарміруе асобу і што ўсе самыя лепшыя якасці развіваюцца там, дзе пануюць творчыя адносіны да жыцця і працы.

***Вось і скончылася наша вандроўка па хлебным каледжы. Але бясконцыя наша любоў і павага да нялёгкай і складанай працы хлебапёка. Да людзей той прафесіі, якая нагадвае нам пра спрадвечныя каштоўнасці і спалучаецца са словамі: Жыццё, Радзіма, Любоў і Дабрыня. Нездарма ў гімне каледжа ёсць і такія радкі:***

*А ў Мінску ёсць каледж.*
*Дабрыня яго без меж.*
*Вучыць ён, як трэба жыць,*
*Справу пекара любіць,*
*Торт святочны рыхтаваць*
*І Радзіму шанаваць!*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ХАЗЯНІНКІ І ВАКОЛІЦЫ

Хазянінкі — недалёкая суседка Дукоры. На шашы Мінск — Бабруйск, за 9 км ад чыгуначнай станцыі Рудзенск. Калі будзем рухацца ад Дукоры, то маршрут наш будзе скіраваны ў бок Мінска. На пачатку 1930-х гадоў у вёсцы быў створаны калгас імя ЦК КП(б)Б. І менавіта гэта вельмі часта прыцягвала ўвагу журналістаў, публіцыстаў. Пагартайце падшыўкі газеты «Звязда», «Советская Белоруссия», «Мінская праўда», «Сельская газета», іншых выданняў за 1930—1980-я гг., і вы пераканаецеся, што пра справы калгаснікаў з Хазянінак можна скласці сапраўдны том з газетных і часопісных артыкулаў.

Хазянінкі — радзіма пісьменніка Валянціна Мысліўца (нарадзіўся 9 мая 1937 года) Ён — са звычайнай сям'і калгаснікаў. Бацька — Цімафей Мікалаевіч, удзельнік грамадзянскай вайны. У гады Вялікай Айчыннай вайны Цімафей Мыслівец служыў у чыгуначных войсках. Маці, Домна Ільінічна, усё жыццё адпрацавала ў калгасе. Між іншым, пісьменнік закончыў Матароўскую сярэднюю школу. Адслужыўшы на флоце, атрымаўшы рабочую закалку, Валянцін Мыслівец стаў журналістам, нарысістам. Яму было пра што расказаць людзям. У многіх кнігах (а іх пісьменнік паспеў выдаць трынаццаць) Валянцін Мыслівец піша пра сваю малую радзіму. Руплівым і ўважлівым быў літаратар і ў дачыненні да гістарычнай памяці Пухавіччыны. Шкада, што 25 чэрвеня 1993 года Валянцін Мыслівец пакінуў гэты свет. Пахаваны ў роднай вёсцы Хазянінкі. Апошнія гады Мыслівец вельмі напружана працаваў. Многае з напісанага засталося ненадрукаваным. Мажліва, знойдуцца руплівцы, якія выдадуць спадчыну пухавіцкага літаратара.

З аўтабіяграфіі Валянціна Мысліўца: «… Перад Новым 1944 годам на вёску Хазянінкі зноў наляцелі карнікі. Расстралялі дзевятнаццаць дзядоў, мужчын, падлеткаў. Спалілі на гэты раз вёску датла.

Астатак ваенных і першы пасляваенны год жылі мы ў Караваеве. Ратавала ад голаду такую вялікую сям'ю цётка Надзя, родная сястра бацькавай першай жонкі, аддзячыць якой, на вялікі жаль, ужо не магу.

У Караваеве я прайшоў нулявы і першы клас. Іменна «прайшоў», бо так, не ўсвядоміўшы азоў навукі, прахадзіў я з бальшунамі і ў Голацк два гады. Ведаў шмат пасляваенных прыпевак.

Чацвёрты клас канчаў ужо ў Хазянінках. Энергічная, валявая, эмацыянальна-ўзрушаная настаўніца Лена Давыдаўна Даражок, здаецца, і адкрыла невялічкаму ростам, шчупленькаму хлапчуку сэнс навукі. Тут і з'явілася патрэба ў кнігах — для самастойнага чытання…»

(Мыслівец В. Свая кніга / Вытокі песні. Мн., 1973. — с. 190-191).

У тую ж вандроўку варта нам зазірнуць і ў Матарова… Матарова — таксама з паселішч літаратурных. Але ж колькі слоў пра гісторыю вёскі ўвогуле. Знаходзіцца яна амаль за 40 км на паўночны захад ад Мар'інай Горкі. Ад чыгуначнай станцыі Рудзенск — за 18 км. А калі едзеш з Мінска ці з Мар'інай Горкі па шашы Мінск—Бабруйск, то варта збочыць некалькі сотняў метраў — і мы ў Матарове. Гісторыкі сведчаць, што ўпершыню Матарова як сяло і маёнтак Мінскага павета Вялікага Княства Літоўскага ўпамінаецца ў 1582 годзе. З 1793 года — у складзе Расійскай імперыі, сяло Дукорскай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні, уласнасць Ашторпаў. На 1886 г. 47 двароў,

518 жыхароў. Працавала праваслаўная царква. У 1897 г. — 117 двароў, 761 жыхар, дзейнічала капліца. Была школа царкоўнай граматы. У 1917 г. у вёсцы — 151 двор, 972 жыхары. З усталяваннем савецкай улады адкрыта працоўная школа 1-й ступені. У 1933 г. у вёсцы быў калгас «Краіна Саветаў». В. Жучкевіч так характарызаваў паходжанне гэтай вёскі Матарова і паселішчаў з падобнай назвай: «…назвы, вытворныя ад прозвішчаў Маторын, Матароў…» А вось пухавіцкі краязнаўца Аляксандр Васільевіч Пікулік, які доўгі час працаваў у суседнім Голацку загадчыкам сельскай бібліятэкі, занатаваў такую легенду, такую памятку. Жыхары вёскі ганялі па рацэ лес. І як толькі плытагоны набліжаліся да паселішча, жыхар вёскі па мянушцы Мота хадзіў і крычаў, зваў людзей. Вяскоўцы і казалі: «Мота раве…» Значыць, Матарова і атрымлівалася ў выніку. А што ж яднае паселішча з гісторыяй літаратурнага жыцця?..

«У Матароўскай дзесяцігодцы Ганна Рыгораўна Семяжон — настаўніца выключна патрабавальная і чалавечная — наракала мне быць хімікам ці медыкам, — прыгадвае пісьменнік Валянцін Мыслівец. — Дырэктар жа школы Сцяпан Іванавіч Бардзіян скрозь адно сцвярджаў, што пераказаць урок пасля яго тлумачэння можа толькі прыроджаны гісторык». Ураджэнец Хазянінак, вядомы ўжо нам Валянцін Мыслівец вучыўся ў школе і ў Матарове.

З вёскай Матарова звязана і імя вялікага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага. Напрыканцы 1960-х гадоў, атрымаўшы першаштуршок ад публікацыі ў газеце «Звязда», вядомы на Пухавіччыне краязнаўца і журналіст Анатоль Паўлавіч Ярохін займаўся даследаваннем жыцця матароўскага карэспандэнта Максіма Горкага. Звернемся да публікацый руплівага і ўважлівага шукальніка ў газеце «Сцяг працы», змешчаных у студзені 1970 г. Артыкул, надрукаваны ў двух нумарах пухавіцкай «раёнкі», так і называецца — «Матароўскі карэспандэнт Горкага». «У сакавіку 1968 года, калі ўвесь свет ўрачыста адзначаў 100-годдзе з дня нараджэння А. М. Горкага, у беларускім друку быў змешчаны матэрыял «Горкі піша ў Матарова». У ім паведамлялася аб дружбе і перапісцы вялікага пісьменніка з юным карэспандэнтам з Пухавіччыны Хведарам Трапашкам.

Захаваліся і пісьмы Горкага ў Матарова. Гэта аб іх пісала «Звязда»:

«Пажоўклыя, страпаныя на рагах пісьмы… Чарніла выцвіла, але непаўторны почырк нельга не пазнаць, калі хоць раз бачыў яго. Пачуццё прыходзіць дзіўнае і моцнае. Перад намі радкі, пісаныя самім Горкім у далёкую беларускую вёску мужыку, які толькі абудзіўся ад векавой спячкі, зразумеў, дзе праўда і сіла, дзе святло і новая дарога, а цяпер просіць кнігу ў Горкага. І той вялікі і просты, здалёку адчуў гэту новую чалавечую прагнасць, бо хіба не гэта прагнасць абноўленай душы была шмат раней заўважана мастаком і ўкладзена ў вобразы яго твораў, хіба не быў гэты ўзлёт душы той жа песняю Буравесніка…»

«Мяне зацікавілі падрабязнасці гэтай незвычайнай і хвалюючай дружбы», — так расказвае пра пачатак пошуку Анатоль Паўлавіч Ярохін. Журналіст некалькі разоў наведваўся ў Матарова. Пазнаёміўся з сястрой карэспандэнта Горкага — Верай Апанасаўнай Трапашкай (па мужу — Калашнікава), з яе мужам, між іншым, аднапалчанінам Хведара па фінскім фронце Георгіем Пятровічам Калашнікавым. Наведаў Анатоль Паўлавіч і гісторыкакраязнаўчы музей Матароўскай сярэдняй школы. Чытаем у нарысе Анатоля Ярохіна: «Зноў на памяць прыйшлі словы Горкага ў Матарова:

«З вялікай радасцю прачытаў у лісце Вашым аб росце калгасаў. Вялікая гэта справа задумана, таварыш, вызваліць яна людзей ад катаржнай працы, дасць ім час павучыцца, паразумнець. Цяжкавата, вядома, у пачатку, але ж усякую справу цяжка пачаць. А хутка, што ж і пераможам першыя цяжкасці, хутка лягчэй стане.

Моцна цісну руку.

Прывітанне перадавайце калгаснікам!

М. Горкі».

І зноў лаўлю сябе на думцы:

— Не можа быць, каб не захаваліся пісьмы Хведара Трапашкі Аляксею Максімавічу, жывыя сведкі вялікай дружбы сусветна вядомага пралетарскага пісьменніка і маладога калгасніка з Беларусі павінны ўвачавідкі расказаць многае аб людзях і падзеях, аб іх лёсе.

У архівах Масквы цудам захаваліся асобныя пісьмы Фёдара Трапашкі Аляксею Максімавічу.

У 1929 годзе ў Матарове быў створаны калгас «Краіна Саветаў». Нягледзячы на жорсткую барацьбу з кулакамі, гаспадарка з кожным днём мацнела, упэўнена ішла ўперад.

Поспехі калгаснага ладу не маглі не хваляваць маладога калгасніка Хведара Трапашку. Аб гэтым яму захацелася расказаць Аляксею Максімавічу Горкаму:

«Пішу Вам, Максімавіч, аб нашых вялікіх дасягненнях у калгасным будаўніцтве. У 1929 у нашай вёсцы арганізаваны калгас «Краіна Саветаў». Са 150 гаспадарак вёскі ў калгас уступілі 130… вясной 1930 года ў сувязі з артыкулам тав. Сталіна «Галавакружэнне ад вялікіх поспехаў» быў масавы адліў. Але ў калгасе засталіся «сталінскія героі», штосьці каля 20 гаспадарак. Вясной была адведзена зямля і новая сацыялістычная гаспадарка прынялася за будаўніцтва.

Да сацыялістычнай гаспадаркі прыдзелена кулацкая зямля, а таксама сабраны ўраджай азімых. Цяпер работа ідзе вельмі добра. Сяляне навакольных вёсак на калгас глядзяць не праз пальцы, а, наадварот, калгасу дапамагаюць ва ўборцы ўраджаю, а таксама адвозяць хлеб і бульбу на нарыхтоўчыя пункты пралетарыям гг. Масквы, Ленінграда і Данбаса. Я таксама з'яўляюся будаўніком новай сацыялістычнай гаспадаркі — калгаснікам.

Дарагі, дзядзя Максімавіч, прашу Вас прышліце мне Ваш твор, а можа быць якую кнігу, якая б дапамагла мне ў літаратурнай рабоце…

Жадаю Вам здароўя і далейшых літаратурна-мастацкіх багацціяў.

Бывайце.

З прывітаннем Х. А. Трапашка.

24-XI. 1930 года, в. Матарова».

Цікавая біяграфія сям'і Трапашкаў і самога Хведара. Нарадзіўся матароўскі карэспандэнт Горкага ў 1908 годзе. У сям'і было адзінаццаць дзяцей. З маленства Хведар батрачыў. Некаторыя браты і сёстры з-за галаду, галечы, хвароб памерлі ў юным узросце. Выжылі толькі чацвёра. Разам з Хведарам яны і сталі першымі калгаснікамі «Краіны Саветаў». Сястра Зінаіда працавала калгасным шафёрам. Незадоўга да вайны — у штаце Рудзенскага райкама партыі. Марыла стаць лётчыцай. Але ў 1939 годзе захварэла на тыф і памерла. Алену Апанасаўну і яе мужа ў Вялікую Айчынную за сувязь з партызанамі спалілі фашысты. Вера ў 1970-я гг. жыла ў Матарове. Хведар скончыў 4 класы Матароўскай школы. Настойліва працягваў займацца самаадукацыяй. Выпісваў па меры магчымасці газеты і часопісы. У прыватнасці — газету «Беларуская вёска». Хатняй бібліятэкай Трапашкі карысталася ўся вёска. У тым ліку — і Леанід Іванавіч Дзятко, пазней вядомы дыпламатычны работнік, які доўгі час працаваў у Пасольстве СССР у ЗША. У адным з пісьмаў Хведар Трапашка пісаў М. Горкаму: «Выпісаў «Рабфак на дому», таму што мне вельмі хочацца вучыцца і мяне вельмі цягне да літаратурнай творчасці… З 1926 года з'яўляюся селькарам беларускай газеты і за гэтыя гады мне давялося ў газеце і нашых часопісах чытаць урыўкі вашых твораў…» Звернемся да артыкула Анатоля Ярохіна: «Вясна 1931 года ўвайшла ў гісторыю нашай краіны, як новы этап усенароднага спаборніцтва за датэрміновае выкананне планаў першай пяцігодкі.

У сакавіку Хведара забіраюць спачатку на кароткатэрміновую вайсковую падрыхтоўку, а потым на ўсё лета адпраўляюць на лагерныя зборы. Хведар Трапашка разгортвае актыўную работу сярод чырвонаармейцаў збораў.

У чарговым пісьме Горкаму ён піша: «З 9.III па 7.IV я праходзіў першае навучанне ў Чырвонай Арміі. Маю права насіць званне чырвонаармейца. За месяц байцы асвоілі як стралковую справу, так і палітычную вучобу. Падпісаліся на газеты на 100 працэнтаў, на пазыку «Пяцігодку ў чатыры гады» на 100 працэнтаў, выпісалі сельскагаспадарчую бібліятэчку на 100 працэнтаў. Перадавыя байцы аб'явілі сябе ўдарнікамі ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі і ўступілі ў калгас 32 чалавекі. Пры выпуску 30 байцоў атрымалі падарункі, у тым ліку і я. Гэтыя поспехі здабыты пад добрым кіраўніцтвам каманднага саставу вучэбнага пункта і дзякуючы ленінска-бальшавіцкім метадам сацыялістычнага спаборніцтва».

Вучоба і служба значна абагацілі селькара новымі ведамі і фактамі. У яго нарадзілася думка напісаць апавяданне.

Сваёй марай ён падзяліўся з Аляксеем Максімавічам:

«…за час знаходжання ў арміі я шмат чаму навучыўся, а таксама багата чаго запі-

саў аб дасягненнях чырвонаармейцаў у баявой падрыхтоўцы, якое спрабую цяпер выкласці ў выглядзе расказа ці яшчэ якой рэчы. Але не ведаю як усё гэта атрымаецца. Калі ласка, дапамажыце ў гэтай справе».

Далей Хведар просіць Аляксея Максімавіча прыслаць яму часопіс «Літаратурная вучоба».

Горкі не вымушае доўга чакаць. З-за мяжы, дзе быў у той час Аляксей Максімавіч, у Матарова прыходзіць пісьмо:

«Кнігі Вам вышлю з Масквы, куды ад'язджаю тыдні праз два. Пакуль пасылаю і адсюль некаторыя кніжкі, магчыма, спатрэбяцца.

З вялікай радасцю прачытаў Ваша паведамленне пра поспехі калгаса «Краіна Саветаў».

Жадаю Вам і ўсім таварышам-калгаснікам добрага здароўя і вялікіх поспехаў.

М. Горкі».

Расказ Трапашка напісаў і паслаў у часопіс «Літаратурная вучоба». Аб гэтым сведчыць прыпіска ў пісьме: «Я зараз пасылаю ў «Літаратурную вучобу» расказ. Можа, і вы пазнаёміцеся з маёй першай творчасцю».

Служба ў Чырвонай Арміі яшчэ больш пашырыла кругагляд маладога байца. Вітаючы Горкага з прыездам на Радзіму ад імя байцоў вучэбнага пункта, Хведар Трапашка ў красавіку 1931 года пісаў: «Байцы запэўнілі асабовы састаў вучэбнага пункта і палка, Камуністычную партыю, што ў выпадку нападу акул капіталу Захаду на бацькаўшчыну сусветнага пралетарыяту ўсе як адзін выступім на абарону вялікіх заваёў Кастрычніка!»

Пасля службы ў Чырвонай Арміі Хведар зноў вярнуўся ў родную вёску, дзе жыў і працаваў да 1939 года…»

(Сцяг працы, 1970, 13 студзеня).

У публікацыі «Звязды» ў 1968 годзе былі прыведзены цікавыя ўспаміны аднавяскоўца горкаўскага карэспандэнта — пенсіянера-настаўніка Сцяпана Іванавіча Бардзіяна: «Калі ў трыццатым годзе я прыехаў на жыццё і працу ў Матарова, тут зусім не было інтэлігенцыі. Хведар Апанасавіч, мабыць, адзіны, каго можна назваць інтэлігентам. І вось з ім я сышоўся. Стварылі драматычны гурток. Разам ставілі «Пінскую шляхту». Ён працаваў у калгасе, затым майстрам дарожным. На шашы ён і пачаў рабіць пасадкі. Садзіў дрэвы аж да Дукоры. Некаторыя Трапашкавы дрэўцы ўцалелі ў вайну, выраслі, зялёныя стаяць…» Анатоль Паўлавіч Ярохін запісаў успаміны мужа сястры Хведара Трапашкі — Георгія Пятровіча Калашнікава: «Летам 1939 года мяне і Хведара прызвалі ў армію, а ўжо ў верасні дывізія, у якой мы служылі, перайшла польскую граніцу і вызваліла Гродна і Ліду. Пасля вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь мы часова знаходзіліся пад Ленінградам. Як толькі белафіны напалі на Савецкі Саюз, наша дывізія была перакінута на фронт… Мяне і Хведара паранілa. Апошні раз мы сустракаліся ў шпіталі. Хведар адказаўся пайсці ў тыл і прама са шпіталя накіраваўся на пярэдні край. У гэты час, адчуваючы свой блізкі канец, белафіны кінуліся ў смяротную атаку. Загінуў камандзір палка і начальнік штаба. Хведар прабраўся ў штабную зямлянку і, зразумеўшы, што яму аднаму не выратаваць каштоўных дакументаў і сцяга палка, уключыў рацыю — на фронце ён быў радыстам — і выклікаў агонь на сябе…»

Вядома, што ў Матарова дайшлі, акрамя лістоў Горкага, яшчэ і 36 кніг вялікага пралетарскага пісьменніка. Чытаем з ліста самога Хведара Трапашкі: «Дарагі Аляксей Максімавіч, вашы два пісьмы атрымаў , а таксама ўвесь збор вашых твораў — 36 кніг — за якія сардэчна дзякую».

У Вялікую Айчынную вайну кнігі перазахоўваліся закапанымі ў зямлі. Частка выданняў з трапашкаўскага скарбу сапсавалася. Пасля вайны ўцалелыя асобнікі кніг Максіма Горкага былі перададзены ў бібліятэку Матароўскай школы.

З Матаровам звязаны ваенны лёс паэта Міколы Аўрамчыка (нарадзіўся ў вёсцы Плёсы Бабруйскага раёна ў 1920 годзе). І вось якім чынам. Чэрвеньскай ноччу сорак першага, пакінуўшы Мінск, Мікола Аўрамчык разам з Міколам Сурначовым пашыбавалі на ўсход. Наступным надвячоркам спыніліся ў вялікай вёсцы. Тут, у Матарова, у Надзеі Крайко Мікола Аўрамчык пакінуў свае рэчы. Найкаштоўнейшым быў альбом з фотаздымкамі. Не адразу пасля вайны паэт наведаўся ў Матарова. Людзі не знаходзілі родных і блізкіх, што ж тыя рэчы шукаць… І ўсё ж, калі выдавецтва пачало рыхтаваць кнігу «Мы іх не забудзем», Аўрамчык едзе ў Матарова. Жывой засталася Надзея Крайко. Ацалелі рэчы, пакінутыя гарачым чэрвенем сорак першага. А захоўванне ж было,

безумоўна, звязана з немалой рызыкай. На здымках у тым альбоме сябры-пісьменнікі, аднакурснікі Аўрамчыка — лейтэнанты з «кубарамі» на пятліцах, сувязісты, лётчыкі, артылерысты…

Трымаю ў руках сціплы калектыўны зборнік членаў літаратурнага аб’яднання «Узлёт» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — «Вусны» (Мінск, 1985). Сярод твораў іншых маладых паэтаў надрукаваны і вершы Анатоля Дзераха — «Ветэраны» і «…Заспявай, буду ціха табе падпяваць». Прывяду другі са згаданых твораў:

Заспявай, буду ціха табе падпяваць,
Як без бацькі было цяжка нас гадаваць.
Я цябе абдыму, прытулю да грудзей,
Мы так дружна жывём і не горш за людзей.
Хай у коміне вецер гудзе ў цішыні.
Зараз лепшыя сны, зараз лепшыя дні.
Хай з магіл анікога ужо не падняць,
Будзем сёння з табою мы ціха спяваць.
І здаецца, з іх нехта ў гуле завей
Зноўку кратае клямку шырокіх дзвярэй…
Хай заходзяць цішком яны ў хату сваю…
Заспявай жа, матуля, а я падпяю.

*(Вусны. Мн.,1985. — с. 57-58).*

Алег Лойка ў прадмове да чарговага зборніка паэзіі ўзлётаўцаў заўважыў: «Вершы сённяшніх узлётаўцаў — адметнае выяўленне іх настрояў і думак, нечым ужо непадобнае да дэбютаў папярэднікаў. Іх маладыя лірычныя героі акрылены аптымізмам гарачых камсамольскіх сэрцаў. Яны прагныя да ведаў і шчырыя ў працы на будаўнічых пляцоўках. Памяць аб вайне і Перамозе прадаўжае заставацца і іх памяццю. Памяць аб родных мясцінах, як і аб сівой гераічнай даўніне продкаў, — свайго ўжо, звязанага менавіта з жыццёвым лёсам і светаўспрыманнем маладых людзей, з іхнім сённяшнім прачытаннем і гісторыі, і сучаснасці. І, як правіла, кожны з маладых паэтаў, прадстаўленых у зборніку «Вусны», прагне новых форм, імкнецца да аднаўлення архітэктонікі, гучання, малюнкавасці радка».

(Вусны. Мн., 1985. — с. 4-5).

Прачытаў гэтыя радкі і пачаў згадваць, а як жа склаліся лёсы ўзлётаўцаў з кнігі «Вусны» ў наступныя дваццаць «з хвосцікам»… Анатоль Дзерах, на вялікі жаль, неяк сапраўды «ўзляцеў» і знік. Памятаю яго «кнігу ў кнізе» — зборнік вершаў…

У Матарова нарадзілася журналістка, публіцыстка Таццяна Куварына, якая працавала ў газеце «Голас Радзімы», цяпер — рэдактар аддзела публіцыстыкі часопіса «Нёман». Часта выступае з нарысамі і цікавымі артыкуламі ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Яшчэ адзін штрых у літаратурную біяграфію Матарова… Чытаем у кнізе вязня сталінскіх лагераў мемуарыста Вячаслава Шыдлоўскага (1913 — 1997) «Рысы майго пакалення»: «Бацька мой нарадзіўся ці не ў 1884 годзе. Дзеду тады магло быць блізу сарака гадоў. Бацька быў адзіным сынам у дзеда. Дзед аддаў яго ў навуку, якую ён пачаў асвойваць у Смілавіцкай валаснай (магчыма, земскай) школе.

Урэшце бацька набыў адукацыю і прафесію сельскага настаўніка царкоўнапрыходскіх школ. Да рэвалюцыі працаваў настаўнікам у Лагойскім раёне, на Палессі (у вёсцы Сварыцавічы), у вёсцы Матарова… У апошняй я і нарадзіўся ў 1913 годзе, хоць месцам майго нараджэння лічыцца вёска Карзуны. Хрысцілі мяне ў Дукоры ў праваслаўнай царкве, нарокшы імем Вячаслаў…» Раздзелы ўспамінаў «Рысы майго пакалення» гавораць самі за сябе: «Арышт», «Паштовая скрынка», «Трыбунал», «Барышы», «Перабежчыкі — «шпіёны» і «кур’еры», «Здраднік» дзед Маеўскі і радзіма-мачаха», «Паміж молатам і кавадлам», «Сустрэчы на крыжовым шляху», «Сіла і слабасць крэўных сувязяў» (гэта з першай часткі «На этапных скрыжаваннях»). У другой частцы ўспамінаў, якая носіць назву «Горкая памяць», ёсць раздзелы «Наваселле», «Серпанцінка», «Гукавая маскіроўка», «Стукач», «Ахвяры», «На людзях і паміраць лягчэй», «Крывавыя знічкі на снезе», «Сель з трупаў», «Абвалы», «Днявальны пры начальстве», «Камбрыг-днявальны», «Сапернікі», «Разрытыя магілы», «Курум з граніту і трупаў», «Залатая Калыма» і інш.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН

**Вёска Выверы** Мясоцкага сельсавета

Адсюль была родам маці **Зана Тамаша,** польскага паэта-рамантыка, ураджэнца в. *Мясата* гэтага ж р-на. Маёнтак Заны ўзялі ў арэнду на пачатку 1810-х гадоў. Сюды пасля хваробы забралі Тамаша разам з малодшым братам Ігнасем з Мінскай гімназіі. Выверы — селішча Занаў да 1819 г. Тут прайшлі самыя яркія дзіцячыя і юнацкія гады паэта. У зборніку «Перапіска філаматаў» (у пяці тамах) вельмі часта мільгае гэтая назва ў крыху зменenай форме — Іверы.

**Вёска Вязынка** (да 1972 г. Гурнавічы і Сяледчыкі) Радашковіцкага сельсавета

Найменне атрымала ў 1972 г. у гонар 90-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі **Купалы Янкі** ад былога фальварка Вязынка. Бацькі паэта, Дамінік Ануфрыевіч і Бянігна Іванаўна Луцэвічы, жылі ў Вязынцы з вясны 1881 да 1883 г., пасля пераезду з в. *Паморшчына* Валожынскага р-на, арандавалі тут зямлю ў памешчыка **Замбржыцкага Станіслава**. 25 чэрвеня (7 ліпеня па новым стылі) 1882 г. у іх нарадзіўся сын Янка, які стаў народным песняром Беларусі. У 1883 г. пасля сканчэння тэрміну арэнды бацькі выехалі ў маёнтак *Юзуфова* Мінскага р-на. Па рашэнні ЮНЕСКА Вязынка ўключана ў міжнародны турыстычны маршрут.

Пра жыццё і творчасць Янкі Купалы шырока расказваецца ў спецыяльнай энцыклапедыі, многіх манаграфіях і артыкулах, у экспазіцыі **Літаратурнага музея Янкі Купалы** ў Мінску, іншых населеных пунктах. Помнікі народнаму песняру ўзвышаюцца ў Мінску, Маскве і іншых мясцінах. Імем Янкі Купалы названы вуліцы, школы.

**Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка»**

Заснаваны 5.4.1972 г. Адкрыты 10.7.1972 г. Агульная плошча 21 га. На тэрыторыі запаведніка — хата, у якой нарадзіўся Янка Купала, гаспадарчыя пабудовы, у адной з якіх размешчана выстава «Народныя святы», помнік паэту (перавезены з Мінска ў 1972 г., скульптар З. Азгур), два гарадзішчы II-V стст., сажалка, крыніца, валуны з выбітымі на іх радкамі з твораў Янкі Купалы, дрэвы старога саду былога фальварка Вязынка, дубовы гай, пасаджаны беларускімі пісьменнікамі да 100-годдзя з дня нараджэння паэта, канцэртная эстрада, жывая альтанка, малыя архітэктурныя формы, зона масавых гулянняў. З 1972 г. у запаведніку праводзяцца святы паэзіі і працы, з 1976 г. — злёты студэнтаў-філолагаў БДУ, школьныя ранішнікі.

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г.

**Філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы.** Заснаваны 4.8.1945 г. Адкрыты 20.6.1948 г. у хаце, дзе жылі Луцэвічы і нарадзіўся паэт. Агульная плошча 232,6 м$^2$, у тым ліку пад экспазіцыяй 85,2 м$^2$. У 1971—1972 гг. рэстаўрыраваны. На будынку 30.6.1948 г. устаноўлена мемарыяльная дошка. Каля філіяла ў 1972 г. устаноўлены помнік Янку Купалу работы Заіра Азгура (раней знаходзіўся ў Цэнтральным скверы г. Мінска).

Музейная экспазіцыя складаецца з мемарыяльнай і гісторыка-літаратурнай частак. У мемарыяльным пакоі (адноўлены ў 1964 г.) зберагаюцца асабістыя рэчы бацькоў паэта, мэбля, посуд канца XIX ст. У гісторыка-літаратурнай частцы — архіўныя дакументы, аўтабіяграфічныя матэрыялы, фотаздымкі, творы мастакоў, што адлюстроўваюць дзіцячыя і юнацкія гады паэта. Зберагаюцца таксама прылады працы і рэчы хатняга ўжытку. У летні перыяд на тэрыторыі філіяла дзейнічае выстаўка твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Вершы Вязынцы прысвяцілі многія беларускія паэты.

**Замбржыцкага Станіслава** (1823—1.10.1907), беларускага паэта, краязнаўца, радзіма. З яго літаратурных твораў захавалася вершаванае апавяданне «Гутарка Сталюка» (1870—1890-я гг.), у якім паказаны побыт народа, нікчэмнасць фанабэрыстай шляхты, дадзены ўзоры беларускай гутарковай мовы. Вывучаў курганы на радзіме, першы апісаў Вязынкаўскае гарадзішча. У 1881—1883 гг. бацька Янкі Купалы арандаваў у Замбржыцкіх зямлю. Сядзіба Замбржыцкіх знішчана ў 1950-я гады.

**Вёска Вялікія Бакшты** Граніцкага сельсавета

У дарэвалюцыйны час тут неаднаразова бываў **Купала Янка.** Па словах старажылаў, паэт крыху працаваў на бровары, сустрэўся (каля 1904 г.) са следчым Андруцкім з Радашковіч, які ўзяў яго да сябе перапісчыкам. Тут паэт пасябраваў з сем'ямі рабочых В. Рачкоўскага і П. Ключніка. Цяпер у вёсцы засталіся толькі рэшткі мураванага бровара на беразе р. Серабранкі.

**Вёска Галянова**, цяпер у межах Маладзечна

Былы маёнтак Галянова належаў рускаму фалькларысту, выдаўцу «Нашего времени» Г. Васілеўскаму. **Купала Янка** бываў тут у 1906—1907 гг., калі працаваў на бровары ў Яхімоўшчыне.

**Вёска Гарадзілава**, цэнтр сельсавета

У 1978 г. на мясцовай школе была ўстаноўлена мемарыяльная дошка настаўніку А. Посаху, які сябраваў з **Купалам Янкам** (паэт прыходзіў сюды з Яхімоўшчыны). А. Посах у складзе дэлегацыі беларускіх настаўнікаў сустрэўся ў 1910 г. на востраве Капры з **Горкім Максімам** і падзяліўся з ім сваімі ўражаннямі ад сустрэч з Купалам, чытаў вершы апошняга, сярод якіх — «А хто там ідзе?». Пазней настаўнік пераслаў Горкаму зборнік вершаў свайго земляка. У 1928 г. А. Посах у газеце «Звязда» надрукаваў успаміны пра свае першыя сустрэчы з Купалам.

**Пузына Габрыеля,** польская пісьменніца, ураджэнка в. *Дабраўляны* Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл., жыла тут у маёнтку ў 1850—1860 гг., пісала вершы і ўспаміны.

**Вёска Гарадок,** цэнтр сельсавета

Адсюль паходзіць паэт-нашанівец **Прадуха Пётр**.

**Вёска Груздава** Палачанскага сельсавета

У 1906 г. па дарозе ў Яхімоўшчыну **Купала Янка** бываў тут, цікавіўся драўлянай царквой.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***